


Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!


ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ І ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ ІМЯ Ў. І. ЛЕНІНА ПРЫ СНК БССР

АДДЗЕЛ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ ЗООЛЁГІІ

Т. XXVIII ВЫП. 2



ПРАФ. М. М. ПЕЛЕХАЎ і В. М. СЬВІРШЧЭЎСКІ


# МАТАР'ЯЛЫ ЭКСПЭДЫЦЫІ

## ПА ВЫВУЧЭНЬНЮ БУЙНАЙ РАГАТАЙ ЖЫВЁЛЫ СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРАК МЕНСКАЙ І ВІЦЕБСКАЙ АКРУГ БССР 1928 ГОДУ

Праф. М. М. ПЕЛЕХАЎ — I ч.

В. М. СЬВІРШЧЭЎСКІ — II ч.

ТРУДЫ
Белорусского Научно-Исследовательского Института Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Проф. Н. Н. Пелехов и В. М. Свирщевский

МАТЕРИАЛЫ
ЭКСПЕДИЦИИ ПО ИЗУЧЕНИЮ КРУПНОГО РОГАТОГО СКОТА МИНСКОГО И ВИТЕБСКОГО ОКРУГОВ БССР
1928 г.

BULLETIN
of the White Russian Lenin's Institute of scientific research of agriculture and forestry at the Soviet of people's commissaries of WRSSR

Prof. N. N. Pelehow and W. M. Swirshchewsky

MATERIALS
OF THE EXPEDITION FOR RESEARCH OF THE DAIRY CATTLE IN THE REGIONS OF MINSK AND WITEBSK. (BIELARUS).
1928 г.


МЕНСК—MINSK
1929

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ
СЕЛЬСКАЕ І ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ ІМЯ Ў. І. ЛЕНІНА ПРЫ СНК БССР
АДДЗЕЛ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ ЗООЛЁГІІ
Т. XXVIII ВЫП. 2



ПРАФ. М. М. ПЕЛЕХАЎ і В. М. СЬВІРШЧЭЎСКІ

# МАТАР'ЯЛЫ ЭКСПЭДЫЦЫІ

## ПА ВЫВУЧЭНЬНЮ БУЙНАЙ РАГАТАЙ ЖЫВЁЛЫ СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРАК МЕНСКАЙ І ВІЦЕБСКАЙ АКРУГ БССР 1928 ГОДУ

Праф. М. М. ПЕЛЕХАЎ — I ч.

В. М. СЬВІРШЧЭЎСКІ — II ч.



ТРУДЫ
Белорусского Научно-Исследовательского Института Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Проф. Н. Н. Пелехов
и В. М. Свирщевский

МАТЕРИАЛЫ
ЭКСПЕДИЦИИ ПО ИЗУЧЕНИЮ КРУПНОГО РОГАТОГО СКОТА МИНСКОГО И ВИТЕБСКОГО ОКРУГОВ БССР
1928 г.

BULLETIN
of the White Russian Lenin's Institute of scientific research of agriculture and forestry at the Soviet of people's commissaries of WRSSR

Prof. N. N. Pelehow
and W. M. Swirshchewsky

MATERIALS
OF THE EXPEDITION FOR RESEARCH OF THE DAIRY CATTLE IN THE REGIONS OF MINSK AND WITEBSK. (BIELARUS).
1928 г.

МЕНСК—MINSK
1929



# Абсьледваньне жывёлагадоўлі сялянскіх гаспадарак Менскай і Віцебскай акруг БССР (улетку 1928 г.)

Галоўнай рысай сельскае гаспадаркі на Беларусі зьяўляецца яскрава вызначаны ўхіл да жывёлагадоўлі, гэтаму вельмі спрыяюць наступныя прыродна-гістарычныя і эканамічныя ўмовы БССР: 1) багацьце на Беларусі прыродных кармовых угодзьдзяў;—так на адну дзесяціну ворнае зямлі ў Беларусі прыпадае 0,56 дз. прыродных кармавых угодзьдзяў — у той час, калі ў Нямеччыне 0,33, а ў Даніі—0,1 дз.

2) Вялікая колькасьць атмасфэрных ападкаў і сярэдні клімат (550 м.м. ападкаў пры сярэдняй гадавой $t + 6^{\circ}$), што вельмі спрыяе разьвіцьцю і шпаркаму ўздыму травяных расьлін.

3) Вялікая колькасьць вольнай працоўнай сілы ў сельскім насельніцтве як вынік аграрнага пералюдненьня;—гэта лішка працоўнай сілы згодна адных дадзеных складае 25% [1]), а па другіх—35—40% [2]) усяго запасу.

4) Блізкасьць заходня-эўрапейскага рынку зьніжае цану для экспарту хутка псуючыхся прадуктаў жывёлагадоўлі.

Між тым, ня гледзячы на ўхіл гаспадаркі да жывёлагадоўлі, што вельмі выразна падкрэсьліваецца і Пэрспэктыўным плянам НКЗБ [3]) і беларускімі эканамістымі [4]), інтэнсыўнасьць разьвіцьця жывёлагадоўлі на Беларусі зусім нязначная, у выніку чаго, а таксама і ў выніку некарысных суадносін паміж працоўнай і прадукцыйнай часткамі жывёлагадоўлі,—прыбыткоўнасьць яе нізкая. У сувязі з гэтым і мэта грамадзка-агранамічных мерапрыемстваў на Беларусі ў значнай меры зводзіцца да інтэнсыфікацыі галоўнейшых галін жывёлагадоўлі: малочнае справы і сьвінагадоўлі.

Але для складаньня рацыянальнага пляну мерапрыемстваў па гэтых галінах неабходна грунтоўнае вывучэньне сучаснага становішча іх на Беларусі,—веданьне іх асаблівасьцяй наогул і асаблівасьці разьвіцьця іх па розных раёнах Беларусі. Апрача таго неабходна сьцісла вызначыць месца, якое гэтыя галіны займаюць сярод іншых галін сельскае гаспадаркі—узаемадзейнічаньне тых і другіх. Нажаль у сучасны момант мы зусім мала аб іх ведаем: спэцыяльных досьледаў, прысьвечаных прадукцыйнай сялянскай жывёлагадоўлі на Беларусі, налічваецца вельмі мала,—з такіх прац мы можам адзначыць наступныя: проф. И. И. Калугин:

[1]) Перспективный план развития сельского и лесного хозяйства БССР. Вып. I. Стр. 41

[2]) Большая советская энциклопедия. Белоруссия.

[3]) Перспективный план НКЗ. стр. 47, 70, 87, 89, 94.

[4]) Г. І. Гарэцкі—„Народны прыбытак Беларусі“ стар. 58.

М. Довнар-Запольский—„К изучению динамики БССР“ Сов. строит. 1926. № 5.

И. А. Неклепаев—„Сельское Хозяйство Белоруссии и его эволюция“. Пути Сельск. Хоз. 1926. № 5.

Бонч-Осмоловский—„Эволюция с. х. Белоруссии“. Сов. Строит. № 1—2 і інш.

„Красный Белорусский скот“ (па абсьледваньню Бокуна ў 1912 годзе). Ён-жа „Животноводство на выставках Белоруссии в 1923 г.“ проф. Ав. А. Калантар и А. В. Озеров: „Белорусский скот по данным экспедиции по обследованию скотоводства бывшей Гомельской губернии“, праф. Н. В. Найдзёнаў: „Параўнальнае вывучэньне розных груп малочнага быдла, якое разводзіцца ў сялянскіх гаспадарках“ (праца Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі т. II. Стар. 143—159). С. І. Журык: „Быдла Горацкага раёну“, В М. Сьвіршчэўскі „Быдла Калінінскага і часткі Мсьціслаўскага раёну“ (Праца Навуковага Таварыства т І.). Ён-жа: „Кароткі заатэхнічны нарыс быдла Мазыршчыны“ (выданьне БНДІ), С Д. Семенов: „Очерки по крестьянскому животноводству Гомельского округа“ („Савецкае Будаўніцтва“ 1928 г. № 7 стар. 153), М. Цейтлин: „Состояние животноводства Белоруссии в 1928 году“. Некаторыя цікавыя зьвесткі. якія характарызуюць, як адбіваецца палепшаньне кармленьня на мясцовым беларускім быдле маюцца ў працы дацэнта Ф. А. Паўлава: „Матар'ялы да вывучэньня ўтрыманьня мясцовага быдла і мэтысаў мясцовага з заводным быдлам на навучальнай фэрме Беларускай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі“ (Працы Навук. Таварыства т. IV і V). Каштоўны матар'ял па характарыстыцы жывёлагадоўлі Віцебшчыны быў сабраны экспэдыцыяй пад кіраўніцтвам праф Е. Ф. Ліскуна ўлетку 1914 г., нажаль да гэтага часу гэты матар'яў застаўся неапрацаваным і ненадрукаваным, калі ня лічыць невялічкага нарысу А. І. Анфімав й „Краткий предварительный отчет по исследованию скотоводства Дриссенского уезда“. (Сборник Витебского Губ. Земства 1914—16 г.). Апрача таго, па пытаньнях буйнай рагатай жывёлагадоўлі БССР шматлікія. але нажаль вельмі агульныя і схэматычныя, дадзеныя маюцца ў часопісах ЦСК БССР („Штогоднікі“ і інш.). Затым у „Пэрспэктыўным пляне разьвіцьця сельскае і лясное гаспадаркі БССР“ стар, 74—77, 416—419, 667—670, і ўрэшце, ў працах беларускіх эканамістых, аб якіх мы ўжо упаміналі.

Весткі, якія маюцца ў вышэйадзначаных крыніцах, характарызуюць быдла розных раёнаў за розныя пэрыяды часу, яны зьбіраліся па розных праграмах і па рознаму апрацоўваліся; таму агульнага малюнку жывёлагадоўлі на Беларусі яны, вядома, не паказваюць. Гэтымі акалічнасьцямі і тлумачыцца ўнясеньне ў праграму Аддзелу Жывёлагадоўлі Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна—задачы абсьледваньня жывёлагадоўлі і сьвінагадоўлі БССР. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы было пачата ў першы год існаваньня НДІ імя Леніна,—улетку 1928 году было зарганізована экспэдыцыйнае выбарачнае абсьледваньне жывёлагадоўлі дзьвюх акруг—Менскай і Віцебскай. як найбольш цікавых у адносінах малочнага жывёлаводзтва. Абсьледваньнем было ахоплена:

| | У Менскай акрузе | У Віцебскай акрузе | Разам |
|---|---|---|---|
| Раёнаў | 10 | 16 | 26 |
| У іх паселішч | 118 | 131 | 249 |
| У іх гаспадарак | 1236 | 1452 | 2688 |
| Стад | 118 | 37 | 155 |
| У іх быдла | 2834 | 3636 | 6470 |

Абсьледваныя паселішчы разьмяркоўваліся па тэрыторыі акруг нераўналежна (гл. дадатак № 1),—месцы найбольш цікавыя з пункту гледжаньня малочнага жывёлаводзтва былі абсьледваны больш дакладна, чаму і лік паселішч, а адсюль і колькасьць абсьледваных гаспадарак ї быдла ў розных раёнах неаднальковае, а таму і дакладнасьць сярэдніх лічбаў па раёнах розная, што можна угледзіць з наступнай табліцы:

Лік запоўненых картак па Менскай акрузе

| Карткі \ Раёны | Барысаўск. | Бягомльскі | Бярэзінскі | Заслаўскі | Капыльскі | Койданаўскі | Пухавіцкі | Самахвалоўскі | Смалявіцкі | Сьмілавіцкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паселішчныя . . . . . | — | 8 | 18 | 10 | 12 | 9 | 2 | 42 | 13 | 4 |
| Пастадныя . . . . . . | — | 16 | 21 | — | 10 | 4 | 6 | 40 | 14 | 7 |
| Падворныя . . . . . . | 23 | 138 | 151 | 27 | 117 | 50 | 25 | 525 | 133 | 48 |
| Індывідуальныя . . . . | 51 | 362 | 370 | 96 | 416 | 87 | 47 | 1057 | 263 | 85 |

Лік запоўненых картак па Віцебскай акрузе

| Карткі \ Раёны | Віцебскі | Азярышчанскі | Чашніцкі | Высачанскі | Суражскі | Лёзьнянскі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Паселішчныя . . . . . | 39 | 25 | 12 | 20 | 17 | 18 |
| Пастадныя . . . . . . | 13 | 7 | 13 | — | 4 | — |
| Падворныя . . . . . . | 452 | 238 | 201 | 167 | 235 | 159 |
| Індывідуальныя . . . . | 990 | 683 | 500 | 387 | 560 | 516 |

Далей мы ўбачым, што некаторыя раёны, як з пункту гледжаньня эканамічных асаблівасьцяй гаспадаркі, так і з боку ступені інтэнсыўнасьці малочнага жывёлаводзтва зьяўляюцца вельмі падобнымі паміж сабой,— настолькі падобнымі, што іх карткі пры апрацоўцы можна было-б і аб'яднаць.

Згодна пляну абсьледваньня трэба было ахапіць 2,5% усёй скаціны па вышэйадзначаных акругах. Як відаць з гэтых табліц пры абсьледваньні запаўняліся блянкі 4-х тыпаў: паселішчныя, пастадныя, падворныя і індывідуальныя. Зьмест гэтых блянкаў (гл. дадатак № 2) зазначае, што мэтай абсьледваньня было ня толькі вывучэньне мясцовай каровы, як вытворніцы малака, шляхоў яе кармленьня і ўтрыманьня, але таксама і вывучэньне малочнага жывёлаводзтва як галіны сельскае гаспадаркі ў сувязі з іншымі яе галінамі, альбо, што зьяўляецца тым самым, вызначэньне ролі малочнага жывёлаводзтва ў эканоміцы сялянскай гаспадаркі. На падставе вышэйадзначанага пры зьбіраньні і апрацоўцы матар'ялаў абсьледваньня мы былі прымушаны зьвярнуць шмат увагі эканамічным пытаньням. Па сутнасьці, няма ні воднага абсьледваньня жы-

вёлагадоўлі, у якім бы не закрануўся яе эканамічны бок. Праф. М. І. Прыдарогін казаў аб гэтым наступнае: „Так як быдла ня можа разглядацца паасобна ад іншых элемэнтаў гаспадаркі, як нешта існуючае само па сабе, яно з гэтымі элемэнтамі цесна зьвязана ў дастаўленьні гаспадару прыбытку, дык ні воднае абсьледваньне, па сутнасьці, ня можа абмяжавацца толькі выключна заатэхнічным бокам; усё пытаньне ў тым, наколькі далёка заходзіць ў эканамічным напрамку (пры дасьледваньні)“ [1]).

Мы вымушаны былі ў гэтых адносінах ісьці досыць далёка, так як да гэтага часу і па эканоміцы сялянскай гаспадаркі БССР, так як і па жывёлаводзтву, маецца зусім мала надрукаваных матар'ялаў, у выніку чаго, мы прымушаны былі самі высьвятляць сабе шмат якія пытаньні эканомікі, вырашэньне якіх неабходна для разуменьня сучаснага становішча жывёлаводзтва. Каб паказаць як многа ёсьць спрэчнага, нават, у асноўных пытаньнях эканомікі БССР, зьвязаных з жывёлаводзтвам, мы дазволім сабе прывесьці наступнае параўнаньне: аўтары кнігі: „Сельская Гаспадарка БССР і меры да яе ўздыму“ пішуць, што галоўнай галінай для БССР зьяўляецца земляробства (50% народнага прыбытку) жывёлагадоўля-ж мае пабочнае значэньне (35% народнага прыбытку) [2]). Г. І. Гарэцкі ня згодзен з гэтым і ў сваёй працы: „Народны прыбытак Беларусі“ дае другія лічбы народнага прыбытку [3]), а таксама другія лічбы даюцца і ў „Перспективном плане НКЗБ“ (стр. 79), і яшчэ іншыя лічбы—у „Большой Советской Энциклопедии“ (т. V). У гэтай-жа энцыклапэдыі аб Віцебшыне пішацца, што ў ёй „Жывёлагадоўля носіць экстэнсыуны характар“ т. V., а ў „Перспективным плане“ зазначаецца, што Віцебшчына, сярод іншых раёнаў БССР мае „у стадзе буйнай рагатай жывёлы—найвышэйшы процант кароў“ і апрача таго у ёй сьвінагадоўля ў колькасных адносінах займае адно з лепшых месц у рэспубліцы, яна адрозьніваецца самым маладым складам стада“ стар. 83. Апошняе палажэньне ужо ніяк не згаджаецца з экстэнсыўнасьцю.

Апрача гэтага, мы прымушаны былі зьвярнуць шмат увагі эканоміцы жывёлаводзтва і па наступных меркаваньнях. Абсьледваньні жывёлагадоўлі ранейшага часу адрозьніваюцца ад сучасных тым, што раней уся маса сялянскіх гаспадарак разгледжвалася як нешта аднолькавае, сялянскія гаспадаркі не дыфэрэнцыяваліся, або амаль не дыфэрэнцыяваліся,—у сучасны момант так разглядаць сялянскую масу ўжо нельга. Абсьледваньне жывёлаводзтва, апрача навуковай, мае і практычную мэту— даць матар'ял і аснову для пабудовы плянаў грамадзкіх мерапрыемстваў па ўздыму сялянскай гаспадаркі, і паколькі аграпалітыка, з якою зьвязваюцца і грамадзкія мерапрыемствы, у сучасны момант рэзка падзяляе сялянскія гаспадаркі па іх клясавай сутнасьці, — па-стольні былі і мы абавязаны ўлічваць гэтую дыфэрэнцыяцыю. З прычыны гэтага наша абсьледваньне адрозьніваецца ад іншых, паколькі апошнія нам вядомы, тым, што асаблівасьці жывёлаводства разглядаюцца ў ім ня толькі ў тэрыторыяльным, але і сацыяльным разрэзе. Як і ўсякая новая справа, і гэта зьвязана з асобымі цяжкасьцямі, а з імі—і недахопы працы. Будзем спадзявацца, што таварышы эканамістыя ўнясуць неабходныя карэктывы.

Плян абсьледваньня і першапачатковая рэдакцыя рэгістрацыйных блянкаў былі выпрацаваны кіраўнікам абсьледваньня М. М. Пелехавым. У намечаных раёнах абсьледваньня—сельсаветы і вёскі, падлягаючыя

[1]) Матерьялы по районному качественному обследованию животноводства Тамбовской губ. т. І. Заключение проф. М. И. Придорогина, стр. 3.

[2]) Стар. 22 паказанай кнігі.

[3]) Гл. стар. 58 і далей паказанай кнігі.

абсьледваньню прызначаліся ў раённых цэнтрах камісіямі мясцовых спэцыялістаў. У якасьці рэгістратараў былі прыцягнуты студэнты аграфаку 3-га і 4-га курсу Беларускай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі, якія перад пачаткам працы на працягу 1—1½ тыдняў інструктаваліся кіраўніком і азнаямляліся з тэхнікаю запаўненьня блянкаў і са спосабам вымярэньня скаціны, узяцьця ўзораў сена і інш. У працэсе працы рэгістратары інструктаваліся памоцнікам кіраўніка — супрацоўнікам НДІ імя Леніна, вучоным аграномам В. О. Гурэвічам Распрацоўка статыстычных матар'ялаў вытваралася студэнтамі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі па пляну і пад агульным кіраўніцтвам М. М. Пелехава пры тэхнічным кіраўніцтве супрацоўніка НДІ, вучонага агранома В. М Сьвіршчэўскага, уклаўшым у гэтую справу шмат асабістай ініцыятывы і значна паглыбіўшым распрацоўку шмат якіх пытаньняў. Распрацоўка матар'ялу магла быць закончана так хутка, толькі дзякуючы сур'ёзным і сумленным адносінам да працы супрацоўнікаў і студэнтаў Акадэміі, якія ў ёй прымалі ўдзел.

## Галоўнейшыя асаблівасьці Менскай і Віцебскай акруг у сувязі з іх жывёлаводзтвам.

Параўнаючы Менскую і Віцебскую акругі ў сельска-гаспадарчых адносінах па дадзеных ЦСК, НКЗБ і інш., мы знойдзем найбольш спрыяючыя ўмовы для малочнага жывёлаводзтва ў Менскай акрузе, у якой пры больш урадлівай глебе маецца найвышэйшая забясьпечанасьць гаспадаркі зямлёй, рабочай скацінай і сельска-гаспадарчым інвэнтаром, як гэта можна бачыць з наступнай табліцы.

У 1924 г. на адну сялянскую гаспадарку прыпадала:

| АКРУГІ | Усей зямлі (у дзесяцінах) | Ворнай зямлі (у дзесяцінах) | Пашы (у дзесяцінах) | С./г. інвэнтару: Сох | С./г. інвэнтару: Плугоў | С./г. інвэнтару: Малатарань | Веялак | Рабочых коняй |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Менскай акр. . . . . | 9,07 | 4,72 | 1,41 | 0,021 | 0,90 | 0,18 | 0,165 | 0,946 |
| У Віцебскай „ . . . . | 7,56 | 3,53 | 2,47 | 0,56 | 0,79 | 0,04 | 0,06 | 0,835 |

Пералюдненьне ў Менскай акрузе вызначана ня столькі рэзка як у Віцебскай акрузе—у першай на 1 кв. вярсту прыпадае 51,58 чалавек, а ў другой—57,5.

У сувязі з лепшай глебай з большай колькасьцю рабочай скаціны на адзінку сельска-гаспадарчай плошчы і з большай колькасьцю мёртвага інвэнтару,—у сувязі з усім гэтым і ўраджайнасьць галоўнейшых сельска-гаспадарчых культур у Менскай акрузе вышэй, як гэта відаць з наступных дадзеных.

Вялічыня ўраджаю на 1 дзяржаўную дзесяціну ў пудох.

| АКРУГІ | Жыта: Ярав. | Жыта: Азім. | Пшаніца: Ярав. | Пшаніца: Азім. | Ячмень | Авёс | Гарох | Лён (семя) | Канюшына (семя) | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Менскай акр. . . . . | 50,8 | 48,5 | 56,9 | 51,1 | 54,8 | 56,6 | 50,5 | 30,7 | 7,4 | 593,0 |
| У Віцебскай „ . . . . | 50,4 | 38,0 | 35,5 | 55,5 | 51,2 | 58,6 | 48,1 | 23,6 | 5,7 | 435,0 |

З прычыны вялікага перанасяленьня альбо таксама меншай забясьпечанасьці насельніцтва зямлёй і меншай ураджайнасьцю яе ў Віцебская акрузе, мы маем у ёй і меншую заможнасьць і меншае разьвіцьцё прадукцыйнага жывёлаводзтва.

На адну гаспадарку прыпадала ў 1924 годзе.

| АКРУГІ | Рабочых коняй | Кароў | Сьвіней | Усёй скаціны ў пераводзе на буйн. жывёлу |
|---|---|---|---|---|
| У Менскай акр. . . . . | 0,94 | 1,49 | 3,23 | 3,83 |
| У Віцебскай „ . . . . | 0,83 | 1,40 | 1,18 | 3,22 |

Калі за мерку гаспадарчай моцнасьці сялян прыняць як гэта часта робіцца $^0/_0{}^0/_0$ бязканёвых, аднаканёвых і шматканёвых двароў, а таксама двароў без кароў, і з каровамі дык і ў гэтым выпадку параўнаньне будзе не на карысьць Віцебскай акрузе.

Так—у 1924 годзе лічыўся процант гаспадарак:

| АКРУГІ | Бязканёвых | З адным канём | З трыма і больш | Бяз кароў | З трыма і больш каров. |
|---|---|---|---|---|---|
| У Менскай акр. . . | 18,02 | 70,92 | 11,12 | 3,99 | 8,82 |
| У Віцебскай „ . . | 20,10 | 76,3 | 0,5 | 5,15 | 7,39 |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, усё гаворыць за тое, што ў Менскай акрузе заможнасьць насельніцтва вышэйшая, чым у Віцебскай акрузе. У Менскай акрузе мы маем і найбольшую па БССР дачу моцнага корму на карову і другую па ступені агульнай пажыўнасьці кармавую дачу на яе. Калі падлічыць моцны корм паказаны ў 1924 годзе ў „Штогодніку“ дык атрымоўваецца, што на адну карову даецца моцнага корму ў Менскай акрузе—4,11 пуд, а ў Віцебскай акр.—3,19 пудоў.

Па колькасьці каапэраванага насельніцтва Менская акруга займала ў 1924 годзе першае па БССР месца—40,75% ад агульнага ліку насельніцтва, а Віцебская акр. займала ў гэтых адносінах другое месца—34,68%.

Пры азнаямленьні з пэрспэктыўным плянам НКЗБ [1]) уражаньне ад Віцебский акругі атрымоўваецца больш карыснае. У ёй трохпалёўка зьліквідавана ў найбольшай ступені ў параўнаньні з другімі раёнамі БССР; у стадах Віцебскай акругі маецца найвышэйшы процант кароў, што паказвае на значна выразны малочны напрамак жывёлаводзтва; апошняе сьцьвярджаецца найбольшым. параўнальна з другімі раёнамі, вывазам масла; у Віцебскай акрузе маецца найбольшы па БССР процант маладняку ў сьвінным стадзе. Усе гэтыя асаблівасьці, падкрэсьленыя плянам, маюць дадатны характар,—яны кажуць аб параўнальна высокай ступені інтэнсыўнасьці ў Віцебскай акрузе сельскае гаспадаркі наогул.

Характарыстыка Менскай і Віцебскай акруг, якая вынікае з дадзеных, атрыманых пры абсьледваньні, не дае нам магчымасьці па крайней меры—у адносінах жывёлаводзтва,—паставіць першай тую альбо іншую акругу. У Менскай акрузе, напрыклад кармленьне кароў больш багата,

[1]) Пэрспэктыўны плян НКЗ. стар. 82—83.

затое ў Віцебскай акрузе яно больш рацыянальна (бялковы стасунак больш правільны); у Віцебскай акрузе маецца большая колькасьць палепшанай мэтыснай скаціны, затое у Менскай акрузе маецца мясцовая чырвона - беларуская і г. д. Адным словам у аднэй акрузе маюцца адны перавагі, а ў другой іншыя. Затое дадзеныя абсьледваньня з упэўненасьцю паказваюць, што акруговая характарыстыка зьяўляецца зусім недастатковай апорай для праэктаваньня канкрэтных мераприемстваў аградапамогі,—так як асобныя раёны ў межах аднэй і той жа акругі часта так рэзка паміж сабой адрозьніваюцца, што аб адзінстве мерапрыемстваў у акруговым масштабе, ня можа быць і гуторкі. Гэта акалічнасьць у практычных адносінах вельмі моцна зьніжае каштоўнасьць акруговых дадзеных і высоўвае на першы плян дадзеныя раённага характару. Апрача таго, маючыяся ў нас матар'ялы з упэўненасьцю паказваюць, што ня зусім дастаткова характарыстыкі жывёлаводзтва ў агульна-сялянскім масштабе, з прычыны таго, што колькасьць скаціны, спосабы яе ўтрыманьня і выкарыстаньне, ступень рыначнасьці жывёлаводзтва і інш.—бываюць вельмі рознастайныя ў сялянскіх гаспадарках рознай эканамічнай моцнасьці, а гэта выклікае неабходнасьць і разнастайнага падыходу з боку аграпэрсаналю да паказаных груп сялянства. Вось чаму ўсе статыстычныя дадзеныя практычна неабходна разглядаць у сацыяльным разрэзе адпаведна асноўным сацыяльным групам, на якія падзяляецца сялянства.

## Характарыстыка сялянскіх гаспадарак у сувязі з іх жывёлаводзтвам.

**Асноўныя сацыяльныя групы гаспадарак.** Пры спробе клясыфікацыі сялянскіх гаспадарак мы перш за ўсё сустракаемся з пытаньнем аб прынцыпах, якія павінны быць пакладзены ў аснову такой клясыфікацыі. Гэта пытаньне да гэтага часу яшчэ ня вырашана канчаткова, хаця за апошнія два-тры гады выдадзена ўжо шэраг цікавых прац, прысьвечаных гэтаму пытаньню. Л. Крыцман, аўтар кнігі „Расслоение деревни“, у сваім дакладзе ў Кам. Акадэміі кажа: „Ні групоўкі па пасеўнай плошчы, ні групоўкі па рабочай скаціны, ні групоўкі па кароўнасьці, ні інвэнтарная групоўка, ні нават, групоўка па каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці ня можа даць поўнае ўяўленьне клясавага складу сялянства. Праўда, з усіх гэтых груповак можна што нєбудзь узяць, з адных больш, з другіх, у асаблівасьці пасяўной—менш, але толькі што-небудзь. Тут няма іншага выхаду, як узяць „быка за рога“—утварыць групоўку па прамых клясавых прыкметах. А для таго, „каб утварыць клясавую групоўку, неабходна ўявіць сабе цэлы комплекс сацыяльных адносін у вёсцы і пэўным чынам іх улічыць“ [1]). У выніку спробы стварыць групоўку гаспадарак здавальняючаю паказанаму прынцыпу, т. Л. Крыцман устанавіў 13 асноўных груп, на якія падзяляецца сялянства. Асноўным паказчыкам пры такім падзяленьні бярэцца стасунак уласных сродкаў вытворчасьці да ўласнай рабочай сілы [2]) Адзін з апанентаў т. Крыцмана—т. Дуброўскі знаходзячы, што групоўка прапануемая т. Крыцманам вельмі складаная, думае, што пытаньне можна спросьціць, узяўшы за падставу падзяленьня разьмер сродкаў вытворчасьці, ён кажа: „разьмер сродкаў вытворчасьці на

[1]) Л. Крыцман „Классовые группировки крестьянских хозяйств“. Часопіс „На аграрном фронте“ 1928. № 4.

[2]) К. Наумов і Д. Шардин. „Опыт построения классовой группировки крестьянских хозяйств“ (там же)'

гаспадарку дае ня толькі колькаснае вымярэньне яго вялічыні, але ўжо можа, канечна, паказаць і сацыяльную якасьць гаспадаркі,—многа сродкаў вытворчасьці—яны пачынаюць выкарыстоўвацца як капітал,—мала—рабочая сіла дробнага вытворцы пачынае выкарыстоўвацца як тавар[1]). Таварыш Вярменічаў, хаця у агульным і ня згодзен з т. Дуброўскім, аднак, усё ж такі думае, што „правільна вызначаючы разьмер гаспадарак, мы (становімся) бліжэй да вызначэньня сацыяльнага складу вёскі. Такой групоўкай, якая больш правільна вызначыць у нашых умовах разьмеры сялянскіх гаспадарак, зьяўляецца групоўка па каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці. У спрошчанай форме яна можа быць ужыта пры масавых абсьледваньнях[2]).

Які-ж прынцып выбіраем мы пры групоўцы сялянскіх гаспадарак?

Мы карыстаемся двума паказанымі прынцыпамі: мы ўлічваем і разьмеры гаспадарак (дакладней сродкаў вытворчасьці) і разам з гэтым усю супольнасьць сацыяльных адносін у вёсцы, г. зн.—наём рабочай сілы, здачу інвэнтару і інш. Усё гэта прыймаюць пад увагу пры правядзеньні падатковай палітыкі сельсаветы, на падставе усяго гэтага, г. зн.—разьмераў сродкаў вытворчасьці і ўсіх асаблівасьцяй сацыяльных адносін,—яны падзяляюць гаспадаркі на тры асноўных катэгорыі: бядняцкія, серадняцкія, і заможныя. Мы і карыстаемся зробленым імі падзяленьнем. Канечна, аналіз гаспадарчых і сацыяльных прыкмет, якія робяцца сельсаветамі вельмі і вельмі далёк ад навуковай дакладнасьці, а па гэтаму і ўтвараемая імі клясыфікацыя гаспадарак вельмі ўмоўна. Але вялікая яе перавага—яе рэальнасьць,—гэта клясыфікацыя ўжо ператворана ў жыцьцё, яна сама зьяўляецца важным фактарам вясковага жыцьця, таму, што ёю вызначаюцца многія эканамічныя і сацыяльныя адносіны вёскі. Гэтым менавіта, тлумачыцца наша жаданьне выкарыстаць гэтую, ужо гатовую, групоўку, для таго, каб высьвятліць на сколькі ўстаноўленыя ёю групоўкі гаспадарак адрозьніваюцца адна ад другой, як па сваіх разьмерах, так і разьмерах належачых ім сродкаў вытворчасьці, якія намі вывучаюцца (скаціна, корм). Інакш кажучы, мы скарысталі групоўку гаспадарак, прынятую сельсаветамі, ня толькі таму, што іншых груповак фактычна яшчэ няма, але і таму, што гэтая групоўка нам здаецца найбольш цікава ў практычных адносінах, хаця па сваіх тэарэтычных абгрунтаваньнях яна, вядома, ня можа быць параўнана з групаваньнем т. Крыцмана на 13 сацыяльных груп, або з групаваньнем т. Гайстэра на 5 сацыяльных груп[3]).

Мы ужо зазначылі, якім чынам выбіраліся раёны і паселішчы для абсьледваньня; двары або гаспадаркі ў паселішчах выбіраліся так: у сельсаветах абмяркоўвалася, які процант маецца ў дадзеным паселішчы бядняцкіх, серадняцкіх і заможных гаспадарак, затым прапорцыянальна вялічыне кожнай групе ўстанаўліваўся лік двароў, належачых да абсьледваньня, і нарэшце—сельсаветы вызначалі, якія двары ў дадзенай групе зьяўляюцца для яе больш тыповымі. Там дзе сельсаветы па якіх небудзь прычынах нам не маглі даць патрэбных вестак, (што здаралася вельмі рэдка) ўжываўся мэханічны выбар гаспадарак,—абсьледваўся, напрыклад кожны трэці двор у паселішчы, пачынаючы з крайняй хаты, ў сельсавеце-ж потым рабіліся адзнакі, да якой сацыяльнай групы адносіцца абсьледваная гаспадарка. І той і другі мэтад выбару гаспадарак даюць нам права думаць, што абсьледваныя намі гаспадаркі колькасна і якасна адбіваюць сапраўдныя суадносіны розных сацыяльных груп сучаснай вёскі.

[1]) На аграрном фронте 1928 № 5.

[2]) Там жа.

[3]) Гл. зборнік „К вопросу о социалистич. переустройстве сельского хозяйства" артык. „Дифференциация деревни".

У выніку групавой апрацоўкі сабранага экспэдыцыяй матар'ялу аказвалася, што паміж паказанымі катэгорыямі гаспадарак сапраўды маецца істотная розьніца. Так, перш за ўсё, ступень эканамічнай моцнасьці гаспадарак, як яна ацэньвалася мясцовай уладай, досыць выразна адбілася на вялічыні падатковага абкладаньня гаспадарак. Сярэдняя вялічыня гэтага абкладаньня, таксама і параённае разьмеркаваньне гаспадарак па асноўных сацыяльных групах, даюцца намі ў наступнай табліцы.

**Процантнае разьмеркаваньне гаспадарак па асноўных сацыяльных групах і сярэдняя вялічыня іх падатковага абкладаньня (у рублёх).**

| Менская акруга | РАЁНЫ | Бягомльск. | | Бярэзінск. | | Капыльск. | | Самахвалаўскі | | Смалявіцк. | | У сярэднім па акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | %% двароў | с/г. надатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак |
| Сацыял. групы | Бядняцкіх | 31,2 | 2,10 | 39,1 | 3,85 | 24,8 | 5,89 | 41,9 | 5,93 | 33,8 | 2,63 | 37,9 | 4,01 |
| | Серадняцк. | 58,7 | 8,59 | 42,4 | 18,72 | 62,4 | 16,95 | 42,9 | 25,70 | 53,4 | 19,25 | 48,3 | 18,07 |
| | Заможных | 10,1 | 25,77 | 18,5 | 83,28 | 12,8 | 80,79 | 15,2 | 104,52 | 12,8 | 81,37 | 13,8 | 68,0 |

| Віцебская акруга | РАЁНЫ | Віцебскі | | Азярышч. | | Чашніцкі | | Высачанскі | | Суражскі | | Лёзьнянскі | | У сярэднім па акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак | %% двароў | с/г. падатак |
| Сацыял. групы | Бядняцкіх | 31,6 | 3,59 | 34,9 | 4,75 | 48,3 | 2,36 | 31,1 | 3,40 | 24,3 | 6,21 | 24,5 | 7,01 | 32,4 | 4,55 |
| | Серадняцк. | 56,4 | 17,42 | 62,2 | 16,26 | 49,8 | 10,27 | 48,5 | 20,85 | 67,6 | 25,53 | 47,8 | 38,38 | 56,4 | 21,45 |
| | Заможных | 12,0 | 49,33 | 3,9 | 68,68 | 1,9 | 31,35 | 20,4 | 52,11 | 8,1 | 70,44 | 27,7 | 98,18 | 11,2 | 61,68 |

Спачатку спынемся на процантных суадносінах розных сацыяльных груп. Перш за ўсё да процантных паказчыкаў першай—бядняцкай групы неабходна ўнесьці наступную папраўку: наша абсьледваньне, як маючае сваёй мэтай вывучэньне жывёлаводзтва, натуральна зусім не датычылася бескароўных гаспадарак,—гэтыя гаспадаркі складаюць у Менскай акрузе 3,99%, а ў Віцебскай акрузе 5,15% [1]) да агульнага ліку ўсіх сялянскіх гаспадарак. Прымаючы пад увагу, што за карову селянін упарта трымаецца, разлучаецца з ёю толькі ў выпадках надзвычайна вялікай патрэбы, усе бескароўныя гаспадаркі павінны быць аднесены да групы бядняцкіх гаспадарак, чаму процант апошніх павінен быць некалькі павялічан, па-

[1]) За 1924 г. па дадзеных ЦСК (штогоднік).



раўнальна з паказаным у нас, а процант іншых груп адпаведна гэтаму, некалькі паменшаны, г. зн. на 2—3 проценты. Зрабіўшы гэту заўвагу, мы думаем, што нашы дадзеныя ў адносінах дзьвюх акруг БССР правільна адбіваюць сапраўнасьць лепш кажучы, правільна адбіваюць тое падзяленьне гаспадарак, якое было вызначана сельсаветамі.

Як павінны мы ацэньваць гэтае падзяленьне?

Ацэнку яго можна зрабіць толькі шляхам параўнаньня. У літаратуры маюцца весткі аб групоўцы гаспадарак на падставе аналізу бюджэта зробленага т. Гайстэрам (Падзяленьне на пяць груп). Аўтар артыкулу „Дифференциация деревни“ [1]) зрабіўшы з пяці тры групы, дае наступныя лічбы гаспадарак (у процантах).

| | Бядняцкіх | Серадняцк. | Заможных (кулакоў) |
|---|---|---|---|
| Для Украіны . . . . . . . . . . | 38,2 | 56 | 5,7 |
| „ Паўночнага Каўказа . . . . . | 36 | 58,6 | 5,3 |
| „ Нова-Сібірскай акругі . . . . | 33,2 | 59,1 | 7,7 |

Гэта падзяленьне зроблена па матар'ялах да 1926 году ўключна. Аўтар прыведзенага артыкулу між іншым адзначае, што „узятыя раёны характэрны наогул большай, чым па СССР вагой вышэйшых груп“ і апрача таго процант кулацкіх гаспадарак усё-ж зьяўляецца пераўвялічаным (па думцы аўтара). Пры параўнаньні гэтых і нашых па акруговых дадзеных нельга не прызнаць, што паказаны ў нас процант бядняцкіх гаспадарак, нават, па ўнясеньні ў яго памянёнай вышэй папраўкі, ні ў якім разе ня будзе пераўвялічаным, параўнальна з Украінай і Паўночным Каўказам, дзе дабрабыт насельніцтва шмат вышэйшы—нават больш правільна будзе прызнаць яго паменшаным. Процант гаспадарак заможнай групы, нават, калі паменшыць яго, згодна паказанай папраўцы, усё-ж у нас па дадзеных сельсавету будзе большым, чым у багатых раёнах Украіны, Паўночнага Каўказу і Нова Сібірскай акругі, пры правядзеньні групоўкі іх гаспадарак на падставе навуковага аналізу бюджэтаў. Разумеецца, гатыя асаблівасьці ў разьмеркаваньні сацыяльных груп нічога не гавораць аб пераважным спрыяючым становішчы беларускага сялянства, параўнальна, напрыклад, з сялянствам Украіны, або Паўночнага Каўказу, яны кажуць толькі аб тым, як разьмеркаваньне сацыяльных груп насельніцтва даецца сельсаветамі. Калі параўнаць у акруговым маштабе па вялічыні асобныя сацыяльныя групы, дык самай нязначнай будзе група заможных, другое месца займае група бядняцкіх гаспадарак і самай многалікай зьяўляецца серадняцкая група. У Ліозьнянскім раёне, у якім маецца найвышэйшы процант хутарскіх гаспадарак, група заможных некалькі перавышае групу бядняцкіх гаспадарак. Раёны найвышэйшага разьвіцьця малочнага жывёлаводзтва (Ліозьнянскі, Самахвалаўскі) адрозьніваюцца ад раёнаў найбольш нізкага яго разьвіцьця (Чашнікаўскага, Бягомльскага), таксама як і ад сярэдніх паакруговых лічбаў, найбольшым разьвіцьцём заможнай групы сялянскіх гаспадарак.

Як убачым у далейшым, бядняцкія, серадняцкія і заможныя групы гаспадарак вельмі рэзка розьняцца паміж сабою ня толькі па наяўнасьці

[1]) Зборнік пад рэдакцыяй Я. А. Якаўлева „К вопросу о социалистическом переустройстве сельского хозяйства“.

маючыхся ў іх сродкаў вытворчасьці (рабочая сіла, зямля і інш.), але таксама і па тэхнічных асаблівасьцях гаспадарнічаньня, па ступені рынчнасьці важнейшых галін жывёлагадоўлі і інш.

Вялічыня падатковага абкладаньня, вылічаная ў рублёх, паказвае, што па падатковаму цяжару асноўныя сацыяльныя групы сялянства розьняцца паміж сабой вельмі рэзка, у Самахвалаўскім раёне напрыклад, падатак групы заможных (у сярэднім) больш, чым у 20 разоў правышае падатак групы бядняцкіх гаспадарак, а ў Смалявіцкім раёне—нават у 30 разоў, у сярэднім жа па Менскай акрузе—17 разоў. Падатковая розьніца паміж бядняцкімі і серадняцкімі групамі даходзіць па Менскай акрузе ад вялічыні менш, чым у тры разы (Капыльскі раён) да вялічыні больш, чым у сем раз (Самахвалаўскі раён)—у сярэднім жа па акрузе—у 4,5 раз. Па Віцебскай акрузе адносіны паміж падаткам бядняцкай і серадняцкай групамі застаюцца амаль што такія як і па Менскай акрузе. Стасунак паміж абойма гэтымі групамі і групай заможных параўнальна меншы, што гаворыць аб тым, што праслаеньне заможных гаспадарак у Віцебскай акрузе не так рэзка вызначана як па Менскай акрузе.

З пункту погляду жывёлавода разьмеркаваньне сялян па асноўных сацыяльных групах, вытвараемых сельсаветамі мае значэньне ў тым сэнсе, што з гэтым разьмеркаваньнем зьвязана, атрыманьне, або наадварот, пазбаўленьне некаторых ільгот па лініі с.-г. каапэрацыі і крэдыту (ільготы на атрыманьне моцных кармоў, насеньня канюшыны і інш.). Розьніца ў атрыманьні гэтых ільгот вызначаецца звычайна, не абсалютнай лічбай сельска-гаспадарчага падатку, а тым, да якой сацыяльнай групы аднесен гэты селянін; і ў выніку гэтага атрымоўваецца, што гаспадарка, абкладзеная падаткам каля 25 руб. у Суражскім і Самахвалаўскім раёнах належаць да групы серадняк оў, а ў Бягомльскім раёне—да групы заможных, пры чым у Бягомльскім раёне такая гаспадарка, такой самай (а часта і меншай) эканамічнай моцнасьці, як і адпаведная ёй па падатку гаспадарка першых раёнаў,—не атрымоўвае тых ільгот, якімі апошнія, у якасьці серадняцкіх гаспадарак, карыстаюцца. Яшчэ большая недакладнасьць атрымоўваецца пры параўнаньні серадняцкіх гаспадарак Ліозьнянскага і заможных гаспадарак Бягомльскага раёнаў, так як серадняцкая гаспадарка Ліозьнянскага раёну плоціць больш падатку і зьяўляецца эканамічна больш моцнай (гэта мы убачым ніжэй), чым заможная гаспадарка Бягомльскага, або Чашнікаўскага раёну, па гэтаму абмежаваньне правоў апошніх гаспадарак, параўнальна з першымі, бадай ці можа быць апраўдана эканамічна (пры ўмове, канечна, што яны не эксплёатуюць—акаляючага сялянства). Практычны вынік з гэтага зводзіцца да таго, што ў раёнах адсталых у сельска-гаспадарчых адносінах (Бягомльскі, Чашнікаўскі) ільготы, маючыя гаспадарчае значэньне павінны быць пашыраны параўнальна з раёнамі перадавымі. У першых раёнах трэба ўтварыць стымулы да разьвіцьця гаспадаркі, якія ўжо маюцца ў перадавых раёнах (Ліозьнянскі, Самахвалаўскі), у выглядзе рынку, разгорнутай сеткі сельска-гаспадарчай каапэрацыі і г. д.

**Вялічыня сям'і.** Разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак па ступені іх эканамічнай моцнасьці звычайна большай ці меншай колькасьцю знаходзячыхся ў іх распараджэньні фактараў вытворчасьці: рабочай сілы, зямлі, прадукцыйнай жывёлы і інш. Як агульнае правіла, найбольш многалікія сем'і зьяўляецца і найбольш забясьпечанымі рабочымі рукамі. З прычыны чаго колькасны склад сялянскіх сем'яў, бязумоўна, мае некаторую цікавасьці, так як дастатковая колькасьць вольных рабочых рук зьяўляецца неабходнай умовай разьвіцьця „трудоёмкіх" галін жывёлага-

доўлі (малочная гаспадарка, сьвінагадоўля). У абсьледваных намі раёнах склад сялянскіх сем'яў вагаецца наступным чынам:

Лік душ ў сям'і

| Менская акруга: РАЁНЫ | | Бягомльск | | Бярэзінск | | Капыльск | | Самахвал. | | Смалявіцкі | | У сярэднім па акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных |
| Сацыял. групы | Бядняцкія | 5,21 | 2,53 | 5,24 | 2,38 | 5,07 | 2,75 | 5,96 | 2,90 | 4,97 | 3,07 | 5,25 | 2,83 |
| | Серадняцкія | 6,04 | 3,51 | 6,55 | 3,29 | 5,76 | 3,17 | 6,31 | 3,56 | 6,84 | 3,65 | 6,28 | 3,42 |
| | Заможныя | 6,36 | 3,57 | 5,82 | 2,71 | 5,6 | 2,8 | 6,56 | 4,18 | 7,06 | 3,88 | 6,42 | 3,72 |
| | У сярэднім | 5,81 | 3,21 | 5,91 | 2,83 | 5,57 | 3,01 | 6,18 | 3,37 | 6,23 | 3,47 | 6,15 | 3,15 |

| Віцебская акруга: РАЁНЫ | | Віцебскі | | Азярышчанскі | | Чашніцкі | | Высачанскі | | Суражскі | | Ліозьнянскі | | У сярэднім на акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных | Лік душ у сям'і | Працоўных |
| Сацыял. групы | Бядняцкія | 5,34 | 2,22 | 5,42 | 2,60 | 6,42 | 3,09 | 6,02 | 2,38 | 5,26 | 3,16 | 5,15 | 2,64 | 5,60 | 2,68 |
| | Серадняцкія | 5,72 | 2,85 | 6,89 | 3,09 | 5,95 | 3,26 | 6,09 | 2,84 | 5,91 | 3,93 | 4,95 | 3,34 | 5,92 | 3,22 |
| | Заможныя | 5,76 | 2,65 | 6,71 | 3,60 | 6,00 | 3,75 | 7,44 | 3,21 | 7,42 | 5,00 | 6,00 | 4,36 | 6,56 | 3,76 |
| | У сярэднім | 5,60 | 2,63 | 6,38 | 3,09 | 6,18 | 3,19 | 6,34 | 2,77 | 5,88 | 3,83 | 5,29 | 3,45 | 5,95 | 3,16 |

Параўнаньне сем'яў розных сацыяльных груп па ліку маючыхся у іх працаздольных сяброў паказвае нам, што ў пераважнай большасьці раёнаў (10 з 11) бядняцкія сем'і зьяўляецца найменш забясьпечаным і працоўнай сілай, і наадварот,—сем'і заможных ў большай частцы маюць найбольшы лік працоўнай сілы (хаця гэта вылічваецца часам у дзесятковых долях) Ва ўсякім выпадку, адзначаная розьніца пэўна для сярэдніх па акруговых дадзеных. Колькасьць душ у сярэднім зьмяняецца ў тым жа напрамку, як і колькасьць працоўнай сілы.

У далейшым мы убачым, што заможныя сем'і параўнальна з бядняцкімі і серадняцкімі маюць і большую колькасьць апрацоўваемай зямлі, большы лік жывёлы, чаму здавалася-б і разьмер працоўнай напруджанасьці, або, што тое самае, вялічыня самаэксплёатацыі бадай ці можа істотна розьніцца ў сялянскіх сем'ях розных сацыяльных груп, (выключаючы, вядома, тыя сем'і дзе карыстаюцца наёмнай працоўнай сілай). Аднак, праф. А. Н. Чэлінцаў, вывучаўшы гэтае пытаньне па матар'ялах бюджэтных запісаў Тамбоўскай губ. піша: „Чым буйнейшая сям'я, г. зн. чым больш у сям'і працоўнай сілы, тым наогул менш працуе кожны з іх. Гэта тым больш прыкметна, што з павялічэньнем ліку душ у сям'і

абцяжаранасьць едакамі павялічваецца. Магчыма што прычынай гэтага зьяўляецца павышэньне вытворчасьці сямейнай каапэрацыяй, а таксама іншымі шляхамі, як павялічэньне сродкаў вытворчасьці і інш."[1]).

Пры правядзеньні тых ці іншых мерапрыемстваў па інтэнсыфікацы земляробства і жывёлагагоўлі вельмі важна бывае дакладна ўлічыць колькасьць вольных рабочых рук кожнай катэгорыі гаспадарак,—нажаль гэта можна мець толькі пры бюджэтным абсьледваньні. Гэтае пытаньне, як і большасьць пытаньняў зьвязаных з эканомікай гаспадаркі БССР, застаецца ня высьветленым. Згодна дадзеных „Пэрспэктыўнага пляну НКЗБ[2])" не выкарыстоўваемы зусім працоўны час складае каля чвэрткі ўсяго яго запасу, а па дадзеных „Большой Советской энциклопедии" (т. V) на падставе манаграфічных бюджэтных апісаньняў сялянскіх гаспадарак БССР,—астача нявыкарыстанага працоўнага часу складае 35% (у 1924-25 годзе) у адносінах да ўсяго яго гадавога запасу (за выключэньнем сьвяточных дзён), альба каля 40% (у 1924-25 годзе) з улічэньнем і сьвяточных дзён. Мы лічым больш праўдзівай думку аўтара артыкулу „Большой Советской энциклопедии" таму, што згодна думкі праф. Чэлінцава, нават, для Тамбоўскай губ., дзе перанаселеньне далёка ня так выразна вызначана „у сялянскіх гаспадарках маецца незанятай, у лепшым выпадку, да палавіны усёй колькасьці працоўнай сілы, якую яны маглі-б даць у гаду, працуючы усе несьвяточныя дні"[3]).

Для БССР гэта астача вольнага працоўнага часу бадай ці будзе меншай. Ва ўсякім выпадку, на падставе дадзеных нашага абсьледваньня, мы можам адзначыць, што ў Менскай і Віцебскай акругах, як у дробных, так і ў буйных гаспадарках, працоўная напруджанасьць сям'і ня можа быць поўнай, роўна як незьяўляецца поўным і выкарыстаньне рабочага быдла.

**Зямельная плошча**. Па разьмерах зямельнай плошчы, якая знаходзіцца ў карыстаньні, гаспадаркі разьмяркоўваюцца наступным чынам: (табл. на стар. 14).

Праводзячы параўнаньне прыведзеных дадзеных, відаць, што ворная і сядзібная зямля ў гаспадарках па Менскай акрузе складае большую частку, тады як у гаспадарках па Віцебскай акрузе значна больш прыпадае на сенажатныя ўгодзьдзі. Па агульнай забясьпечанасьці зямлёй гаспадаркі Віцебскай акругі стаяць упрадзе Менскай (8,32 дзесяціны супроць 7,26). Па вышэйадзначаных намі ў першым разьдзеле дадзеных ЦСК адносіны гэтых акруг былі іншыя (у 1924 г).

Розьніца па колькасьці зямлі між заможнымі і бядняцкімі гаспадаркамі некалькі большая ў Менскай акрузе (14,65 супроць 4,43 дзесяцін) у параўнаньні з Віцебскай (14,32 супроць 5,70 дзесяцін). Гэта гаворыць аб тым, што працэс расслаеньня вёскі ў апошняй акрузе вызначаны некалькі слабей. Розьніца ў адносінах зямельнай забясьпечанасьці паміж заможнай і бядняцкай гаспадаркамі падобна да тэй розьніцы, якая існуе між гаспадаркамі ў раёнах з інтэнсыўнай і экстэнсыўнай малочнай гаспадаркай,—напрыклад у Менскай акрузе сярэдняя вялічыня гаспадаркі ў інтэнсыўным Самахвалаўскім раёне роўна 7,6 дзесяцін, а ў вельмі экстэнсыўным Бягомльскім—5,69 дзесяцін. Такія-ж самыя суадносіны існуюць і ў Віцебскай акрузе для гаспадарак Лёзьнянскага і Чашнікаўскага раёнаў (8,4 і 5,9 дзесяцін). Гэта вядома зразумела,—зусім натуральна, што пры большай забясьпечанасьці зямлёй гаспадарка набывае

---

[1]) Праф. А. Н. Чэлінцаў. „Опыт изучения организации крестьянских сельск. хоз." гл. разд. Труд и его организация.
[2]) Перспективный план НКЗБ.
[3]) Праф. А. Н. Чэлінцаў: Ibidem.

## Размеркаваньня зямельнай плошчы па гаспадарках

### Менская акруга

| РАЁНЫ | Бягомальск. | | | Бярэзінск. | | | Капыльск. | | | Самахвалав. | | | Скалявіцк. | | | У сярэднім па акрузе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | |
| Сац. групы | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. |
| Бядняцкія . . . | 2,38 | 0,99 | 0,69 | 3,15 | 1,10 | 0,64 | 3,02 | 0,67 | 0,03 | 3,64 | 0,60 | 0,27 | 3,53 | 0,79 | 0,04 | 3,34 | 0,77 | 0,32 |
| Серадняцкія . . | 2,79 | 1,81 | 1,12 | 5,61 | 2,03 | 1,25 | 4,55 | 1,31 | 0,07 | 6,18 | 1,06 | 0,53 | 6,24 | 0,99 | 0,10 | 5,32 | 1,38 | 0,60 |
| Заможныя . . . | 6,23 | 2,63 | 0,64 | 11,02 | 3,61 | 3.53 | 9,17 | 2,29 | 0,43 | 11,65 | 2,44 | 1,32 | 10,62 | 1,78 | — | 10,75 | 2,61 | 1,29 |
| У сярэднім . . | 3,01 | 1,64 | 0,90 | 5,69 | 1,97 | 1,45 | 4,76 | 1,27 | 0,11 | 5,97 | 1,08 | 0,54 | 5,90 | 1,03 | 0,07 | 5,34 | 1,33 | 0,59 |

### Віцебская акруга

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | Азярышчанскі | | | Чашніцкі | | | Высачанскі | | | Суражкі | | | Лёзнянскі | | | У сярэднім па акрузе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | | Лік дзесяцін | | |
| Сац. групы | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжыткор. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. | Ворнай і сядзібнай | Сенажатн. | Няўжытков. |
| Бядняцкія . | 2,66 | 1,93 | 0,27 | 3,66 | 2,80 | 0,35 | 3,14 | 1,48 | — | 3,42 | 2,13 | 0,06 | 2,75 | 3,04 | 1,10 | 2,60 | 2,51 | 0,26 | 3,04 | 2,32 | 0,34 |
| Серадняцкія | 4,34 | 3,23 | 0,29 | 5,76 | 4,42 | 1.00 | 4,73 | 2,14 | 0,05 | 5,26 | 2,99 | 0,18 | 4,90 | 4,58 | 1,08 | 3,38 | 3,42 | 0,29 | 4,73 | 3,46 | 0,48 |
| Заможныя . | 6,90 | 4,97 | 0,44 | 9,84 | 5,89 | 1,66 | 8,87 | 3,28 | — | 7,86 | 4,49 | 0,50 | 9,24 | 6,30 | 1,36 | 8,63 | 5,16 | 0,58 | 8,56 | 5,02 | 0,74 |
| У сярэднім . | 4,09 | 3,01 | 0,30 | 5,56 | 3,89 | 0,80 | 4,04 | 1,84 | 0,03 | 4,23 | 3,03 | 0,21 | 4,73 | 4,35 | 1,10 | 4,70 | 3,69 | 0,34 | 4,56 | 3,30 | 0,46 |

(пры аднальковых іншых умовах) больш рынкавы характар а гэта надае важнейшы стымул і для яе інтэнсыфікацыі ў далейшым, а таму больш забясьпечаныя зямлёй гаспадаркі, а таксама і больш забясьпечаныя зямлёй раёны—першымі ўзайшлі на шлях інтэнсыўнай малочнай гаспадаркі (пры наяўнасьці магчымасьці збыту прадуктаў.

Для вызначэньня характару кармленьня быдла маюць вельмі вялікае значэньне адносіны плошчы лугавых угодзьдзяў да плошчы ворнае зямлі. У сярэднім па Менскай акрузе плошча лугу складае толькі 25% ад плошчы ворнай зямлі,—у Віцебскай жа акрузе—каля 73%, адсюль пераважнасьць кармленьня сенам у Віцебскай акрузе параўнальна з Менскай акругай, чаму і сабекошт малака павінен быць танейшым. У сярэднім па БССР у 1923-24 годзе плошча сенажаці складала 50 процантаў да плошчы ворнай зямлі,—значыцца Менская акруга—стаіць ніжэй, а Віцебская акруга—вышэй сярэдняй па Рэспубліцы[1]). Аднак жа трэба адзначыць, што паказаныя процантныя суадносіны сенажатных угодзьдзяў да ворнай зямлі вылічаны намі па дадзеных, сабраных на падставе індывідуальнага апытаньня гаспадароў, згодна пытаньняў падворнай карткі аб зямельных угодзьдзях двара. Калі зрабіць такое вылічэньне па паселішчных афіцыйных дадзеных, згодна паведамленьню сельсаветаў, дык атрымаем некалькі іншыя суадносіны. Па Менскай акрузе процант сенажаці будзе павялічаны на 10%, а па Віцебскай акрузе на некалькі процантаў зьмяншаецца, што можна ўбачыць з дадзеных аб колькасьці сенажаці, зьмяшчаемых у наступнай табліцы (табл. на стар. 16).

Цяжка сказаць, якія весткі зьяўляюцца больш правільнымі,—нам здаецца, што супраўднае становішча больш вядома паасобным дамашнім гаспадаром, чымся сельсаветам, якія карыстаюцца зьвесткамі часткова ужо застарэлымі, з другога боку сельсаветы ўладаюць дадзенымі па усіх гаспадарках, тады як мы зьбіралі весткі толькі па частцы гаспадарак. Аднак з поўнай дакладнасьцю адносную колькасьць лугу, амаль ці магчыма вызначыць, таму, што гэта плошча зьяўляецца вялічынёй вельмі няўстойлівай. Нам вядомы паасобныя выпадкі, калі ў засушлівае лета, зямля аднесеная сельсаветам да катэгорыі балот (няўжыткі) выкошвалася, г зн. лічылася як сенажаць, таксама былі адзначаны 2-3 выпадкі (калі луг у засушлівае лета выкарыстоўваўся выключна як выпас. У звычайнае, або даждлівае лета, характар выкарыстоўваньня паказаных угодзьдзяў быў-бы, зразумела, іншым. Па гэтаму трэба думаць, што сапраўдныя суадносіны паміж плошчай ворнай зямлі і лугу будуць бліжэй да сярэдніх паміж дадзенымі падворных і паселішчных картак. Між іншым, закранутае пытаньне не набывае асаблівага значэньня, таму што якія-б дадзеныя ня прыймалі, агульны малюнак вывучаемых акруг, а значыцца і асноўныя вынікі застануцца бяз зьмен. Вызначыць залежнасьць паміж адноснай колькасьцю лугавых угодзьдзяў і разьвіцьцём жывёлаводзтва па нашых дадзеных нельга,—так у Віцебскай акрузе ў вельмі інтэнсыўным жывёлаводным Лёзьнянскім раёне адносіны плошчы лугу да ворнай зямлі вельмі спрыяючыя для першага параўнальна з адносінамі іх да экстэнсыўнага Чашнікаўскага раёну, але у Менскай акрузе між інтэнсыўным Самахвалаўскім і экстэнсыўным Бягомльскім раёнамі розьніца будзе мець адваротны характар. У экстэнсыўным Бягомльскім раёне адносіны для лугу і абсалютная вялічыня яго будуць больш карыснымі, чым у інтэнсыўным Самахвалаўскім раёне. Зразумела, гэта яшчэ ня значыць, што тая або іншая колькасьць лугоў у раёне ня мае значэньня

[1]) Я. Бляхер: „Народное хозяйство СССР за 1923-24 г. стр. 18.

**Размеркаваньне зямельнай плошчы па паселішчах**

| Акруга | РАЁНЫ \ ЗЯМЛІ | | Ворнай | Сенажаці | Папасу | Балота | Няўжытковай | Усяго папасу балота і няўжыткавай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская акруга | Бягомльск. | Дзесяцін | 1712,3 | 874,4 | 342,1 | 22,0 | 288,9 | |
| | | У %/% | 100 | 51,0 | 19,9 | 1,28 | 16,8 | 37,98 |
| | Бярэзінск. | Дзесяцін | 3682,76 | 1145,7 | 87,0 | 100,0 | 752,7 | |
| | | У %/% | 100 | 31,3 | 2,3 | 2,7 | 20,4 | 25,4 |
| | Капыльск. | Дзесяцін | 4150,6 | 1273,1 | 467,0 | 40,0 | 87,0 | |
| | | У %/% | 100 | 30,6 | 11,2 | 0,9 | 2,0 | 14,1 |
| | Самахвалав. | Дзесяцін | 9780,9 | 1966,3 | 711,98 | 206,73 | 221,25 | |
| | | У %/% | 100 | 20,1 | 7,2 | 2,1 | 2,2 | 11,5 |
| | Смалявіцк. | Дзесяцін | 4251,06 | 668,78 | 136,0 | 190,0 | 42,76 | |
| | | У %/% | 100 | 15,7 | 3,1 | 4,4 | 1,0 | 8,5 |
| | У сярэднім па акрузе | Дзесяцін | 3368,42 | 1188,57 | 227,4 | 118,46 | 168,34 | |
| | | У %/% | 100 | 35,28 | 6,75 | 3,52 | 5,0 | 15,27 |
| Віцебская акруга | Віцебск. | Дзесяцін | 3347,27 | 2463,73 | 457,92 | 93.55 | 106,56 | |
| | | У %/% | 100 | 73,6 | 13,6 | 2,8 | 3,1 | 18,1 |
| | Азярышчан. | Дзесяцін | 2740,71 | 1713,23 | 77,28 | 208,75 | 352,21 | |
| | | У %/% | 100 | 62,5 | 2,8 | 7,6 | 12,8 | 23,2 |
| | Чашніцк. | Дзесяцін | 2482,4 | 1060,37 | 60,0 | 106,0 | 20,0 | |
| | | У %/% | 100 | 42,7 | 2,4 | 4,27 | 0,8 | 7,47 |
| | Высачанск. | Дзесяцін | 2141,73 | 1269,13 | 15,75 | 28,8 | 96,87 | |
| | | У %/% | 100 | 59,2 | 0,73 | 1,3 | 4,5 | 6,53 |
| | Суражск. | Дзесяцін | 2117,06 | 2426,25 | 185,25 | 96,0 | 120,56 | |
| | | У %/% | 100 | 101,4 | 8,7 | 4,5 | 5,6 | 18,8 |
| | Ліознянск. | Дзесяцін | 3688,2 | 2487,65 | — | 89,0 | 151,0 | |
| | | У %/% | 100 | 67,4 | — | 2,4 | 4,0 | 6,4 |
| | У сярэднім па акрузе | Дзесяцін | 2752,9 | 1903,4 | 132,7 | 103,7 | 141,2 | |
| | | У %/% | 100 | 69,15 | 4,82 | 3,77 | 5,13 | 13,72 |

для жывёлаводзтва,—гэта паказвае толькі, што ступень забясьпечанасьці лугамі ў БССР не набывае выключнага значэньня для разьвіцьця жывёлаводзтва.

Аб другім вельмі важным для жывёлаводзтва, угодзьдзі—выгану мы—у адносінах яго разьмераў—ня можам атрымаць вёсткі з індывідуальных апытаньняў гаспадароў, так як гэта угодзьдзе, звычайна, знаходзіцца ў агульным карыстаньні. Аб разьмерах выганаў мы мяркуем па дадзеных другой табліцы. З гэтай табліцы відаць, што Менская акруга адносна багацей выпасамі, чым Віцебская акруга. Параўнаючы параённа, трэба адзначыць, што па абсалютнай вялічыне выпасаў, на першым месцы ў Менскай акрузе значыцца Самахвалаўскі раён, а ў адносінах выпасу да ворнай зямлі—найбольш багаты Бягомльскі раён—самы экстэнсыўны ў малочна-гаспадарчых адносінах. Як у першым, так і ў другім выпадку вельмі кепска знаходзіцца справа ў Бярэзінскім раёне. Найбольш інтэнсыўны ў малочна-гаспадарчых адносінах раён—Самахвалаўскі—ў адносінах плошчы выпасу да ворнай зямлі блізкі да сярэдняй па акрузе. У Віцебскай акрузе, калі ня лічыць Ліозьнянскага раёну, характэрнага перавагай хутарскага землякарыстаньня, амаль поўную адсутнасьць выпасаў мы маем у Высачанскім раёне,—ў якім вельмі мала балот і няўжыткаў. Найбольш спрыяюча з выпасамі па абсалютных і адносных лічбах знаходзіцца справа ў Віцебскім раёне, але тут здаецца, якасьць выпасаў ня зусім высокая. Плошчы балот і няўжыткаў, адносна амаль аднолькавыя, як у Менскай акрузе, так і ў Віцебскай. Ў Азярышчанскім і Суражскім раёнах балот, відавочна, параўнальна многа (7,6—4,5%) у адносінах жывёлагадоўлі балоты маюць значэньне для будучага, як фонд, за лік якога можа быць пашырана плошча лугоў і пашы.

**Характар севазваротаў.** Рознастойнасьць абсьледваньня раёнаў і сялянскіх гаспадарак па характару іх севазваротаў вызначаецца ў наступнай табліцы.

СЕВАЗВАРОТЫ

| РАЁНЫ / Севазвароты у %% / Сац. групы | Бягомльскі | | Бярэзінскі | | Капыльскі | | Самахвалявіцкі | | Смалявіцкі | | У сярэднім па акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Трох | Шмат | Трох | Шмат | Трох | Шмат | Трох | Шмат | Трох | Шмат | Трох | Шмат |
| | польле | | польле | | польле | | польле | | польле | | польле | |
| Бядняцкі | 100,0 | 0,0 | 73,21 | 26,79 | 100,0 | 0,0 | 87,01 | 12,99 | 100,0 | 0,0 | 88,61 | 11,39 |
| Серадняцкі | 98,28 | 1,72 | 71,93 | 28,07 | 100,0 | 0,0 | 84,13 | 15,87 | 98,59 | 1,41 | 89,02 | 10,98 |
| Заможны | 100,0 | 0,0 | 59,26 | 40,74 | 92,86 | 7,14 | 72,73 | 27,27 | 88,24 | 11,76 | 74,53 | 25,47 |
| У сярэднім | 99,12 | 0,88 | 70,0 | 30,0 | 99,13 | 0,87 | 83,30 | 16,70 | 97,44 | 2,56 | 86,68 | 13,32 |

| РАЁНЫ / Севазвароты у %% / Сац. групы | Віцебскі | | Азярышчанскі | | Чашніцкі | | Высачанскі | | Суражскі | | Ліозьнянскі | | У сярэднім па акрузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | трох | шмат | трох | шмат | трох | шмат | трох | шмат | трох | шмат | трох | шмат | трох | шмат |
| | польле | | польле | | польле | | польле | | польле | | польле | | польле | |
| Бядняцкі | 81,31 | 18,69 | 95,0 | 5,0 | 92,79 | 7,21 | 76,92 | 23,08 | 82,46 | 17,54 | 76,92 | 23,08 | 85,65 | 14,31 |
| Серадняцкі | 77,96 | 22,04 | 79,73 | 20,27 | 82,0 | 18,0 | 60,49 | 39,51 | 68,15 | 31,85 | 59,21 | 40,79 | 72,99 | 27,05 |
| Заможны | 63,89 | 36,11 | 28,57 | 71,43 | 75,0 | 25,0 | 41,18 | 58,82 | 31,58 | 68,42 | 11,36 | 88,64 | 36,81 | 63,11 |
| У сярэднім | 77,51 | 22,49 | 83,40 | 16,60 | 87,06 | 12,94 | 61,68 | 38,32 | 68,67 | 31,33 | 50,31 | 49,69 | 73,19 | 26,89 |

З дадзеных гэтай табліцы відаць, што найбольш інтэнсыўныя севазвароты маюцца ў раёнах Віцебскай акругі—26,8% гаспадарак са шматпольнымі севазваротамі, тады як у Менскай акрузе 13,3%, але і гэта апошняя лічба атрымана галоўным чынам за лік Бярэзінскага р.,—ў некаторых-ж раёнаў Менскай акругі яшчэ да гэтага часу поўнасьцю або амаль поўнасьцю, пануе 3-х палёўка (раёны: Бягомльскі, Капыльскі). У Віцебскай акрузе такіх раёнаў няма. Параўнаючы гэтую табліцу з табліцай разьдзелу першага, якая характарызуе забясьпечанасьць гаспадарак па Менскай акрузе і Віцебскай інвэнтаром—вынікае, што тэхнічны прагрэс не заўсёды ідзе рука аб руку з арганізацыйным прагрэсам.

Пры параўнаньні сялянскіх гаспадарак розных сацыяльных груп па характару севазваротаў,—рэзка кідаецца ў вочы як па Менскай, так і па Віцебскай акрузе, пераважнасьць шматпольля ў групах заможных сялянскіх гаспадарак. Параённа ў Віцебскай акрузе шматпольле распаўсюджана больш раўналежна, чым у Менскай акрузе. З раёнаў Віцебскай акругі асабліва выдзяляецца па шматпольлю Лёзьнянскі раён, найбольш цікавы і ў малочна-гаспадарчых адносінах. Самахвалаўскі-ж раён Менскай акр.—першы па інтэнсыфікацыі малочнай гаспадаркі,—па распаўсюджаньню шматпольля зусім мала перавышае сярэдні каэфіцыент па акрузе, т. зн. у даным выпадку інтэнсыфікацыя малочнага жывёлаводзтва ня ідзе рука аб руку з інтэнсыфікацыяй паляводзтва.

Наступная табліца (гл. табл. на стар. 19) нам паказвае, што не заўсёды ёсьць і дакладная адпаведнасьць між разьвіцьцём жывёлаводзтва з аднаго боку і разьвіцьцём кармавога кліну ў севазваротах з другога, хаця здавалася-б такая адпаведнасьць і зьяўляецца зусім натуральнай.

Дадзеныя гэтай табліцы паказваюць, што ў гаспадарках розных раёнаў Менскай акр. корне—і клубне-плоды займаюць у сярэднім такое месца як і трава—абедзьве-ж гэтыя культуры разам складаюць 46% ад плошчы зернавых—такія—ж адносіны між імі маюцца ў Самахвалаўскім раёне, а найбольш экстэнсыўным Бягомльскім раёне яны амаль роўны 30%. Канюшынасеяньне больш за ўсё распаўсюджана ў Капыльскім і потым ужо—у Самахвалаўскім раёне. Менш за ўсё травасеяньне распаўсюджана ў Бягомльскім раёне. Рэштка раёнаў займаюць у гэтых адносінах сярэдняе месца. Па Віцебскай акрузе травасеяньне больш за ўсё распаўсюджана ў Высачанскім раёне, затым у Лёзьнянскім і амаль зусім адсутнічае ў Чашнікаўскім. У сярэднім па Віцебскай акрузе травасеяньне распаўсюджана некалькі менш, чым у Менскай акрузе, што і зразумела, калі прыняць пад увагу багацьце Віцебскай акругі лугавымі угодзьдзямі. Удзельная вага травасеяньня па Віцебскай акрузе некалькі большая, чым удзельная вага засеву бульбы і кораньплодаў, і абедзьве культуры разам займаюць 42% ад плошчы зернавых—гэта па акрузе,—у Лёзьнянскім раёне яны займаюць крыху больш 50% ад плошчы апошніх, таксама як ў Высачанскім, затое у Чашнікаўскім іх плошча складае толькі 18% ад плошчы зернавых. Калі прыняць пад увагу, што Віцебскай акр. параўнальна з Менскай акругай дастаткова забясьпечана лугамі, што досыць значнае распаўсюджваньне ў ім травасеяньня—аб чым гавораць дадзеныя нашай табліцы—трэба прызнаць вельмі паказальным, яно яшчэ больш узмацняе кармавую базу Віцебскай акругі параўнальна з Менскай акругай, гэтаму, трэба думаць, спрыяе распаўсюджваньне па Віцебскай акрузе культуры ільну, пад якую па Менскай акрузе адводзіцца ўдвайне менш месца, чым па Віцебскай акрузе, як гэта відаць з радку чацьвёртага нашай табліцы.

**Плошча засеваў розных культур на 1 гаспадарку па Менскай акрузе ў дзес.**

| АКРУГА | МЕНСКАЯ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалавіцкі | | | | Смалявіцкі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
| Групы гаспадарак | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. |
| Культуры: Збожжавыя . . . . . | 1,43 | 2,45 | 3,95 | 2,29 | 1,45 | 2,78 | 4,90 | 2,69 | 1,65 | 2,61 | 5,50 | 2,74 | 1,84 | 3,22 | 5,81 | 3,03 | 2,55 | 3,11 | 4,86 | 3,07 | 1,81 | 2,90 | 5,37 | 2,84 |
| Бульба і караньплоды . | 0,32 | 0,53 | 0,75 | 0,49 | 0,44 | 0,72 | 1,26 | 0,72 | 0,45 | 0,57 | 0,85 | 0,58 | 0,49 | 0,77 | 1,16 | 0,72 | 0,44 | 0,61 | 0,93 | 0,60 | 0,46 | 0,68 | 1,16 | 0,65 |
| Канюшына і інш. травы | 0,05 | 0,10 | 0,86 | 0,18 | 0,24 | 0,64 | 1,20 | 0,59 | 0,48 | 0,86 | 1,74 | 0,81 | 0,39 | 0,73 | 1,57 | 0,72 | 0,23 | 0,61 | 1,19 | 0,57 | 0,31 | 0,62 | 1,60 | 0,64 |
| Лён . . . . . . . . . | 0,06 | 0,12 | 0,13 | 0,11 | 0,11 | 0,18 | 0,20 | 0,16 | 0,11 | 0,14 | 0,20 | 0,14 | 0,05 | 0,08 | 0,09 | 0,07 | 0,06 | 0,14 | 0,26 | 0,13 | 0,07 | 0,12 | 0,16 | 0,15 |

| АКРУГА | ВІЦЕБСКАЯ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Суражскі | | | | Лёзьнянскі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
| Групы гаспадарак | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. |
| Культуры: Збожжавыя . . . . . | 1,42 | 1,95 | 3,74 | 2,00 | 1,89 | 2,82 | 4,55 | 2,98 | 1,79 | 2,63 | 5,24 | 2,27 | 1,79 | 2,40 | 3,52 | 2,44 | 1,39 | 2,25 | 4,17 | 2,21 | 1,23 | 2,25 | 4,10 | 2,43 | 1,59 | 2,38 | 4,22 | 2,39 |
| Бульба і караньплоды . | 0,30 | 0,40 | 0,65 | 0,40 | 0,25 | 0,42 | 0,72 | 0,37 | 0,24 | 0,39 | 0,60 | 0,32 | 0,29 | 0,56 | 0,76 | 0,52 | 0,22 | 0,39 | 0,70 | 0,38 | 0,33 | 0,50 | 0,82 | 0,53 | 0,27 | 0,44 | 0,71 | 0,42 |
| Канюшына і інш. травы | 0,25 | 0,41 | 0,91 | 0,42 | 0,11 | 0,49 | 2,12 | 0,41 | 0,06 | 0,11 | 0,03 | 0,05 | 0,32 | 0,71 | 1,70 | 0,79 | 0,15 | 0,59 | 1,81 | 0,59 | 0,22 | 0,64 | 1,44 | 0,72 | 0,24 | 0,49 | 1,34 | 0,58 |
| Лён . . . . . . . . . | 0,05 | 0,08 | 0,13 | 0,07 | 0,14 | 0,29 | 0,56 | 0,24 | 0,08 | 0,10 | 0,19 | 0,09 | 0,10 | 0,11 | 0,20 | 0,13 | 0,25 | 0,42 | 0,72 | 0,40 | 0,15 | 0,28 | 0,37 | 0,27 | 0,13 | 0,21 | 0,36 | 0,20 |



У Віцебскай і Менскай акругах плошчы усіх культур (зернавых, абсыпных і траў), канечна, узрастаюць ад бядняцкіх да заможных гаспадарак (серадннякі займаюць між імі сярэдзіну), але пры тым, плошча пад травамі ўзрастае у больш заможных групах адносна хутчэй, чым плошча другіх культур; так, у той час, як па Менскай акрузе плошча зёрнавых павялічваецца ў заможных параўнальна з бедняцкімі—у тры разы, таксама як амаль у тры разы павялічвалася плошча пад бульбай і караньпкодамі — плошча пад травамі павялічалася у пяць разоў. Амаль такія суадносіны мы маем і па Віцебскай акрузе (плошча пад зернавымі культурамі ў заможных больш чым у 2,5 разоў плошчы пад зернавымі ў беднякоў, а плошча пад травамі больш у 4 разы). Нажаль, нашы дадзеныя не дазваляюць нам паасобку вылічыць культуры бульбы і караньплодаў, што было-б з пункту погляду жывёлагадоўлі вельмі цікава. Калі параўняць паміж сабою культуры траў, бульбы і караньплодаў, дык атрымоўваецца, што культура траў у гаспадарках заможных усюды займаюць большую плошчу, а ў гаспадарках бядняцкіх амаль — меншую, што, бязумоўна, тлумачыцца спажывецкім характарам культуры бульбы, заўсёды зэбясьпечваемым гэтай культуры значнае месца ў бядняцкіх гаспадарках. Гэта адставаньне бедняцкіх гаспадарак у справе травасеяньня робіць неабходным павялічэньня для іх ільгот (крэдыты на пакупку насеньня), хаця-б нават, за лік скарачэньня іх для заможнай часткі, акая у гэтым адносінах мае значныя посьпехі.

**Формы землякарыстаньня.** Аб значэньні форм землякарыстаньня для разьвіцьця і прагрэсу сельскай гаспадаркі гаварыць многа ўжо не патрэбна. Дастаткова зьвярнуць увагу на тое, што неабходнасьць земляўпарадкаваньня дала першае па колькасьці з патрабаваньняў, дадзеных у адказ на анкету Совнаркому БССР. у лютым 1926 году („Аб гаспадарчым становішчы вёскі“[1]) Я. А. Якаўлеў зазначае, што неземляўпарадкаванасьць зьяўляецца адным з буйнейшых фактараў палягчаючых разьвіцьцё капіталізму ў сельскай гаспадарцы [2]).

Але калі ступень забясьпечнасьці сялян зямлёй, пашырэньня шматпольля і інш.,—абавязкова адбіваюцца на разьвіцьці жывёлаводзтва, дык гэтага—ва ўмовах БССР — ужо ніяк нельга сказаць адносна форм землякарыстаньня—паскольки апошнія акрэсьляюцца характарам сялянскіх паселішч, ці ў выглядзе вялікіх вёсак, дробных пасёлкаў, альбо хутароў. Дадзеныя, якія мы маем, зазначаюць, пераканаўча, што пры ўсіх гэтых 3-х відаў паселішч аднолькова назіраецца як вельмі інтэнсыўныя так і настолькі-ж экстэнсыўныя формы жывёлаводзтва; дзякуючы чаму і дадаем дадзеныя аб формах землякарыстаньня ў абсьледваным намі раёне—скарочана,—толькі ў выглядзе падагуленых лічб па акругах, як аб гэтым сьведчыць наступная табліца.

| Акругі | | Менская | | | | Віцебская | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы гаспадарак / Лік гаспадарак | | Бядняк | Серадняк | Заможны | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможны | У сярэднім |
| Гаспадар. якія жыв: | У вёск. (неземляўп.) | 84,79 | 89,22 | 79,84 | 86,63 | 28,0 | 16,5 | 6,0 | 19,0 |
| | У пасёл. (земляўп.) | 9,36 | 6,89 | 1,61 | 7,07 | 13,0 | 6,0 | 4,0 | 6,0 |
| | У хутар. (земляўп.) | 5,85 | 3,89 | 18,55 | 6,30 | 65,0 | 77,5 | 90,0 | 75,0 |

[1]) К. Куликов. „Белорусская деревня“ (Сов. Строит. за 26 г. № 6).
[2]) „О социалист. переустр. с/х—ва“ 7 разьдз.

З гэтай таблічкі можна угледзіць, што па Менскай акрузе распаўсюджаны пераважна буйныя паселішчы—вёскі і сёлы, а ў Віцебскай акрузе—хутары. Раёны найбольш інтэнсыўнага жывёлаводзтва—Самахвалаўскі ў Менскай акр. і Лёзьнянскі у Віцебскай акр. не адзначаюцца ў гэтых адносінах ад агульнага характару сваіх акруг, таксама як і раёны экстэнсыўнага жывёлаводзтва, напрыклад:, Бягомльскі, або Віцебскі. Гэтыя акалічнасьці зазначаюць, што ў сучасны момант у БССР непасрэднай яскравай залежнасьці між характарам землякарыстаньня і ступені інтэнсыўнасьці жывёлаводзтва па розных раёнах вызначыць нельга. Але, калі разглядзець дадзеныя, якія мы маем не параённа, а ў сацыяльным аспэкце, дык выяўляецца бяспрэчнае імкненьне заможнай групы сялянства да хутароў, што аднак зьяўляецца ўжо агульна вядомым. Цікава, што адзначанае імкненьне заможнай групы да хутароў наглядаецца, нават, і па Менскай акрузе, дзе хутароў наогул мала. Прычына, чаму розныя формы землякарыстаньня, згодна нашых дадзеных, не адбіваюцца на жывёлаводзтве параённа, месьціцца ў тым, што на Беларусі земляўпарадкаваўчая праца пачалася яшчэ не так даўно, між тым, як эфэкт земляўпарадкаваньня можа адбіцца на жывёлаводзтве толькі праз некалькі год. У некаторых раёнах пры абсьледваньні было адзначана, што земляўпарадкаваная тэрыторыя яшчэ ня зусім абжыта насельніцтвам. Зразумела, што пры такіх умовах яшчэ нельга чакаць ад земляўпарадкаваньня гаспадарчага эфэкту ў адносінах да жывёлаводзтва.

**Забясьпечанасьць сялянскага двара сельска-гаспадарчай жывёлай.** Мець правільныя меркаваньні аб значэньні і ролі малочнага жывёлаводства ў сялянскай гаспадарцы нельга бяз дакладнага ўяўленьня ступені разьвіцьця іншых галін жывёлагадоўлі. Па гэтаму перш за ўсё неабходна ўявіць колькасны бок жывёлагадоўлі. Наступная табліца і характарызуе забясьпечанасьць сельскагаспадарчай жывёлай сялянскіх гаспадарак розных сацыяльных груп і па розных раёнах (гл. табл. на стар. 22).

З параўнаньня сярэдніх дадзеных гэтай табліцы, узятых па акругах вынікае, што забясьпечанасьць буйнай рагатай жывёлай, як дарослай, так і маладняком, можна лічыць па абедзьвюх акругах аднальковай,—тое самае можна сказаць і адносна коняй. Дарослых сьвіней у Віцебскай акрузе ў 3 разы менш, чым у Менскай, сьвіны-ж маладняк па Віцебскай акрузе складае 56% ад яго па Менскай акрузе, г. зн. суадносіны маладняку да ўзрослых сьвінай больш спрыяючыя на карысьць Віцебскай акругі (сьвінагадоўля ў ёй больш інтэнсыўная). Па колькасьці авечак Віцебская акруга таксама знаходзіцца на першым месцы параўнальна з Менскай, колькасьць авечак у апошняй складае толькі 78% ад колькасьці першай. Пры параённым параўнаньні Менскай акругі кідаецца ў вочы надзвычайна слабая забясьпечанасьць усімі відамі жывёлы (апрача конскага і сьвінога маладняку) Самахвалаўскага раёну,—самага інтэнсыўнага па малочнай гаспадарцы сярод іншых раёнаў Менскай акругі. Параўнальна вялікая колькасьць конскага маладняку ў Самахвалаўскім раёне тлумачыцца вельмі высокай якасьцю коняй гэтага раёну, у выніку чаго конскі маладняк з гэтай мясцовасьці цэніцца высока і таму выхоўваецца сялянамі на продажі высокі процант сьвінога маладняку паказвае, што ў Самахвалаўскім раёне і сьвінагадоўля ня менш інтэнсыўна, чым буйная рагатае жывёлаводзтва. Гэты раён наогул зьяўляецца па Менскай акрузе першым у адносінах жывёлаводзтва.

## Забясьпечанасьць 1-ой гаспадаркі жывёлай

| | | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэдн. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | с яр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | с яр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. |
| **У Менскай акрузе** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Кароў | Дарослых | 1,67 | 2,58 | 3,64 | 2,41 | 1,56 | 2,36 | 3,64 | 2,28 | 1,21 | 1,74 | 2,73 | 1,74 | 1,32 | 1,61 | 3,01 | 1,70 | 1,18 | 2,10 | 2,76 | 1,95 | 1,48 | 2,10 | 3,43 | 2,05 |
| | маладн. | 0,63 | 1,15 | 1,43 | 1,01 | 0,64 | 1,33 | 1,54 | 1,09 | 0,52 | 0,66 | 1,13 | 0,68 | 0,50 | 0,86 | 1,39 | 0,79 | 0,44 | 0,77 | 1,00 | 0,69 | 0,51 | 0,96 | 1,35 | 0,81 |
| Коняй | Дарослых | 0,84 | 1,27 | 1,57 | 1,16 | 0,91 | 1,21 | 1,89 | 1,22 | 0,89 | 1,17 | 1,86 | 1,19 | 0,91 | 1,20 | 1,55 | 1,13 | 0,73 | 1,15 | 1,23 | 1,02 | 0,93 | 1,17 | 1,75 | 1,17 |
| | маладн. | 0,07 | 0,32 | 0,57 | 0,26 | 0,25 | 0,42 | 0,82 | 0,43 | 0,27 | 0,63 | 0,93 | 0,58 | 0,32 | 0,47 | 1,05 | 0,49 | 0,11 | 0,45 | 0,70 | 0,37 | 0,19 | 0,42 | 0,73 | 0,38 |
| Сьвіней | Дарослых | 1,07 | 1,79 | 2,64 | 1,65 | 1,25 | 2,04 | 2,85 | 1,88 | 0,96 | 1,27 | 1,80 | 1,26 | 1,06 | 1,97 | 2,38 | 1,65 | 1,95 | 1,90 | 2,06 | 1,93 | 1,36 | 1,77 | 2,63 | 1,66 |
| | маладн. | 1,35 | 2,32 | 3,78 | 2,16 | 2,20 | 3,14 | 4,78 | 3,07 | 2,34 | 2,46 | 3,73 | 2,56 | 2,93 | 3,95 | 5,06 | 3,69 | 2,24 | 3,56 | 6,05 | 3,51 | 2,13 | 2,94 | 4,11 | 2,79 |
| Авец | Усіх | 2,79 | 5,48 | 8,00 | 4,90 | 3,51 | 5,59 | 8,07 | 5,23 | 2,96 | 4,16 | 8,00 | 4,35 | 2,07 | 4,08 | 5,96 | 3,53 | 2,82 | 4,84 | 6,41 | 4,36 | 2,50 | 4,49 | 6,11 | 3,99 |

| | | Віцебскі | | | | Аярышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Суражскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сяр. па акр. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядн. | Серадн. | Заможн. | У сяр. |
| **У Віцебскай акрузе** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Кароў | Дарос. | 1,94 | 2,17 | 3,00 | 2,20 | 1,54 | 2,46 | 3,71 | 2,21 | 1,44 | 1,81 | 2,00 | 1,64 | 1,54 | 2,30 | 3,32 | 2,27 | 1,72 | 2,33 | 3,68 | 2,29 | 1,79 | 2,99 | 4,35 | 3,07 | 1,66 | 2,34 | 3,34 | 2,28 |
| | Малад. | 0,26 | 0,60 | 0,94 | 0,53 | 0,42 | 1,10 | 1,58 | 0,89 | 0,34 | 0,60 | 1,75 | 0,50 | 0,38 | 0,83 | 1,32 | 0,79 | 0,49 | 0,90 | 1,63 | 0,86 | 0,61 | 0,93 | 1,79 | 1,09 | 0,42 | 0,83 | 1,17 | 0,78 |
| Коняй | Дарос. | 0,89 | 1,02 | 1,24 | 1,00 | 0,89 | 1,23 | 1,43 | 1,11 | 0,95 | 1,22 | 2,00 | 1,10 | 0,87 | 1,01 | 1,35 | 1,04 | 0,98 | 1,18 | 1,68 | 1,17 | 0,68 | 1,04 | 1,53 | 1,09 | 0,88 | 1,12 | 1,54 | 1,09 |
| | Малад, | 0,29 | 0,29 | 0,61 | 0,33 | 0,36 | 0,60 | 0,56 | 0,50 | 0,21 | 0,28 | 0,50 | 0,25 | 0,10 | 0,30 | 0,50 | 0,28 | 0,23 | 1,20 | 0,79 | 0,93 | 0,26 | 0,29 | 0,49 | 0,34 | 0,24 | 0,49 | 0,58 | 0,35 |
| Сьвін. | Дарос. | 0,31 | 0,41 | 0,59 | 0,40 | 0,16 | 0,46 | 1,00 | 0,38 | 0,63 | 0,69 | 2,00 | 0,69 | 0,58 | 0,70 | 1,41 | 0,81 | 0,26 | 0,47 | 0,89 | 0,46 | 0,21 | 0,51 | 0,70 | 0,49 | 0,36 | 0,54 | 1,10 | 0,54 |
| | Малад. | 0,90 | 1,15 | 1,00 | 1,05 | 1,32 | 1,61 | 2,14 | 1,54 | 1,05 | 1,58 | 2,75 | 1,35 | 1,19 | 1,67 | 3,21 | 1,83 | 1,04 | 1,62 | 2,74 | 1,57 | 1,05 | 1,71 | 3,72 | 2,10 | 1,09 | 1,56 | 2,59 | 1,57 |
| Авец | Усіх | 2,36 | 4,45 | 4,41 | 3,78 | 3,48 | 6,89 | 7,77 | 5,77 | 2,91 | 4,86 | 9,00 | 4,00 | 2,73 | 5,06 | 8,03 | 4,94 | 3,26 | 3,60 | 7,74 | 3,85 | 3,26 | 6,49 | 9,14 | 6,43 | 3,00 | 5,23 | 7,68 | 5,08 |

Па забясьпечанасьці дарослымі коньмі розьніца паміж раёнамі невялікая,—усе яны набліжаюцца да сярэдняга ўзроўню па акрузе—1,17 каня на гаспадарку,—разыходжаньне-ж па забясьпечанасьці конскім маладняком па раёнах досыць значнае.

Па аўчарству на першым месцы стаяць экстэнсіўныя раёны—Бярэзянскі і Бягомльскі,—што бязумоўна і зразумела.

Параённыя дадзеныя Віцебскай акругі паказваюць, што па колькасьці буйнай рагатай жывёлы дарослай і маладняку першае месца належыць Лёзьнянскаму раёну, які займае таксама першае месца па аўчарству і колькасьці сьвінога маладняку,—па ліку ж дарослых сьвіней на адну гаспадарку ён стаіць нават некалькі ніжэй сярэдняга ўзроўню па акрузе, што паказвае на крайне інтэнсыўную сьвінагадоўлю у гэтым раёне. Найменшую колькасьць буйнай рагатай жывёлы, як дарослай, так і маладняку, прыпадае на гаспадарку ў Чашнікаўскім раёне,—у гэтым жа раёне месца і найменшая колькасьць конскага маладняку. Па ліку дарослых сьвіней Чашнікаўскі раён знаходзіцца вышэй ад сярэдняга ўзроўню, а па ліку сьвінога маладняку—ніжэй сярэдняга ўзроўню г. зн. сьвінагадоўля ў ім вельмі экстэнсыўна, яна зьяўляецца, значыцца, непасрэднай супярэчнасьці сьвінагадоўлі Лёзьнянскага раёну. Апошнія раёны займаюць сярэдняе месца паміж Лёзьнянскім і Чашнікаўскім, або паміж Самахвалаўскім і Бягомльскім раёнамі.

Розьніца ў забясьпечанасьці дарослай буйнай рагатай жывёлай паміж заможнымі і бядняцкімі гаспадаркамі досыць значная. У Менскай акрузе бядняцкія гаспадаркі маюць толькі 43% ад колькасьці жывёлы заможных гаспадарак, а ў Віцебскай акрузе — 49,7%. Пры параўнаньні дадзеных па забясьпечанасьці сялянскага двору жывёлай у 1924 годзе (гл. разьдзел 1) і дадзеных нашай табліцы вынікае, што ў Менскай і Віцебская акругах колькасьць рабочых коняй узрасла нязначна, але між тым вельмі значна павялічыўся лік кароў, таксама як і лік сьвіней—лік авечак павялічыўся некалькі ў Віцебскай акрузе і застаўся бяз зьмен у Менскай акрузе. Наогул за чатыры гады прагрэс у прадукцыйным быдле значны. Тут між іншым, трэба зрабіць заўвагу: пры параўнаньні нашых дадзеных з дадзенымі ЦСК за 1924—25 год або з дадзенымі наступных гадоў вясеньняга апытаньня ЦСК,—трэба мець на ўвазе, што нашы дадзеныя датычыцца толькі да кароўных гаспадарак, тады як дадзеныя ЦСК—да усіх бяз выключэньня сялянскіх гаспадарак,—па гэтаму, натуральна, нашы лічбы павінны быць некалькі (на зусім нязначную велічыню) вышэй.

Акрамя адзначанага, трэба мець яшчэ на ўвазе, што даць выразнае прадстаўленьне аб тым месцы, якое займае буйнае рагатае жывёлаводзтва у гаспадарцы розных раёнаў Менскай і Віцебскай агругі, па дадзенай табліцы даволі цяжка, так сярэдні разьмер сям'і прадстаўляемай гаспадаркі прыкметна хістаецца (гл. табліцу на стар 12), з другога-ж боку і якасны склад стада розны у розных раёнах.

Для таго, каб больш правільна ацаніць па раёнах разьвіцьцё малочнага жывёлаводзтва неабходна агульную вялічыню усяго стада і стада малочнага вызначыць у аднолькавых адзінках і параўнаць яе не з хістаючайся вялічынёй сям'і, альбо гаспадаркі, а да ста душ насельніцтва, альбо да ста дзесяцін ворнай зямлі. Наступная табліца дае яскравае ўяўленьне аб ступені забясьпечанасьці насельніцтва розных раёнаў.

## Колькасьць жывёлы, ў пералік на жывёлу буйную дарослую, на 100 насельніцтва

| Акруга | МЕНСКАЯ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Раёны | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалавіцкі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
| Групы гаспадарак | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім |
| Усей жыв. галоў | 86,6 | 96,7 | 128,0 | 96,7 | 72,1 | 88,2 | 151,9 | 93,75 | 62,7 | 78,8 | 126,2 | 80,9 | 64,43 | 76,70 | 112,8 | 77,1 | 62,8 | 74,1 | 95,9 | 73,1 | 64,1 | 83,65 | 111,5 | 78,4 |
| У т. л. буйн. раг. ж. | 48 | 52,15 | 70,75 | 52,7 | 34,7 | 45,0 | 77,5 | 47,0 | 26,2 | 34,2 | 56,4 | 35,1 | 19,46 | 31,1 | 55,95 | 30,0 | 31,4 | 35,5 | 45,75 | 35,4 | 30,16 | 41,8 | 56,9 | 38,6 |
| „ сьвіней | 9,21 | 13,41 | 17,61 | 12,53 | 12,08 | 13,74 | 23,54 | 14,89 | 10,85 | 10,94 | 17,14 | 11,71 | 9,9 | 16,32 | 19,05 | 14,04 | 11,47 | 12,72 | 19,26 | 13,13 | 10,44 | 12,50 | 19,42 | 12,33 |

| Акруга | ВІЦЕБСКАЯ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Раёны | Азярышчанскі | | | | Віцебскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Сўражскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
| Групы гаспадарак | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім | бядняцкія | серадняцк. | заможныя | у сярэднім |
| Усей жыв. галоў | 61,8 | 75,5 | 10,79 | 71,7 | 51,9 | 71,5 | 100,2 | 68,7 | 48,6 | 70,8 | 112,3 | 60,9 | 52,5 | 75,7 | 83,9 | 70,1 | 66,0 | 82,6 | 100,5 | 80,0 | 62,9 | 109,9 | 136,2 | 105,6 | 57,3 | 81,0 | 106,8 | 76,2 |
| У т. л. буйн. раг. ж. | 32,8 | 41,2 | 65,4 | 39,0 | 38,4 | 41,6 | 56,1 | 42,3 | 24,0 | 34,6 | 49,7 | 29,8 | 28,2 | 42,9 | 51,9 | 40,1 | 35,6 | 45,4 | 55,8 | 43,8 | 36,7 | 67,4 | 84,3 | 64,6 | 32,6 | 45,2 | 58,9 | 43,3 |
| „ сьвіней | 4,06 | 4,79 | 7,0 | 4,6 | 3,56 | 4,20 | 5,73 | 4,18 | 4,52 | 6,55 | 13,17 | 5,70 | 5,48 | 7,39 | 10,22 | 7,37 | 5,13 | 5,75 | 8,63 | 5,83 | 3,50 | 1,68 | 11,5 | 7,71 | 4,37 | 6,06 | 9,37 | 5,9 |

З гэтай табліцы відаць, што па Менскай акрузе буйнае рагатае быдла складае некалькі менш палавіны усяго стада—49,2%, а ў Віцебскай акрузе—больш палавіны—57,8%—г. зн. удзельная вага буйнага рагатага жывёлаводзтва ў апошняй большая,—але гэта толькі ў сярэднім. Паасобныя раёны і па Менскай акрузе маюць павялічаную, параўнальна да сярэдняй, долю кароў у стадзе (у Бягомльскім раёне—54,5%) а ў Віцебскай акр. ёсьць раёны з паніжанай доляй кароў (у Чашнікаўскім раёне—48,9%). Абодвы адзначаныя раёны—Бягомльскі і Чашнікаўскі зьяўляюцца раёнамі найбольш экстэнсыўнымі ў сваіх акругах, аднакжа будучы пахожы па экстэнсіўнасьці, яны па колькасьці быдла адхіляюцца ад сярэдніх вялічынь па акругах ў супроцьлеглых напрамках. Цікава, што такой-жа асаблівасьцю характарызуюцца і найбольш інтэнсыўныя раёны: Самахвалаўскі (М. ак.) і Лёзьнянскі (В. акр.). У Самахвалаўскім раёне мы маем найменшы процант па акрузе буйнай рагатай жывёлы ў стадзе (39%), а ў Лёзьнянскім раёне—найвышэйшы па акрузе —61%. Адсюль вынікае, што па Менскай акрузе адпаведна павялічэньню інтэнсыўнасьці малочнага жывёлаводзтва—процантняя доля буйнай рагатай жывёлы ў стадзе зьмяншаецца ад Бягомльскага раёну да Самахвалаўскага раёну (54,5—39%), тады як па Віцебскай акрузе павялічваецца (ад Чашнікаўскага, да Лёзьнянскага — 48,9 — 61%). Гэта супрацьлегласьць, вядома, не выпадкова, з ёй мы ня раз будзем сустракацца і на далей,—тлумачыцца яна розным напрамкам працэсаў інтэнсыфікацыі малочнай гаспадаркі—у Менскай акрузе пры вострым недахопе грубых кармоў, насельніцтва імкнецца, зьменшыўшы лік, павялічыць якасьць жывёлы, г. зн. імкнецца атрымаць больш малака шляхам павялічэньня ўдойнасьці кароў, а ў Віцебскай акрузе, дзе грубых кармоў значна больш, насельніцтва ідзе да тэй жа самай мэты як гэтым, так і іншым шляхамі, г. зн., імкнецца ня толькі палепшыць якасьць, але і павялічыць колькасьць скаціны, бяручы пад увагу, што апошняе пры дастатку грубых кармоў лягчэй; дык гэты працэс у малочных раёнах і набывае пераважнае значэньне, пэйна гэтым і тлумачыцца рознае вызначэньня аднаго і таго-ж працэсу інтэнсыфікацыі малочнай гаспадаркі ў Менскай і Віцебскай акругах.

Відавочна, гэта розьніца павінна улічвацца пры праэктаваньні грамадзкіх мерапрыемстваў па ўздыму малочнага жывёлаводзтва па Менскай і Віцебскай акругах.

Праводзячы параўнаньне па вывучаемаму намі прызнаку, г. зн. па прызнаку забясьпечанасьці скацінай 100 душ насельніцтва, групы бядняцкіх і заможных гаспадарак, у раёнах экстэнсыўнага і інтэнсыўнага малочнага жывёлаводзтва,—у першых мы знаходзім меншую розьніцу між паказанымі сацыяльнамі групамі, а ў другіх—інтэнсыўных раёнах—большую розьніцу,—так, у Бегамльскім раёне розьніца ў забясьпечанасьці скацінаю гэтых груп роўна 22,75 галоў, а ў Чашнікаўскім—25,7 галоў; а па раёнах інтэнсыўных—ў Самахвалаўскім роўна 36,49 галоў, і ў Лёзьнянскім 47,6 галоў быдла. Гэта значыць, што з інтэнсыфікацыяй малочнага жывёлаводзтва эканамічныя разыходжаньні паміж асноўнымі сацыяльнымі групамі ўскладняюцца,—інакш кажучы інтэнсыфікацыя малочнага жывёлаводзтва, відавочна, спрыяе дыфэрэнцыяцыі вёскі. Самы факт большай забясьпечанасьці жывёлай 100 душ насельніцтва ў групе заможных, зразумела, зусім натурален, гэтай вялікай забясьпечанасьцю скацінай і тлумачыцца тое, што магчымых збыткаў застаецца больш у групе заможных, іх гаспадарка ў гэтых адносінах больш таварна, чаму

гэтыя гаспадаркі выяўляюць большае імкненьне да малочнай каапэрацыі, чым гаспадаркі бядняцкія, аб чым падрабязна будзем гаварыць ніжэй.

Дадзеныя нашай табліцы выяўляюць, што нават, у межах невялікай тэрыторыі, абсьледаваных намі 16 раёнах назіраецца вельмі вялікая стракатасьць у адносінах забясьпечанасьці насельніцтва буйнай рагатай жывёлай,—так па Менскай акрузе ад 30 галоў—у Самахвалаўскім раёне, да 52,7 галоў у Бягомльскім; а па Віцебскай акрузе ад 29,80 галоў у Чашнікаўскім раёне да 64,6 галоў у Лёзьнянскім раёне. Адсюль вынікае, сярэднія лічбы па акругах, з якімі звычайна апэруе пэрспэктыўны плян НКЗ маюць каштоўнасьць вельмі адносную пры абмеркаваньні тых, альбо іншых мерапрыемстваў,—пляны апошніх, відавочна, павінны праэктавацца шляхам дапасаваньня да больш дробных тэрыторыяльных адзінак.

**Забясьпечанасьць сялянскага двара кармамі.** Вышэйадзначаныя табліцы, якія вызначаюць колькасьць скаціны на адну гаспадарку, альбо на 100 душ насельніцтва, характарызуюць адноснае значаньне жывёлаводзтва ў розных раёнах і для розных сацыяльных груп насельніцтва, але гэта характарыстыка далёка ня поўная. Роля жывёлагадоўлі альбо ўдзельная вага яе ў агульнай сыстэме гаспадаркі акрэсьляецца ня толькі колькасьцю, але і якасьцю жывёлы, г. зн. іх прадукцыйнасьцю, а апошняя, ва ўмовах нашай сельскай гаспадаркі, залежыць больш за ўсё ад кармленьня жывёлы. Па гэтаму, натуральна, на кармавое пытаньне пры абсьледваньні жывёлаводзтва неабходна зьвярнуць вельмі сур'ёзную ўвагу: гэта пытаньне неабходна разглядзець усебакова. Вялікія цяжкасьці сустракаюцца пры ацэнцы кармленьня скаціны ўлетку, калі жывёла утрымоўваецца выключна на выпасе, так як вялічыня ўгодзьдзяў, адвадзімых пад выпас, нярэдка разыходзіцца па гадох у залежнасьці ад шмат якіх умоў і нават ад умоў пагоды, аб чым мы ўжо гаварылі (у засушлівае лета нярэдка балоты выкарыстоўваюцца пад выпас альбо луг, ці луг выкарыстоўваецца пад выпас і т. п.). Акрамя таго, як па раёнах, так і па паселішчах, а таксама і ад умоў пагоды вельмі моцна зьмяняецца і якасьць выпасаў, а таму і дадзеныя аб колькасьці зямлі, якая рэгіструецца як уласна выпас, даюць вельмі недакладнае ўяўленьне аб інтэнсыўнасьці кармленьня жывёлы ўлетку. Становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што ў большасьці паселішч часткова, як выпас, выкарыстоўваецца папар, жнівішча і няўжыткі. Вось чаму для характарыстыкі кармленьня жывёлы ўлетку неабходна ўлічыць нястолькі колькасьць ўсіх відаў угодзьдзяў і разьмеркаваньне іх як па асобных гаспадарках, так і па паселішчах, што намі і зроблена ў табліцы (гл. табл. на стар. 27), але яшчэ неабходна, наколькі гэта магчыма, улічыць і скарыстоўваньне пад выпас іншых зямельных угодзьдзяў: папар, жнівішча і т. п. Зьмяшчаемая ніжэй табліца зьяўляецца вынікам спробы зрабіць такі памесячны вучот па раёнах

Ужо павярховы прагляд гэтай табліцы паказвае нам, што як па Менскай акрузе, так і па Віцебскай акрузе, папар, жнівішча, луг, лес і інш.—скарыстоўваюцца пад выпас вельмі інтэнсыўна; гэта значыць, што пытаньне аб пашы скаціны, па рэчаістасьці, патрабуе вельмі сур'ёзнай увагі. Параўнаньне заўваг, зробленных сялянамі, аб характару выпасу ў раёнах Менскай і Віцебскай акруг паказвае, што ў апошняй акрузе ступень забясьпечанасьці скаціны выпасам значна ніжэй, чым у першай, што зусім адпавядае дадзеным табліцы. Вялічыня стад буйнай жывёлы па раёнах зьмяняецца наступным чынам.

## Карыстаньне рознымі ўгодзьдзямі як пашай у °/₀°/₀ па месяцах

| Раёны | МЕСЯЦЫ | На папару | Па жніву | На сенажаці | Лес, альбо хмызьнік | Балота | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **МЕНСКАЯ АКРУГА** | | | | | | | |
| Бягомльск. | Май—чэрвень . . . . | 10 | — | 5 | 60 | 25 | Адлегласьць да пашы да 7 вёр.; забясьпечанасьць кармамі на пашы сярэдняя |
| | Ліпень—жнівень . . . | 4 | 15 | 16 | 46 | 19 | |
| | Верасень—кастрычнік . | 3 | 15 | 15 | 51 | 15 | |
| Бярэзінск. | Май—чэрвень . . . . . | 10 | — | — | 75 | 15 | Адлегласьць да пашы да 5 вёр.; паша здавальняючая; калі не хапае корму на пашы пасуць на канюшыне II году |
| | Ліпень—жнівень . . . | 10 | 28 | 11 | 32 | 19 | |
| | Верасень—кастрычнік . | 13 | 30 | 25 | 20 | 12 | |
| Капыльск. | Май—чэрвень . . . . . | 16 | — | — | 54 | 30 | Адлегласьць да пашы да 3 вёр.; Забясьпечанасьць кармамі сярэдняя |
| | Ліпень—жнівень . . . | 6 | 8 | 10 | 60 | 16 | |
| | Верасень—кастрычнік . | 6 | 10 | 12 | 60 | 12 | |
| Самахвал. | Май—чэрвень . . . . . | 10 | — | — | 32 | 58 | Адлегласьць да пашы да 2 вёр.; паша дрэнная; падкармліваюць у дварэ; ёсьць выпадкі пасьбы па канюшыне II-га году |
| | Ліпень—жнівень . . . | 5 | 30 | 25 | 16 | 24 | |
| | Верасень—кастрычнік . | 5 | 32 | 20 | 15 | 28 | |
| Смалявіцк. | Май—чэрвень . . . . . | 15 | — | — | 55 | 30 | Адлегласьць да пашы да 2 вёрс.; забясьпечанасьць кармамі на пашы сярэдняя |
| | Ліпень—жнівень . . . | 5 | 16 | 15 | 42 | 22 | |
| | Верасень—кастрычнік . | — | 10 | 10 | 50 | 30 | |
| **ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА** | | | | | | | |
| Віцебскі | Май—чэрвень . . . . . | 50 | — | 8 | 30 | 12 | Забясьпечанасьць дрэнная і па славах селян некаторых вёсак скаціна папраўляецца ўзімку |
| | Ліпень—жнівень . . . | 20 | 30 | 20 | 18 | 12 | |
| | Верасень—кастрычнік . | — | 45 | 25 | 20 | 10 | |
| Азярышч. | Май—чэрвень . . . . . | 50 | — | — | 30 | 20 | Забясьпечанасьць пашай дрэнная; падкармліваюць у дварэ |
| | Ліпень—жнівень . . . | 15 | 15 | 10 | 35 | 25 | |
| | Верасень—кастрычнік . | — | 30 | 30 | 30 | 10 | |
| Чашніцкі | Май—чэрвень . . . . . | 40 | — | 25 | 20 | 15 | Канюшынны папар забясьпечвае пашай на 3—4°/₀. Паша сярэдняя |
| | Ліпень—жнівень . . . | 25 | 20 | 20 | 20 | 15 | |
| | Верасень—кастрычнік . | — | 40 | 30 | 20 | 10 | |
| Суражкі | Май—чэрвень . . . . . | 50 | — | — | 50 | — | Забясьпечанасьць пашай дрэнная і ёсьць выпадкі зьніжэньня ўдояў супроць стойлавага перыяду |
| | Ліпень—жнівень . . . | 10 | 25 | 16 | 49 | — | |
| | Верасень—кастрычнік . | — | — | — | 100 | — | |

Лік абсьледваных стад (лічнік) і сярэдняя іх велічыня (назоўнік дробу) па раёнах

| Бягомскі | Бярэзінскі | Капыльскі | Койданаўскі | Самахвалаўскі | Смалявіцкі | Сьмілавіцкі | У сярэднім па акрузе | Віцебскі | Азярышчынскі | Чашнікаўскі | Высачанскі | Суражскі | У сярэднім па акрузе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 | 20 | 10 | 4 | 40 | 14 | 7 | 111 | 13 | 7 | 13 | — | 4 | 37 |
| 93 | 86 | 84 | 113 | 58 | 124 | 70 | 90 | 40 | 40 | 80 | | 40 | 54 |

Меншая вялічыня стада ў Віцебскай акрузе тлумачыцца тым, што ў ёй адносіны земляўпарадкаваных пасёлкаў да неземляўпарадкаваных больш выгадные, чым па Менскай акрузе. Земляўпарадкаваныя-ж пасёлкі, звычайна, адзначаюцца меншай велічынёй адсюль, і меншая велічыня іх стад.

Вялікае значэньне для правільнага скарыстоўваньня выпасаў і кармленьня скаціны набывае вопытнасьць у гэтай справе пастуха. Нажаль, як па Менскай акрузе, так і па Віцебскай акрузе справа пасьбы скаціны даручаецца, да рэчы сказаць, усюды, альбо падросткам, альбо старыкам —паўінвалідам,—у выніку чаго і тыя вельмі неважныя выпасы, якія маюцца, скарыстоўваюцца ня зусім добра. Змагацца з гэтым адмоўным зьявішчам вельмі цяжка. Для гэтага ёсьць па існасьці толькі адзін сапраўдны сродак,—настолькі палепшыць пашу, каб правільнае выкарыстоўваньне ея апраўдала наём вопытнага пастуха.

Кармленьне сельска-гаспадарчай жывёлы ўзімку на Беларусі складаецца пераважна з гуменных кармоў (салома, мякіна) і сена. Выявіць з дакладнасьцю колькасьць зь'ядаемага скацінай гуменнага корму немагчыма. Гэтага часта ня ведае і сам гаспадар, ды і цяжка гэта падлічыць, таму што звычайна, частка даваемага корму, іншы раз меншая, а часам і большая, затаптваецца жывёлай у выніку адсутнасьці кармушак (ясьляў) альбо выкідаецца гаспадаром пад ногі жывёлы ў якасьці аб'едкаў. Іншы раз аб'едкі ад коняй скарыстоўваюць як корм для каровы. Усё гэта ўскладняе вучот. Па гэтаму зусім ня лішнім дапамагаючым матар'ялам, характарызуючым забясьпечнасьць жывёлы гуменнымі кармамі могуць быць весткі аб колькасьці жывёлы на 100 дзесяцін ворнай зямлі. З прычыны таго, што гуменны корм, атрымоўваемы з поля, страўліваецца ня толькі буйнай рагатай жывёлай, але і іншым відам сельска-гаспадарчай жывёлы (авечкі, коні), якія зьяўляюцца ў гэтых адносінах канкурэнтамі каровы-зьяўляецца неабходным узяць пад увагу пры гэтым разьліку ўсё стада цалком. Наступная табліца паказвае,—якія па розных раёнах суадносіны колькасьці скаціны ў гаспадарцы і плошчы ворнай зямлі (гл. табл. на стар. 29).

Маецца некаторая розьніца ў тэхніцы скарыстоўваньня пад выпас паказаных угодзьдзяў між Менскай і Віцебскай акругай. А менавіта: папар скарыстоўваецца больш інтэнсыўна ў Віцебскай акрузе, чым у Менскай акрузе, але затое ў апошняй ён скарыстоўваецца на працягу больш доўгага часу (на папары пасуць і ўвосень) Жнівішча таксама па Віцебскай акрузе скарыстоўваецца некалькі больш інтэнсыўна. Што-ж датычыцца лугу, дык скарыстоўваньне яго па раёнах неаднальковае,— асабліва поўнасьцю скарыстоўваецца луг пад выпас у Чашнікаўскім

## Колькасьць жывёлы (у пералік на буйную дарослую) на 100 дзесяцін пахаці.

| РАЕНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвала-віцкі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Замож нік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Замс жнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднем | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім |
| Усей жывёлы галоў . | 189,5 | 209 3 | 130,7 | 195,2 | 120,0 | 103,0 | 80,2 | 105,4 | 105,3 | 99,8 | 77,1 | 98.2 | 105,5 | 78,3 | 63,5 | 87,5 | 88,4 | 81,3 | 63,8 | 81,4 | 118,0 | 105,5 | 74,0 | 109,1 |
| У тым ліку буйн, раг, | 105,0 | 112,9 | 72,2 | 106,3 | 57,8 | 52,4 | 40,9 | 52,4 | 44,0 | 43,3 | 34,5 | 42,4 | 31,9 | 31,7 | 31,5 | 31,8 | 44.2 | 39,0 | 30,4 | 39,6 | 55,8 | 52,6 | 38,0 | 53,4 |
| Утым ліку сьвіней . | 20,2 | 29,0 | 18,0 | 25,2 | 20,0 | 16,0 | 12,4 | 16,9 | 18,9 | 13,9 | 10,5 | 14,6 | 16,2 | 16,7 | 10,7 | 15,6 | 16,2 | 13,9 | 12,8 | 14,5 | 18,8 | 15,5 | 12,5 | 16,9 |

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азарышчан. | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Суражскі | | | | Ліознянскі | | | | У сярэднем па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. група | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднем | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім | Бядняк | Серадняк | Заможнік | У сярэднім |
| Усей жывёлы галоў | 104,1 | 94,2 | 83,6 | 96,1 | 91,5 | 90,3 | 73,5 | 90,2 | 99,4 | 89,4 | 76,0 | 93,8 | 92,4 | 87,6 | 79,3 | 88,0 | 126,2 | 99,6 | 80,6 | 104,5 | 124,6 | 161,0 | 94,7 | 133,7 | 106,4 | 103,6 | 81,3 | 101,1 |
| У т. ліку буйн. раг. | 77,1 | 54,8 | 46,8 | 60,9 | 48,6 | 49,3 | 44,6 | 48,9 | 49,0 | 43,55 | 33,6 | 46,0 | 49,7 | 49,6 | 49,1 | 49,5 | 68,0 | 54,7 | 44,8 | 57,1 | 72,7 | 98,8 | 58,6 | 81,3 | 60,9 | 58,5 | 46,3 | 57,3 |
| У тым ліку сьвіньн. | 7,1 | 5,5 | 4,8 | 6,0 | 6,0 | 5,7 | 4,8 | 5,8 | 9,2 | 8,3 | 8,9 | 8,8 | 9,7 | 8,6 | 9,7 | 9,1 | 9,8 | 6,9 | 6,9 | 7,6 | 6,9 | 11,2 | 8,00 | 9,3 | 8,13 | 7,7 | 7,2 | 7,8 |

раёне і найменш поўна—у Суражскім, гэта для Віцебскай акругі; па Менскай акрузе больш інтэнсыўна луг скарыстоўваецца ў Самахвалаўскім раёне. Лес альбо хмызьняк як па Віцебскай акрузе, так і па Менскай скарыстоўваецца па выпас адносна больш энэргічна, чым усе іншыя угодзьдзі,—толькі ў Чашнікаўскім раёне скарыстоўваньне яго некалькі меншае, чым скарыстоўваньне пад выпас лугу. Балоты пад выпас скарыстоўваюцца больш энэргічна па Менскай акрузе, чым па Віцебскай,—у першай акрузе асабліва поўнае скарыстоўваньне іх назіраецца ў Самахвалаўскім раёне,—у другой акрузе—у Азярышчанскім раёне; у Суражскім раёне пасьба па балоту зусім адсутнічае. Пасьба па балоту і лесу ў працівалеглась пасьбе па жнівішчы, альбо па лугу, зусім ня мае сэзоннага характару,—балотам і лесам карыстаюцца для пасьбы на працягу ўсяго пасьбнага пэрыяду.

Адносна арганізацыі пасьбнага корму ў вельмі цікавым для нас раёне—Ліозьнянскім,—гавары нам зусім не патрэбна, таму што ў гэтым раёне мы маем справу на 100% з хутарскім парадкам землякарыстаньня.

Для правільнай арганізацыі пасьбнага корму вялікае значаньне набывае велічыня адлегласьці між сядзібай і выганам. У гэтых адносінах наша абсьледваньне не дало і не магло даць надзейных лічб, таму менавіта, што уласна выпас, з прычыны нязначнай велічыні яго ў большай частцы паселішч—вялікай ролі для кармленьня ўлетку ня мае,—іншыя-ж угодзьдзі: папар, балота і г. д. знаходзяцца на розных адлегласьцях і ўлічыць іх немагчыма. Скаргі на далёкую адлегласьць выганаў падаюцца, вядома нярэдка,—былі заявы, што прыходзіцца ганяць скаціну на выпас за 7 вёрст (Бягомльскі раён).

Працяжнасьць пасьбанага пэрыяду зьмяняецца так: па Віцескай акрузе ад пачатку мая да пачатку кастрычніка,—гэта ў раёнах Суражскім і Віцебскім і ад канца красавіка да сярэдзіны кастрычніка ў раёне Чашнікаўскім. Па Менскай акрузе хістаецца амаль таксама: ў Бягомльскім раёне ад канца красавіка да канца кастрычніка, а ў Самахвалаўскім ад сярэдзіны мая да канца кастрычніка. Зразумела гэта працяжнасьць значна зьмяняецца па гадох у залежнасьці ад пагоды.

З табліцы (на стар. 29) відаць, што па Менскай акрузе на адзінку ворнай зямлі прыпадае некалькі больш усёй жывёлы, чым па Віцебскай акрузе, але адносная доля буйнай рагатай жывёлы ў агульным стадзе большая па Віцебскай акрузе, гэта значыць у апошняй акрузе роля буйнага рагатага жывёлаводзтва вышэй ня толькі ў адносінах да колькасьці насельніцтва, але і да плошчы ворнай зямлі. Па сьвінагадоулі суадносіны адваротныя—сьвіней на адзінку плошчы ў два разы больш па Менскай акрузе ў параўнаньні з Віцебскай акругай. Пры параённым параўнаньні мы знаходзім, што інтэнсыфікацыя малочнага жывёлаводзтва па Менскай акрузе адбываецца ў сувязі з паніжаным процантам долі буйнай рагатай жывёлы ў стадзе ў адносінах да ворнай зямлі, г. зн. колькасьць жывёлы на адзінку ворнай зямлі памяншаецца ад Бягомльскага раёну да Самахвалаўскага, а па Віцебскай акрузе наадварот—інтэнсыфікацыя малочнага жывёлаводзтва зьвязана з павялічэньнем гэтае долі ад Чашнікаўскага раёну да Ліозьнянскага,—тут, значыцца, мы маем match рознае вызначэньне працэсу інтэнсыфікацыі малочнага жывёлаводзтва па Менскай і Віцебскай акругах, аб чым мы ўжо гаварылі вышэй. У бядняцкіх гаспадарках на адзінку ворнай зямлі значна больш усіх відаў жывёлы, чым у гаспадарках заможных, г. зн. тут мы маем адносіны адваротныя таму, якія неабходны, пры вызначэньні колькасьці жывёлы на 100 душ насельніцтва (у беднякоў на 100 душ

насельніцтва жывёлы менш, чым у заможных). Адсюль вынікае, што пры меншай забясьпечанасьці жывёлы, бядняцкія гаспадаркі карыстаюцца жывёлай горш утрымліваемай адносна корму, а таму і менш прадукцыйнай. Адзначныя абставіны дзейнічаюць у адным і тым жа напрамку, зьніжаючы таварнасьць малочнага жывёлаводзтва ў бядняцкіх гаспадарках, гаспадаркі серадняцкія займаюць у гэтых адносінах сярэдняе месца.

Аднак-жа колькасьць жывёлы, якая прыпадае на 100 дзесяцін ворнай зямлі, ня можа даць яшчэ дакладнага ўяўленьня аб ступені забясьпечанасьці жывёлы кормам, з прычыны рознастайнасьці ў натуральнай ураднасьці глеб, з прычыны рознастайнасьці севазваротаў і інш. (гл. табліцу ў разьдз. І аб рознай урайджайнасьці глеб Менскай і Віцебскай акруг па дадзеных ЦСК). Вельмі адносную каштоўнасьць прадстаўляюць таксама вызначэньні колькасьці жывёлы на 100 дзесяцін лугу, з прычыны рознай якасьці лугавых угодзьдзяў па ўрадлівасьці, г. зн. па колькасьці і якасьці атрымоўваемага з іх сена. Па гэтаму, ня робячы падрабязнага абмеркаваньня гэтага пытаньня мы дамо толькі стасунак усёй жывёлы да ўсяго лугу па раёнах.

На 100 дзесяцін лугу належыць усяго жывёлы (у пераводзе на буйную рагатую жывёлу).

| РАЁНЫ | Менская акруга | | | | | | Віцебская акруга | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бягомльск. | Бярэзінскі | Капыльскі | Самахвал. | Смалявіц. | У сярэднім па акрузе | Віцебскі | Азярышчынскі | Чашнікаўскі | Высачынскі | Суражскі | Ліозьнянскі | У сярэднім па акрузе |
| Лік галоў быдла | 356,6 | 304,4 | 38,38 | 438,5 | 466,2 | 363,8 | 128,1 | 128,9 | 205,9 | 123,2 | 113,2 | 170,2 | 145,0 |

Гэтыя дадзеныя толькі сьцявярджаюць тое, што мы доводзілі аб забясьпечанасьці сельскіх гаспадарак зямельнымі ўгодзьдзямі і жывёлай. З іх магчыма зрабіць вынік, што па Віцебскай акрузе на адзінку лугу належыць жывёлы больш чым у два разы меней, чым па Менскай акрузе,—г. зн. —па Віцебскай акрузе у кармленьні жывёлы большая роля належыць сену. Але, пры ацэнцы кармленьня неабходна ведаць ня толькі колькасьць кармоў, але і іх якасьць. Сена-ж як раз зьяўляецца такім кармам, якасьць каторага вельмі значна мяняецца.

Значна больш правільнае ўяўленьне аб кармленьні жывёлы атрымоўваецца, не шляхам параўнаньня колькасьці жывёлы з плошчай розных угодзьдзяў,—а шляхам беспасрэднага вучоту кармоў, нарыхтоўваемых для зімы ў сельскіх гаспадарках для кармленьня жывёлы. Нажаль, далёка ня ўсе заўвагі гаспадароў могуць быць выкарыстаны для гэтай мэты. Аб кармленьні жывёлы, кожнай паасобнай гаспадаркі весткі зьбіраліся намі двума шляхамі: пры запаўненьні падворнай карткі запытваліся аб колькасьці усёй жывёлы па паасобных яе відах і аб агульнай колькасьці нарыхтоўваемага ў гаспадарцы корму з разьмеркаваньнем—колькі якога корму прызначаецца для буйнай рагатай жывёлы і коняй;—пры запаўненьні індывідуальнай карткі запытваліся як корміцца даная жывёліна, г. зн. колькі якіх кармоў і ў якія месяцы лактацыі і году даецца данай карове.

Пры параўнаньні адпаведных вестак атрыманых у аднэй і той-жа гаспадаркі з дзьвюх гэтых крыніц, нярэдка прыходзілася падкрэсьліваць значныя разыходжаньні між імі,—часьцей за ўсё паказаньні па індывідуальным карткам зьяўляюцца павялічанымі, а таму тыя моманты, калі разыходжаньне дадзеных было значным, дык прыходзілася іх ня браць пад увагу. Ад гэтага лік картак, альбо лік выкарыстаных паказаньняў некалькі паменшыўся, затое ўзятыя дадаеныя зьяўляюцца праўдзівымі як вытрымаўшыя кантроль, пры чым гэты кантроль быў зроблены бяз' ведама гаспадара (часта аб колькасьці нарыхтоўваемага для зімы корму пыталі гаспадара, а аб кармленьні каровы,—гаспадыню). Вядома, што зьбіраньне вестак і такім шляхам не давала нам, ды і не магло даць поўнага супаданьня дадзеных, па гэтаму там, дзе разыходжаньне між імі нязначнае—мы бралі сярэднюю між гэтымі двума паказаньнямі. У выніку атрымаліся дадзеныя, якія па нашай думцы, даволі правільна адбіваюць характар кармленьня па раёнах, як гэта відаць з наступнай табліцы (гл. табл. на стар. 33).

Дадзеныя гэтыя трэба лічыць заслугоўваючымі даверaньня, таму што яны адпавядаюць як весткам аб засьпечанасьці гаспадарак розных раёнаў сельска-гаспадарчымі ўгодзьдзямі і жывёлай, так і весткам аб прадукцыйнасьці жывёлы, аб чым будзе сказама ніжэй, г. зн. гэтыя дадзеныя вытрымоўваюць праверку.

Па агульнай сярэдняй колькасьці нарыхтоўваемага ў гаспадарцы сена, Менская акруга стаіць ніжэй, чым Віцебская акруга. Па колькасьці-ж саломы—наадварот, па Менскай акрузе справа абстаіць лепш, а таксама і па колькасьці моцных і асабліва сакавітых кармоў, што і натуральна, калі ўспомніць аб рознастойнасьці разьмеркаваньня ворнай зямлі і лугавых угодзьдзяў па гэтых акругах.

Экстэнсыўныя і інтэсыўныя раёны Менскай акругі мала адрозьніваецца між сабой па колькасьці нарыхтоўваемага для карму сена і саломы;—так сена у Бегомльскім раёне—142,3 пуды, супроць 115,8 пуд. у Самахвалвўскім раёне, а саломы 105 супроць 130 пудоў;—па колькасьці моцных і сакавітых кармоў розьніца між гэтымі раёнамі вельмі значная—4,8 пуда супроць 33,9 пудоў і 52,3 п. супроць 154,9 п. Што датычыцца моцных кармоў на Віцебскай акрузе, дык мы маем такі самы малюнак, па колькасьці-ж нарыхтоўваемага сена розьніца паміж экстэнсыўнымі і інтэнсыўнымі раёнамі ня меншая, чым па запасу моцных і сакавітых кармоў, так у Чашнікаўскім—экстэнсыўным раёне на гаспадарку для кароў нарыхтоўваецца сена 48,7 п., а ў інтэнсыўным Ліозьнянскім—323,5 пуд. Па колькасьці саломы розьніцы між раёнамі амаль што: няма у Чашнікаўскім 111,5, а ў Ліозьнянскім 105,2 п.

Інакш кажучы,—розьніца ў кармленьні кароў між інтэнсыўнымі і экстэнсыўнымі раёнамі па Менскай акрузе месьціцца толькі ў розьніцы аб колькасьці моцных і сакавітых кармоў,—па Віцебскай акрузе—апрача гэтага і па колькасьці сена.

Аднак па колькасьці запасу кармоў на зіму, нельга яшчэ рабіць вынікай аб інтэнсыўнасьці кармленьня таму, што лік жывёлы ў гаспадарках розных раёнаў вагаецца вельмі значна, так сама гэта колькасьць вагаецца і ў розных сацыяльных групах. Па гэтаму для таго, каб ацаніць кармленьне і параўнаць яго па раёнах і ў сацыяльным разрэзе,—трэба прыраўняць яго да якой-небудзь сталай адзінкі,—для нас найбольш цікавай адзінкай зьяўляецца карова. Дадзеныя аб колькасьці корму належачага аднэй карове на стойлавы пэрыяд прадугледжваюцца наступнай табліцай (гл. табл. на стар. 34).

## Колькасьць корму скармліваемага за год у сялянскай гаспадарцы ў пудох.

**МЕНСКАЯ АКРУГА**

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. |
| Сена: коням | 93,0 | 170,0 | 246,4 | 153,8 | 126.1 | 214,6 | 376,1 | 210,5 | 158,1 | 225,3 | 361,0 | 226,1 |
| Сена: каровам | 97,5 | 144,5 | 267,5 | 142,3 | 72,9 | 127,0 | 222,8 | 124,0 | 54,2 | 95,0 | 168,7 | 94,3 |
| Саломы каровам | 64,0 | 116,9 | 163,1 | 105,1 | 97,2 | 162,9 | 319,3 | 166,7 | 107,1 | 156,9 | 278,3 | 160,2 |
| Моцных кармоў | 4,72 | 2,7 | 17,5 | 4,8 | 4,1 | 6,3 | 19,3 | 7,9 | 6,7 | 10,7 | 22,9 | 11,3 |
| Сакавітых „ | 21,7 | 48,4 | 169,1 | 52,3 | 34.9 | 74,4 | 123,2 | 68,2 | 83,8 | 121,1 | 208,2 | 123,0 |

| РАЁНЫ | Самахвалавіцкі | | | | Смалявіцкі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. | бед. | сер. | зам. | у сяр. |
| Сена: коням | 109,3 | 180,5 | 297,3 | 169,7 | 74,1 | 160,5 | 196.4 | 136,8 | 125,5 | 192,5 | 319,5 | 184,2 |
| Сена: каровам | 56,3 | 119,3 | 261,0 | 115,8 | 33,4 | 15,2 | 48,3 | 25,5 | 73,4 | 116,7 | 268,5 | 119,6 |
| Саломы каровам | 84,7 | 142,5 | 215,6 | 130,3 | 92,9 | 142,8 | 209,2 | 135,2 | 97,7 | 145,9 | 278,6 | 137,9 |
| Моцных кармоў | 15,9 | 44,0 | 53,9 | 33,9 | 9,0 | 17,8 | 28,2 | 16,2 | 11,9 | 18,3 | 76,5 | 23,7 |
| Сакавітых „ | 79,3 | 190,8 | 253,3 | 154,9 | 101,23 | 147,9 | 249.4 | 145,8 | 56,8 | 111,0 | 264,6 | 106,5 |

**ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА**

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. |
| Сена: коням | 158,6 | 202,6 | 294,8 | 199,7 | 163,3 | 184,3 | 330,0 | 186,4 | 162,8 | 218.3 | 340,0 | 193,7 | 125,1 | 177,9 | 270,4 | 180,3 |
| Сена: карова | 111,2 | 147,3 | 338.8 | 158,7 | 98,4 | 159,4 | 431,4 | 146,9 | 39,5 | 57,0 | 92,5 | 48,7 | 93,2 | 149,6 | 290,3 | 160,7 |
| Саломы каровам | 68,6 | 94,4 | 105,3 | 87,6 | 49,3 | 79,2 | 70,8 | 68,5 | 92,3 | 125,3 | 242,0 | 111,5 | 68,1 | 92,9 | 173,8 | 101,6 |
| Моцных кармоў | 6,6 | 5,8 | 16,0 | 7,2 | 1,1 | 2,4 | 27.9 | 2,7 | 2,5 | 4,7 | 10,0 | 3,7 | 5,5 | 2,2 | 22,1 | 7,3 |
| Сакавітых „ | 17,5 | 14,2 | 51,9 | 19,8 | 4,0 | 9,1 | 67,9 | 9,2 | 5,1 | 7,7 | 12,5 | 6,5 | 11,8 | 37,4 | 102,8 | 42,8 |

| РАЁНЫ | Сураскі | | | | Ліозьнянскі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. | бяд. | сер. | зам. | у сяр. |
| Сена: коням | 176,3 | 237,8 | 413,8 | 236,0 | 95,2 | 171,3 | 262,6 | 173,3 | 146,9 | 198,7 | 318,6 | 194,9 |
| Сена: каровам | 139,5 | 186,8 | 404,4 | 192,3 | 174,6 | 318,2 | 491,3 | 323,5 | 109,4 | 169,7 | 341,5 | 171,8 |
| Саломы каровам | 51,3 | 65,6 | 97,2 | 69,0 | 51,0 | 126,6 | 127,3 | 105,2 | 63,4 | 97,3 | 136,1 | 90,6 |
| Моцных кармоў | 1,2 | 3,5 | 16,8 | 4,0 | 8,6 | 27,0 | 57,8 | 30,0 | 4,2 | 7,6 | 25,1 | 30,4 |
| Сакавітых „ | 4,5 | 28,4 | 91,1 | 28,0 | 18,4 | 5,7 | 179,1 | 76,5 | 10,2 | 17,1 | 84,2 | 9,13 |

## Колькасьць кармоў, належачых аднэй карове ў стойлавы пэрыяд (у пудох)

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльныя групы | бядн. | серадн, | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн, | у сяр, | бядн. | серадн. | заможн, | у сяр, | бядн. | серадн. | заможн, | у сяр, | бядн. | серадн. | заможн, | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр, |
| Саломы | 32,3 | 37,1 | 37,4 | 36,1 | 51,7 | 53,9 | 72,4 | 59,1 | 72,9 | 75,8 | 84,6 | 77,0 | 53,9 | 70,0 | 58,4 | 62,4 | 66,3 | 57,6 | 64,2 | 58,8 | 57,2 | 58,7 | 71,0 | 58,3 |
| Сена | 49,2 | 45,9 | 61,5 | 48,9 | 38,8 | 42,0 | 50,5 | 44,0 | 36,9 | 45,9 | 51,3 | 45,3 | 35,9 | 58,5 | 70,5 | 55,4 | 23,9 | 6,1 | 14,8 | 11,1 | 37,9 | 44,9 | 59,7 | 46,7 |
| Кармоў моцных | 2,4 | 0,86 | 4,0 | 1,7 | 2,2 | 2,1 | 4,4 | 2,8 | 4,5 | 5,2 | 7,0 | 5,4 | 10,1 | 21,6 | 14,6 | 16,2 | 6,4 | 7,2 | 8,7 | 7,1 | 7,0 | 9,6 | 13,2 | 9,6 |
| „ сакавітых | 10,9 | 15,4 | 38,9 | 18,0 | 18,5 | 24,6 | 27,9 | 24,2 | 57,0 | 58,5 | 63,3 | 59,1 | 50,5 | 93,5 | 68,5 | 74,1 | 72,3 | 59,6 | 76,5 | 63,7 | 35,6 | 45,9 | 66,1 | 44,6 |
| Усяго кармовых адзін. у кіл. | — | — | — | 596,2 | — | — | — | 610,0 | — | — | — | 947,9 | — | — | — | 1152,7 | — | — | — | 763,1 | — | — | — | 817,5 |
| Бялку ў кілёграм | — | — | — | 35,0 | — | — | — | 41,2 | — | — | — | 50,1 | — | — | — | 85,8 | — | — | — | 35,3 | — | — | — | 52,6 |

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Сураскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. | бядн. | серадн. | заможн. | у сяр. |
| Саломы | 33,2 | 38,2 | 30,3 | 35,6 | 28,2 | 26,4 | 15,7 | 25,8 | 57,3 | 59,4 | 84,3 | 59,0 | 39,3 | 34,3 | 43,8 | 38,2 | 26,1 | 23,6 | 21,6 | 25,4 | 21,3 | 36,7 | 24,3 | 29,2 | 34,1 | 36,4 | 36,5 | 35,5 |
| Сена | 53,7 | 59,6 | 97,6 | 64,5 | 56,2 | 53,0 | 95,9 | 55,4 | 24,5 | 27,0 | 32,2 | 25,8 | 53,9 | 55,2 | 73,0 | 60,4 | 71,2 | 67,2 | 90,0 | 70,7 | 83,5 | 92,2 | 93,8 | 89,6 | 58,5 | 61,7 | 86,9 | 64,3 |
| Кармоў моцных | 3,2 | 2,3 | 4,6 | 2,9 | 0,6 | 0,8 | 6,2 | 1,0 | 1,5 | 2,2 | 3,5 | 2,0 | 3,2 | 0,8 | 5,6 | 2,8 | 0,6 | 1,3 | 3,7 | 1,5 | 4,1 | 7,8 | 11,0 | 8,3 | 2,3 | 2,8 | 6,4 | 3,4 |
| „ сакавітых | 8,5 | 5,7 | 15,0 | 8,0 | 2,3 | 3,0 | 15,1 | 3,4 | 3,2 | 3,7 | 4,4 | 3,5 | 6,8 | 13,8 | 25,8 | 16,1 | 2,3 | 10,2 | 20,2 | 10,3 | 8,6 | 1,7 | 34,2 | 21,2 | 5,3 | 6,35 | 19,0 | 10,4 |
| Усяго кармавых адзін. у кіл. | — | — | — | 677,1 | — | — | — | 492,9 | — | — | — | 482,6 | — | — | — | 677,4 | — | — | — | 644,1 | — | — | — | 955,1 | — | — | — | 688,2 |
| Бялку ў кілёгр, | — | — | — | 51,0 | — | — | — | 37,4 | — | — | — | 27,5 | — | — | — | 51,3 | — | — | — | 48,9 | — | — | — | 87,2 | — | — | — | 50,4 |

Як відаць з гэтай табліцы ў сярэднім па Менскай і Віцебскай акругах колькасьць усіх відах корму, належачага аднэй карове, павялічваецца ад бядняцкіх гаспадарак да серадняцкіх і заможных, чаго, вядома, і трэба было чакаць. Але ад гэтага агульнага правіла маецца ня мала адхіленьняў па асобных відах корму, напрыклад: калі параўняць у межах аднагоі таго-ж раёну страты розных сацыяльных груп, дык атрымоўваецца, што колькасьць саломы зьмяншаецца ад бядняцкіх гаспадарак да заможных у раёне Азярышчанскім і Сураскім; іншы раз у серадняцкіх гаспадарках саломы ўжываецца больш, чым у заможных (раёны Самахвалаўскі і Лёзьнянскі). Так сама і адносна сена, часам у бядняцкіх гаспадарках яго ўжываецца на карову больш, чым у серадняцкіх (раён Сураскі), альбо навзт больш, чым у серадняцкіх і заможных гаспадарках (раён Смалявіцкі).

Моцны корм таксама, вельмі часта ў бядняцкіх гаспадарках ужываецца ў большых разьмерах, чым у серадняцкіх, такое зьявішча мы маем у раёнах Бягомльскім, Віцебскім і Высачанскім. Сакавітыя кармы ў бяднякоў ўжываюцца больш чым у серадняков у раёнах Віцебскім і і Лёзьнянскім, а ў серадняков больш чым у заможных—у Самахвалаўскім раёне. Гэтыя адхіленьні вельмі цікавы, яны падкрэсьліваюць, што гаспадаркі ўсіх сацыяльных груп гатовы аднолькава пайсьці на інтэнсыфікацыю кармленьня жывёлы і ідуць да яе, калі толькі не зьяўляецца перашкода з боку гаспадарчых умоў: заможная група ў гэтых адносінах выдзяляецца толькі таму, што ў яе больш капіталаў і зямлі, а ня тым, што ў яе больш ініцыятывы.

Больш значнае адхіленьне ад агульнага правіла атрымоўваецца ў тым выпадку, калі праводзіцца параўнаньне між гаспадаркамі розных сацыяльных груп, узятых не па аднаму раёну, а па розных раёнах: так па Віцебскай акрузе моцнага корму на карову заможнай гаспадаркі Чашнікаўскага раёну выдаткоўваюць менш, чым бядняцкія гаспадаркі Лёзьнянскага раёну, тое самае наглядаецца і па Менскай акрузе,—заможныя гаспадаркі Бягомльскага, альбо Бярэзінскага раёну менш выдаткоўваюць на адну карову моцных кармоў, чым бядняцкія гаспадаркі Самахвалаўскага раёну. Адпаведнае зьявішча паўтараецца ва ўсіх пералічаных раёнах і адносна сакавітых кармоў. Гэта значыць, што азначэньні—бядняцкія, серадняцкія і заможныя гаспадаркі вельмі адносныя, яны маюць рэчаісты зьмест толькі ў тым выпадку, калі гаспадаркі ўзятыя ў межах аднаго альбо аднастайнага раёну. Зразумела, гэтага нельга сказаць аб разуменьні „кулацкія“ гаспадаркі, якія ўсюды, дзе-б яны не знаходзіліся захоўваюць сваю яскрава вызначаную асаблівасьць—тэндэнцыю да эксплёатацыі акаляючага насельніцтва.

Разгледжваемая табліца дае яскравае прадстаўленьне аб колькасьці корму належачага аднэй карове ў розных раёнах па Менскай і Віцебскай акругах, але для ацэнкі кармленьня, акрамя колькасьці корму, неабходна ўлічыць і розныя запатрабаваньні кароў у корме, што залежыць у першую чаргу аб велічыні жывой вагі і прадукцыйнасьці жывёлы. Па гэтаму для магчымасьці параўнаньня інтэнсыўнасьці кармленьня ў розных раёнах неабходна зьядаемую колькасьць корму дараўняць да пэўнай адзінкі супаставіў яе з тэй колькасьцю корму, якая пры пэўных умовах патрэбна. Маючы дадзеныя ад колькасьці і якасным складзе корму, аб жывой вазе, і аб удойнасьці кароў, зрабіць паказаны падлік ня цяжка. Наступная табліца дае рэзультат гэтага падліку.

## Колькасьць неабходнага і атрымліваемага сярэдняй каровай корму (у стойлавы пэрыяд)

### У Менскай акрузе

| Раёны | Бягомльскі карм. адз. у клг. | Бягомльскі бялку ў клг. | Бярэзінскі карм. адзін. у клг. | Бярэзінскі бялку ў клг. | Капыльскі карм. адзін. у клг. | Капыльскі бялку ў клг. | Самахвалаўскі корм. адзін. у клг. | Самахвалаўскі бялку ў клг. | Смалявіцкі корм. адзін. у клг. | Смалявіцкі бялку ў клг. | У сярэднім па акрузе корм. адзін. у клг. | У сярэднім па акрузе бялку ў клг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Патрэбна за стойлавы пэрыяд: на падтрым. жыцьця | 558,8 | 40,2 | 550,6 | 40,2 | 624,4 | 48,4 | 649,0 | 48,4 | 575,0 | 40,2 | 606,9 | 45,1 |
| на выраб малака | — | — | 148,9 | 19,6 | 243,8 | 32,2 | 353,8 | 46,7 | 196,0 | 25,9 | 225,0 | 29,7 |
| Усяго | — | — | 699,5 | 59,8 | 868,2 | 80,6 | 1002,8 | 95,1 | 771,0 | 66,1 | 831,9 | 74,8 |
| Даецца на стойлавы, пэрыяд | 757,2 | 47,5 | 819,4 | 59,0 | 964,2 | 50,7 | 1222,0 | 88,0 | 880,3 | 39,5 | 923,6 | 58,1 |
| Розьніца паміж патрэб, і дадз. корм. | — | — | +119,9 | — 0,8 | + 96,0 | — 29,9 | + 219,2 | — 7,1 | +109,3 | —26,6 | + 91,7 | —16,7 |

### У Віцебскай акрузе

| Раёны | Віцебскі карм. адзін. у клг. | Віцебскі бялку ў клг. | Азярышчанскі карм. адзін. у клг. | Азярышчанскі бялку ў клг. | Чашніцкі карм. адзін. у клг. | Чашніцкі бялку ў клг. | Высачанскі карм. адзін. у клг. | Высачанскі бялку ў клг. | Сураскі карм. адзін. у клг. | Сураскі бялку ў клг. | Ліозьнянскі карм. адзін. у клг. | Ліозьнянскі бялку ў клг. | У сярэднім па акрузе карм. адзін. у клг. | У сярэднім па акрузе бялку ў клг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Патрэбна за стойлавы пэрыяд: на падтрым. жыцьця | 632,6 | 48,4 | 624,5 | 48,4 | 599,8 | 48,4 | 640,8 | 48,4 | 640,8 | 48,4 | 681,8 | 53,3 | 636,6 | 49,2 |
| на выраб малака | 255,8 | 33,8 | 218,4 | 26,0 | 165,0 | 21,7 | 353,7 | 46,7 | 310,0 | 41,0 | 423,0 | 55,9 | 298,9 | 39,5 |
| Усяго | 888,4 | 82,2 | 842,8 | 74,4 | 764,8 | 70,1 | 994,5 | 95,1 | 950,8 | 89,4 | 1104,8 | 109,2 | 935,5 | 88,7 |
| Даецца на стойлавы пэрыяд | 1036,8 | 70,9 | 649,4 | 44,6 | 665,6 | 34,7 | 1035,5 | 75,3 | 845,5 | 59,8 | 1142,6 | 104,5 | 912,3 | 64,8 |
| Розьніца паміж патрэб, і дадз. корм. | +148,4 | — 11,3 | —193,3 | —29,8 | — 99,2 | —35,4 | + 39,0 | — 19,8 | —105,4 | —29,6 | + 37,8 | — 4,7 | — 23,2 | — 23,9 |

Як відаць з гэтай табліцы (розьніца між неабходным і атрымліваемым кармам) карменьне кароў, як у адносінах да агульнай пажыўнасьці корму, так і ў адносінах дачы бялку, некалькі больш багата па Менскай акрузе параўнальна з Віцебскай.

Пры параённым параўнаньні мы бачым, што па Менскай акрузе, ва ўсіх вывучаемых раёнах, маецца некалькі збытачная па агульнай пажыўнасьці дача корму,—па Віцебскай акрузе ў палове раёнаў—недастатковая дача,—але за тое ва ўсіх, бяз выключэньня, раёнах як Менскай, так і Віцебскай акруг наглядаецца недастатковая дача бялковага корму, даходзячая па некаторых раёнах да вялікіх лічб, як, напрыклад, у Чашніцкім раёне, дзе даецца толькі палова тэй колькасьці бялку, якая неабходна жывёле. Гэты недахоп церпяць кармавыя рацыёны, нават, найбольш інтэнсыўных у малочна-гаспадарчых адносінах раёнах Лёзьнянскім і Самахвалаўскім, вядомых як з найбольш заможным насельніцтвам. Пры няправільных суадносінах бялкавой і небялковай частак корму (пры недастачы бялку) наглядаецца, як вядома, заняпад страваваньня, г. зн. наглядаецца зьніжэньне страваваньня складаных пажыўных частак корму, у выніку чаго, зьніжаецца і скарыстаньне яго. Для таго, каб дакладней вызначыць, як вялік па раёнах недахоп бялкоў у корме, неабходна вылічыць па маючыхся ў нас дадзеных—бялковы стасунак, што і даецца ў наступнай табліцы.

Бялковы стасунак ў кармох кароў

| РАЁНЫ | Бягомльскі | Бярэзьнян. | Капыльскі | Самахвал. | Смалявіцкі | У сярэднім па акрузе | Віцебскі | Азярышчан. | Чашніцкі | Высочанскі | Сураскі | Лёзьнянскі | У сярэднім па акрузе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бялковы стасунак | 1 : 19 | 1:17,7 | 1:19,5 | 1:12,4 | 1:19,4 | 1:15,7 | 1:13,0 | 1:14,0 | 1:19,8 | 1:13,1 | 1:13,1 | 1:9,4 | 1,12,7 |

Для таго каб па каштоўнасьці ацаніць гэтыя дадзеныя неабходна ўспомніць працы ранейшых аўтараў: Кюна, Вольфа, Моргена, прысьвечаныя высьвятленьню пытаньня аб значэньні бялкоў, альбо працы праф. Е. А. Багданава, абнародаваныя ў 1904-5 годзе. Для данага выпадку асабліва цікавы будуць працы праф. Геккера у Амэрыцы на Дасьледчай Станцыі Мінэзота. Аб гэтых працах у падручніку праф. І С. Папова мы чытаем: „Яны асабліва цікавы і навучальны, так як недахоп бялку ў рацыёне вывучаўся ў іх як фактар хранічнага дзейнічаньня ў зацяжных досьледах. Тут, пачынаючы з 1902-3 году, вялі нагляданьні над дзьвюма групамі кароў, пры чым адна атрымоўвала рацыён бедны пратэінам, прыкладна з адноснай колькасьцю спажыўных матэрый 1 : 9,5, другая—нармальны з адноснай колькасьцю пратэіна 1 : 6,5; у абсалютных лічбах першая група атрымоўвала ў дзень толькі 0,53 клг. страўваемага пратэіну, —другая 0,79 кгр.; на працягу 2-х год першая група давала нармальную колькасьць малака, мела здавальняючы выгляд і толькі крыху страціла жывой вагі. Спэцыяльная камісія прызнала іх становішча добрым, але крыху худымі. Экспэрымэнт быў працягнут яшчэ на год. У пачатку сакавіка 1905 года можна было заўважыць пагоршаньне фізычнага становішча ў кароў першай групы, яны не праяўлялі той рухлівасьці як каровы другой групы, калі іх выпускалі на прагулянку, вочы у іх сталі мутнымі, поўсьць кудлатаў, яны неахвотна елі корм і наогул выказвалі нізкі ўзровень жыцьцёвай энэргіі[1])". Калі зьмянілі корм павялічыўшы колькасьць бялку—зьмяніўся і выгляд кароў.

[1]) И. С. Попов. „Кормление сельско-хозяйственных животных" стр. 273.

Паказаная вышэй табліца азначае, што адносіны блізкія да тых якія спрабаваў праф. Геккер[2]) у нас маюцца толькі ў лепшым з нашых раёнаў—Ліозьнянскім. Жывёла гэтага раёну мае вельмі дасканалы выгляд. Калі-б амэрыканскую скаціну паставіць на працяжны досьлед пры стасунках корму 1 : 19 альбо 1 : 19,8, такія стасункі маюцца ў Бягомльскім і Чашнікаўскім раёнах--дык, зразумела, вынік быў-бы больш сур'ёзным, чым кудлатасьць поўсьці і мутнасьць вачэй... Над гэтым фактам неабходна сур'езна падумаць тым, хто пры сучасным становішчы кармавога пытаньня лічыць магчымым палепшыць жывёлагадоўлю БССР шляхам мэтызацыі нашай жывёлы з замежнай, пры умовах, калі будзе знойдзена для гэтага адпаведная парода. Мы думаем, што пры наяўнасьці карменьня, якое характарызуецца прыведзенай табліцай, „подходящей" замежнай пароды нам знайсьці не ўдасца,—пры паляпшэньні-ж карменьня, хоць бы да сярэдняга ўзроўню—карменьне ў Ліозьнянскім раёне,—шмат якія замежныя пароды зьявяцца падыходзячым матар'ялам для паляпшэньня беларускага быдла. Абедзьве вышэйпрыведзеныя табліцы сьведчаць, што асноўнай, першачарговай задачай у справе ўздыму беларускага жывёлаводзтва ёсьць палепшаньне, лепш кажучы,—рацыяналізацыя карменьня жывёлы, рацыяналізацыя, якая павінна вызначацца ў павялічэньні бялкавой часткі ў рацыёне жывёлы хаця бы за лік безбялковай часткі яго, што для некаторых раёнаў, відавочна, магчыма. Якое значэньне можа мець у даным выпадку зьмены фактараў рацыёну—паказваюць факты, прывадзімыя праф. Е. А. Багдановым („Кормление молочных коров" стар. 180-193). На падставе паказаных фактаў Е. А. Багданаў піша, „Па гэтаму крайне важна, ужо цалком даведзенае нашымі інструктарамі палажэньне, што нярэдка, нават, бяз усякіх затрат *адно правільнае разьмеркаваньне*, звычайна належачага каровам корму, асабліва *пры некаторым скарачэньні ліку іх* за лік горшых і старэйшых, здольна значна павялічыць удой і ператварыць, зусім нявыгаднае для ўладара стада ў некалькі ўжо прыбытковае"[1]). Па нашай думцы гэтая заўвага Е. А. Багданава абавязкова зараз-жа павінна быць прынята нашымі саўгасамі і калгасамі ня толькі да ведама, а і кіраваньня. Для сялян „скарачаць колькасьць скаціны за лік палепшаньня іх якасьці" бязумоўна, цяжалей. Але і сяляне бяз значнай небясьпекі могуць нясьці некаторыя выдаткі па пакупцы моцных кармоў,—простая беларуская карова аплоціць палепшаньне карменьня і павялічаную дачу бялка як іх аплачвае вялікарасійская карова па прыкладах, прыведзеных прафэсарам Багданавым[2]).

Некаторыя назіраньні даціэнта Ф. А. Паўлава на фэрме Сельска-Гаспадарчай Акадэміі адносна чуласьці сялянскіх беларускіх кароў на паляпшэньне корму—даюць нам права спадзявацца на гэта[3]).

Пры разглядзе табліц (стар. 33), натуральна, ўзьнікае пытаньне, у які пэрыяд—улетку, або ўзімку карменьне скаціны ў БССР горшае. Адносна некаторых раёнаў можна сказаць пэўна, што ў іх летняе карменьне ня лепш зімовага, а ў некаторых, мабыць, нават і горшае (на-

[1]) У нас паказан бялковы стасунак, стасунак пратэіну які паказваецца досьледам праф. Геккера, будзе на адзінку вузей бялковага.

[2]) Праф. Е. А. Багданов. „Кормление молочных коров" стр. 182. Падкрэсьлена ў абодвух выпадках Багданавым.

[3]) Проф. Е. А. Богданаў піша „У сучасны момант можна лічыць зусім дакладна ўстаноўленым, што тое самае стада, якое дае пры звычайна бедным зімовым карменьні 70-80 вёдзер, можа лёгка даць пры адным толькі паляпшэньні карменьня 130 і нават пасьля далейшага паляпшэньня корму да 170 вёдзер і вышэй. Пераапрацоўка корму ў малако ў апошнім выпадку зусім нармальна.

[4]) Т. А. Паўлаў: „Праца Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі" т. IV стар. 160-171.

прыклад, у Сураскім раёне). Па гэтаму, пытаньне палепшаньня пашы, аб увядзеньні ў практыку сялянскіх гаспадарак штучнай пашы і пытаньне аб забясьпечанасьці сялянскіх гаспадарак моцнымі кармамі ў зімовы пэрыяд—трэба лічыць аднолькава актуальнымі. Бяз іх вырашэньня—палепшаньне жывёлаводзтва не магчыма. У выніку недастатка кармленьня і няправільнасьці бялкавога стасунку, мы маем і крайне нізкую прадукцыйнасьць кароў, а вынікам гэтага зьяўляюцца некарысныя суадносіны паміж падтрымліваемай і прадукцыйнай часткамі іх корму. Ад гэтага атрымоўваецца высокая сабекаштоўнасьць малака, або, што тое самае, малая выгаднасьць,—праўдзівей кажучы—стратнасьць яго вытворчасьці. Наскольki няправільны ў абсьледваных намі акругах адносіны між падтрымліваемым і прадукцыйным кормам можна бачыць з дадзеных наступнай табліцы:

Стасунак між падтрымліваемым і прадукцыйным кормам у малочных кароў (у %%)

| Акруга | РАЁНЫ | Бягомльскі | Бярэзінскі | Капыльскі | Самахвал. | Смалявіцкі | Усярэдн. па ўсей акрузе | Акруга | Віцебскі | Азярышч. | Чашнік. | Высочанскі | Сураскі | Лiозьнянскі | Усярэдн. па ўсей акрузе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская акруга | Корм: Падтрымл. | — | 78,72 | 71,92 | 64,72 | 74,58 | 72,96 | Віцебская акруга | 77,21 | 68,59 | 78,43 | 64,44 | 67,4 | 61,72 | 73,7 |
| | Прадукц. | — | 21,28 | 28,08 | 35,28 | 25,42 | 27,04 | | 28,79 | 31,41 | 21,57 | 35,56 | 32,6 | 38,28 | 26,3 |

Каб правільна ацаніць гэтыя лічбы дастаткова ўспомніць, што за межамі лічаць магчымым, г. зн. эканамічна выгадным,—трымаць толькі тых кароў, падтрымоўваемы корм якіх складае ня больш 50% ад агульнай колькасьці корму, г. зн. там лічаць добрай каровай толькі такую, у якой падтрымліваемая і прадукцыйная часткі корму роўныя. У нас жа, нават, у больш інтэнсыўных па малочнаму жывёлаводзтву раёнах—Самахвалаўскім і Лiозьнянскім—каровы яшчэ далёка не дасягнулі паказанай нормы,—у сярэднім-жа па Віцебскай і Менскай акругах прадукцыйны корм складае крыху больш 30% ад падтрымліваемага. Пры такім стасунку гэтых частак корму можна з упэўненасьцю сказаць, што ўтрыманьне сялянскай каровы ў нас у большасьці выпадкаў павінна быць стратным. Высокая сабекаштоўнасьць малака параўнальна з замежнай выклікае за сабой і высокую сабекаштоўнасьць малочных прадуктаў (сыр, масла), а гэтым вызначаецца для нас і галоўнейшая цяжкасьць канкурэнцыі з замежнымі вытворцамі на сусьветным рынку. Аб залежнасьці між сабекаштоўнасьцю пуда малака і велічынёй удою каровы вельмі выразна гаворыць наступная табліца, складзеная па дадзеных Волагдасельсаюзу і ўзятая намі з кнігі Урачова[1])

Пры ўдоі ў пудох каштоўнасьць у капейках.

| Кантрольныя таварыствы Валагодзкай губ. | 50 кап. | 50—75 кап. | 75—100 кап. | 100—125 кап. | 125—150 кап. | 150—200 кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дамшынская . . . . . . | — | 83,1 | 66,5 | 54,5 | 47,1 | 42,3 |
| Высакоўская . . . . . | 76,03 | 57,7 | 46,9 | 40,8 | 38,8 | 33,0 |
| Чэрнееўская . . . . . | 145,5 | 84,06 | 74,4 | 65,4 | 47,0 | 46,6 |
| У сярэднім . . . | 110,74 | 74,95 | 59,37 | 50,13 | 44,3 | 40,4 |

Адгэтуль відаць, як дорага абыходзіцца селяніну малако пры нізкіх удоях кароў, удойнасьць жа кароў у БССР, як убачым ніжэй,—вельмі нізкая, што залежыць галоўным чынам, ад няправільнасьці кармленьня

[1]) И. Врачов. „Молочное хозяйство и кооперация“ стр. 98.

кароў,—а пагэтаму пытаньні палепшаньня кармленьня—ёсьць пытаньне ўздыму прыбыткоўнасьці малочнага жывёлаводзтва,—гэта пытаньне для гаспадаркі БССР настольк-ж актуальна, як і пытаньне ўздыму ўраджайнасьці.

**Умовы ўтрыманьня жывёлы ў сялянскай гаспадарцы.** Апрача ўмоў кармленьня, вялікі ўплыў, на прадукцыйнасьць жывёлы маюць спосабы яе ўтрыманьня,—галоўным чынам, характар памяшканьня для жывёлы. У сялянскіх ўмовах гаспадарнічаньня памяшканьне звычайна падзяляецца толькі на халодныя і цёплыя, затым на сьветлыя і цёмныя і памяшканьні сярэдняга тыпу.

Пры нашым абсьледваньні, сапраўдна цёплых памяшканьняў, як гэта разумеюць замежамі, вызначана ня было. Маюцца толькі памяшканьні або зусім халодныя, пад якімі мы разумеем памяшканьні, дзе замярзаў зімой гной, і затым, памяшканьні, больш ці менш цёплыя—у якіх гной не замярзае. Тое самае трэба сказаць і адносна падзяленьня памяшканьняў на сьветлыя і цёмныя. Сапраўда сьветлых памяшканьняў, г. зн. памяшканьняў, пабудаваных па правілах заогігіены, біручы пад увагу стасунак плошчы вакон да плошчы падлогі ня меньшы як 1 : 12, зарэгістравана ня было. Маюцца толькі памяшканьні больш ці менш цёмныя, пры чым у даным выпадку маецца такое мноства градацый, што распрацоўка гэтага матар'ялу не дала пэўных вынікаў—чаму яна і ня прыводзіцца намі. Што-ж датычыцца характарыстыкі памяшканьняў па ступені іх ацяпленьня, дык трэба сказаць, што абедзьве абсьледваныя намі акругі досыць падобныя між сабой, толькі зусім нязначна па працантах цёплых памяшканьняў, Віцебская акруза адстае ад Менскай акругі (40,3 супроць 45,7 працантаў), як гэта можна бачыць з наступнай табліцы А (таб. на стар. 41).

**Характар памяшканьняў для буйнай рагатай жывёлы.** У Менскай акрузе з абсьледваных акруг горш за ўсё знаходзіцца справа ў Бярэзінскім раёне—77,2% халодных памяшканьняў, лепш за ўсё—у Смалявіцкім раёне—28,1% такіх памяшканьняў. Найбольш інтэнсыўны ў малочна-гаспадарчых адносінах—Самахвалаўскі раён займае другое месца—47,3% халодных памяшканьняў. У Віцебскай акрузе рэзка выдзяляецца ад сярэдняга ўзроўню раён Ліозьнянскі ў станоўчы бок—27,7% халодных памяшканьняў; у адмоўны бок—раён Чашнікаўскі—73,5% такіх памяшканьняў. Як і трэба было чакаць у абедзьвюх акругах працант цёплых памяшканьняў павялічваецца ад гаспадарак бядняцкіх да гаспадарак серадняцкіх і заможных, але цікава, што ў Віцебскай акрузе гэты пераход больш выразны, чым у Менскай акрузе—у першай ад 33,5 да 63,3%, а ў другой ад 37,7 да 53,4 працантаў.

Другая прыкмета больш культурнага ўходу за жывёлай—гэта наяўнасьць кармушак. Працант двароў зусім ня маючых ніякіх кармушак па БССР вельмі высокі—па Менскай акрузе такіх двароў у сярэднім—72,7%,—па Віцебскай акр.—63,2%, г. зн. у абедзьвюх, акругах найбольш інтэнсыўных па БССР па малочнай гаспадарцы, большая палова жывёлы ня толькі ўлетку, але і ўзімку жыве падножным кормам. Гэта паказвае, які прымітыўны яшчэ уход за жывёлай. Наступны па колькасьці тып двароў—гэта двары, маючыя прымітыўныя вельмі рознастайныя канструкцыі кармушак, як-та карзіны, скрынкі, яські і інш.; у Менскай акрузе маецца 20,3%, а ў Віцебскай акр.—29,5% такіх двароў. І нарэшце, найбольш добра ўпарадкаваныя ў гэтых адносінах двары з дацкімі кармушкамі—займаюць у абедзьвюх акругах амаль роўную долю 7,3%. Больш дэталёвае, параённае разьмеркаваньне двароў па характару маючыхся ў іх кармушак можна бачыць у наступнай табліцы В (на стар. 41).

## Характар па мяшканьняў для буйкай рагатай жывёлы

Табл. А.

**Менскае акругі**

| Раёны: | Бягомольскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэдн. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бядняк | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну | бядняк | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну | бядн. | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну | бядн. | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну | бядн. | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну | бядн. | серадн. | заможн. | У сяр. па раёну |
| % % ацёплен. | 27,9 | 50,6 | 85,7 | 47,1 | 12,3 | 23,4 | 42,8 | 22,8 | 41,4 | 49,3 | 33,3 | 45,3 | 45,0 | 60,4 | 52,5 | 52,7 | 75,0 | 70,4 | 70,6 | 71,9 | 37,7 | 49,5 | 54,4 | 45,7 |
| халодных | 72,1 | 49,4 | 14,3 | 52,9 | 87,7 | 76,6 | 57,2 | 77,2 | 58,6 | 50,7 | 66,7 | 54,7 | 55,0 | 39,6 | 47,5 | 47,3 | 25,0 | 29,6 | 29,4 | 28,1 | 62,3 | 50,5 | 45,6 | 54,3 |

**Віцебскае акругі**

| Раёны: | Віцебскі | | | | Езарышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Сураскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сяр. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. група | бядн, | серадн, | заможн, | у сярэд, | бядн. | серадн, | заможн, | у сярэд. | бядн. | серадн, | заможн, | у сярэд, | бядн. | серадн, | заможн, | у сярэд, | бядн. | серадн, | заможн, | у сярэд, | бядн. | серадн, | заможн. | у сярэд, | бядн. | серадн, | заможн, | усяго |
| % % ацёплен. | 36,3 | 20,8 | 48,1 | 29,0 | 43,4 | 35,1 | 43,0 | 38,2 | 12,5 | 39,0 | 50,0 | 26,5 | 50,0 | 40,7 | 55,9 | 46,7 | 27,3 | 56,3 | 77,8 | 49,0 | 43,6 | 78,9 | 86,4 | 72,3 | 33,5 | 39,8 | 63,3 | 40,3 |
| халодных | 63,7 | 79,2 | 51,9 | 71,0 | 56,6 | 64,9 | 57,0 | 61,8 | 87,5 | 61,0 | 50,0 | 73,5 | 50,0 | 59,3 | 49,1 | 53,3 | 72,7 | 43,7 | 22,2 | 51,0 | 56,4 | 21,1 | 13,6 | 27,7 | 66,5 | 60,2 | 36,7 | 59,7 |

### Процант гаспадарак, маючых аборы з дацкімі кармушкамі (лічнік) і процант гаспадарак двары якіх зусім ня маюць кармушак (назоўнік)

Табл. Б.

| Раёны: | Бягомольскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. група | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | амо жн. | У сяр. |
| Кармушкі: | 0 | 1,2 | 0 | 0,7 | 5,2 | 14,1 | 17,8 | 11,4 | 6,9 | 12,7 | 6,7 | 4,3 | 4,5 | 9,7 | 22,5 | 9,5 | 6,8 | 5,6 | 0 | 5,3 | 3,9 | 7,4 | 14,0 | 7,0 |
| | 95,3 | 78,6 | 78,6 | 89,8 | 89,5 | 82,8 | 75,0 | 83,9 | 69,0 | 73,9 | 73,3 | 72,6 | 70,4 | 49,3 | 51,2 | 58,5 | 90,9 | 91,5 | 88,2 | 90,9 | 79,8 | 70,3 | 62,0 | 72,7 |

| Раёны: | Віцебскі | | | | Езарышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | | Сураскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сяр. па акр. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. група | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. | Бядняк | Серадн. | Заможн. | У сяр. |
| Кармушкі: | 4,9 | 3,1 | 7,4 | 4,2 | 2,4 | 7,4 | 28,6 | 6,3 | 2,1 | 0 | 0 | 2,0 | 11,5 | 7,4 | 20,6 | 11,4 | 0 | 4,4 | 22,2 | 4,3 | 7,7 | 18,4 | 56,6 | 26,4 | 4,1 | 5,6 | 26,1 | 7,3 |
| | 58,1 | 60,0 | 37,0 | 56,6 | 80,7 | 70,2 | 28,6 | 72,7 | 91,6 | 84,0 | 100,0 | 88,0 | 32,7 | 51,8 | 23,5 | 40,0 | 72,7 | 82,9 | 44,5 | 77,0 | 66,6 | 40,8 | 9,1 | 38,3 | 68,8 | 66,6 | 28,5 | 63,2 |

У Менскай акрузе лепшым па гэтай прыкмеце раёнам, як па шмат якіх іншых прыкметах, зьяўляецца Самахвалаўскі раён, але і ў ім 58,5% двароў без кармушак і толькі 9,5% двароў з дацкімі кармушкамі. У раёнах Смалявіцкім і Бягомльскім процант двароў без кармушак складае—90,9 і 89,8%; з дацкімі кармушкамі ў апошнім раёне маецца ўсяго 0,7% двароў. У Віцебскай акрузе ў найбольш інтэнсыўным раёне—Лёзьнянскім справа знаходзіцца значна лепш—у ім маецца найменшы з устаноўленых намі %% двароў без кармушак—38,3 і найвышэйшы процант з дацкімі кармушкамі—26,4%. У экстэнсыўных-жа раёнах Віцебскай акругі справа знаходзіцца таксама кепска як у экстэнсыўных раёнах Менскай акругі,—так у Чашнікаўскім раёне маецца 88% двароў бяз кармушак і толькі—2% двароў з дацкімі кармушкамі.

У сацыяльным разрэзе—малюнак звычайны: процант горш абсталяваных двароў, г. зн. двароў без кармушак, паніжаецца ад бядняцкіх гаспадарак да заможных—у Менскай акр. ад 79,8% да 62%, а ў Віцебскай акр. ад 68,8% да 28,5%; процант жа лепш абсталяваных двароў—двароў з кармушкамі наадварот, павялічваецца ў Менскай акрузе ад 3,9 да 14% і ў Віцебскай акрузе ад 4,1 да 26,1%. Павышэньне процантаў ад бядняцкіх двароў да заможных наглядаецца і ў адносінах прымітыўных кармушак,—у сярэднім па Менскай акрузе ад 17,3 да 24%, а па Віцебскай акрузе ад 27,1 да 45,3%.

З параўнаньня двух апошніх стасункаў (процант двароў з кармушкамі), відаць, што па гэтай прыкмеце, як па прыкмеце цёплых абораў розьніца між бядняцкай і заможнай групамі гаспадарак у Віцебскай акрузе больш выразная, чым у Менскай акрузе. Пры параўнаньні дадзеных дзьвюх апошніх табліц кідаецца ў вочы, што па абедзьвюх прыкметах—добра упарадкаваныя аборы—ацёпленыя і забясьпечаныя кармушкамі—ў параўнаемыя раёны характарызуюцца неаднолькава: па прыкмеце цёплых абораў—Менская акруга некалькі перавышае Віцебскую (45,7 супроць 40,3%), а па распаўсюджваньні кармушак наадварот—Віцебская акруга перавышае Менскую (36,8 супроць 27,3%). Гэту рознастайнасьць Менскай акругі і Віцебскай трэба, як відаць, тлумачыць недастатковай колькасьцю ў Віцебскай акрузе неабходнага для ацяпленьня абораў лесу (параўнальна з Менскай акругай[1]). Калі гэтая дагадка правільная, дык прапаганда ацяпленьня абораў з дапамогай саломенных матаў павінна знайсьці ў Віцебскай акрузе, спрыяючую для сябе глебу Гэтую акалічнасьць трэба ўлічыць мясцовым працаўнікам: зоотэхнікам аграномам і вэтўрачам.

Вельмі цікава высьветліць, колькі траціцца грубага корму (на зямлі, і затоптваецца) дзякуючы адсутнасьці кармушак. Нажаль, мы ня ведаем з літаратуры аб спробах такога высьвятленьня, між тым, для БССР пры недастачы ў многіх раёнах сена і пры адсутнасьці кармушак—пытаньне гэта бязумоўна мелаб-ы некаторую цікавасьць.

**Разьмеркаваньне ацёлаў па пэрыядах году.** На велічыню малочнасьці кароў мае ўплыў ня толькі інтэнсыўнасьць кармленьня і ўмовы іх утрыманьня, але і шмат іншыя фактары: час ацёла, час паляваньня каровы пасьля ацёлу, процант ялавасьці і інш. На колькі магчыма мы павінны разглядзець і гэтыя фактары. Рознастайнасьць абсьледваных раёнаў па часу ацёлаў паказваецца наступнай табліцай:

[1]) У Менскай акрузе прыходзіцца лесу на аднаго жыхара 0,67 га, і на 1 гаспадарку 4,61 га, у Віцебскай акр. прыпад. лесу на аднаго жыхара—0,31, га, на 1 гаспадарау 2,09 га (стат. даведнік ст. 26).

Процантавае разьмеркаваньне ацёлаў па пэрыядах часу ацёлаў ў процантах.

| Акругі | Зімніх | Вясеньн. | Летніх | Васеньн. |
|---|---|---|---|---|
| Менская | 34,8 | 53,9 | 8,5 | 2,8 |
| Віцебская | 41,6 | 46,3 | 6,3 | 5,8 |

Як відаць, у Менскай акрузе васеньнія і зімовыя ацёлы менш распаўсюджаны, чым у Віцебскай акрузе, аднак у абедзьвюх акругах вясеньнія ацёлы зьяўляюцца пераважнымі. Васеньнія і зімнія ацёлы, як вядома, маюць цэлы шэраг выгад: найбольшая малочнасьць пры іх прыпадае на час, калі малочныя прадукты бываюць найбольш дарагія (зімой), апрача таго, цяляты такіх ацёлаў пападаюць у найбольш спрыяючыя ўмовы разьвіцьця на першых месяцах свайго жыцьця (магчымасьць карыстацца пашай),—а галоўнае—і колькасьць малака ад такіх ацёлаў бывае ў большай частцы некалькі большая чым пры вясеньніх і летніх ацёлах. Усё гэта, разам узятае, прымушае ва ўмовах культурнай гаспадаркі аддаць перавагу ацёлам у васеньнія і зімовыя месяцы. Аднак, выгады ад такіх ацёлаў могуць быць вельмі праблематычнымі, калі ўмовы зімовага і вясеньняга кармленьня і ўтрыманьня кароў вельмі кепскія. У апошнім выпадку, каровы зімой, пасьля ацёлу доўга не палююць, чаму і павялічваецца іх ялавасьць, калі паша вясной бывае кепская, дык няспрыяючыя ўмовы яе на кароў пры зімовым ацёле могуць і ня мець уплыву, чаму не праявіцца і павышэньне лактацыйнай крывой („второй максимум“).

Мы бачылі, з папярэдніх разьдзелаў, што ў Віцебскай акрузе пасьбнае пытаньне абстаіць вельмі востра. Зімовае ўтрыманьне кароў таксама кепскае (маламоцныя кармы і вялікі процант халодных памяшканьняў)—па гэтаму зьяўляецца вельмі спрэчным ці выкарыстоўвае віцебскі селянін тыя выгады, якія ў нармальных умовах мае зімовы ацёл кароў. Аднак павышаны процант васеньніх і зімовых ацёлаў зьяўляецца паказчыкам павышанай інтэнсыўнасьці малочнай гаспадаркі, чаму ў якасьці гэтага ён для Віцебскай акругі і павінен быць адзначан.

**Характарыстыка малочнай прадукцыйнасьці кароў.** У выніку недастатковага зімовага кармленьня кароў, асабліва ў адносінах бялкоў, недастачы пашы, кепскіх хлявоў, вялікі процант вясновых ацёлаў і інш. —у выніку ўсяго гэтага мы натуральна маем нізкую прадукцыйнасьць кароў, аб чым гаворыцца ў дадзеных наступнай табліцы:

Велічыня сярэдняга ўдою кароў за час лактацыйнага пэрыяду (у літрах).

| Раёны | | Раёны | |
|---|---|---|---|
| Бягольмскі | 703,1 | Віцебскі | 1508,7 |
| Бярэзінскі | 905,7 | Езарышчанскі | 1508,4 |
| Капыльскі | 1436.7 | Чашнікаўскі | 880,2 |
| Самахвалаўскі | 2140,5 | Высачанскі | 2064,5 |
| Смалявіцкі | 949,1 | Сураскі | 1643,9 |
| | | Лёзьнянскі | 2107,3 |
| У сярэднім па Менскай акр. | 1286,0 | У сярэднім па Віцебскай акр. | 1620,0 |

Як відаць з гэтай табліцы, удоі ў сярэднім па Віцебскай акрузе вышэйшыя, чым па Менскай акрузе. Такі вывад бадай ці магчыма было ўявіць на падставе маючыхся ў нас зьвестак аб кармленьні і ўтрыманьні кароў, так як па ліку кармовых адзінак каровы лепш кормяцца ў Менскай акрузе. Пасьбнае пытаньне таксама лепш вырашаецца ў Менскай акрузе ў параўнаньні з Віцебскай; лік ацёпленых абораў, нарэшце таксама большы ў Менскай акрузе, аднак ня гледзячы на гэта, удоі кароў вышэйшыя ў Віцебскай акрузе. Апошняе пэўна тлумачыцца, галоўным чынам тым, што ў Віцебскай акрузе каровы кормяцца больш бялковым кормам, г. зн. у іх карме стасунак бялковы больш рацыянальны і кармленьне іх таму фізыялёгічна больш правільна. Другой вельмі важнай прычынай павышанага ўдою кароў у Віцебскай акрузе зьяўляецца лепшы іх завадзкі склад, доказы чаму будуць прыведзены ніжэй.

Тлустасьць малака ў абедзьвюх акругах і ў розных раёнах можна лічыць практычна аднолькавай. Некаторая рознастайнасьць тут можа быць выяўлена толькі ў сувязі з завадзкім складам стад, як можна бачыць з наступных лічбаў:

Працант тлустасьці малака.

| У кароў | % тлустасьці | Лік выпадкаў нагляд. |
|---|---|---|
| Мясцовых Беларускіх . . | 3,85 | 75 |
| Мэтысных . . . . . . | 3,81 | 77 |
| Чырвоных беларускіх . . | 4,02 | 64 |

Дадзеныя ў адносінах велічыні ўдояў і тлустасьці малака ў сувязі з дадзенымі па кармленьню жывёлы могуць характарызаваць прадукцыйнасьць кароў з эканамічнага боку. Але апрача гэтага ўдойлівасьць мае цікавасьць і ў другіх адносінах: у адносінах працяжнасьці лактацыйнага пэрыяду, характару лактацыйнай крывой, сувязі велічыні ўдоя з жывой вагай каровы, з іх заводкасьцю і інш.

Большая частка вывучаных намі кароў маюць працяжнасьць лактацыйнага пэрыяду ад 8 да 10 месяцаў (каля 80% усіх кароў),—у сувязі з працяжнасьцю і сухастоі кароў разьмяркоўваецца так:

| Працяжнасьць сухастоя ў месяцах | 1/2 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў у працантах . | 1,0 | 5,6 | 29,1 | 35,3 | 20,2 | 6,5 | 2,1 | 0,2 = 100% |

Як відаць з гэтых дадзеных сухастоі з працяжнасьцю вышэй нормы складаюць амаль 9% усіх выпадкаў.

Рух лактацыйнай крывой па месяцах лактацыі можна паказаць наступнай таблічкай (прыняўшы ўвесь лактацыйны ўдой за 100).

Процанты ад усяго ўдою сярэдняй каровы.

| Месяцы лактацый / Акругі | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская . . | 15,8 | 14,0 | 12,2 | 11,4 | 10,1 | 10,2 | 9,7 | 7,9 | 6,0 | 2,7 | — |
| Віцебская . | 13,8 | 13,3 | 11,8 | 10,9 | 10,1 | 9,1 | 9,2 | 8,3 | 8,0 | 5,5 | — |

Адсюль вынікае, што максымальный удой для большай часткі кароў падае на першы месяц лактацыі. Для кароў Віцебскай акругі ўздым і паніжэньне лактацыйнай крывой ня столькі выяўляецца рэзка, як для Менскай акругі. Розьніца гэта больш менш тлумачыцца тым, што ў Віцебскай акрузе, пры большай колькасьці сена, уходзячага ў рацыён каровы, інтэнсыўнасьць кармленьня па пэрыядах, досыць аднолькава; тады як у Менскай акрузе бялковая частка корму ўводзіцца, галоўным чынам, у выглядзе макухі і асёўкаў, якія звычайна ўводзяцца ў рацыён толькі ў час вялікіх удояў (пасьля ацёлу) чаму і пажыўнасьць корму па пэрыядах значна мяняецца, а гэта, натуральна, адбіваецца на руху крывой лактацыі.

Вельмі цікавым зьяўляецца пытаньне аб ступені раздайваемасьці кароў у сувязі з іх узростам. Праф. Е. А. Багданаў па гэтаму пытаньню піша: „Першацеліцы даюць менш у параўнаньні з дарослымі: па дадзеных Альгаўскага Таварыства жывёлаводаў на—22% альбо 62 вядры, па дадзеных Флейшмана—на 29%, альбо 64 вядры, па дадзеных Малыгіна (Швіц, Мэтыс)—19% альбо 22 вядры, па дадзеных дасьледчай станцыі Mettngen (Альгаўская скаціна) 22% альбо 64 вядры. У Амэрыцы Beach (Станцыя Коннсктыкут) лічаць удоі першацеліцы роўным 70% удою дарослых“*), а дарослую карову належыць лічыць ва ўзросьце ад 4-х да 6-га ацёлу, так крыху вышэй той жа аўтар піша: „найлепшыя аўтарытэты (Флейшман, Кухнар) згаджаюцца, што вытворчасьць каровы дасягае найбольшай вышыні між 4-м і 6 м ацёламі“. Аўтарытэты, на якіх спасылаецца праф. Багданаў, мелі на ўвазе кароў заводу эўрапейскай скаціны. Наша-ж беларуская скаціна з прычыны кепскага кармленьня яе, разьвіваецца некалькі марудней, і таму найвышэйшы ўдой у яе па нашых дадзеных прыходзіцца на 5-ы — 6-ы ацёл. Калі мы вылічылі велічыню ўдоя першацеліц і дарослых кароў (5—6 ацёл) і вызначым рух іх лактацыйных крывых па дадзеных Віцебскай акругі, дык атрымаем наступную табліцу:

Сярэдні месячны ўдой (у літрах)

| М-цы лактацый | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Усяго малака | У проц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Першацел. . | 132,0 | 141,0 | 138,0 | 117,0 | 117,0 | 105,0 | 99,0 | 87,0 | 72,0 | 60 | — | — | 1068 | 63 |
| Дарос. каров. (5—6 ацёл) . | 307,5 | 225,0 | 198,0 | 177,0 | 159,0 | 123,0 | 138,0 | 147,0 | 105,0 | 108,0 | 51,0 | 90,0 | 1687 | 100 |

*) Праф. Багданаў „Кормление молочных коров“, стар. 129.

Для вылічэньня гэтай таблічкі мы карысталіся дадзенымі па 360 лягтацыях першацеліц і па 382 лягтацыях дарослых кароў. З гэтай таблічкі відаць, што ўдой першацеліц ва ўмовах Віцебскай акругі на 37% меншы ўдою дарослых кароў, г. зн. розьніца тут больш значная, чым у быдла заходня-эўрапейскага заводу і, нават, большая чым у амэрыканскага быдла, што можна тлумачыць вельмі паступовым разьвіцьцём беларускае каровы, дзякуючы недастачы кармленьня яе з моладу. Магчыма думаць, што гэта розьніца для кароў Менскай акругі будзе яшчэ больш выразная.

І практычна і тэарэтычна вельмі цікава ўявіць пытаньне аб сувязі паміж велічынёю ўдоя каровы і яе жывой вагай, а таксама наяўнасьцю, або адсутнасьцю ў ёй крыві культурнага заводу. Падрабязна гэтае пытаньне разгледжваецца ў другой частцы працы (праца В. М. Сьвіршчэўскага), тут-жа мы толькі адзначым, што такая сувязь сапраўды існуе, як гэта відаць з наступнае табліцы:

| Якасьць кароў і жывая вага | Менская акруга | | | | Віцебская акруга | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мясцов. парода | | Мэтысы жыв. вагай 22 пуд. | Лік выпад. назіраньняў | Мясцов. парода | | Мэтысы жыв. вагай 21,6 пуд. | Лік выпад. назіраньня |
| | да 20,5 п. | звыш 20,5 п. | | | да 20.5 п. | звыш 22 п. | | |
| Удой за лактацыю (у літрах) | 1132,7 | 1 551, | 1561,9 | 2834 | 1394,0 | 1660,5 | 1913,2 | 3636 |

Такі-ж наогул малюнак атрымоўваецца і пры параённым разглядзе калі ўзяць раёны з дастатковым лікам выпадкаў назіраньня. З прычыны таго, што для нас асаблівую цікавасьць мае Самахвалаўскі раён, як месца распаўсюджваньня чырвонага беларускага быдла, разгледзім з гэтага пункту гледжаньня і яго скаціну.

Самахвалаўкі раён Менскай акругі.

| Якасьць кароў і іх жывая вага | Мясцовая парода | | Мэтысы | Чырв. бел. б. | Лік выпадкаў назіраньня |
|---|---|---|---|---|---|
| | да 20,5 п. (у сярэд. 17,9 п.). | звыш 20,5 н. (сярэдняя 23,4 п.). | жыв. вага 22,6 пуд. | жыв. вага 21,14 пуд. | |
| Велічыня ўдоя ў літрах . . . . . . . . | 1632,2 | 2354,1 | 2595,6 | 2186,1 | 1057 |

Апошняя табліца (дадзеныя па Самахвалаўскаму раёну) паказвае, што чырвонае беларускае быдла, аб якім так многа ў БССР гаворыцца на розных нарадах спэцыялістых—у сялянскіх умовах кармленьня і ўтрыманьня, нічога асабліва завіднага сабой не адзначае. Па сваёй вазе яно займае сярэдняе месца паміж не палепшанай і палепшанай групамі мясцовай скаціны (17,2—21,14—23,4 п.) адпаведна гэтаму яна і па ўдою займае сярэдняе месца між імі. Адзінай дадатковай адзнакай яе, у адносінах прадукцыйнасьці, зьяўляецца некалькі большая тлустасьць яе малака, на што мы зварочвалі ўвагу вышэй. Насельніцтва, мабыць, больш

правільна ацэньвае гэта быдла, чым спэцыялістыя, што можна бачыць з дадзеных аб сярэдніх цэнах кароў (гл. далей). Асаблівасьці Экстэр'-ера гэтага быдла будуць зазначаны ў працы В. М. Сьвіршчэўскага.

Як відаць з прыведзеных табліц, мэтысы даюць вышэйшы ўдой, чым каровы мясцовага заводу, але розьніца між групамі мясцовай скаціны палепшанай і не палепшанай, г. зн. жывой вагі да 20,5 п. і больш 20,5 п. ва ўсіх выпадках значна большая, чым між групай мэтысаў і групай мясцовага палепшанага быдла (жыв. в. 20,5 п.) Гэта паказвае, што павялічэньне жывой вагі мясцовага быдла мае ўплыў на павышэньне ўдойнасьці ў тым-жа напрамку як і даліваньне культурнай крыві, пры чым гэта павялічэньне жывой вагі зьяўляецца ў большай частцы вынікам палепшанага харчаваньня жывёлы з моладу, і адбіваецца ва ўмовах БССР надзвычайна выразна. Адзначаныя акалічнасьці мы лічым вельмі паказальнымі, яны служаць доказам наяўнасьці ў мясцовай жывёлы, добрых паказчыкаў удойлівасьці, якія вызначаюцца пры паляпшэньні харчаваньня. Гэта сьцьвярджаецца і назіраньнем Ф. А. Паўлава над 13 каровамі мясцовага заводу на фэрме С.-Г. Акадэміі, аб чым мы ўжо гаварылі. З прычыны таго, што велічыня жывой вагі кароў і заводкасьці маюць бязумоўна ўплыў на велічыню ўдою, вельмі цікава высьветліць як па гэтых прыкметах адрозьніваюцца каровы розных раёнаў.

Наступная табліца паказвае колькі кароў з 100 належыць да розных груп па жывой вазе:

| | | Менская акруга | | Віцебская акруга | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Абсалют. лічбы | У проц. | Абсалют. лічбы | У проц. |
| Абсьледвана ўсяго кароў . . . . . . . . . . | | 2752 | 100 | 3542 | 100 |
| У тым ліку | Мясцовай жыв. вагі да 20,5 пуд. . . | 1718 | 62,42 | 1683 | 47,52 |
| | „ „ звыш 20,5 „ . . | 338 | 12,28 | 714 | 20,15 |
| | Чырвон. беларус. быдла . . . . . . | 163 | 5,93 | — | — |
| | Мэтысаў . . . . . . . . . . . . . | 533 | 19,37 | 1145 | 32,33 |

Разьмеркаваньне розных груп жывёлы па раёнах, канечна, вельмі няраўнолежна. Каб паказаць гэта прывядзём дадзеныя па найбольш інтэнсыўных і экстэнсыўных раёнах абедзьвюх акруг.

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | Самахвалаўскі | | Чашнікаўскі | | Ліозьнянскі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абсалют. лічбы | у %% | Абсалют. лічбы | у %% | Абсалют. лічбы | у %% | Абсалют. лічбы | у %% |
| Абсьлед. кароў усяго . | 342 | 100 | 1031 | 100 | 493 | 100 | 507 | 100 |
| Жыв. в. да 2,05 п. . . | 299 | 87,45 | 371 | 35,95 | 375 | 76,07 | 128 | 25,24 |
| Звыш 20,5 . в. . | 9 | 2,62 | 202 | 19,69 | 45 | 9,12 | 202 | 39,85 |
| Чырвон. Бел. быдла . | — | — | 163 | 15,71 | — | — | — | — |
| Мэтысныя . . . . . | 34 | 9,93 | 295 | 28,62 | 73 | 14,81 | 177 | 34,91 |

Дадзеныя гэтых табліц паказваюць, што і па велічыні жывой вагі і па колькасьці мэтыснай скаціны Віцебская акруга стаіць значна наперадзе Менскай,—гэта правільна, наогул, для акруг, правільна і для паасобных раёнаў, калі параўнаць раёны адпаведнай ступені інтэнсыўнасьці.

Канечна, каровы, рознастайныя па якасьці, разьмяркоўваюцца нярoўналежна і па розных сацыяльных групах і тут, як і ва ўсіх іншых суадносінах, бядняцкія гаспадаркі знаходзяцца ў найгоршых умовах, як гэта відаць з наступнай таблічкі:

Разьмеркаваньне кароў па асноўных сацыяльных групах гаспадарак у %%

| Акругі і парода / Сац. групы гаспадарак | Менская | | | Віцебская | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мясцовае | Мэтыснае | % кароў групы ад агульнага ліку кароў | Мясцовае | Мэтыснае | % кароў групы ад агульнага ліку кароў |
| Бядняцкая . . . . . . | 87,1 | 12,9 | 23,4 | 79,2 | 20,8 | 24,7 |
| Серадняцкая . . . . . | 81,0 | 19,0 | 53,0 | 74,4 | 25,6 | 57,1 |
| Заможная . . . . . . | 70,5 | 29,5 | 23,5 | 58,4 | 41,6 | 18,2 |
| Усяго па акрузе . | 80 | 20 | — | 72,7 | 27,3 | — |

Дадзеныя гэтай табліцы і папярэдняй па Менскай акрузе амаль дакладна супадаюць, па Віцебскай акрузе маецца адхіленьне (мэтысаў 27,3 і 32,3%).—апошняе тлумачыцца тым, што дадзеныя папярэдняй табліцы вылічаліся з усіх бяз выключэньня індывідуальных картак кароў, а дадзеныя апошняй табліцы—толькі з тых, дзе меліся адзнакі аб прыналежнасьці двара да вызначанай сацыяльнай групы, а таму, што такія адзнакі не ва ўсіх сельсаветах удалося атрымаць, дык частка картак з апрацоўкі ў гэтым выпадку былі выключаны.

Аднак, гэта нявялікае адхіленьне ў лічбах—ніколькі не зьмяняе самага становішча,—і ў тым і ў другім выпадку, Віцебская акруга зьяўляецца больш багатай мэтыснымі каровамі, чым Менская. Дадзеныя 3-й і 6-й графы гэтай табліцы паказваюць, што серадняку належыць больш кароў, чым двум другім сацыяльным групам узятых разам, гэтым лішні раз падкрэсьліваецца, што серадняк сапраўды зьяўляецца цэнтральнай фігурай ў вёсцы. Група заможных у Віцебскай акрузе мае некалькі меншую ўдзельную вагу, чым у Менскай акрузе, на што мы зварочвалі ўвагу і раней.

Розьніца між бядняцкімі і заможнымі гаспадаркамі, па %% належачых тым і другім мэтысных кароў, выразьней вызначана ў Менскай акрузе, чым у Віцебскай,—так, у апошняй беднякам належыць палова кароў ад ліку кароў заможнай групы,—у Менскай акрузе, некалькі менш паловы (20,8 і 41,6 супроць 12,9 і 29,5%%). Раней, з таблічкі мы бачылі, у якой ступені заможная група больш забясьпечана каровамі, чым група серадняцкая і бедняцкая,— у дадатак да гэтага прыведзеная табліца паказвае, ў якой ступені стада заможных гаспадарак вышэй па якасьці, чым стада іншых груп. Апошняя акалічнасьць, вядома, ня можа ня мець уплыву на павышэньне таварнасьці малочнай гаспадаркі замож-

най групы, як мае уплыў у тым-жа напрамку і яе большая забясьпечанасьць жывёлай.

**Таварнасьць буйнай рагатай жывёлы ў сялянскіх гаспадарках** З дадзеных папярэдняга разьдзелу, мы бачым, што ў Віцебскай акрузе ўдоі кароў вышэйшыя, чым у Менскай акрузе.

З другога боку раней мы бачылі (стар. 24) што і колькасьць буйнай рагатай жывёлы на 100 чалавек насельніцтва ў Віцебскай акрузе вышэйшая, чым у Менскай. У сувязі з гэтым і колькасьць малака, належачая на 1 душу насельніцтва, павінна быць у Віцебскай акрузе большая. Так яна фактычна і ёсьць, што можна ўбачыць з наступнай табліцы.

На 1 душу сельскага насельніцтва прыпадае малака (у літр.)

| Раёны Менскай акр. | Літр. | Раёны Віцебскай акр. | Літр |
|---|---|---|---|
| Бягомльскі | 286,6 | Віцебскі | 584,6 |
| Бярэзінскі | 306,4 | Азярышанскі | 501,2 |
| Капыльскі | 441,1 | Чашнікаўскі | 213,5 |
| Самахвалаўскі | 571,3 | Высачанскі | 719,4 |
| Смалявіцкі | 284,8 | Сураскі | 620,6 |
| | | Ліозьнянскі | 1223,9 |
| У сярэднім па акр. | 407,8 | | |
| | | У сярэднім па акр. | 600,2 |

Адгэтуль ужо відаць, што і таварнасьць малочнага жывёлаводтва ў Віцебскай акрузе павінна быць большай, чым у Менскай акрузе. Апошняе і замацоўваецца (хаця розьніца і невялікая) дадзенымі аб продажу малочных прадуктаў у сялянскіх гаспадарках розных раёнаў, як гэта відаць з табліцы на стар. 50.

Пры параённым разглядзе мы маем, што ў Менскай акрузе па ступені таварнасьці малочнае гаспадаркі асабліва вызначаецца, чаго трэба было і спадзявацца, раён Самахвалаўскі, а на апошнім стаяць раёны: Бягомльскі і Смалявіцкі. Па Віцебскай акрузе на першым месцы знаходзіцца раён Ліозьнянскі, а на апошнім Чашнікаўскі,—у якім таварнасьць малочнай гаспадаркі роўна, уласна, зэро. Пахожа да таго, як Віцебская акруга па таварнасьці малочнай гаспадаркі стаіць вышэй ад Менскай акругі, таксама і Ліозьнянскі раён стаіць вышэй Самахвалаўскага (90, 99 супроць 52, 66 руб.).

У сацыяльным разрэзе малюнак маем звычайны—таварнасьць гаспадаркі ўзрастае ад бядняцкіх груп да серадняцкіх і заможных, але гэта будзе правільна толькі ў сярэднім, па асобных-жа раёнах часта сустракаюцца адхіленьні,—так ў раёне Смалявіцкім і Сураскім бядняцкія гаспадаркі больш таварныя, чым серадняцкія, а ў Азярышчанскім раёне яны, нават больш таварны, чым гаспадаркі заможныя, але абсалютныя лічбы тут зусім нязначны.

Высокая таварнасьць заможных гаспадарак тлумачыцца вядома, ня толькі тым, што ў іх на 100 душ насельніцтва прыпадае больш кароў, але і тым, што ў іх на адзінку сельска-гаспадарчай плошчы належыць менш кароў, чым у гаспадарках іншых сацыяльных груп, а таму ў іх каровы атрымоўваюць больш (адносна), грубага корму; акрамя таго, як убачым ніжэй, яны і пакупных—моцных кармоў атрымоўваюць больш; калі да гэтага дабавіць большы процант цёплых абораў у заможных гаспадарках, а таксама лепшы завадзкі склад іх стада, дык прычыны вышэйшай таварнасьці заможных гаспадарак будуць зразумелымі.

Прыведзеная табліца цікава яшчэ і ў тых адносінах, што яна паказвае характар, альбо напрамак малочнай гаспадаркі, так у сярэднім

## Гадавы прыбытак сялянскай гаспадаркі ад малочных прадуктаў (у руб.).

**М Е Н С К А Я   А К Р У Г А**[1]

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк. | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядн. | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| За малако | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 0,96 | 2,67 | 0,94 |
| Масло | 0,82 | 0,37 | 6,25 | 1,06 | 0,91 | 1,81 | 35,95 | 7,91 | 0,64 | 1,91 | 22,00 | 4,16 |
| Іншыя малочн. выраб. | — | — | — | — | 0,09 | 0,08 | 5,41 | 1,09 | 0,05 | 0,18 | — | 0,13 |
| Усяго | 0,82 | 0,37 | 6,25 | 1,06 | 1,00 | 1,89 | 41,36 | 9,00 | 0,69 | 3,05 | 24,67 | 5,23 |

| РАЁНЫ | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. група | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| За малако | 14,59 | 43,83 | 74,10 | 36,27 | — | 0,04 | 1,92 | 0,22 | 11,99 | 17,89 | 79,46 | 24,25 |
| Масло | 1,08 | 6,10 | 37,10 | 8,81 | 3,07 | 0,81 | 2,46 | 1,73 | 0,73 | 1,24 | 55,98 | 3,42 |
| Іншыя малочн. выраб | 2,93 | 4,60 | 28,36 | 7,58 | 0,03 | 0,15 | 0,31 | 0,13 | 0,33 | 0,53 | 4,04 | 0,94 |
| Усяго | 18,60 | 54,53 | 139.56 | 52,66 | 3,10 | 1,00 | 4,69 | 2,08 | 16,05 | 19,75 | 139,48 | 28,51 |

**В І Ц Е Б С К А Я   А К Р У Г А**

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашніцкі | | | | Высачанскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыял. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк. | серадн. | зам ож. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| За малако | 18,26 | 25,53 | 64,77 | 27,86 | 0,24 | 0,71 | 0,86 | 0,55 | — | — | — | — | 11,75 | 25,31 | 57,82 | 27,71 |
| Масло | 1,24 | 3,20 | 7,45 | 3,08 | 0,87 | 1,90 | — | 2,0 | 0,12 | 0,10 | — | 0,11 | 2,96 | 18,99 | 42,04 | 18,69 |
| Іншыя мал. выр. | 3,78 | 3,58 | 7,92 | 4,16 | — | 2,05 | — | 1,28 | — | — | — | — | 0,17 | 0,10 | 1,76 | 0,49 |
| Усяго | 23,38 | 32,31 | 80,14 | 35,10 | 1,11 | 4,66 | 0,86 | 3,83 | 0,12 | 0,10 | — | 0,11 | 14,88 | 44,40 | 101,62 | 46,86 |

| РАЁНЫ | Сураскі | | | | Лёзьнянскі | | | | Усярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| За малако | 0,93 | 1,77 | 1.58 | 1,55 | 5,00 | 7,68 | 11,94 | 8,09 | 6,03 | 10,17 | 22,83 | 10,96 |
| Масло | 3,50 | — | 20,58 | 5,0 | 18,90 | 63,02 | 184,67 | 82,90 | 4,60 | 14,53 | 63,70 | 18,60 |
| Іншыя малочн. выраб. | 0,56 | 0,01 | 0,21 | 0,16 | — | — | — | — | 0,75 | 0,96 | 1,65 | 1,01 |
| Усяго | 4,99 | 1,78 | 22,37 | 6,71 | 23,90 | 70,70 | 196,61 | 90,99 | 11,38 | 25,66 | 88,18 | 30,57 |

[1]) У гэтай табліцы, так сама як і ў іншых, у сярэднія лічбы па Менскай акрузе ходзяць і лічбы па раёнах: Барысаўскаму, Заслаўскаму, Койданаўскаму, Пухавіцкаму і Сьмілавіцкаму, якія лічбы параённа не прыводзяцца.

У гэтай табліцы, таксама як і ў табліцах: на стар, 51, 53 і 55,—сярэднія лічбы па Менскай акрузе мы лічым некалькі пераўвялічанымі данымі Заслаўскага раёну.

па Менскай акрузе, малако пераважна збываецца, як такое (па каштоўнасьці збыт малака амаль у 6 раз большы ад збыту іншых малочных прадуктаў). Па Віцебскай акрузе каштоўнасьць усіх „іншых“ малочных прадуктаў (масла, сыр і інш.) амаль удвайне большая каштоўнасьці малака. Толькі Віцебскі раён, як блізкі да вялікага гораду, зьяўляецца выключэньнем з другіх раёнаў Віцебскай акругі і набліжаецца ў гэтых адносінах да Самахвалаўскага раёну. Па Віцебскай акрузе характар, агульны па акрузе, вызначаецца, галоўным чынам, раёнам Ліозьнянскім, падобна да таго, як па Менскай акрузе раёнам Самахвалаўскім і Заслаўскім. Раёны, якія знаходзяцца далёка ад буйнейшых цэнтраў, зразумела, аднолькова як па Менскай, так і па Віцебскай акругах збываюць малако толькі ў пераапрацоўным выглядзе, пры чым усюды (апрача Віцебскага раёну) малако пераапрацоўваецца пераважна ў масла. У раёне Ліозьнянскім каштоўнасьць масла ў 10 раз перавышае каштоўнасьць прадаваемага малака, пры чым акрамя масла ніякіх малочных прадуктаў не выпрацоўваецца, гэта, менавіта, і ёсьць раён тыпова-масляны, чаго нельга сказаць аб раёне Самахвалаўскім.

Для дакладнага ўяўленьня буйнага рагатага жывёлаводзтва набывае вельмі важнае значэньне стасунак між даходамі малочных і немалочных прадуктаў жывёлаводзтва. Даходы гэтага тыпу характарызуюцца наступнай табліцай:

**Гадавая выручка сялянскіх гаспадарак (у рубл.) за продаж кароў, цялят, іх мяса і скуры.**

МЕНСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. |
| | 5,14 | 14,75 | 2,92 | 10,52 | 7,51 | 16,80 | 35,39 | 16,61 | 11,90 | 10,97 | 20,53 | 12,42 |

| РАЁНЫ | Самахвалавіцкі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэд. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. |
| | 9,61 | 23,62 | 25,71 | 18,08 | 2,54 | 11,0 | 10,38 | 8,16 | 10,92 | 13,75 | 20,27 | 12,47 |

ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашнікаўскі | | | | Высочанскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сяр. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. |
| | 13,47 | 19,54 | 21,89 | 17,87 | 9,23 | 23,66 | 61,29 | 19,73 | 5,27 | 8,83 | — | 6,75 | 9,33 | 21,22 | 53,47 | 24,08 |

| РАЁНЫ | Сураскі | | | | Ліозьнянскі | | | | У сярэд. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэд. |
| | 3,66 | 26,69 | 66,47 | 24,50 | 0,73 | 20,56 | 50,35 | 23,11 | 6,95 | 20,08 | 42,24 | 19,34 |

Супастаўленьне сярэдніх дадзеных і папярэдняй табліцы паказвае, перш-на-перш, што немалочны прыбытак ад буйнага рагатага жывёлаводзтва, займае, параўнальна, вялікае месца ў агульным прыбытку ад жывёлаводзтва, пры чым, па Віцебскай акрузе ён і адносна і абсалютна мае большае значэньне, чым па Менскай акрузе. Сярэдняя цана кароў па абедзьвюх акругах аднолькавая: па Менскай акрузе—76 р. 86 к., па Віцебскай акрузе 76 р. 32 к. Па раёнах вагаецца наступным чынам: у Бягомльскім—51 р, 41 к., Бярэзінскім—47 р. 71 к., Капыльскім—74 р. 38 к., Смалявіцкім—58 р. 32 к., Самахвалаўскім—98 р. 70 к. Па апошняму раёну, дзякуючы значнаму ліку картак, намі зроблены падлікі быдла па іх групах,—на падставе гэтых падлікаў маем наступныя вынікі: мясцовыя каровы вагой да 20,5 пуд.—73 р. 91 к. і вагой больш 20,5 п.—108 р. 87 к., чырвонае беларускае быдла—каля 117 р. 97 к.[1]) і мэтыснае—109 р. 73 к. У раёнах Віцебскай акругі кошт быдла вагаецца так: у Віцебскім раёне—98 р. 88 к., Азярышчанскім—67 р. 80 к., Чашнікаўскім раёне 67 р. 25 к., Высачанскім 84 р. 74 к., Сураскім 67 р., 79 к. Лiозьнянскім 71 р. 45 к. У сярэднім гэты прыбытак і па Менскай і па Віцебскай акрузе значна меншы, чым прыбытак ад малочных прадуктаў, але гэта толькі ў сярэднім, па раёнах-жа доля немалочнага прыбытку значна вагаецца,—у інтэнсыўных малочных раёнах яна менш долі ад прыбытку з малочных прадуктаў, ў экстэнсыўных-жа раёнах, наадварот—больш. Да раёнаў першага тыпу належаць: Самахвалаўскі, Віцебскі, Высачанскі і Лiозьнянскі,—да раёнаў другога тыпу належаць усе іншыя. Першыя раёны мы маем права назваць—малочна-гаспадарчымі раёнамі, усе апошнія трэба было-б акрэсьліць, як раёны з мясным, лепш, з мясна-малочным напрамкам жывёлаводзтва, калі-б гэты „мясны" прыбытак ня быў у агульнай суме прыбытку занадта малым.

З гэтага вынікае, што называць жывёлаводзтва Менскай і Віцебскай акруг—малочным магчыма толькі вельмі ўмоўна,—яно зьяўляецца такім толькі ў выглядзе паакруговых дадзеных, характар якіх вызначаецца 2-3 раёнамі. Зразумела, гэта правільна толькі адносна „статыкі" сялянскай гаспадаркі, адносна „дынамікі" яе—малочна-гаспадарчы напрамак няўхілен.

Разглядаючы па раёнах разьмеркаваньне „немалочных" прадуктаў у сацыяльным разрэзе, мы усюды, (акрамя Бягомльскага раёну) наглядаем узрост ад бядняцкіх гаспадарак да заможных, але ў той час, як ў раёнах Менскай акругі гэты узрост ідзе паступова, у раёнах Віцебскай акругі—ён часта адзначаецца скачкамі,—асабліва гэта кідаецца ў вочы ў раёнах Сураскім і Лiозьнянскім (ад 3,66 да 66,47 р. і ад 0,73 да 50,35 р.). Гэтыя абставіны заставяюць усумніцца, ці маем мы тут сталы штогодны прыбытак ад продажу выбракованай жывёлы, „сверх рэмонт--ного" маладняку і інш.—трэба думаць, што тут маецца не нармальны прыбытак ад прыросту стада, а прыбытак ад скарачэньня самага малочнага стада, г. зн. наяўнае скарачэньне—асноўнага капіталу, што ў групе заможных гаспадарак магчыма (з мэтай зьмяншэньня сельска-гаспадарчага падатку).

Калі дзьве апошнія табліцы даюць прадстаўленьне аб адноснай ролі малочнай і немалочнай частак прыбытку ад буйнай рагатай жывёлы ў бюджэце селяніна, дык табліца, зьмяшчаемая ніжэй, паказвае, як вялік

[1]) Некалькі больш высокая плата за чырв. бел. быдла, параўнальна з платай заналепшаных мясцовых кароў (розьніца у 10 руб.), тлумачыцца, відавочна, тым, што гэтых кароў не так многа (каля 6%) і акрамя тага малако іх некалькі багацей тлустасьцю.

увесь прыбытак ад буйнага рагатага жывёлаводзтва цалкам, параўнальна з агульным прыбыткам ад усіх галін жывёлаводзтва ўзятых разам, іначай кажучы, гэта табліца паказвае ўдзельную вагу прыбытку ад буйнага рагатага жывёлаводзтва ў агульным прыбытку ад жывёлаводзтва.

Стасунак прыбытку ад буйнай рагатай жывёлы да усяго прыбытку ад жывёлагадоўлі (ў руб.)

МЕНСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. |
| Прыбытак ад буйнай рагатай жывёлы | 5,96 | 15,12 | 9,17 | 11,58 | 8,51 | 18,69 | 76,75 | 25,61 | 12,59 | 14,02 | 45,20 | 17,65 |
| Агульны прыбытак ад жывёлагадоўлі | 10,48 | 27,12 | 19,58 | 21,08 | 13,30 | 21,55 | 119,64 | 36,82 | 31,58 | 53,75 | 112,87 | 55,92 |

| РАЁНЫ | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. |
| Прыбытак ад буйнай рагатай жывёлы | 28,21 | 78,15 | 165,36 | 70,74 | 5,64 | 12,00 | 15,07 | 10,24 | 23,97 | 33,46 | 159,75 | 42,98 |
| Агульны прыбытак ад жывёлагадоўлі | 41,11 | 99,37 | 209,50 | 92,02 | 11,35 | 22,94 | 58,46 | 22,83 | 30,42 | 48,45 | 182,91 | 56,10 |

ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашнікаўскі | | | | Высачанскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыял. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. |
| Прыбытак ад буйнай раг. жывёлы | 36,75 | 51,85 | 102,03 | 52,87 | 10,34 | 28,32 | 551,58 | 37,44 | 5,39 | 8,93 | — | 6,86 | 24,21 | 5,62 | 155,09 | 70,94 |
| Агульны прыб. ад жывёлагад. | 52,16 | 54,55 | 133,62 | 63,18 | 14,31 | 36,55 | 551,58 | 43,94 | 11,20 | 15,28 | — | 13,08 | 29,87 | 72,25 | 176,51 | 80,28 |

| РАЁНЫ | Сураскі | | | | Лёзьнянскі | | | | У сяр. па акр. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяр. |
| Прыбытак ад буйнай рагатай жывёлы | 8,65 | 28,47 | 88,84 | 28,81 | 24,63 | 91,26 | 246,96 | 114,10 | 18,33 | 45,74 | 190,75 | 51,85 |
| Агульны прыбытак ад жывёлагадоўлі | 12,32 | 30,68 | 94,37 | 31,66 | 25,47 | 91,26 | 246,96 | 114,31 | 24,22 | 50,09 | 200,50 | 57,74 |

Параўнаньне адпаведных дадзеных па Менскай і Віцебскай акругах паказвае, што удзельная вага прыбытку ад буйнай рагатай жывёлы параўнальна з прыбыткам ад ўсёй жывёлагадоўлі на Менскай акрузе меншая, чым па Віцебскай акрузе (42,98 : 56,10 і 51,85 : 57,74). Пры параёнными параўнаньні дадзеных, атрымоўваецца ўражаньне, што адпаведна з узростам інтэнсыўнага малочнага жывёлаводзтва, роля іншых галін жывёлагадоўлі зьмяншаецца ў гаспадарцы селяніна, асабліва выразна гэта прыкметна па раёнах Віцебскай акругі, на падставе чаго і высьвятляецца тэндэнцыя ў разьвіцьці жывёлагадоўлі розных раёнаў, так у Чашнікаўскім раёне малочны прыбытак складае 50% прыбытку ад усей жывёлагадоўлі, а ў Лёзьнянскім раёне—100%.

Дадзеныя па акругах, а ў Віцебскай акрузе і па раёнах паказваюць, што ўсё „іншыя" галіны жывёлагадоўлі ў бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарках набываюць большую ролю, чым у гаспадарках заможных у справе прынясеньня прыбытку селяніну. У апошніх, гэта значыць, у заможных гаспадарках жывёлагадоўля набывае, выходзіць—больш малочна-гаспадарчы ухіл, (выключэньне раён Смалявіцкі). Гэта, зразумела, правільна толькі ў адносінах да рынкавай часткі жывёлаводзтва, а калі-ж узяць гэтую галіну цалком, г. зн. і вытворчую частку яе, дык стасункі атрымаем пэўна іншыя. І тут, мабыць, неабходна адзначыць тое, што мы, у сувязі з іншымі пытаньнямі, не раз адзначалі раней, а менавіта:—што гаспадарка заможнага селяніна з Бягомльскага раёну каштуе па суме атрымоўваемага ад жывёлагадоўлі прыбытку менш, чым бядняцкая гаспадарка Самахвалаўскага раёну.

Для таго каб вызначыць ступень прыбыткоўнасьці жывёлагадоўлі, неабходна супаставіць усю суму прыбытку ад яго з такой жа сумай выдаткаў. Па двух вышэйшых артыкулах выдаткаў на корм і панаўленьне стада,—дадзеныя ў нас маюцца, што магчыма ўбачыць з наступнай табліцы на стар. 55.

Аднак-жа перш-на-перш неабходна адзначыць,, што гэта табліца ня можа даць нам дакладнага ўяўленьня аб выдатках па жывёлагадоўлі, таму што выдаткі па графе першай, г. зн. на зерно і муку—у большай частцы выклікаюцца патрабаваньнямі самой сям'і, а не жывёлай, для апошняй дастаецца ледзь частка зернавых, (напрыклад авёс для каня ў час воркі) і частка мукі (напрыклад пры выгадаваньні цяляці альбо парасят у першы пэрыяд іх жыцьця)—па гэтаму пры вылічэньні выдаткаў на жывёлагадоўлю мы гэтую графу зусім ня будзем браць пад увагу, але за тое, пры ацэнцы падсумаваных лічб будзем мець на увазе, што выдаткі намі бяруцца некалькі паменшанымі.

Прыняць гэтую папраўку, г. зн. бяручы пад увагу выдаткі толькі па другой, трэцяй і чацьвертай графах і супастаўляючы падсумаваныя дадзеныя па акругах гэтай табліцы з папярэдняй, мы знойдзем, што па Менскай акрузе ступень грашовай прыбыткоўнасьці жывёлагадоўлі (прыбыткі—выдаткі) па сацыяльных групах вагаецца наступным чынам: для бядняцкіх гаспадарак—6 р. 74 к. для серадняцкіх +5 р. 28 к. і для заможных +78 р. 75 к., а ў сярэднім па акрузе +0, р. 71 к,. Па Віцебскай акрузе адпаведныя дадзеныя наступныя:—1 р. 70 к., +17 р. 80 к., +144 р. 61 к. а ў сярэднім па акрузе на адну гаспадарку +23 р. 40 к., адсюль вынікае, што па Віцебскай акрузе грашовы прыбытак ад жывёлагадоўлі значна вышэйшы, чым па Менскай акрузе. Гэта розьніца зусім адпавядае дадзеным табліцы на старонцы 49, якая характарызуе колькасьць малака выпадаючага на 1-го чалавека ў сельскай гаспадарцы, а таксама дадзеным табліцы на старонцы 33, адзначаючай меншы выда-

## Сялянская гаспадарка купляе ў год (ў руб.)

### МЕНСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бедняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | беднях | серадг. | заможн. | у сярэд. | беднях | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| Збожжавых і мукі . | 38,92 | 30,88 | 22,33 | 32,70 | 46,92 | 46,54 | 31,04 | 43,76 | 20,62 | 9,64 | 6,73 | 11,99 |
| Макухі і вотрубей . | 0,53 | 0,37 | 0,37 | 0,42 | 1,53 | 3,11 | 1,98 | 2,27 | 1,37 | 3,70 | 0,74 | 2,75 |
| Сена і саломы . . | 10,46 | 13,21 | 17,0 | 12,67 | 14,78 | 10,49 | 8,88 | 11,30 | 11,04 | 10,62 | 6,47 | 10,19 |
| Жывёлы ўсіх відаў . | 10,36 | 25,89 | 45,54 | 22,66 | 17,38 | 33,25 | 24,04 | 25,12 | 30,38 | 14,75 | 1,67 | 16,95 |
| (Утым ліку буйнай рагат.) | 2,26 | 10,61 | 26,38 | 9,36 | 6,34 | 7,98 | 0,70 | 5,88 | 3,97 | 3,68 | — | 3,77 |

| РАЁНЫ | Самахвалавіцкі | | | | Смалявіцкі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | беднях | серадн. | заможн. | у сярэд. | беднях | серадн. | заможн. | у сярэд. | беднях | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| Збожжавых і мукі . | 24,70 | 25,63 | 19,65 | 24,32 | 44,78 | 30,54 | 16,17 | 33,71 | 38,04 | 27,55 | 30,58 | 32,54 |
| Макухі і вотрубей . | 11,66 | 33,42 | 69,78 | 29,94 | 1,81 | 1,99 | 2,31 | 1,97 | 10,35 | 11,58 | 50,21 | 18,17 |
| Сена і саломы . . . | 11,53 | 14,91 | 11,59 | 12,98 | 8,61 | 3,10 | 4,46 | 5,05 | 14,90 | 11,44 | 11,95 | 14,35 |
| Жывёлы ўсіх відаў . | 16,43 | 24,86 | 33,31 | 22,64 | 16,88 | 24,04 | 25,15 | 21,80 | 16,91 | 20,15 | 42,0 | 22,87 |
| (У тым ліку буйн. рагатай) | 8,94 | 14,35 | 21,19 | 13,15 | 2,98 | 13.28 | 0,92 | 8,61 | 7,63 | 9,19 | 31,0 | 12,35 |

### ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА

| РАЁНЫ | Віцебскі | | | | Азярышчанскі | | | | Чашнікаўскі | | | | Высачанскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| Збожжав. і мукі | 39,06 | 30,94 | 28,30 | 33,23 | 56,50 | 51,85 | 12,10 | 52,30 | 23,39 | 14,71 | 18,75 | 18,80 | 61,77 | 39,68 | 38,01 | 46,22 |
| Макухі і вотруб. | 6,41 | 6,01 | 8,79 | 6,47 | 0,36 | 1,89 | 18,57 | 1,85 | — | — | — | — | 3,03 | 15,37 | 25,59 | 14,26 |
| Сена і саломы | 9,79 | 8,86 | 6,94 | 8,93 | 11,92 | 14,03 | 13,57 | 13,28 | 10,22 | 6,63 | 19,00 | 8,54 | 10,17 | 14,28 | 19,56 | 14,34 |
| Жывелы ўсіх від. | 12,92 | 13,20 | 25,77 | 14,61 | 20,70 | 13,25 | 13,57 | 15,86 | 12,31 | 8,76 | 6,25 | 10,35 | 11,74 | 11,15 | 29,79 | 15,13 |
| (у тым ліку буйнай рагат.) | 10,52 | 12,12 | 15,49 | 12,01 | 13,23 | 7,41 | 13,57 | 9,62 | 10,73 | 7,39 | — | 8,78 | 4,35 | 2,33 | 20,41 | 6,70 |

| РАЁНЫ | Сураскі | | | | Ліозьнянскі | | | | Па ўсей акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сац. групы | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. | бядняк | серадн. | заможн. | у сяэдр. | бядняк | серадн. | заможн. | у сярэд. |
| Зернавых і мукі . . | 39,86 | 15,33 | 21,13 | 21,76 | 11,32 | 9,21 | 21,86 | 12,99 | 38,65 | 26,95 | 23,36 | 30,88 |
| Макухі і вотрубей . | 0,41 | 2,50 | 24,00 | 3,83 | 11,19 | 29,11 | 62,34 | 33,03 | 3,57 | 9,15 | 23,22 | 9,91 |
| Сена і саломы . . . | 10,55 | 11,18 | 25,91 | 12,28 | 8,30 | 18,45 | 11,27 | 14,01 | 10,16 | 12,33 | 16,04 | 11,89 |
| Жывёлы ўсіх відаў . | 13,48 | 12,75 | 12,37 | 12,90 | 2,00 | 5,68 | 12,00 | 6,36 | 12,19 | 10,80 | 16,63 | 12,51 |
| (у тым ліку буйнай рагат.) | 6,33 | 10,21 | 7,11 | 9,00 | 2,00 | 5,68 | 8,00 | 5,33 | 7,86 | 7,52 | 10,76 | 8,57 |

так моцных кармоў у гаспадарцы па Віцебскай акрузе, параўнальна з адпаведнымі гаспадаркамі па Менскай акрузе[1]).

Як відаць з гэтых дадзеных, грашовы прыбытак ад жывёлагадоўлі з аднэй гаспадаркі, у сярэднім нязначны, асабліва калі узяць пад увагу, што выдаткі на корм намі некалькі паменшаны. Больш-менш адчувальную вялічыню ён дае толькі ў заможных гаспадарак. Адсюль, вядома, нельга зрабіць выніку, што селяніну займацца жывёлагадоўляй не карысна: прадукцыя жывёлагадоўлі ідзе на задавальненьне запатрабаваньняў сям'і (малако, мяса, воўна) і на патрэбы земляробства (гной, рабочая сіла),—нажаль падлічыць гэтыя спажывецкія і вытворчыя выдаткі прадуктаў жывёлагадоўлі пры нашым спосабе абсьледваньня немагчыма,—для гэтага неабходны бюджэтны запіс. Па гэтаму і дадзеныя дзьвюх апошніх нашых табліц маюць толькі адноснае значэньне, — іх дастаткова толькі для параўнаньня рынкавай долі прыбытку ад жывёлагадоўлі розных сацыяльных груп і па розных раёнах. Параённыя параўнаньні іх паказваюць: па Менскай акрузе ў Бягомльскім раёне ў сярэднім на адну гаспадарку грашовыя выдаткі на жывёлагадоўлю цалкам перавышаюць грашовыя прыбыткі ад яе на 14 руб. 67 кап. У найбольш інтэнсыўным Самахвалаўскім раёне наадварот—прыбыткі перавышаюць выдаткі на 26 руб. 46 кап. Такі-ж стасунак мы маем і па Віцебскай акрузе; у Чашнікаўскім раёне выдатак большы ад прыбытку на 5 руб. 81 кап., а ў Ліозьнянскім раёне наадварот—у сярэднім на гаспадарку прыбыткі больш выдаткаў на 60 руб. 91 кап. Вельмі цікава, што ў Бягомльскім раёне, нават у заможных гаспадарках, жывёлагадоўля дае ўбытак (у прынятым намі ўмоўным значэньні) і ўбытак досыць значны—43 руб. 33 кап., тады як ў інтэнсыўным Самахвалаўскім раёне, нават у бядняцкіх гаспадарак, яна павінна лічыцца неўбытачнай (дае плюс у 1 руб. 49 кап.) Па Віцебскай акрузе між экстэнсыўнымі і інтэнсыўнымі ў малочна-гаспадарчых адносінах раёнах розьніца ў агульным—аднолькавая: па Чашнікаўскаму раёну ў серадняцкай гаспадарцы грашовыя выдаткі па жывёлагадоўлі кампэнсуюцца грашовым прыбыткам ад яе (15 руб. 39 кап. і 15 руб. 28 кап.) у Ліозьнянскім раёне і бядняцкая гаспадарка дае, хаця і нязначны, прыбытак (25 руб. 47 кап. супроць 21 руб. 49 кап.).

Па акругах розьніца ў прыбытковасьці малочнага жывёлаводзтва між бядняцкімі і заможнымі групамі гаспадарак большая па Віцебскай акрузе, чым па Менскай, на якую розьніцу, ужо было адзначана раней.

Разгледжаная намі табліца зьяўляецца дадаткам да табліцы на старонцы 33, калі апошняя паказвае, колькі корму наогул даецца ў гаспадарцы жывёле, дык з першай відаць, якая частка гэтага корму купляецца. Улічыць гэтую акалічнасьць неабходна таму, што ёю у значнай меры характарызуецца становішча набыцьця корму. З падсумаваных па акругах дадзеных відаць, што па Менскай акрузе і моцнага і грубага корму купляецца больш, чым па Віцебскай акрузе, якая мае вялікія запасы сена. Параённыя дадзеныя паказваюць, што ў агульным раёны з высока-разьвітым малочным жывёлаводзтвам купляюць і моцнага і грубага корму больш, чым раёны са слаба разьвітым малочным жывёлаводзтвам; так у Бягомльскім раёне сярэдняя сума выдаткаў на гэтыя кармы роўна 13 руб. 9 кап., а ў Самахвалаўскім раёне 42 руб. 92 кап. У такіх жа стасунках знаходзяцца раёны Чашнікаўскі (пакупка корму на 8 руб. 54 кап.) і Ліозьнянскі раён (пакупка—на 47 руб. 4 кап.), аднакжа з гэтага палажэньня могуць быць і выключэньні,—так сума выдаткоўваемая сярэдняй гаспадаркай на пакупку корму некалькі большая ў Сураскім раёне параўнальна з раёнам Віцебскім, хаця малочнае жывё-

[1]) У табліцы на стар. 33, у графе: „у сярэдн." па Віц. акрузе, апошнія дзьве лічбы лічыць: 9,13 і 30,4.

лаводзтва вышэй (параўнальна) ў апошнім, гэта акалічнасьць павінна адзначаць тое, што пытаньне аб набыцьці корму ў Сураскім раёне стаіць асабліва востра.

Далей выяўляем, што далёка не заўсёды бядняцкія гаспадаркі выдаткоўваюць на покупку корму меньш, чым гаспадаркі больш моцных груп, хаця апошнія і маюць больш скаціны і яна ў іх больш удойлівая, г. зн. больш патрабуе моцнага корму. Так па Менскай акрузе, нават у сярэднім па акрузе бядняцкія гаспадаркі выдаткоўваюць на пакупку корму 25 р. 25 к., між тым як серадняцкія гаспадаркі—23 р. 02 к. Па раёнах розьніца можа быць і больш выразная,—так, бядняцкія гаспадаркі ў Чашнікаўскім раёне выдаткоўваюць на 10 руб. 22 к., а серадняцкія на 6 р. 63 к. Маюцца раёны (Капыльскі і Смалявіцкі), дзе бядняцкія гаспадаркі выдаткоуваюць на пакупку корму больш, чым гаспадаркі заможнай групы (12 р. 41 к. супроць 7 р. 21 к. і 10 р. 42 к. супроць 6 р. 77 к.). З гэтай акалічнасьці вынікае, што на крэдытаваньне бядняцкіх гаспадарак дзеля пакупкі моцных кармоў (асабліва ў азначаных раёнах) павінна быць зьвярнута вельмі сур'ёзная ўвага,—у гэтым крэдытаваньні адчуваецца, мабыць, вялікае запатрабаваньне.

Разгледжваемая табліца цікава яшчэ ў адных адносінах: дзьве апошнія графы яе характарызуюць пабочным чынам панаўленьне стада У сярэднім па Менскай акрузе жывёла ўсіх відаў у тым ліку і буйная рагатая купляецца ў большай колькасьці, чым па Віцебскай акрузе—г. зн. што выхаваньне панаўляючага маладняку ва ўласнай гаспадарцы практыкуецца часьцей па Віцебскай акрузе, чым па Менскай акрузе,—што, відочна, тлумачыцца тым, што выгадаваньне маладняку па Віцебскай акрузе каштуе дзешавей, чым па Менскай акрузе (больш сена).

Між інтэнсыўнымі і экстэнсыўнымі ў адносінах жывёлагадоўлі раёнах, розьніца па гэтай адзнацы мала прыкметна, асабліва па Менскай акрузе. Розьніца паміж гаспадаркамі розных сацыяльных груп у агульных рысах вызначаецца ў тым, што заможныя гаспадаркі больш купляюць жывёлы, чым—серадняцкія і бядняцкія гаспадаркі, але гэта палажэньне ў розных раёнах мае вельмі часта адхіленьні;—па сутнасьці ў малочнагаспадарчых раёнах выгадаваньне маладняку павінна быць аднолькава некарысным для гаспадарак усіх катэгорый, але заможныя гаспадаркі, як гаспадаркі з вялікім вольным капіталам, натуральна, часьцей могуць звольніць сябе ад гэтых выдаткаў, чым гаспадаркі эканамічна менш моцныя.

Неабходна яшчэ адзначыць, што адносная доля выдаткаў на пакупку буйнай рагатай жывёлы параўнальна з агульнымі выдаткамі на пакупку жывёлы па ўсіх групах гаспадарак значна большая па Віцебскай акрузе, чым па Менскай акрузе, хаця абсалютная лічба гэтага выдатку большая ў апошняй. Гэта акалічнасьць узноў такі гаворыць аб тым, што малочна-гаспадарчы ўхіл жывёлагадоўлі мацней вызначаны па Віцебскай акрузе ў працівалегласьць сьвінаводнаму ўхілу, больш вызначанаму па Менскай акрузе, аб чым у свой час мы гаварылі.

У зьвязку з тым, што сьвінагадоўля ва ўмовах БССР наогул, і ва ўмовах вывучаемых намі акруг у прыватнасьці,—зьяўляецца галінай канкуруючай з буйным рагатым жывёлаводзтвам,—было-б вельмі цікавым больш падрабязна вывучыць суадносіны гэтых галін жывёлагадоўлі і іх параўнальную прыбыткоўнасьць. Нажаль, па гэтаму пытаньню мы ня маем іншых дадзеных, акрамя тых, якія зьмешчаны намі ў табліцы на старонцы 22. Гэтыя дадзеныя паказваюць, што сьвінагадоўля ў Менскай акрузе адносна больш разьвіта, чым у Віцебскай акрузе, але ступень інтэнсыўнасьці яе большая ў Віцебскай акрузе,

дзе лік дарослых сьвіней складае толькі ледзь каля $^{1}/_{3}$ ліку маладняку, у той час, як у Менскай акрузе лік дарослых сьвіней складае больш паловы ад ліку маладняку. Па гэтаму бяручы пад увагу, што ў Менскай акрузе маецца большая колькасьць сьвіней, прыпадаючая на адну гаспадарку, на 100 душ насельніцтва і на 100 дзесяц. ворнай зямлі і што сьвіньні ў гэтай акрузе ў сярэднім больш старэйшага ўзросту (а значыць больш моцныя) мы думаем, што і грашовая выручка ад сьвінагадоўлі і(але не прыбыткоўнасьць) у Менскай акрузе павінна быць вышэйшая, чым у Віцебскай акрузе. Больш дэталёвага высьвятленьня гэтага пытаньня, якое тут было дадзена, трэба чакаць ад спэцыяльнага абсьледваньня сьвінагадоўлі.

Нажаль мы ня можам таксама ўстанавіць і суадносіны прыбыткоўнасьці між часткамі расьлінаводнай і жывёлаводнай ў сельскай гаспадарцы. У паселішчным блянку мы мелі дастаткова поўны шэраг пытаньняў датычных прыбыткоўнасьці расьлінаводзтва (колькасьць праданых прадуктаў) але гэтыя весткі не правяраліся кантрольнымі пытаньнямі іншых картак, як гэта было адносна пытаньня жывёлагадоўлі, чаму тут і ня могуць быць дадзены неабходныя карэктывы,—сяляне, як агульнае правіла, значна зьмяншалі прыбыткоўнасьць—у выніку—прыбыткоўнасьць ад расьлінаводных галін атрымалася паменшанай у большай меры, чым прыбыткоўнасьць галін жывёлагадоўлі, а таму і ад параўнаньня іх прышлося адмовіцца.

**Каапэраванасьць сялянскіх гаспадарак.** Пытаньні куплі і прадажу, прыбыткаў і выдаткаў мімавольна прыводзяць нас да пытаньняў рынку і каапэрацыі. Арганізаванасьць рынку і разьвіцьцё малочна-гаспадарчай каапэрацыі, ня толькі само па сабе зьяўляецца важным фактарам у разьвіцьці малочнай гаспадаркі, але і зьяўляецца і паказчыкам ступені яе інтэнсыўнасьці. Аб значэньні малочнай каапэрацыі ўжо ў нашых умовах добра зазначыў І. Урачоў: „Савецкая малочная каапэрацыя ў цэлым шэрагу раёнаў уцягвае ў сваю арбіту новыя, яшчэ ніколі ня быўшыя ў каапэрацыі, пласты сялянства, і ў працэсе сваёй дзейнасьці дапамагае слаба-моцным гаспадаркам выйсьці на дарогу рынкавай гаспадаркі. Асабліва вялікае значэньне набывае разьвіцьцё малочнай каапэрацыі ў новых раёнах, г. зн. у такіх раёнах, дзе перш ня было таварных лішкаў сялянскага малака. У такіх раёнах малочнае таварыства, маслярныя, альбо сыраварныя арцелі зьяўляюцца сапраўдным арганізатарам, лепш кажучы рэарганізатарам сельскае гаспадаркі. Гаспадарка з аднэй каровай, уступаючы ў малочны каапэратыў, спачатку здае малако за лік скарочаньня, альбо поўнага адмаўленьня ад скарыстаньня яго ў сваёй сям'і, а ў далейшым такая гаспадарка пры дапамозе гэтай арцелі набывае другую карову. Калі-ж да гэтага існуе,—што заўсёды і бывае, разьмеркаваньне культуры кораньплодаў, забясьпечаньне цёплымі аборамі, увага да ўходу і ўтрыманьня жывёлы і ўрэшце аддаваць на корм макуху і асёўкі, тады такая гаспадарка з двума каровамі пачынае набліжацца да тыпу таварных гаспадарак[1])".

Да паказаных шляхоў уплыву малочнай каапэрацыі на сялянскую гаспадарку ў нашых беларускіх умовах неабходна яшчэ дадаць і ўрэгуляваньне парадку разьвядзеньня скаціны шляхам заснаваньня таварыстваў жывёлагадоўлі, прыпускных пунктаў і іншае.

У выніку надзвычайна важнага значэньня ў справе жывёлаводзтва, малочнай каапэрацыі,—пытаньне аб ёй мы павінны разглядзець падра-

---

[1]) И. Врачев. „Малочное хозяйство и кооперация" стр. 64-65.

бязна. Але у той час мы ня можым абмежавацца разглядам аднэй толькі малочнэй каапэрацыі, таму што ў адносінах да жывёлаводзтва важны ўсе віды яе: *спажывецкая* каапэрацыя дае насельніцтву некаторую частку моцных кармоў (макуха, асеўкі, субарную муку і інш.), *крэдытная* забясьпечвае час ад часу селяніна зваротнымі сродкамі для пакупкі моцных кармоў і новай скаціны; *мэліарацыйная*—шляхам арганізацыі мэліарацыйных прац (абсушка балот і інш.) вядзе да пашырэньня плошчы і паляпшэньня прыродных кармавых угодзьдзяў. У інтарэсах жывёлаводзтва магчыма большае разьвіцьцё усіх гэтых відаў каапэрацыі. Пагэтаму пры запаўненьні падворнага блянку мы і рэгістравалі ўдзел сялянскага двара ў кожным з гэтых відаў каапэрацыі. Вынікі гэтай працы і даюцца ў наступнай табліцы

Са 100 абсьледваных двароў лічацца сябрамі каапэрацыі (у $^0/_0{}^0/_0$).

| Акругі: | Менская | | | | Віцебская | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльн. групы сялян | бядн. | сер. | зям. | у сярэдн. | бядн. | сер. | зам. | у сярэдн. |
| | $^0/_0$ сяброў у каапэрацыі | | | | | | | |
| Спажывецкае . . . . . | 63,8 | 66,9 | 70,1 | 64,16 | 66,1 | 65 | 69,5 | 65,1 |
| С/г. Крэдытн. Т-ва . . . | 36,1 | 31,8 | 30,8 | 32,6 | 41,8 | 30,4 | 33,0 | 34,55 |
| Малочная арцель . . . . | 3,05 | 7,7 | 11,9 | 6,4 | 8,9 | 10,6 | 17,0 | 13,3 |
| Мэліарац. т-ва . . . . . | 1,8 | 5,15 | 3,6 | 4,1 | — | 12,47 | 2,94 | 3,84 |
| Іншыя каапэрац. т-ва . . | 3,99 | 1,96 | 6,08 | 3,26 | 2,56 | 1,48 | 3,32 | 2,23 |

З гэтай табліцы відаць, што спажывецкая каапэрацыя амаль аднолькава разгорнута як у Менскай акрузе, так і ў Віцебскай, тое самае магчыма зазначыць і аб крэдытнай і мэліарацыйнай каапэрацыі. Малочная-ж каапэрацыя, найбольш для нас важная, ў Віцебскай акрузе пашырана ў два разы больш, чым у Менскай. Калі мы зьвернемся да параённых дадзеных (гэтыя дадзеныя тут не прыводзяцца), дык знойдзем, што ў Менскай акр. зусім няма малочнай каапэрацыя—у раёнах Бягомльскім і Бярэзінскім, а ў Віцебскай акрузе яе няма ў Чашнікаўскім раёне. У Менскай акрузе малочная і мэліарацыйная каапэрацыі больш чым у іншых раёнах разгорнуты ў раёне Самахвалаўскім (29,0—10,7$^0/_0$) у Віцебскай акр.—у раёне Высачанскім (43,7—13,8$^0/_0$),—у набольш малочным Ліозьнянскім раёне $^0/_0{}^0/_0$ двароў сяброў малочных арцеляй ровен 12$^0/_0{}^0/_0$, г. зн. ён некалькі ніжэйшы сярэдняга па акрузе. Нельга тлумачыць надзвычайна нізкі $^0/_0$ каапэраванасьці гаспадарак ў ім тым, што ў Ліозьнянскім раёне амаль выключна распаўсюджан хутарскі парадак землякарыстаньня, таму што сьцісла адпаведны парадак землякарыстаньня мы маем і ў Высачанскім раёне. У кожным выпадку гэтыя дадзеныя паказваюць, што ў Ліозьнянскім раёне, зьяўляючымся вельмі цікавым у малочна-гаспадарчых адносінах, неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на разьвіцьцё малочнай каапэрацыі, ёсьць, відавочна, нейкія прычыны, якія затрымоўваюць поўнае тут яе разьвіцьцё. Мясцовыя працаўнікі аграномы і вэтврачы тлумачаць гэта тым, што ў Ліозьнянскім раёне маецца найбольшы

процант гаспадарак латышоў, у каторых даволі часта сустракаюцца сэпаратары, што і дае ім магчымасьць самім апрацоўваць малочную прадукцыю, пры чым іх паслугамі карыстаюцца і суседзі, нямаючыя сэпаратараў.

Аб становішчы малочной каапэрацыі ў Менскай і Віцебскай акругах (у паакруговых лічбах) досыць яскравае ўяўленьне можна атрымаць праз справаздачы Бельсельсаюзу. Нажаль апублікавана ім справаздача толькі 1927 года. Аднак-жа дзякуючы ласкавасьці загадчыка Менаддзяленьня Бельсельсаюзу, мы мелі магчымасьць скарыстаць і дадзеныя за 1928 г., якія ў галоўнейшых рысах і дадаём.

Па ліку малочна-гаспадарчых каапэратываў і па адноснаму прыросту іх першай ідзе Менская акруга, што відаць з наступнага:

Павялічэньне ліку малочных таварыстваў

| | На 1/X—1925 г. | На 1/X—1926 г. | На 1/X—1927 г. | На 1/X—1928 г. | Прырост у % да папяр. году |
|---|---|---|---|---|---|
| У Менскай акрэуе | 6 | 15 | 25 | 42 | 68 |
| У Віцебскай „ | 13 | 9 | 20 | 31 | 55 |

Па ўдзельнай вазе малочнай каапэрацыі ў адносінах да ўсіх відаў сельска-гаспадарчых каапэратыўных аб'яднаньняў і Менская і Віцебская акругі роўні: у Менскай акрузе на 344 усіх відаў каапэратыўных аб'яднаньняў налічваецца 42 малочных таварыствы; у Віцебскай акрузе адпаведныя лічбы будуць 260 і 31,—як у першым так і ў другім выпадку малочна-гаспадарчыя каапэратывы складаюць 12°/⁰ ад ліку ўсіх каапэратыўных аб'яднаньняў. Гэтыя дадзеныя нічога не гавораць аб пераважным месцы малочнай каапэрацыі ў Віцебскай акрузе параўнальна з Менскай, але апошняе будзе больш зразумелым, калі мы зьвернемся да дадзеных аб колькасьці каапэраваных гаспадарак і аб ліку кароў у гэтых гаспадарках.

Лік і прырост каапэраваных гаспадарак і належачых ім кароў.

| | Лік гаспадарак | | | Лік кароў належ. каапэрац. гаспад. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | На 1/X 1927 г. | На 1/X 1928 г. | | На 1/X 1927 г. | На 1/X 1928 г. |
| Менская акруга . . . . | 1153 | 5410 | Абсалют. лічбы . | 3219 | 9072 |
| °/o каапэр. с. гаспадарак | 0,9 | 4,2 | У °/o°/o кароў . . | 1,5 | 4,2 |
| Віцебская акруга . . . . | 3032 | 6413 | Абсалют. лічбы . | 6244 | 11952 |
| °/o каапэр. с. гаспадарак | 3,4 | 7,2 | У °/o°/o кароў . . | 4,3 | 8,2 |

З параўнаньня дадзеных гэтае табліцы і папярэдняй вынікае, што арцельныя аб'яднаньні Віцебскай акругі больш буйныя па ліку аб'яднаемых імі гаспадарак, чым такія-ж аб'яднаньні Менскай акругі так, на 1 малочную арцель у Віцебскай акрузе ў 1928 г. належыла 207 гаспадарак,—у Менскай акрузе—130 гаспадарак, лік кароў на адно каапэраванае аб'еднаньне ў Віцебскай акрузе роўна 385, а ў Менскай акрузе—216. Цікава, што і ў Менскай акр. і ў Віцебскай акрузе мы наглядаем працэс узбуйненьня малочных каапэратываў,—так па дадзеных справаздачы

Белсельсаюзу за 1926—27 г. на адну малочную арцель у Віцебскай акрузе прыпадала 183.9 гаспадарак, а ў Менскай акрузе толькі 55,4 гаспадаркі [1]). Адначасова з працэсам узбуйненьня арцеляй—адбываецца працэс раздрабленьня (у адносінах ліку кароў) сярэдняй гаспадаркі, якая ўваходзіць у склад арцелі, што асабліва прыкметна па ладзеных Менскай акругі:—так, у 1927 годзе на адну гаспадарку ў Менскай акрузе прыпадала 1,95 кароў, а ў 1928 г. 1,67 кар. Гэта адзначае, што ўдзельная вага бядняцкіх гаспадарак у каапэрацыйных аб'яднаньнях зьяўляецца большай. Апошні вынік пацьвярджаецца і непасрэдным вучотам уваходзячых у каапэрацыю гаспадарак па іх эканамічнай моцнасьці. так,— згодна дадзеных Белсельсаюзу ў 1927 годзе ў каапэрацыйныя аб'яднаньні па Віцебскай акрузе ўваходзіла 21% бядняцкіх гаспадарак і па Менскай акрузе—18.7%. А ў 1928 годзе мы мелі ўжо па Віцебскай акрузе 24,3%, а па Менскай 21,5% бядняцкіх гаспадарак. Абодва зазначаныя працэсы—і большае ўцягненьне ў малочную каапэрацыю бядняцкіх гаспадарак і ўзбуйненьне арцеляй магчыма, вразумела, толькі вітаць (з узбуйненьнем арцеляй зьвязана тэхніка лепшай перапрацоўкі малака).

Па дадзеных Белсельсаюзу, сярод каапэраваных гаспадарак і па Менскай і па Віцебскай акругах процант заможных гаспадарак у два разы меншы проценту бядняцкіх.

Нашы дадзеныя, паказаныя ў першай табліцы, зазначаюць адваротны стасунак між бядняцкімі і заможнымі гаспадаркамі. Але тут, зразумела, ніякіх супярэчнасьцяй няма: дадзеныя Белсельсаюзу паказваюць, як і процант з усіх каапэраваных гаспадарак прыпадае на долю гаспадарак бядняцкіх, альбо заможных, — нашы-ж дадзеныя зазначаюць, які процант з усіх беднядкіх гаспадарак, альбо гаспадарак заможных уваходзіць у малочную каапэрацыю. Зразумела, што гэтыя дадзеныя. нельга параўнаць.

Наогул у адносінах каапэраванасьці розных сацыяльных груп насельніцтва неабходна адзначыць, што значэньне спажывецкай і асабліва малочнай каапэрацыі ўзрастае ад бядняцкіх да заможнай групы, — значэньне крэдытнай каапэрацыі наадварот зьмяншаецца, што паказвае правільную, у аснаўным, клясавую палітыку, у справе крэдытнага каапэраваньня сялянскага насельніцтва.

Ступень заможнасьці двара выразьней за ўсё адбіваецца на імкненьні да малочнай каапэрацыі. Так у Менскай акрузе з 100 заможных двароў у малочную каапэрацыю аб'ядняецца амаль у чатыры разы большая колькасьць двароў, чым з 100 бядняцкіх двароў, — а ў Віцебскай акрузе амаль удвайне большая; — у спажывецкіх каапэрацыйных аб'яднаньнях, гэта розьніца таксама наглядаецца, але тут яна роўна ўсяго некалькім процантам. Узмацненьне імкненьня гаспадарак заможнай групы да малочнай каапэрацыі, канечна, зусім зразумела, у гэтых гаспадарках больш, чым у іншых, застаюцца малочныя лішкі, якія патрабуюць перапрацоўкі.

Канчаючы разгляд дадзеных, якія тычацца малочнай каапэрацыі, мы хацелі-б пажадаць, каб у будучым „Белсельсаюз" аддаваў большую колькасьць энэргіі і сродкаў мерапрыемствам аградапамогі: каапэрацыя зьяўляецца тым сьцёкам, праз які лягчэй за ўсё пранікаюць у сялянскую гаспадарку рознага віду паляпшэньні,—у каапэрацыю заўсёды першымі ідуць гаспадаркі найбольш багатыя ініцыятывай альбо капіталам, — натуральна, што такія гаспадаркі больш успрыймальны ад іншых да

[1]) „Белсельсоюз" Справаздача за 1926—27 апэрацыйны год, ст. 40,

ўсякага роду мерапрыемстваў і гэтую іх асаблівасьць неабходна скарыстаць аграномам. Пагэтаму вельмі пажадана, каб асыгнаваньні на мерапрыемствы аградапамогі з боку каапэрацыйных арганізацый былі павялічаны — тут сродкі, выдаткованыя на дапамогу, зьяўляюцца найбольш эфэктыўнымі.

**Умовы разьвядзеньня скаціны ў сялянскіх гаспадарках.** Прадукцыйнасьць скаціны, ад якой галоўным чынам залежыць і яе прыбыткоўнасьць, вызначаецца ня толькі ўмовамі кармленьня і ўтрыманьня скаціны, але ў значнай меры і яе якасьцю. Якасьць-жа скаціны вызначаецца перш за ўсё завадзкім матар'ялам, за тым агульнымі ўмовамі развядзеньня і ўмовамі кармленьня, а таксама выгадаваньня маладняку. Разгляд гэтых важных бакоў жывёлаводзтва мы і пачынаем.

У першую чаргу ўсплывае пытаньне аб асаблівасьці інтэнсыўнасьці развядзеньня скаціны ў розных раёнах і ў розных сацыяльных групах насельніцтва. Ступень альбо вялічыня інтэнсыўнасьці расплоду вызначаецца стасункам колькасьці маладняку да ліку узрослых кароў. Дадзеныя наступнай табліцы даюць малюнак адзначаных асаблівасьцяй у справе расплоду скаціны, пры чым намі ўзяты ня ўсё раёны, а толькі тыповыя ў адносінах да малочнага жывёлаводзтва, г. зн. горшыя, сярэднія і лепшыя па акрузе гл. табл. на стар. 63.

Дадзеныя гэтай табліцы паказваюць нам, што ў Віцебскай акрузе колькасьць маладняку зьяўляецца мінімальнай, г. зн. амаль дастатковай для панаўленьня стада, — у Менскай акрузе можна прызнаць некаторы вельмі невялікі збытак маладняку. І ў Менскай і ў Віцебскай акругах розьніца між экстэнсыўнымі і інтэнсыўнымі, у малочна-гаспадарчых адносінах, раёнамі вельмі нязначна і тыя і другія раёны займаюцца расплодам маладняку, мабыць, выключна для панаўленьня ўласных стад. Паакруговыя лічбы маладняку ўзростам да аднаго году і старэйшых ад году амаль роўны (апошнія, крыху большыя), — у экстэнсыўных жа раёнах (Бягольмскі, Чашнікаўскі) цялят да аднаго году значна менш, чым цялят старэйшых за год,—гэта адзначае, што ў даных раёнах цяляты пасьля нараджэньня ўтрымоўваюцца больш часу, што і зразумела ў сувязі з адсутнасьцю збыту малака ў абазначаных раёнах, іх жывёлаводзтва мае, значыцца, больш мясны характар.

З павялічэньнем заможнасьці гаспадарак павялічваецца і доля ўдзельнічаньня гаспадарак у справе выгадаваньня маладняку—асабліва пасьлядоўна адзначаная сувязь наглядаецца ў Віцебскай акрузе. У сувязі з тым, што ў гаспадарках заможных маецца вялікая колькасьць мэтыснай скаціны і іх быдла наогул каштоўней па ўдою, крайне пажадана, каб ад скаціны заможных гаспадарак па магчымасьці больш захоўвалася цялят для расплоду. У выніку чаго з пункту гледжаньня інтарэсаў народнае гаспадаркі пажадана было-б падатковай палітыцы даць такі напрамак, каб справе выгадаваньня маладняку ў заможных гаспадарках не рабілася перашкод, — збытак ад панаўленьня маладняку гэтыя гаспадаркі мімавольна павінны будуць у значнай частцы пераступіць менш заможным групам, што для справы жывёлаводзтва прынясе толькі карысьць.

У справе развядзеньня скаціны першараднае месца набывае „бычий вопрос". Пагэтаму ўсё, што датычыцца забясьпечаньня стад быкаміплемяньнікамі, неабходна разглядзець усебакова. Перш за ўсё будзе цікава высьвятліць да каго належаць гэтыя быкі.

Дадзеныя на стар. 64 сьведчаць аб гэтым.

## Узростны склад стада буйнай рагатай жывёлы (кароў і маладняку)

| Акругі | Раёны | | Беднякі: Дарослых кароў | Беднякі: Звыш аднаго году | Беднякі: Да аднаго году | Беднякі: Падворных бялнкаў | Серадзякі: Дарослых кароў | Серадзякі: Звыш аднаго году | Серадзякі: Да аднаго году | Серадзякі: Падворных бялнкоў | Заможнікі: Дарослых кароў | Заможнікі: Звыш аднаго году | Заможнікі: Да аднаго году | Заможнікі: Падворных бялнкаў | Сярэдняе: Дарослых кароў | Сярэдняе: Звыш аднаго году | Сярэдняе: Да аднаго году | Сярэдняе: Падворных бялнкаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская | Бягомльскі | абсал. лічб. | 72 | 19 | 8 | 43 | 209 | 55 | 38 | 81 | 51 | 14 | 6 | 14 | 332 | 88 | 52 | 138 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 26,4 | 11,1 | | 100 | 26,3 | 18,2 | | 100 | 27,5 | 11,8 | | 100 | 26,5 | 15,3 | |
| | Смалявіцкі | абсал. лічб. | 63 | 11 | 9 | 45 | 149 | 31 | 24 | 71 | 47 | 12 | 5 | 17 | 259 | 54 | 38 | 133 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 17,5 | 14,3 | | 100 | 20,8 | 16,1 | | 100 | 25,5 | 10,6 | | 100 | 20,3 | 14,7 | |
| | Самахвалаўскі | абсал. лічб. | 291 | 50 | 61 | 220 | 362 | 97 | 97 | 225 | 241 | 50 | 61 | 80 | 894 | 197 | 219 | 525 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 17,2 | 21,0 | | 100 | 26,8 | 26,8 | | 100 | 20,8 | 25,3 | | 100 | 21,8 | 24,1 | |
| | Па усей акрузе | абсал. лічб. | 660 | 129 | 116 | 468 | 1141 | 289 | 259 | 597 | 549 | 128 | 104 | 171 | 2350 | 546 | 479 | 1236 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 19,5 | 17,6 | | 100 | 25,3 | 22,7 | | 100 | 23,3 | 19,0 | | 100 | 22,8 | 20,2 | |
| Віцебская | Чашнікаўскі | абсал. лічб. | 140 | 14 | 19 | 97 | 181 | 39 | 21 | 100 | 8 | 4 | 3 | 4 | 329 | 57 | 43 | 201 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 10 | 13,6 | | 100 | 25,5 | 11,6 | | 100 | 50 | 37,5 | | 100 | 18,0 | 13,1 | |
| | Віцебскі | абсал. лічб. | 278 | 23 | 15 | 143 | 550 | 86 | 66 | 255 | 162 | 28 | 23 | 54 | 990 | 137 | 104 | 452 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 8,3 | 5,4 | | 100 | 15,6 | 12,0 | | 100 | 17,3 | 14,2 | | 100 | 13,5 | 91,4 | |
| | Лёзьнянскі | абсал. лічб. | 68 | 4 | 19 | 39 | 227 | 30 | 41 | 76 | 187 | 38 | 39 | 44 | 482 | 72 | 99 | 159 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 5,8 | 27,9 | | 100 | 13,2 | 18,1 | | 100 | 20,3 | 20,8 | | 100 | 13,3 | 21,2 | |
| | Па усей акрузе | абсал. лічб. | 792 | 82 | 95 | 471 | 1879 | 345 | 308 | 819 | 566 | 112 | 110 | 162 | 3237 | 539 | 513 | 1452 |
| | | 0/0 0/0 | 100 | 10,5 | 11,9 | | 100 | 18,3 | 16,7 | | 100 | 19,2 | 19,6 | | 100 | 15,9 | 15,2 | |

З 100 двароў карыстаюцца быкамі (у %% двароў).

| Акругі | Грамадзк. | Прыватн. | Дзяржаўн. |
|---|---|---|---|
| Менская | 37,6 | 50,8 | 11,6 |
| Віцебская | 15,5 | 74,45 | 10,05 |

Па асобных раёнах маюцца, вядома, прыкметныя адхіленьні ад гэтых сярэдніх, — найбольш выразныя адхіленьні наглядаюцца па Менскай акрузе ў раёнах Смалявіцкім і Самахвалаўскім, а па Віцебскай акрузе—Суражскім і Чашнікаўскім так, напрыклад:

З 100 двароў карыстаюцца быкамі (у %% двароў.)

| Раёны | Грамадзк. | Прыватн. | Дзяржаўн. |
|---|---|---|---|
| Менская акруга | | | |
| Смалявіцкі | 11,3 | 85,7 | 3,0 |
| Самахвалаўскі | 55,4 | 25,5 | 19,1 |
| Віцебская акруга | | | |
| Сураскі | 1,8 | 93,8 | 4,4 |
| Чашнікаўскі | 85,9 | 12,5 | 1,6 |

Іншыя раёны займаюць прамежнае становішча між паказанымі, набліжаючыся ў большай альбо меншай меры да сярэдняй.

Сярэднія паакруговыя дадзеныя з упэўненасьцю сьведчаць аб тым, што і ў Менскай і ў Віцебскай акругах галоўная колькасьць сялянскіх гаспадарак карыстаюцца прыватнымі быкамі. раёны, дзе галоўная роля належыць быкам грамады (Самахвалаўскі, Чашнікаўскі) зьяўляюцца выключэньнем—дзяржаўным-жа быкам як у сярэднім па акругах, так і па асобных раёнах усюды належыць амаль што апошняе месца.

Пераважная роля прыватна-уласніцкіх быкоў, бязумоўна зьяўляецца ў справе развядзеньня скаціны вельмі адмоўным зьявішчам: гэтыя быкі звычайна не падлягаюць ні грамадзскаму, ні дзяржаўнаму кантролю, — утрымоўваюцца яны насельніцтвам толькі дзякуючы вялікай патрэбы, а таму насельніцтва, ўлічваючы ўсю нявыгаднасьць іх утрыманьня, натуральна, утрымлівае іх з найменшымі для сябе стратамі, г. зн. з найменшым выдаткаваньнем на іх кармоў. З гэтых жа меркаваньняў—эканоміі корму, насельніцтва імкнецца трымаць і найбольш дробных, найбольш маладых быкоў, што відаць з таблічкі, якая характарызуе ўзростны склад быкоў.

З 100 быкоў, дапушчаемых да прыпуску, ва ўзросьце:

| | Менская акруга | Віцебская акруга |
|---|---|---|
| ад 1 да $1^1/_2$ год | 62,9 | 47,86 |
| „ „ $1^1/_2$—2 год | 33,3 | 43,57 |
| Старэй 2-х год | 3,3 | 8,57 |

Гэтыя дадзеныя адносяцца да ўсіх быкоў наогул, г. зн. да быкоў грамады, і да дзяржаўных, а ня толькі да прыватных,—калі-б мы ўзялі толькі прыватных быкоў, дык малюнак мелі-б яшчэ больш адмоўны. З паказаных дадзеных відаць, што быкі ў адносінах да ўзросту, наогул

надзвычайна дрэнныя, асабліва ў Менскай акрузе, нават, у лепшым раёне гэтай акругі—Самахвалаўскім, — каля 80% быкоў узросту ад аднаго да аднаго з паловай (1 да $1^1/_2$ г.) у лепшым раёне Віцебскай акругі — Ліозьнянскім 88% быкоў адносіцца да ўзросту ад $1^1/_2$ да 2-х год і 12% ад 1 году да $1^1/_2$. Найбольшая колькасьць старэйшых 2-х год зарэгістравана ў Віцебскім раёне (23,5%). Праф. М. І. Прыдарогін зусім правільна называе быкоў-племяньнікаў маладзейшых 2-х год „рваньню" псуючай сялянскія стады, хаця ў абсьледваным ім раёне бычкі ва ўзросьце $1^1/_2$ год складалі меншасьць[1]).

Надта малады ўзрост быкоў, натуральна абумоўлівае і іх малую жывую вагу, так, па Менскай акрузе жывая вага быкоў мясцовай пароды ў сярэднім 17,1 пуда і мэтысаў—19,8 пудоў. Па Віцебскай акрузе сярэдняя жывая вага быкоў мясцовай пароды 16,5 пуд. і мэтысаў 23,3 пуда. Гэтыя дадзеныя не пакідаюць сумненьняў у тым, што сярэдняя жывая вага быкоў і па Менскай і Віцебскай акругах ніжэй такой-жа вагі кароў (гл. дадзеныя зм. на стар. 46). Такое зьявішча, вядома, глыбока ненармальна, яно натуральна зьяўляецца моцнай перашкодай да паляпшэньня жывёлаводзтва.

Апрача ўзросту быкоў і жывой вагі іх вельмі вялікае значэньне набывае і заводнасьць быкоў. Аднак, заўвага колькі процантаў складае тая альбо іншая парода ў агульнай суме бычачага стада не дае яшчэ падстаў для разважаньня аб ўдзельнай вазе гэтай пароды ў справе развядзеньня, таму, што быкі розных парод скарыстоўваюцца неаднолькава, —быкі найбольш каштоўных парод скарыстоўваюцца лепш, чым быкі іншай пароды. Таму будзе правільным вызначыць, які процант гаспадарак карыстаецца быкамі таго, альбо іншага заводу. Дадзеныя наступнай табліцы і даюць гэтыя весткі.

**Процант сельскіх гаспадарак карыстаюцца быкамі.**

| Быкі заводу: | Менская акруга | Віцебская акруга |
|---|---|---|
| Мясцовага | 43,63 | 60,43 |
| Швіцк. і мэтыс. мясцовага і швіцкага | 13,49 | 24,14 |
| Ангельск. і мэтыс., мясцовы і ангельскі | — | 7,91 |
| Мэтыс мясцовы і Сэмынтальскі | 0,37 | 3,52 |
| „ „ і Яраслаўскі | 0,84 | 0,80 |
| „ „ і Галяндзкі | 8,47 | 3,20 |
| Чырвона-беларускі | 33,20 | — |
| Усяго | 100% | 100% |

Як відаць з гэтай таблічкі ў адносінах заводнасьці бычачае стада Менскай і Віцебскай акруг зьяўляецца досыць рознастайным па свайму складу. З культурных заводаў найбольш, ма-быць, скарыстоўваюцца бычкі швіцкага заводу, калі ня лічыць для Менскай акругі чырвона-беларускіх быкоў. У бычачым стадзе Віцебскай акругі кроў культурнага замежнага заводу ў асноўным вызначаецца больш яскрава, чым па Менскай акрузе.

Гэта акалічнасьць, так сама як некалькі больш дасьпелы ўзрост

[1]) Проф. М. И. Придорогин „Материалы по районнаму качественному обследованию животноводства Тамбовской губ." т. I.

быкоў Віцебскай акругі,—і зьяўляецца прычынамі некалькі больш жывой вагі іх, што мы ўжо бачылі. Параённа кроў культурнага заводу менш моцна вызначана для Віцебскай акругі ў раёне Чашнікаускім, дзе 79% гаспадарак карыстаюцца быкамі мясцовага заводу, а для Менскай акругі ў раёне Бягомльскім—такіх гаспадарак 92%. Раёнамі, у якіх маецца наймэншы процант двароў, карыстаючыхся быкамі мясцовага заводу, зьяўляюцца раён Ліозьнянскі 36% і Самахвалаўскі — 15% такіх двароў, — адсюль вынікае, што і па дадзенай адзнацы, як і па шмат якіх іншых, гэтыя два раёны ў адносінах малочнага жывёлаводзтва зьяўляюцца пярэднімі, тады, як Чашнікаўскі і Бягомльскі зьяўляюцца раёнамі найбольш адсталымі. (У Самахвалаўскім раёне 70% дварою карыстаюцца быкамі чырвонага беларускага быдла).

Усё, аб чым была размова да гэтага часу, тычылася якаснага боку бычачага стада, ня менш важны і колькасны бок гэтае справы. На надзвычайна важнае пытаньне аб ступені колькаснай забясьпечанасьці кароў быкамі даюць вычарпальны адказ дадзеныя наступнай табліцы:

На 100 кароў і падцёлкаў старэйшых 18 мес. прыпадае прыватна-уласьніцкіх быкоў (ад 1-году і больш.)

| Раёны Менскай акругі | Бягомльскі | | | | Бярэзінскі | | | | Капыльскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльныя групы | Бяд. | Сер. | Заж. | У сярэдн. па раёну | Бяд. | Сер. | Заж. | У сярэдн. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну |
| | 2,43 | 5,76 | 8,33 | 4,98 | 3,92 | 3,35 | 5,64 | 4,0 | — | 0,71 | 4,65 | 1,03 |

| Раёны Менскай акругі | Самахвалаўскі | | | | Смалявіцкі | | | | У сярэднім па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльныя групы | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну |
| | 1,62 | 2,75 | 7,39 | 2,73 | 1,44 | 2,48 | 3,84 | 2,30 | 1,80 | 3,01 | 6.82 | 3,07 |

| Раёны Менскай акругі | Віцебск. | | | | Азярышчанскі | | | | Чашнікаўскі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сацыяльныя групы | Бед. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну | Бед. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сярэдн. па раёну |
| | 0,34 | 0,66 | 3,40 | 0,88 | 2,96 | 4,09 | 10,71 | 3,89 | — | 1,93 | — | 1,35 |

| Раён. Мен. акр. | Высчанскі | | | | Суражскі | | | | Ліозянскі | | | | У сярэд. па акрузе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бяд. | Сер. | Зам. | У сяр. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сяр. па раёну | Бед. | Сер. | Зам. | У сяр. па раёну | Бяд. | Сер. | Зам. | У сяр. па раёну |
| | — | 2,64 | 2,60 | 1,80 | — | 2,45 | 2,66 | 1,87 | 1,42 | 2,98 | 6,06 | 3,44 | 0,71 | 2,28 | 4,65 | 2,03 |

Як відаць з гэтых дадзеных на аднаго прыватна-уласьніцкага, здольнага да прыпуску быка, прыпадае ў Віцебскай акрузе каля 50 кароў і падцёлкаў, а ў Менскай акрузе каля 30. За пачатковы ўзрост быкоў мы бяром узрост старэй году, таму што ў гэтым менавіта ўзросьце быкі, знаходзячыяся разам у стадзе, пачынаюць сваю плоцьцёвую дзейнасьць.

Калі ўзяць пад увагу, што вышэйадзначаныя дадзеныя датычацца толькі колькасьці маючыхся прыватна-ўласьніцкіх быкоў і што, акрамя

гэтага маюцца яшчэ быкі дзяржаўныя і грамады, дык будзе зразумелым, што аб недахопе быкоў гаварыць бадай ці магчыма, тым больш, што быкамі дзьвюх апошніх катэгорый у Менскай акрузе, як мы ўжо бачылі карыстаецца палова наяўнага ліку двароў, а ў Віцебскай акрузе—чвэртка ўсіх двароў.

Плата за прыпуск ў сярэднім па Менскай акрузе раўняецца 1 руб. 10 кап., па Віцебскай акрузе—1 руб. 12 кап., па раёнах-жа вагаецца так: Бягомльскі—1 руб. 13 кап., Бярэзінскі—95 кап., Самахвалаўскі—1 р. 26 к., Чашнікаўскі — 65 к., Віцебскі — 1 руб. 16 к, Лёзьнянскі 1 руб. 27 к. Гэта даволі нізкая плата адзначае, што „предложеніе“ быкоў, відавочна дастатковае.

Параённа прыватна-ўласьніцкія быкі разьмеркаваны надзвычайна неаднолькава: у Менскай акрузе наглядаецца ваганьне ад 4.98 да 1,3 быкоў на 100 кароў; у Віцебскай акрузе ад 3,89 да 0,88 (Азярышчанскі—Віцебскі раён). Ад чаго залежаць гэтыя адхіленьні—цяжка сказаць,—аднак, мабыць яны не знаходзяцца ў сувязі з колькасьцю забясьпечаньня гаспадарак быкамі дзяржаўнымі і грамады. Нам здаецца, гэта розьніца ў колькасьці быкоў на 100 кароў залежыць ад шмат якіх і ў розных раёнах рознастайных прычын, так напрыклад: — досыць высокая норма быкоў а таксама бычкоў-аднагодак у Лёзьнянскім і Самахвалаўскім раёнах выклікаецца, відавочна, тым, што тут быкі ў значнай частцы выхоўваюцца на продаж у якасьці племяных, высокая-ж доля быкоў у Бягомльскім раёне можа залежыць ад чыста спажывецкага прымітыўнага характару ў гэтым раёне буйнага рагатага жывёлаводзтва, якое зьяўляецца яшчэ ў значнай ступені мяса-малочным, а таксама для гною, — пры такім характару жывёлаводзтва, з пункту гледжаньня насельніцтва, не набывае значнай важнасьці пытаньня, ад якой жывёлы атрымоўваецца гной.

Ва ўсіх, бяз выключэньня, раёнах беднякі трымаюць меншую колькасьць быкоў, чым серадлякі; апошнія менш, чым заможныя, што і зразумела. Выгадаваньне лішняга, чым патрэбна для панаўленьня бычачага маладняку, у гаспадарках серадняцкіх і заможных трэба лічыць станоўчым зьявішчам, таму што ў іх у адносінах заводу скаціна лепшая і выхаваньне маладняку, як мы ўбачым ніжэй, вытвараецца больш рацыянальна, чым у бядняцкіх гаспадарках, а таму і племяны матар'ял атрымоўваецца ў іх лепшым.

Дастатковая колькасьць быкоў у стадах Менскай і Віцебскай акруг мае сваім вынікам і нязначны процант ялавасьці кароў. У зьвязку з тым, што аб велічыні гэтага проценту ў мясцовых працаўнікоў маюцца часта вельмі павялічаныя меркаваньні, мы дамо параённыя дадзеныя проценту ялавасьці кароў:

**Процант ялавасьці кароў:**

| Менская акруга: Раёны | | Віцебская акруга: Раёны | |
|---|---|---|---|
| Бягомльскі | 1,5 | Віцебскі | 1,2 |
| Бярэзінскі | 12,8 | Азярышчанскі | 4,3 |
| Капыльскі | 1,6 | Чашнікаўскі | 6,1 |
| Самахвалаўскі | 3,2 | Высачанскі | 2,6 |
| Смалявіцкі | 4,9 | Сураскі | 3,5 |
| | | Лёзьнянскі | 0,0 |
| У сярэд. па акрузе | 5,2 | Усярэдн. па акрузе | 3,0 |

Такі процант ялавасьці у сярэднім нельга лічыць вялікім—толькі ў раёне Бярэзінскім ён перавышае нармальны, г. зн. сярэдні па БССР, замест таго у Лёзьнянскім раёне ялавасьць як відаць, зусім адсутнічае— ня было зарэгістравана ніводнага выпадку.

У сярэднім у БССР па дадзеных ЦСК за 1927 г. ялавасьць роўна 10%, г. зн. больш, чым у вывучаных намі акругах,—гэта акалічнасьць тлумачыцца уплывам Мазыршчыны, дзе пры мясным напрамку жывёла водзтва, ялавасьць дасягае 25%, што і натуральна, пры паказаным характару жывёлаводзтва Мазыршчыны.

Будзе ня лішнім адзначыць, што па дадзеных ЦСК за 1927 г. у Менскай акрузе процант ялавасьці складаў каля 4,5 і ў Віцебскай акрузе каля 2,5. гэта значыць лічбы блізкія да тых, якія былі намі вызначана у 1928 г.,—гэтым яшчэ раз сьцьвярджаецца тое, што распаўсюджанасьць ялавасьці у малочна-гаспадарчых раёнах БССР ніякім чынам нельга лічыць пагражаючай, а гэта адзначае, што быкоў у гэтых раёнах хапае, ў той час як якасьць гэтых быкоў зусім не дапушчальна: пераважная большасьць іх не даходзіць ўзросту 2-х год, чаму яны і зьяўляюцца „недомерками“ у параўнаньні з абслугоўваемымі праз іх кароў. К. К. Вэбер наглядаўшы за такім зьявішчам (хаця і не ў такой яскравай форме) на стадах Тамбоўскай губэрні зусім правільна акрэсьляе яго „брыдкім“ [1]). На барацьбу з гэтым, зусім недапушчальным зьявішчам, павінны быць ўжыты самыя рашучыя захады. З гэтай думкай згодны, нават. сяляне далёка ўсходняй ускраіны нашага Саюзу, так у матар'ялах абсьледваньня жывёлаводзтва Прыханькоўскага раёну мы знаходзім зварочваньне ўвагі на тое, што ў некаторых сёлах гэтага раёну прыгаворамі грамады забараняецца дапушчаць у стады дрэнных, альбо зусім маладых быкоў, за невыкананьне гэтага абкладаюць штрафам у суме 25 рублёў Сябры некаторых сельска-гаспадарчых таварыстваў вывелі з стада ўсіх прыватна-уласьніцкіх быкоў і карыстаюцца для сваіх кароў выключна адборнымі племяньнікамі сельска-гаспадарчага таварыства [2]).

Захады, пахожыя да адзначаных, неабходны і ў БССР,—тая анархія, якая зараз існуе ў гэтым пытаньні—надалей не павінна быць цярпімай. Патрабаваньне выключэньня быкоў—неросткаў з грамадзкіх стад павінна быць уведзена ў зоомінімум і на гэта ў першую чаргу, а не на павялічэньне колькасьці быкоў, павінна быць зьвернута увага мясцовых працаўнікоў.

**Выгадаваньне цялят**. З пытаньнем разьвядзеньня жывёлы мае цесную сувязь і пытаньне аб выгадаваньні маладняку.

Уплыў кармленьня маладой жывёлы на хуткасьць, правільны рост і разьвіцьцё яе бясспрэчны. Шматлікія працы па гэтаму пытаньню С. Натузіса, Іерынга і М. Ф. Іванова з сьвіньнямі, Н. П. Чырвінскага з сьвіньнямі і авечкамі, М. Фішара з буйнай рагатай жывёлай і нарэшце нядаўна надрукаваныя працы праф. А. А. Малігонава з упэўнасьцю зазначаюць, як вялізарны мае уплыў інтэнсыўнасьць кармленьня маладой жывёлы ня толькі на рост і фармаваньне яе арганізму, але і на характар яго функцыі. Праф. Е. А. Багданаў акрамя таго знаходзіць (аб чым з большай упэўненасьцю гаварыць і нагляданьні заводчыкаў), што „благодаря плохому воспитанию культурных пород мы, повидимому, несомненно портим не только выдающихся жывотных как таковых, но и их наследст-

[1]) К. К. Вебер. „Проект плана мероприятий по массовому улучшению скота в Тамбовской губернии. стр. 110.

[2]) Я. Я. Эгенберг: „Материалы по вопросу о состоянии крупного рогатого скотоводства в Приханьковским районе, стр.33.

венные задатки, т. е. их племенную ценность или, иными словами, так же и качества ожидаемого от них потомства" [1]).

У выніку чаго, да пытаньня аб выгадаваньні маладняку мы павінны аднесьціся з асобай увагай, тым больш, што маючыйся адпаведны статыстычны матар'ял ужо па аднаму свайму характару, надзвычайна цяжка падаецца апрацоўцы. Зьмяншаемая ніжэй табліца дае ўяўленьне аб спосабах выгадаваньня цялят, якія ўжываюцца у Менскай і Віцебскай акругах гл. табл. на стар. 70.

У гэтай табліцы не паказана дача сена, яка нідзе ў гаспадарках не ўлічваецца; сена даецца цялёнку удосталь, як толькі ён зможа яго есьці. На пашу цялё выганяецца ва ўзросьце 3—3½ месяцаў. Высьвятліць кармавую каштоўнасьць пашы, на якой пасуцца цяляты, зразумела, пры абсьледваньні ня было магчымасьці; а таксама ня браўся намі пад увагу і сакавіты корм, таму што доля яго у агульным рацыёне нязначна. Але ня гледзячы на гэтыя недахопы, па табліцы лёгка зрабіць для сябе вынік аб інтэнсыунасьці кармленьня цялят на працягу першых 6-ці месяцаў іх жыцьця.

Перш за ўсё неабходна сказаць, што кармленьня цялят у Менскай і Віцебскай акругах ні ў якім разе нельга лічыць недастатковым,—яно ні ў якай меры ня можа быць параўнаема з тым „крестьянским типом" выпойваньня цялят, нормы якога прыводзяцца Е. А. Багданавым у „Спутнике Животновода" [2]).

Спосаб выпойкі цялят, ўжываемы у Віцебскай акрузе, па колькасьці малака пасьля ацёлу, адпавядае спосабу Ю. І. Фрэймана, ужываемаму на Бутырскім хутары, але ён дадатна адрозьніваецца ад апошняга дачай зьнятага малака і некалькі большай дачай моцных кармоў. Зусім блізка да яго і спосаб ужываемы у Бягомльскім раёне (адсутнічае зьнятае малако), кармленьня цялят у Самахвалаўскім раёне блізка да вельмі вядомай нормы Усьпенскай фэрмы [3]), але некалькі багацей апошняга. Па гэтаму гаварыць аб недастатковым кармленьні цялят, асабліва калі прыняць пад увагу невялікую жывую вагу беларускага быдла, канечна, нельга. Нажаль, у нас няма поўных дадзеных для падліку кармленьня маладняку старэйшых ад поўгадовага ўзросту. Недаразьвітасьць кароў з першым ацяленьнем, якія намі былі абсьледваны, з упэўненасьцю паказвае, што з іх кармленьнем справа абстаяла ня зусім добра. Таму трэба думаць, што пасьля зусім здавальняючага кармленьня на працягу першых месяцаў жыцьця, маладая жывёла пападае на паўгалодны рацыён, чым выклікаецца яе недаразьвітасьць.

Параўнаньне дадзеных прыведзенай табліцы па раёнах ў розных сацыяльных групах дазваляе зрабіць шэраг высноў: так атрымоўваецца, што ў Менскай акрузе выпойка цялят практыкуецца наогул больш спажыўная і каштуе таму даражэй, чым у Віцебскай акрузе. У інтэнсыўных раёнах (Самахвалаўскі, Лёзьнянскі) выпойка крыху лепшая, чым у раёнах экстэнсыўных (Бягомольскі і Чашнікаўскі)—і, акрамя таго, адно кілё кармавых адзінак абыходзіцца даражэй, чым у апошняй (22 кап. супроць 19 кап.)

Выпойка цялят пад маткай значна больш распаўсюджана ў Менскай акрузе, чым у Віцебскай акрузе, што гаворыць за больш рэзка вызначаны малочны напрамак гаспадаркі Віцебскай акругі і за большую ра-

[1]) Проф. Е. А. Богданов. „Общее животноводство", ч. II стр. 67.
[2]) Проф. Е. А. Богданов. „Спутник Животновода", изд. III, стр. 196—197.
[3]) Аб нормах Бутырскага хутара і Усьпенскай фэрмы гл. „Спутник Животновода" стар. 194—198.

## Выпайка цялят на працягу 24 тыдняў (корм у кілёграмах)

**Менская акруга**

| Раёны | Сац. групы | Колькі нядзель выпайваюць пад маткой | Колькі усяго даецца цэльн, малака (пад маткай і з шайкі) | Колькі даецца зьнятага малака | Колькі даецца моцных кармоў | У тым ліку альнянага семяні | Колькі кілёграм кармавых адзінак ўсяго | Колькі каштуе харчаваньне: руб. | Колькі каштуе харчаваньне: кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бягомльскі | Беднякі . . . . | 3 | 165,1 | — | 53,8 | 6,85 | 122 | 22 | — |
| | Сераднякі . . . | 3 | 167,4 | 28,7 | 54,9 | 4,9 | — | 22 | — |
| | Заможныя . . . | 3 | 179,6 | — | 83,3 | 22,3 | 174 | 26 | — |
| | У сярэдн. па раёну | 3 | 170,7 | — | 64,0 | 11,3 | 131 | 22 | 40 |
| Самахвалаўскі | Беднякі . . . . | 2 | 292,8 | — | 75,2 | 13,0 | 170 | 37 | — |
| | Серадняки . . . | 2 | 316,1 | — | 92,3 | 22,9 | 201 | 41 | — |
| | Заможныя . . . | 2 | 419,6 | — | 75,1 | — | 184 | 49 | — |
| | У сярэднім . . . | 2 | 342,8 | — | 80,9 | 18,0 | 185 | 40 | 54 |
| У сярэднім па акрузе | Беднякі . . . . | 2,4 | 203,8 | — | 77,6 | 19,8 | 141 | 28 | — |
| | Серадняки . . . | 2,4 | 207,2 | — | 80,3 | 16,4 | 158 | 29 | — |
| | Заможныя . . . | 2,4 | 279.8 | — | 93,0 | 24,55 | 189 | 37 | — |
| | У сярэднім . . . | 2,4 | 230,4 | — | 83,7 | 19,8 | 159 | 30 | 72 |

**Віцебская акруга**

| Раёны | Сац. групы | Колькі нядзель выпаіваюць пад маткой | Колькі усяго даецца цэльнага малака (пад маткай і з шайкі) | Колькі даецца зьнятага малака | Колькі даецца моцных кармоў | У тым ліку альнянага семяні | Колькі кілёграм. кармовых адзінак ўсяго | Колькі каштуе харчаваньне: руб. | Колькі каштуе харчаваньне: кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чашнікаўскі | Беднякі . . . . | 3 | 187 | — | 57,6 | 2,3 | 108 | 23 | 42 |
| | Серадняки . . . | 3 | 136,8 | — | 91,4 | 1,1 | 130 | 21 | 75 |
| | Заможныя . . | 3 | 236,6 | — | 72,3 | — | 131 | 30 | 53 |
| | У сярэдн. па раёну | 3 | 163,9 | — | 85,2 | 1,2 | 120 | 23 | 09 |
| Лёзнянскі | Беднякі . . . . | — | 229,0 | 314,8 | 32,3 | 1,9 | 137 | 33 | 24 |
| | Серадняки . . . | — | 258,4 | 305,7 | 38,5 | 4,1 | 154 | 36 | 62 |
| | Заможныя . . . | — | 247,6 | 602,3 | 60,6 | 3,5 | 215 | 44 | 65 |
| | У сярэднім . . | — | 248,4 | 360,3 | 40,7 | 3,4 | 168 | 38 | 01 |
| У сярэднім па акрузе | Беднякі . . . . | 1,0 | 183,0 | 98,9 | 66,1 | 5,0* | 134 | 26 | 58 |
| | Серадняки . . . | 1,0 | 156,0 | 90,5 | 70,2 | 3,0 | 125 | 24 | 05 |
| | Заможныя . . . | 1,0 | 211,0 | 160,9 | 65,4 | 4,2 | 152 | 30 | 70 |
| | У сярэднім . . | 1,0 | 172,4 | 103,7 | 67,3 | 3,7 | 130 | 25 | 58 |

*) Сярэдняя падвышана данымі раёнаў Віцебскага, дзе даецца 7,0 клг. ільнянага насеньня і [illegible], дзе даецца 8,8 клг. яго

цыянальнасьць выгадаваньня маладняку ў апошняй, таму што выгадаваньне цялят пад маткай мае вельмі сур'ёзныя недахопы, на якіх, як агульна вядомых, мы тут спыняцца ня будзем. Зьнятае малако ўжываецца, амаль выключна ў Віцебскай акрузе. Цікава, што льнянога семя у сярэднім па Менскай акрузе ўжываецца ў пяць раз больш, чым у Віцебскай акрузе, хаця ільну ў Віцебскай акрузе сеецца ўдвайне больш, чым у Менскай акрузе.

Розьніца ў способе кармленьня цялят у гаспадарках розных сацыяльных груп не заўсёды адпавядае розьніцы ў эканамічнай моцнасьці гэтых груп, так напрыклад:—у сярэднім па Віцебскай акрузе беднякі выдаткоўваюць на выпойку цялят некалькі больш корму і грошай, чым серадн(які,—у Самахвалаўскім раёне серадн(які выдаткоўваюць больш, чым заможныя. Гэтая акалічнасьць, мабыць, тлумачыцца тым, што бядняцкія гаспадаркі выгадоўваюць маладняк толькі да панаўленьня ўласных стад, між тым, як значная частка маладняку з больш заможных гаспадарак ідзе на продаж,—канечна, у апошнім выпадку гаспадар будзе больш зацікаўлен у дзешавейшым выгадаваньні, чым у якасьці цялёнка. Аднак, калі ўзяць сярэднія лічбы, дык у гаспадарках заможных, кармленьне цялят значна лепшае.

Ня лішнім будзе адзначыць і тут, што заможныя гаспадаркі Бягомльскага раёну выдаткоўваюць на выпойку цялёнка менш сродкаў, чым бядняцкія гаспадаркі Самахвалаўскага раёну, такі-ж самы стасунак паміж выдаткаваньнем заможнымі гаспадаркамі Чашнікаўскага раёну і бядняцкімі гаспадаркамі Лёзьнянскага раёну. Гэта паказвае, што разыходжаньні па раёнах у даным выпадку вызначаюцца больш выразьней, чым разыходжаньні адпаведна належнасьці гаспадарак да тэй альбо іншай сацыяльнай групы.

Разгледжваючы паасобныя рацыёны, як яны былі зарэгістраваны абсьледвацелямі, нельга не адзначыць, што вельмі нярэдка пры зусім дастатковай пажыўнасьці дачы ўсё-ж бываюць складзены нерацыянальна; у іншым выпадку пажыўнасьць дач вагаецца надзвычайна рэзка, напрыклад: пераход ад цэльнага малака да зьнятага вытвараецца вельмі ў кароткі пэрыяд часу, бяз абавязковай паступовасьці, далей—колькасьць зьнятага малака нярэдка бывае занадта вялікай неадпаведна ўзросту цялёнка,—наглядаюцца надмерныя дачы ў адносінах ільнянага семя, што выклікае за сабой лішнюю хваравітасьць жывата, ў нярэдкіх выпадках гэта даводзіць да крываўкі цялят. Гэтыя і шмат якія іншыя недахопы ў тэхніцы кармленьня цялят паказваюць, што у насельніцтва няма неабходных ведаў па гэтаму пытаньню,—у выніку чаго, вялікія кармавыя і грашовыя сродкі, якія насельніцтвам на гэтую справу выдаткоўваюцца, не даюць таго эфэкту, якога ад іх патрэбна было чакаць. Адсюль вынікае, што выданьне адпаведнай папулярнай літаратуры па пытаньню выгадаваньня цялят трэба прызнаць ня толькі карысным, але і неабходным.

**Хваробы жывёлы і вэтэрынарная дапамога.** Пры абсьледваньні жывёлаводзтва нельга, канечна, абыйсьці пытаньне аб хваробах жывёлы і аб арганізацыі вэтэрынарнай дапамогі. Нажаль, зьвесткі, якія пры абсьледваньні могуць быць сабраны па гэтых пытаньнях па самаму характару свайму маюць у сабе такія вялікія недахопы, што на падставе іх бадай ці магчыма пабудаваць якія-небудзь сталыя вынікі. Таму, што зьвесткі атрымоўваюцца толькі шляхам апытаньня насельніцтва, вызначэньне хваробы жывёлы мімавольна аддаецца самому насельніцтву,—відаць, што пры такім парадку вельмі нярэдка ставяцца дыагназы зусім фантастычныя (напрыклад мыт цялят). Па гэтаму досыць значны лік за-

хвараваньняў мы былі вымушаны аднесьці ў графу „іншыя хваробы“ (па Віцебскай акрузе—больш 27%). Галоўны-ж недахоп нашых дадзеных быў наступны: яны не маглі зьбірацца аб хваробах толькі за мінулы год, таму што тады паказаньняў атрымалася-б зусім мала,—асноўнае-ж патрабаваньне ,такога роду абсьледваньня—гэта масавасьць паказаньняў. Пагэтаму прыходзілася прасіць весткі аб захворваньні скаціны ў данай гаспадарцы за пяць апошніх год. Гэтыя-ж пяць год па арганізацыі вэтэрынарнай дапамогі былі вельмі неаднолькавыя, так напрыклад, па дадзеных пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР (выдан. НКЗ) у 1924—25 годзе на адзінку скаціны па вэтдапамозе была асыгнавана 7—6 капеек, а ў 1925—26 годзе—15 капеек. Акрамя таго, у гады грамадзянскай вайны арганізацыя вэтэрынарнай справы моцна зьменшалася,—у некаторых жа мясцох была даведзена амаль што да зэро, што пацягнула за сабой узмацненьне эпізоотыі (гл. стар. 734 „Пэрспэктыўнага пляну“). Аднаўленьне вэтэрынарнай дапамогі ў першыя гады ішло вельмі марудна, а за апошнія гады—шпаркім тэмпам,—ясна, што сярэдняя па настолькі living розныя... 

## Хваробы буйнай рагатай жывёлы за апошнія пяць год.

| №№ па чарзе | | Выпадкі аказаньня вэтдап. вэтпэрсанал. | Выкідыш | | Хваробы вымені | | Хваробы зьвязаныя з ацёл. | | Яшчур (язычніца) | | Туберкулёз (сухоты) | | Крывавая мача | | Чума | | Вугалянка (сібірская язва) | | Іншыя хваробы | | Усяго па раёну | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала | хварэла | пала |
| | **Менская акруга** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Бягомльскі . . . | 14 | 5 | — | 1 | — | 1 | — | 15 | — | — | — | 90 | 7 | — | — | 2 | — | 9 | 3 | 123 | 10 |
| 2 | Бярэзінскі . . . | 20 | 5 | 1 | — | — | 6 | 1 | 36 | — | — | — | 31 | 5 | 10 | 10 | — | — | 28 | 3 | 116 | 20 |
| 3 | Капыльскі . . . | 19 | 3 | 1 | — | — | 5 | 2 | 62 | 4 | 1 | 1 | 18 | 2 | — | — | 3 | 3 | 11 | 7 | 103 | 20 |
| 4 | Самахвалавіцкі . | 48 | 27 | 4 | 4 | — | 30 | 2 | 334 | 3 | 1 | 1 | 32 | 2 | — | — | — | — | 40 | 10 | 478 | 22 |
| 5 | Смалявіцкі . . . | 21 | 14 | 1 | — | — | 7 | 1 | 23 | — | — | — | 23 | 2 | — | — | — | — | 20 | 4 | 87 | 8 |
| 6 | У сяр. па акрузе | 122 | 54 | 7 | 5 | — | 49 | 6 | 470 | 7 | 2 | 2 | 194 | 18 | 10 | 10 | 5 | 3 | 108 | 27 | 907 | 80 |
| 7 | %% паўш.да хвар. | — | 11,1 | | | | 12,2 | | 1,4 | | 100 | | 9,2 | | 100 | | 60 | | 25 | | 8,8 | |
| | **Віцебская акруга** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Віцебскі раён . . | 80 | 14 | — | 4 | 1 | 6 | 3 | 23 | 7 | — | — | 35 | 8 | — | — | 1 | 1 | 21 | 9 | 104 | 23 |
| 2 | Азярышчанскі . | 33 | 11 | — | 9 | — | 3 | — | 18 | — | — | — | 62 | 8 | 5 | 4 | — | — | 22 | 8 | 130 | 20 |
| 3 | Чашнікаўскі . . | 25 | 9 | — | 1 | — | 7 | 1 | 1 | — | 1 | — | 38 | 7 | — | — | 2 | 1 | 17 | 6 | 76 | 15 |
| 4 | Высачанскі . . . | 11 | 1 | — | 1 | — | 4 | 1 | 2 | — | — | — | 5 | 2 | 1 | 1 | — | — | 11 | 2 | 25 | 6 |
| 5 | Сураскі . . . . | 34 | 8 | — | 5 | — | 8 | 3 | 1 | — | 1 | 1 | 31 | 9 | — | — | — | — | 55 | 13 | 109 | 26 |
| 6 | Ліозьнянскі . . . | 8 | — | — | — | — | 5 | 1 | 1 | 1 | — | — | 13 | 2 | — | — | — | — | 3 | 1 | 22 | 5 |
| 7 | Усяго па акрузе | 191 | 43 | — | 20 | 1 | 33 | 9 | 46 | 8 | 2 | 1 | 184 | 36 | 6 | 5 | 3 | 2 | 129 | 39 | 466 | 95 |
| 8 | %% паўш.да хвар. | — | | | 5 | | 27,3 | | 18,5 | | 50,0 | | 19,5 | | 83,3 | | 66,3 | | 30,3 | | 20,4 | |

## Хваробы цялят за апошнія пяць год у Менскай акрузе

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Назва хваробы | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Панос | | Цімпаніт | | Жаба Яшчур | | Крывавая мача | | Іншыя хваробы | | Усяго па раёну | |
| | | хв. | п. | хв. | п. | хв. | п. | хв. | п. | хв. | п. | хв. | п. |
| 1 | Бягомльскі . . . | 7 | 1 | 2 | 1 | 3 | 1 | — | — | 10 | 8 | 22 | 11 |
| 2 | Бярэзінскі . . . | 5 | — | 2 | — | 3 | — | 4 | — | 11 | — | 25 | - - |
| 3 | Капыльскі . . . | 5 | — | 4 | — | — | — | 1 | — | 5 | — | 15 | — |
| 4 | Самахвалаўскі . | 25 | — | 5 | — | — | - - | — | — | 21 | — | 51 | — |
| 5 | Смалявіцкі . . . | 1 | — | 2 | 1 | 1 | — | 1 | — | 19 | 5 | 24 | 6 |
| 6 | Усяго па акрузе | 43 | 1 | 15 | 2 | 7 | 1 | 6 | — | 66 | 13 | 137 | 17 |
| 7 | %% паўш.да хвар. | 2,3 | | 13,2 | | 14,2 | | | | 19,6 | | 12,4 | |

З гэтых табліц відаць, што на тэрыторыі БССР на працягу гэтага часу мелі багаты асортымэнт эпізоотыі: яшчур, сібірская язва, крываўка, чума і г. д. Далей зварочваў на сябе увагу вялікі процант выкідышаў і пасьляацельных захворваньняў, у тым ліку і хваробы вымя,— гэтыя тры групы хвароб па Віцебскай акрузе складаюць каля 20% ад агульнага ліку захворваньняў. Няспрыяюча, відавочна, абстаіць справа і ў адносінах сухот. Звычайна гэта хвароба адбываецца ня будучы заўважана насельніцтвам, а таму і паасобныя выпадкі, якія былі ўказаны насельніцтвам, неабходна, мабыць, аднесьці да генэралізаваных сухот— (помарак ад сухот), а гэта акалічнасьць гаворыць за тое, што сухоты у іх звычайнай форме маюць вельмі шырокае распаўсюджаньне.

Хваробы цялят разглядаюцца намі толькі па Менскай акрузе, таму што па Віцебскай акрузе лік паказаньняў надта нязначны. Больш 40% ад агульнага ліку захворваньняў складаюць крываўка цялят і цімпаніт, прычыну чаго ў значнай меры неабходна шукаць у тых недахопах рацыёну, аб якіх мы казалі ў канцы апошняга разьдзелу. Вялікае значэньне ў справе распаўсюджваньня захворваньняў жывата ў цялят мае і неадпаведнае ўтрыманьне пасуды, што асабліва моцна адбіваецца пры малочным кармленьні жывёлы.

Пры параўнаньні адпаведных дадзеных першай табліцы па Менскай і Віцебскай акругах кідаецца ў вочы значна меншы процант у Менскай акрузе сьмяротных выпадкаў у адносінах да агульнага ліку захворваньня. Тлумачыцца гэта шырокім распаўсюджваньнем у Менскай акрузе, за вывучаемы пэрыяд, яшчура—больш 50% ад агульнага ліку захворваньняў— яшчур жа, як вядома, зьяўляецца хваробай з параўнальна вялікім процантам выздараўленьня. Гэтым, г. зн. вялікім распаўсюджваньнем яшчура, трэба тлумачыць і меншы процант у Менскай акрузе зварочваньня насельніцтва да вэтэрынарнай дапамогі пры захворваньні жывёлы, у той час як па Віцебскай акрузе насельніцтва зварочвалася да вэтдапамогі ў 41% ад агульнага ліку захворваньня,—у Менскай акрузе гэта лічба роўна толькі 14%. Справа тут у тым, што спосабы лячэньня яшчура вядомы насельніцтву і таму што хвароба гэта распаўсюджана і ў дыягназе памыліцца цяжка, дык насельніцтва пры зьяўленьні гэтай хваробы і абыходзілася ў большай частцы сваімі сродкамі, да вэтэрынарнай-жа дапа-

могі зьварочвалася толькі ў выпадках якіх-небудзь пагоршаньняў. Зусім невялікі процант сьмяротных выпадкаў ад яшчура, зарэгістраваны нашым абсьледваньнем, дае права думаць, што эпізоотыя у гэтым выпадку адбывалася ў паслабленай форме.

Пытаньне аб вэтэрынарна-санітарным становішчы Менскай і Віцебскай акруг зьяўляецца настолькі сур'ёзным для справы правільнай арганізацыі жывёлаводзтва, што заслугоўвае спэцыяльнага разгляду. Нашы дадзеныя, паўтараем, ні ў якай меры ня зьяўляюцца для гэтага дастатковымі. Ды і няма асаблівай патрэбы для высьвятленьня пытаньняў вэтэрынарыі карыстацца зьвесткамі, атрыманымі з апытаньня насельніцтва. Статыстыка па вэтэрынарнай дапамозе (амбуляторны прыём і выязды) праводзяцца вэтэрынарным пэрсаналам настолькі дакладна, і так правільна адбівае стан справы, што ёю для высьвятленьня гэтага пытаньня і трэба карыстацца. Вэтэрынарны пэрсанал лепш, чым хто іншы, можа высьвятліць і становішча пытаньня аб санітарным стане вёскі. Наша ўражаньне ў гэтых адносінах вельмі няспрыяючае: магілак ва многіх мясцох няма, асабліва ў глухіх экстэнсыўных раёнах, а там, дзе яны і ёсьць—яны хутчэй за ўсё толькі лічацца, а не існуюць, таму, што фактычна не існуе абавязацельства для насельніцтва зарываць на гэтых магілках трупы паўшай жывёлы, пагэтаму і пры наяўнасьці магілак трупы нярэдка зарываюцца ў іншых месцох. Акрамя таго нават ў тых выпадках, калі насельніцтва карыстаецца магілкамі, вельмі часта трупы скаціны толькі звозяцца на магілкі, а не зарываюцца (відаць шкілеты). Недахопам маючыхся магілак зьяўляецца і адсутнасьць плоту навокал іх.

Таксама дрэнна абстаіць справа і ў адносінах летняга вадапою,—скаціна вельмі часта поіцца з балотных рэчак, стаячых сажалак і вазёр, дзе вада летам загнівае, што вядзе да разьвіцьця хваробы на глісты і жываты. Урэгуляваць справу з вадапоем, канечна, больш цяжэй, чым справу з могілкамі. Нявырашаным пытаньнем для Менскай і Віцебскай акруг зьяўляецца пытаньне аб пастухах: у зьвязку з тым, што стады тут у большай частцы бываюць невялікія (у сярэднім кадя 50—60 гал.), пасьба звычайна давяраецца альбо старыкам інвалідам, альбо падросткам, якія зусім ня ўмеюць пасьвіць скаціну, у выніку чаго і паша скарыстоўвацца дрэнна, а скаціна нярэдка хварэе цімпанітам. Змагацца з гэтым можна толькі шляхам распаўсюджваньня сярод насельніцтва правільных ведаў аб значэньні пастуха і аб правілах пасьбы скаціны.

З гутарак з вэтпэрсаналам высьвятлілася, што не на належнай вышыне знаходзіцца і арганізацыя вэтдапамогі, асабліва часта былі скаргі на недахоп сродкаў на пераезды, што моцна абмяжоўвае працу вэтпэрсаналю, звужае фактычны раён яго дзейнасьці. Зварочвалася ўвага на тое, што дзякуючы недахопу сродкау на выезды, не заўсёды своечасова ўдавалася заўважваць пачатак эпізоотыі. Відавочна на гэты дэфэкт арганізацыі неабходна зьвярнуць увагу ў першую чаргу. Зразумела ёсьць і іншыя балючыя пытаньні вэтэрынарнай арганізацыі: недастатковасьць пэрсаналю, непрыстасаванасьць амбуляторных памяшканьняў для прыёму жывёлы, крайняя недастатковасьць папулярнай літаратуры па пытаньнях вэтэрынарыі і іншае. Неўрэгуляванасьць гэтых і шмат якіх іншых пытаньняў вэтэрынарнай дапамогі надзвычайна адмоўна адбіваецца на жывёлаводзтве краіны, але узьняць гэтыя балючыя пытаньні, правільна іх акрэсьліць і паказаць шляхі да вырашэньня іх—лепш за ўсё могуць, вядома, самі вэтэрынарныя врачы, і НКЗ павінен даць ім магчымасьць гэта ажыцьцявіць. Мы на падставе нашых уражаньняў пры абсьледваньні можам толькі зазначыць, што справе правільнай пастаноўкі вэтэрынарнай

дапамогі неабходна ўдзяляць значна больш увагі, чым гэта рабілася да да гэтага часу. Гэтага патрабуюць інтарэсы жывёлаводзтва.

---

Закончыўжы нарыс па эканоміцы жывёлаводзтва Менскай і Віцебскай акруг, мы хацелі падкрэсьліць тры асноўныя і практычна найбольш важныя вывады, якія вынікаюць з гэтага нарысу.

1. Пляны мерапрыемстваў аградамогі павінны складацца не ў акруговым, а ў параённым масштабе з вучотам сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі сялянства (апошняе асабліва для інтэнсыўных раёнаў).

2. Пытаньне ўсіх пытаньняў у справе палепшаньня жывёлаводзтва— гэта кармавое пытаньне (вырашэньне белкавога крызісу).

3. Палепшаньне заводу жывёлы павінна ісьці праз палепшаньне племяньнікоў, шляхам застаўленьня на племя быкоў ад найбольш удойлівых кароў і выключэньня са стаду быкоў карлікаў і недаросткаў (шляхам грамадзкіх прысудаў).

Каб ілюстраваць, на колькі гэтыя меркаваньні сапраўды вынікаюць з умоў жыцьця сучаснай вёскі, я дазволю сабе прывесьці са справаздачы аднаго з ўдзельнікаў экспэдыцыі студэнта С. А. Кэйзера, працаваўшага ў Бягамльскім, Смалявіцкім і Самахвалаўскім раёнах.

„Разгледзім раёны Самахвалаўскі, Смалявіцкі і Бягмольскі з боку іх эканамічнай характарыстыкі. Чалавек і неспэцыялісты, праехаўшы праз гэтыя раёны пэўна не памыліцца і зараз жа скажа, што Самахвалаўскі раён самы інтэнсыўны па вядзеньню сельскае гаспадаркі і багаты, а другога боку самы экстэнсыўны і бедны Бягомльскі раён. Калі бліжэй прыглядзецца да Самахвалаўскага раёну, дык кінецца ў вочы наступнае: інтэнсыўнае скарыстоўваньне зямельных вучасткаў, мэліярацыя балот на кожным кроку, травасеяньне пашырана да магчымасьці, рознастайнасьць палявых і гародніх культур, развядзеньне заводзкіх жывёл, а ўсё гэта і сказваецца на хатнім жыцьці, што яскрава і кінулася мне ў вочы. Але тут зраблю увагу: я пішу не аб ўсім раёне, бо па ўсім ня езьдзіў, а быў толькі 10 дзён ў ім і бачыў ня больш 3-х сельсаветаў каля племхоза Калініна,—і гэтага часу вандроўкі досыць, каб лёгка адрозьніць адзін раён ад другога. Ужо занадта хлешча ён сваім багацьцем у вочы. Тут і чырвоная беларуская скаціна коштам да 400 р. на племя, тут і бэльгійскай пароды працоўная жывёла, тут і ангельскія буйныя сьвіньні, а яшчэ цікавей тое, што насельніцтва, здаецца, добра знаёма і з пародамі жывёлы, і з лячэньнем хвароб. Мы бывала падыходзім і запытваем у дзядзкі, якой пароды ў яго конь і ён упэўнена адказвае на запытаньне а далей як пачне гаварыць, дык дзівішся, адкуль ён толькі набраў столькі ведаў—ня дзіва, што ў тых мясцох ёсьць тры кантроль-асыстэнты, якія дасьледуюць толькі тры вёскі і то не цалкам, а на 50%. Тутака сяляне сеюць на летні выпас і белую канюшыну і цімафееўку, што ў другіх раёнах не прыкмячалася. Ураджайнасьць хлябоў, траў і розных караньплодаў у гэтых мясцох больш-менш адпавядае нашым кніжным вытрымкам. Культурны узровень насельніцтва таксама вышэй, чымся у другіх раёнах, дзе прышлося пабываць, што рэзка сказваецца і на прасторных будынках, на чыстаце адзежы, на ўходзе за жывёлай і сельска-гаспадарчых прыладах. Нам першапачаткова выступіўшым у вёску на працу, тутака асьцярожна і тактычна прыходзіцца лавіраваць, каб не папасьці у прасак. Дзядзька скажа, памаўчыш з відам знатака, што-небудзь праверыш, успомніш, а далей і сам чаму-небудзь навучышся, асабліва гэта датычыцца вэтэрынарнай справы, да якой мы зусім не падрыхтаваны“...

„Паглядзім цяпер на апошні Бягомльскі раён. Раён ў 75 вярстах ад Барысава і жалезна-дарожнай станцыі. Па дарозе ўсюды пясок і пясок, які перасыпае з месца на месца моцны вецер. Добры каняка вязе экспэдытараў двое сутак да Бягомля, ён ідзе шагам увесь час падарожжа, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што гаспадар б'е яго палкай. Запытваеш, ці дае ён яму аўса, калі едзе ў падарожжа, а ён адказвае, што і сена няма, а жыве жывёла „чорт знае на чым". Можна зьмяніць тры вазьніцы пакуль даедзеш да чаканага Бягомля. Вазьніца наш такі бядак, як быццам інвалід, хаця і здаровы, яго ніхто не турбуе, ні ход каня, ні дождж, які кожную гадзіну мочыць наскрозь, ні холад, ні голад"... „Мы едзем у вёску, а там 6 хрэсьбін на 85 двароў, амаль ні ўся вёска п'яная. Склікаеш сход, на сходзе спрэчкі з прадстаўнікамі сельсавету і камітэту узаемадапамогі—нас пасылаюць „к чорту", мы клічам сход з вуліцы ў хату і праводзім яго да канца. Але настрой ў нас з першага-ж часу спаў; дзіка працаваць сярод зусім някультурных сялян. Адусюль на цябе глядзяць сурова, бо яны ніколі не бачылі нічога пахожага, а часам сустракаліся такія мясьціны, дзе агранома і не бачылі, а што-ж датычыцца да вэтэрынара то і ня чулі. Жывёла плодзіцца, хварэе, здыхае, лечуць знахары, ад чаго і самі ня ведаюць. Навакол квітнуць забабоны, а лякарства—чым больш усякай „дряни" падмяшаюць, тым пэўней і часьцей чакаюць ад яе дапамогі. Глеба камяністая, валуны навокал цэлымі кучамі зложаны і раскіданы па полю. Па дарозе едзеш, здаецца і на ёй занадта многа каменьняў.Аруць сахой, скародзяць беларускім смыкам, працоўная жывёла часта - вол. Дзівішся як гэта сяляне аруць каменьня, як расьце на гэтай глебе, а яшчэ больш цікавіць уборка і сенажаць. Травяных культур і кораньплодаў тут і не пытай. Рэдка сеецца дзеля ўгнаеньня лубін, сустракаецца іншы раз і канюшына. Які севазварот ніяк не зразумееш, ці двухпалёўка, ці трохпалёўка; ўжываецца цалком і пераложная сыстэма землякарыстаньня—звычайна бачыш навакол толькі яр і жыта, а паміж імі крыху папару, а далей ізноў жыта і яравое перамешана. Адным чынам, дзе мы наглядалі, прышлі да вываду, што там неяк камбінуюць пасеў з папарам і кожны селянін па свойму.

Рагатай скаціны іншыя сяляне трымаюць да 6—8 галоў на двор агульнай вагой усе да 100 пуд. разам і ўтрымліваюцца галоўным чынам на гной, гэта дробная мясцовая скаціна з надворнага боку мае жалкі выгляд,—галава вялікая, тулава малое. Гаспадар зусім не зьвяртае на яе ніякай увагі. Корм выключна грубы, да і то 30—35 пуд. саломы на зімовы час. Гавораць. што падкармліваюць раньняй вясной якімісь-то карэньнямі з лесу, але-ж мне не трапілася ўбачыць. Скаціна дзікая, клічак няма, у аднаго селяніна—тры рыжых, а як іх адрозьніць ня ведае. Тут мы толькі і запісвалі па часу ацёлу. Эканамічная беднасьць раёну відаць адбіваецца і на разьвіцьці будаўніцтва саўгасаў і калгасаў. Усяго на ўсяго ў раёне 1 саўгас і 1 сталы калгас—сельска-гаспадарчая арцель. Мясцовасьць нізкая, вады добрай для піцьця няма, усюды вада дажджавая, якая ў студні то прыбывае, то ўбывае ў залежнасьці ад ападкаў, пры мыцьці мыліцца; студні няглыбокія ня глыбей 2-х аршын, вада з пахам і гнілым смакам. Сена - балотная асака, якая пакуль высыхне, дык стане чорная. Вось і такога сена ледзь хапае толькі на корм каню—авечкам і то з нацяжкай у стойлавы пэрыяд. Усе умовы злажыліся так, што жывёла ў гэтым раёне знаходзіцца ў самым жудасным стане. Умовы накладаюць адбітак на сялян і на іх жыцьцё: ціхія, забітыя, маўчуны, нішто іх не радуе, ня цікавіць. Беднасьць сялян яскрава падкрэсьлілася у аднэй вёсцы, дзе на „спаса" ня было ніводнага п'янага супроць на-

шага чаканьня. Шмат па вёсках кульгавых, сьляпых і іншых калек ад прыроды. Вёскі раскіданы далёка адна ад другой на 5—10—30 вёрст. Хутароў зусім ня відаць—рэдка. Траплялася некалькі разоў праводзіць сход пры лучыне ў хатцы з маленькім шклом. Хаткі амаль ня ўсе схожы на нашы добрыя лазьні. Сяляне тлумачаць гэта блізкасьцю запаведніка і скардзяцца за тое, што запаведнік абхапляе іх вёскі з хатамі і няма дзе разьвярнуцца, ці дабыць лясного матар'ялу для пабудовы. Калі ў папярэдніх раёнах былі малатарні, дык тут уся апрацоўка глебы і ўборка хлябоў вытвараецца першапачатковым спосабам".

Што-ж датычыцца дыфэрэнцыяцыі сялянства на асноўныя сацыяльныя групы, дык такая па ўражаньню т. Кэйзэра яскрава прыкметна толькі ў раёнах інтэнсыўных ён піша: „серадмякі і заможнікі Самахвалаўскага раёну здавальняюць жывёлу моцнымі кармамі, якія побач з сваімі, здабываюць праз каапэрацыю малочныя арцелі. Бедната гэтага раёну надта рэдка дае жывёле асёўкі і макуху больш да грубага корму прымешваецца бульба.

У Бягомльскім раёне наадварот. Асноўным кормам зьяўляецца салома з мякінай і рэдка крыху прыбаўляецца ў некаторых гаспадарках бульба, тут ужо яскравай розьніцы у кармленьні жывёлы не прыкмячалася, апрача па блізу раёну, як у тых а так і ў другіх быдла больш пасецца па запаведніку ад раньняй вясны да сьнегу" „і быццам падзел на беднякоў, серадмякоў і заможнікаў вытвараецца выключна па колькасьці і ворнай зямлі; быццам ніякай розьніцы больш няма і ў хатнім жыцьці беднякоў і серадмякоў"—запытваеш: „дайце калі ласка такі і такі процант беднякоў, серадпякоў і заможнікаў, дык зараз-жа пачынаюць лічыць колькі жывёлы маецца ў таго ці іншага жыхара. Знойдуцца адзінкі, якія і сапраўды адпавядаюць свайму становішчу, гэта часьцей бывае на хўтарох, або бліжэй да раёну мястэчак і саўгасу. З такіх моцных гаспадароў трапілася спаткаць па Бягомльскаму раёну толькі аднаго. Жыхар завёў травасеяньне і караньплоды скарыстоўваючы залу на лугу, мае лепшыя сельска-гаспадарчыя прылады, заводзіць пародную жывёлу, мае да 7—8 кароў,—такім чынам імкнецца гаспадарыць па кніжках. Наёмную працу скарыстоўвае ад недахопу працоўных рук – малая сям'я. Так вось гэта адзін толькі і заможны, які нам спаткаўся за час вандроўкі па Бягомльскаму раёну, а рэшта другіх заможнікаў далёка ад іх клічкі. Хата такая-ж брудная, малая, харчы—такія-ж, толькі магчыма, хлеб свой, якога хапае на цэлы год; наёмнай працай, быццам, не карыстаецца. Беднякоў-жа і серадмякоў адрозьніць яшчэ цяжэй. Калі бядняк—мае адну карову і арэць валом, дык серадняк—мае 2 кароўкі і каня. Хлеба свайго не хапае на цэлы год, а зарабляюць на яго па лесараспрацоўках. Беднасьць раёну яскрава вызначаецца і па надворнаму выгляду хат і іншых будынкаў і па культурнаму ўзроўню насельніцтва—па чым і праводзіцца дыфэрэнцыяцыя жыхароў вёскі. Інакш крыху абстаіць справа ў Смалявіцкім раёне (сярэдні па інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі), тут можна знайсьці і сапраўдных кулакоў—заможнікаў. Рознастайнасьць палявых і гародных культур, колькасьць жывёлы і яе заводкасьць, карыстаньне наёмнай працай (ўсё за адработкі) вясёлы выгляд будынкаў, павялічаная колькасьць лепшых прылад, культурнасьць—усё цалком сьведчыць аб яго заможнасьці. Серадняк тут таксама ясьней вызначаецца, чымся ў Бягомльшчыне. Падатак яго рэзка адрозьніваецца ад падатку беднякоў. Ён мае і гумно і самадзельную малатарню, і добры конь амаль заўсёды у серадняка; вытвараючы лепшую апрацоўку глебы, бо яго зямелька дае заўсёды хлеб, ў той час як бядняк шмат ходзіць на пабочныя за-

робкі Хаты таксама сьведчаць аб іх лепшым матар'яльным становішчы. Бедняќі ў Смалявіцкім раёне хаця і не пашуць і не аруць валамі і сахой, затое быдла і конь і сельска-гаспадарчыя прылады надзвычайна жалкі ў параўнаньні з багатымі—заможнікамі і серадняками".

Яскрава адзначаюцца абсьледваныя раёны і ў адносінах развядзеньня скаціны. Тав. Кэйзер у сваёй справаздачы піша: „Племяная справа ў Смалявіцкім і Бягомльскім раёне знаходзіцца ў пачатковым стане. Там, дзе б'юць на колькасьць гнойных жывёл, няма імкненьня до добрых племяньнікаў. Лепш за ўсё гэта справа наладжана ў вёсках Самахвалаўскага раёну, дзе ад каровы атрымоўваецца малако на продаж і да таго яшчэ цялёнак часта прадаецца на племя, як чырвонае беларускае быдла ў другія раёны,—вось тут толькі і водзяцца быкі, якіх трудна знайсьці ў другіх раёнах. Быкі вёсак, каля плямгасу Калініна мала чым адрозьніваюцца ад плямгаскіх гэта-ж датычыцца і да чырвоных кароў. Інтэнсыўнае скарыстаньне жывёлы вызвана ўплывам плямгасу; тут і простыя, палепшаныя чырвонымі, таксама раскупляюцца на племя сумежнымі пасялішчамі.

У Смалявіцкім раёне племяная справа абстаіць дрэнна: рэдка вёска трымае сваіх грамадзкіх быкоў, а больш карыстаецца хутарскімі—якімі небудзь мяшанцамі, найчасьцей—гэта мэтыс, швіц і галяндзец з мясцовым. Калі маюцца быкі ў вёсцы ў жыхароў,' дык ужо і прыходзіцца зьдзіўляецца як яны толькі іх і пускаюць да кароў—гэта „беспародная дрэнь" ад аднаго да двух год узросту, слабыя і хілыя, маюць жывую вагу'ад 10 да 17 пуд. ростам малыя, ходзяць у стадзе і псуюць кароў. Зразумела, што ад такіх бычкоў бывае і шмат ялавак, або здыхаюць цяляты, выкідышы і розныя хваробы, што ў далейшым адбіваецца і на ўсім жыцьці жывёлы. Савгасаўскія і калгасаўскія быкі больш лепшыя, і сяляне прыводзяць да іх на прыпуск (па 2 р.); завадзкіх племяных быкоў адзіночныя гаспадары ня маюць магчымасьці трымаць, а ўсё сяло ніяк не зговорыцца раздабыць быка. Дзе-ж ён ёсьць—скарыстоўваецца пры вольным прыпуску ў стадзе і не атрымоўвае належнай дадатковай падкормкі. Ен хутка гіне і прадаецца на мяса, як нікуды нягодны. Яшчэ горш справа ў Бягомльскім раёне, да ўсіх памянёных бакоў трэба яшчэ далучыць і адсутнасьць саўгасаў і калгасаў. Што-ж датычыцца да сялянскіх быкоў, дык яны яшчэ горшыя, чым у Смалявіцкім раёне,—племяннога бычка можна сьмела добраму чалавеку ўскласьці на плечы і несьці вёрст пяць, толькі не варушыўся-б: гэта невялічкія, пахожыя на цялё бычкі, вага жывая ад 8 да 14 пудоў. Адбору цялят лепшых і здаровых не бывае,—гадуюць як папала і што падвярнецца пад рукі; тут усё накіравана не на малочнасьць з пункту гледжаньня спэцыялістага, а на гной, бо бываюць выпадкі запушчэньня кароў аж на 9 месяцаў. Шмат кароў хворых калечаных і старых да 20 год;—галодныя, ямкі глыбокія, моклы тырчаць, шэрсьць грубая, густая: мерыць даюцца бяз усякага супраціўленьня, як кволыя, а ўсё гэта ад грубага корму—саломы, якой і то не на цэлы год хапае для падтрыманьня жыцьця жывёлы ў нармальным выглядзе. У залежнасьці ад недахопу і дрэнных племяньнікоў сялянская карова бывае ацеліцца раз у два гады і гэта сустракаецца, як звычайнае зьявішча на цэлыя вёскі. Наглядаліся і такія выпадкі, вёска мае грамадзкага бычка, але гэты бычок ня мае прытулку і ўходу з раньняй вясны аж да сьнегу. Стада ідзе ў двор, а бычок застаецца на ноч у полі, лесе,—і дрэнна захварэць яму,—ніхто яго ня лечыць ня корміць і ўрэшце здыхае, а вёска пасьля надоўга застаецца бяз бычка і як вынік гэтага—вялікі процант ялавак"...

„Агульнае ўражаньне ад сялянскай гаспадаркі не надта прыемнае.

Усюды бачым няправільнае разьмеркаваньне працы паміж рознымі галінамі гаспадаркі, нерацыянальнае скарыстаньне яе ў вытворчасьці. У заняпадзе знаходзяцца такія галіны сельскае гаспадаркі, якія-б шмат дапамаглі-б пашырэньню другіх галін,—гэта асабліва трэба дапасаваць да Бягомльскага раёну"... Разумеецца, амаль таксама, што сказана аб Бягомльскім раёне, трэба сказаць аб Чашнікаўскім раёне Віцебскай акругі. Удзельнік экспэдыцыі студэнт Самахвалаў В. П. піша аб ім: „Досыць сказаць, што ва ўсім раёне няма *ніводнай* малочнай арцелі. Сяляне кажуць, што малако яны прадавалі толькі тады, пакуль пасьцілі пост, а цяпер нехапае яго і для сябе. Скаціна выдзяляецца сваёй маларосласьцю і малымі ўдоямі. Рэдка сустракаюцца мэтысныя каровы. Дрэнныя умовы карменьня мяжуюцца з адсталымі прадзедаўскімі прынцыпамі развядзеньня. Амаль ва усіх вёсках карыстаюцца грамадзкімі быкамі, на якасьць якіх не зварочваецца належнай увагі,—толькі-бы быў прыплод ды не засталася-б ялаўкай карова",—так думаюць часта сяляне бяручы ў арэнду дрэннага быка. Спачатку вясны значны процант кароў прыходзіцца падымаць ад бяскорміцы і залежваньня"... Зусім іншы малюнак дае жывёлаводзтва інтэнсыўнага Ліозьнянскага раёну, але тут пры розьніцы землякарыстаня — (у Чашнікаўскім раёне абшчыннае, а ў Ліозьнянскім хутарское),—бадай ці гэтыя раёны можна параўняць. Аднак-же, піша т. Самахвалаў—калі сёняшняя вясковая сапраўднасьць Чашнікаў не ў карысьць разьвіцьця жывёлагадоўлі, дык гэтага нельга сказаць пра заўтрашні дзень раёну. Сялянства стыхійна выходзіць з вёсак, утвараюцца пасёлкі, нярэдка калгасы, кідаецца 3-х палёўка—галоўны тормаз разьвіцьця жывёлагадоўлі. Такім чынам, заўтрашнія Чашнікі ўжо як раён з вялікай колькасьцю калгасаў і пасёлкаў патрабуе належную пераарганізацыю жывёлагадоўлі. Настае мажлівасьць вывясьці гэтую галіну сельскае гаспадаркі з руціны і паставіць яе на навуковы фундамант".

Апошняе правільна ня толькі адносна жывёлаводзтва Чашнікаўскага альбо Бягомльскага раёну, але і адносна жывёлаводзтва на Беларусі наогул.

---


КАРТА
МЕНСКАЙ АК.
УМОЎНЫЯ ЗНАКІ:
МЕЖЫ АКРУГОЎ
РАЁНАЎ
ЧУГУНКА
АБСЬЛЕДАВАНЫЯ ПУНКТЫ
БЕГОМЛЯ
ПЛЕШЧЭНІЦЫ
ХАЛОПЕНІЧЫ
ЗЕМБІН
ЛАГОЙСК
БАРЫСАЎ
ГАРАДОК
ЗАСЛАЎЛЬ
СМАЛЯВІЧЫ
МЕНСК
КОЙДАНАВА
САМАХВАЛАВІЧЫ
СЬМІЛАВІЧЫ
БЯРЭЗІНА
ЧЭРВЕНЬ
УЗДА
ШАЦК
ПУХАВІЧЫ
КОПЫЛЬ
ГРЭСК


КАРТА
ВІЦЕБСКАЙ АКР.
Умоўныя знакі:
Межы акругоў
• раёнаў
чугунка
Абсьледаваныя пункты •
ЕЗЯРЫШЧА
МЯЖА
ГАРАДОК
СУРАЖ
ШУМІЛІНА
ВІЦЕБСК
БЕШЭНКАВІЧЫ
ЧАШНІКІ
СЕННО
ВЫСАЧАНЫ
ЛІОЗНА

# Экстэр‘ернае апісаньне буйнай рагатай жывёлы Менскай і Віцебскай акруг

Пры экстэр‘ерным апісаньні быдла абсьледваных акруг было пастаўлена галоўнымі задачамі:

1. Па магчымасьці ахарактарызаваць усе, якія сустракаюцца, групы быдла як мясцовга, так і мэтыснага і вызначыць пры гэтым больш пэўную групу (асноўную), як аб‘ект для далейшай племяной працы над ею.

2. Даць канкрэтныя лічбы для высьвятленьня таго, як зьменяюцца надворныя формы быдла ў сувязі з рознымі ўмовамі яго ўтрыманьня.

Матар‘ялам паслужылі каля 6500 „індывідуальных“ і „пастадных“ картак, дзе было кароткае экстэр‘рнае апісаньне кароў і галоўныя прамеры. Распрацоўка ішла асобна для кожнай з 2-х абсьледваных акруг, а некаторыя пытаньні высьветляліся нават у межах кожнага абсьледванага раёну. Апошняе асабліва было неабходна для таго, каб устанавіць сувязь надворных форм быдла з рознымі ўмовамі ўтрыманьня. У гэтых выпадках апрацоўка матар‘ялаў картак праводзілася толькі пасьля таго, калі на падставе іншых дадзеных абсьледваньня вызначыліся раёны рознай інтэнсыўнасьці малочнае гаспадаркі, іначай кажучы, раёны рознага карменьня і ўтрыманьня быдла.

Пры апрацоўцы лічбавых дадзеных прамераў карысталіся мэтадам варыяцыйнай статыстыкі.

З прычыны таго, што ў межах 2-х абсьледваных акруг сустракаецца шэраг розных груп быдла, спачатку апісаньня высьвятляецца пародны склад быдла, а далей прыводзіцца больш дэталёвы агляд кожнай групы, альбо пароды.

**Склад па пародзе**. Каровы кожнага з абсьледваных раёнаў былі разьбіты на групы мясцовага і мэтыснага быдла.

Мэтызацыя пры абсьледваньні высьвятлялася, як шляхам апросу гаспадара, так і на падставе надворнага абгляду быдла.

Ніжэй прыведзена табліца пароднага складу дарослай жывёлы па акругах і раёнах (табл. 1).

Як відаць з табліцы мэтызацыя мясцовага быдла зьяўляецца даволі значнай. Пераважнымі будуць мяшанцы са швіцкім быдлаў і ў такіх раёнах, як Віцебскі і Сураскі, яны складаюць да 20-25% усяго пагалоўя дарослай жывёлы. За імі ў Віцебшчыне ідуць ангельны а ў Меншчыны галянцы. Быдла Менскай акругі, за выключэньнем раёнаў Самахвалавіцкага і Койданаўскага, менш мэтызавана, чым у Віцебскай і сама мэтызацыя мае больш выразны напрамак. Тут заметна пераважаюць швіцы і галянцы; у Віцебшчыне—наадварот, так званыя паляпшацелі былі розныя замежныя пароды. %% мэтысных кароў па асобных раёнах больш-меньш супадаюць як па дадзеных „Індывідуальных картак“, дзе апісывалася кожная карова асобна, так і па дадзеных

„Пастадных блянкаў“, дзе давалася характарыстыка цэламу стаду кароў. Гэтыя лічбы значацца таксама у прыведзенай намі І-ый табліцы.

**Таб. 1. Склад па пародзе дарослага быдла**

| Раёны і акругі | Усяго галоў | У тым лікучырв. белар. быдла | Мясцовае быдла | Мяшанцы: Швіцы | Мяшанцы: Сымэнт. | Мяшанцы: Ангельны | Мяшанцы: Галянцы | Мяшанцы: Іншыя мяш. | Мяшанцы: Ўсяго галоў | Па інд. блянках: %% мясцовага | Па інд. блянках: %% мяшанцаў | Па пастадн.: %% мясцовага | Па пастадн.: %% мяшанцаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Раёны Віцебшчыны:** | | | | | | | | | | | | | |
| 1) Чашніцкі | 479 | — | 407 | 17 | 2 | 22 | 31 | — | 72 | 85 | 15 | 86 | 14 |
| 2) Аазрышчанскі | 656 | — | 507 | 51 | 21 | 43 | 25 | 9 | 149 | 77 | 23 | 87 | 13 |
| 3) Віцебскі | 967 | — | 533 | 240 | 52 | 78 | 18 | 46 | 434 | 55 | 45 | 58 | 42 |
| 4) Сураскі | 539 | — | 373 | 124 | 11 | 16 | 7 | 8 | 166 | 69 | 31 | 69 | 31 |
| 5) Высачанскі | 376 | — | 285 | 45 | 4 | 27 | 11 | 4 | 91 | 76 | 24 | — | — |
| 6) Лёзьнянскі | 504 | — | 337 | 60 | 47 | 25 | 21 | 14 | 167 | 67 | 33 | — | — |
| Раёны Меншчыны: | | | | | | | | | | | | | |
| 1) Бягомльскі | 343 | 13 | 313 | 21 | — | — | 4 | 5 | 30 | 91,5 | 8,5 | 90 | 10 |
| 2) Смалявіцкі | 311 | 30 | 280 | 12 | 1 | — | 18 | — | 31 | 90 | 10 | 95 | 5 |
| 3) Бярэзінскі | 360 | 3 | 334 | 8 | 1 | — | 17 | — | 26 | 93 | 7 | 96 | 4 |
| 4) Копыльскі | 425 | 19 | 339 | 51 | 4 | — | 31 | — | 86 | 80 | 20 | 81 | 19 |
| 5) Самахвалав. | 1018 | 163 | 723 | 167 | 12 | 4 | 93 | 19 | 295 | 71 | 29 | 82 | 18 |
| 6) Кайданаўскі | 85 | 3 | 45 | 5 | 1 | — | 33 | 1 | 40 | 53 | 47 | 43 | 57 |
| 7) Сьмілавіцкі | 81 | 8 | 70 | 5 | — | — | 6 | — | 11 | 86 | 14 | 71 | 29 |
| 8) Пухавіцкі | 46 | 3 | 39 | 4 | 2 | — | 1 | — | 7 | 85 | 15 | 77 | 23 |
| 9) Барысаўскі | 51 | — | 51 | — | — | — | — | — | — | 100 | — | — | — |
| 10) Заслаўскі | 92 | 1 | 73 | 11 | 1 | — | 7 | — | 19 | 80 | 20 | — | — |
| **Па акругах:** | | | | | | | | | | | | | |
| **Віцебская** | 3521 | — | 2442 | 537 | 137 | 211 | 113 | 81 | 1079 | 69,4 | 30,6 | — | — |
| **Менская** | 2812 | 243 | 2267 | 584 | 22 | 4 | 210 | 25 | 545 | 80,7 | 19,3 | 86 | 14 |

На падставе лічбаў табліцы можна казаць, што ў Віцебшчыне зусім вызначаецца толька адна тэндэнцыя паляпшэньня быдла, але гэта тэндэнцыя застаецца пакуль што бяссыстэмнай, стыхійнай. У Меншчыне гэты працэс менш выяўлен і галоўную ўвагу селянін зьвяртае як быццам на ўласнае мясцовае быдла.

Група чырв. беларускага быдла, магчыма, адна і з лепшых папуляцый абарыгеннага быдла, сустракаецца амаль што па ўсей Меншчыне, а ў Самахвалавіцкім раёне скадае ўжо каля 15% ўсяго дарослага пагалоўя.

Цікава высьветліць, які агульны напрамак у племяной працы сярод сялянскага быдла прадбачыцца на працягу бліжэйшых 2-х—3-х гадоў. Для гэтае мэты прыводзім табліцу пароднага складу маладняку, зарэгістраванага пры абследваньні стад. Скарыстованы даныя „Пастадных

блянкаў“, іначай кажучы, вынікі агульных назіраньняў над стадамі асобных вёсак, альбо пасёлкаў (табл. № 2).

**Таб. 2. Пародны склад маладняку (цёлак і падцёлкаў)**

| Раёны і акругі | Усяго галоў | Мясцовых | У тым лiку чырвоных бел. | Мяшанцы | | | | | У %% | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Швіцы | Сымэнталы | Галянцы | Іншыя | Ўсяго | Мясцовых | Мяшанцаў |
| Раёны Віцебшчыны: | | | | | | | | | | |
| 1) Чашніцкі . . . | 310 | 277 | — | — | — | 31 | 2 | 33 | 90 | 10 |
| 2) Азярышчанскі . | 79 | 66 | — | 4 | — | — | — | 4 | 94 | 6 |
| 3) Віцебскі . . . | 127 | 91 | — | 34 | — | — | 2 | 36 | 72 | 28 |
| 4) Сураскі . . . . | 36 | 32 | — | 4 | — | — | — | 4 | 89 | 11 |
| Раёны Меншчыны: | | | | | | | | | | |
| 1) Бягомльскі . . | 320 | 302 | 1 | 9 | 2 | — | 7 | 18 | 94 | 6 |
| 2) Смалявіцкі . . | 408 | 392 | 4 | 10 | 1 | 5 | — | 16 | 96 | 4 |
| 3) Бярэзінскі . . | 469 | 457 | — | — | — | 6 | 6 | 12 | 97 | 3 |
| 4) Капыльскі . . | 169 | 104 | — | 40 | — | 25 | — | 65 | 62 | 38 |
| 5) Самахвалав. . . | 511 | 414 | 137 | 42 | — | 55 | — | 97 | 81 | 19 |
| 6) Койданаўскі . | 161 | 76 | 19 | 15 | — | 70 | — | 85 | 48 | 52 |
| 7) Сьмілавіцкі . . | 70 | 54 | 11 | 2 | — | 14 | — | 16 | 77 | 23 |
| 8) Пухавіцкі . . . | 49 | 39 | — | 10 | — | — | — | 10 | 80 | 20 |
| Па акругах: | | | | | | | | | | |
| Віцебскай . . . . | 543 | 466 | — | 42 | — | 31 | 4 | 77 | — | — |
| Менскай . . . . | 2157 | 1838 | 175 | 128 | 3 | 175 | 13 | 319 | 85 | 15 |

Усяго ў „Пастадных блянках“ запісана па Віцебскай акрузе 1392 каровы і 543 штукі маладняку, па Менскай акрузе кароў—7142, маладняку 2157. Пад маладнякам разумеюцца цёлкі і падцёлкі выключна.

Калі лічыць, што ўвесь маладняк абедзьвюх акруг сапраўды пойдзе на рамонт стада, то групы мяшанцаў дарослых кароў будуць аднаўлены ў розных акругах неаднолькава, калі мець на ўвазе прыблізныя даныя „пастадных блянкаў“ аб пародным складзе дарослых кароў (гл. ст. 2-ая), то трэба думаць, што ў Віцебшчыне мэтызацыя мясцовага быдла пойдзе на зьмяншэньне, па Меншчыне застаецца, як быццым, пакуль што нязьменнай.

Але-ж тут неабходна заўважыць, што нашы вывады наконт напрамку ў племянай працы сярод сялянскага быдла будуць ня зусім абгрунтованы. Асабліва гэта датычыцца Віцебшчыны, дзе мы маем зусім малую колькасьць назіраньняў над асобнымі стадамі быдла, а па некаторых раёнах нельга было запоўніць ніводнага „Пастаднага блянку“, бо там скаціна не пасецца ў стадзе, таму што сяляне жывуць у большасьці па хутарох.—Больш яскрава адказваюць на гэта пытаньне лічбы аб пародным складзе быкоў па матар‘ялах „індывід. блянк.“

**Табліца № 3. Пародны склад быкоў ад 2-х гадоў і старэй.**

| Пароды быкоў / Акругі | Мясцовых | Ў тым ліку чырв. белар. | Мяшанцаў: Швіцы і сымэнталі | Мяшанцаў: Галяндцы | Мяшанцаў: Ангельны | Мяшанцаў: Іншыя | Мяшанцаў: Ўсяго мяшанцаў | Усяго быкоў | Ў %%: Мясцовых | Ў %%: Мяшанц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Віцебская . . . | 6 | — | 12 | 3 | 4 | — | 19 | 25 | 24 | 76 |
| 2. Менская . . . | 41 | 20 | 6 | 5 | — | 3 | 14 | 55 | 75 | 25 |

Прыведзеная табліца кажа, што галоўную масу племяных дарослых быкоў па Віцебшчыне складаюць мяшанцы, даволі значны процант даюць мяшанцы-быкі і ў Меншчыне. Але ў Меншчыне быццым выціскае іх группа быкоў чырвона-беларускай пароды, якая, як убачым далей, дае лепшых вытворнікаў.

Такім чынам. на падставе табліцы зусім нельга казаць, што мэтызацыя мясцовай каровы ў Віцебшчыне зьмяншаецца, і скарэй гэта будзе адносіцца да Меншчыны.

**Табліца № 4**

| Назва масьцей / Акругі | Рыжая | Рыжа-стракатая | Чырвоная | Чырвона-стракатая | Чорная | Чорна-стракатая | Бурая | Бура-стракатая | Белая | Іншыя масьці | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Віцебская . . . | 25,0 | 13,8 | 11 | 5,0 | 15,1 | 10,0 | 9,1 | 4,0 | 3,8 | 3,2 | 100 |
| | 54,8 | | | | 25,1 | | | | | | |
| 2. Менская . . . | 18.6 | 10,4 | 4.7 | 6,0 | 20,4 | 15,8 | 8,3 | 2,8 | 9,1 | 3,9 | 100 |
| | 39,7 | | | | 36,2 | | | | | | |

**Масьць быдла**. Мастны склад абсьледванай жывёлы прыводзіцца ніжэй ў табліцы, дзе ў процантах прастаўлена ўдзельная вага кожнай з сустракаючыхся масьцей. Як відаць з табліцы быдла абодзьвюх акруг даволі differentiated — даволі рознастайнае. Усяго пры абсьледваньні адмечана да 14 розных масьцей. Масьць быдла Віцебшчыны больш аднастайна, чым у Меншчыне. Па Віцебшчыне пераважае рыжа-чырвоная (уключаючы і стракатых жывёл); Меншчына дае дзьве амаль што аднолькавыя мастныя групы быдла рыжа-чырвоную і чорную.

**Жывая вага.** Жывая вага быдла па акругах некалькі розная і хістаецца ў шырокіх межах. Аб гэтым кажа наступная табліца:

Табліца № 5. Жывая вага быдла па акругах

| АКРУГІ | Мясцовы | | | Мяшанцы | | | Ўсякі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сяр. ж. в. | | Хістаньні (у пудох) | Сяр. ж. в. | | Хістаньні (у пудох) | Сяр. ж. в. | | Хістаньня (у пудох) |
| | Кгр. | Пуд. | | Кгр. | Пуд. | | Кгр. | Пуд. | |
| 1. Віцебская | 321 | 19,6 | 12—27 | 352 | 21,5 | 17—28 | 331 | 20,2 | 12—28 |
| 2. Менская | 301,4 | 18,4 | 11—25 | 345,6 | 21,1 | 17—30 | 305 | 18,6 | 11—30 |

Такім чынам, быдла Віцебшчыны трэба лічыць больш буйным, чым у Меншчыне, але-ж з графы хістаньняў бачым, што і там сустракаюцца дробныя жывёлы.

Мяшанцы, як правіла, буйней мясцовага быдла, але і сярод іх нярэдкі экзэмпляры, жывая вага якіх ніжэй сярэдняй вагі мясцовай каровы.

Лічбы жывой вагі атрыманы шляхам абмеру па способу Клювер-Штраўха, способу апрабаванаму і па даных іншых абсьледваньняў зусім прыгоднаму для быдла Беларусі [1]).

Дыяграма № 1. Жывая вага мясцовага быдла па раёнах рознай інтэнсыўнасьці




Прыведзеная табліца дае толькі самае агульнае прадстаўленьне аб жывой вазе быдла. Для больш яскравага высьвятленьня складу жывёл па жывой вазе ўсе дарослыя каровы (па „індывід. картках“) былі падзелены на дзьве групы: жывёл да 20½ пуд. жыв. вагі і вышэй 20½ пуд. Калі гэтак зрабіць для кожнага з абсьледваных раёнаў, то мы ўбачым такі малюнак: раёны рознай інтэнсыўнасьці малочнае гаспадаркі маюць і жывёлу рознай буйнасьці (дыяграма № 1).

[1]) Пр. Калантар „Белорусский скот“ Гомельской губ. 1928 г.

Ніжэй дадзена табліца, дзе раёны разьмешчаны ў парадку павялічэньня інтэнсыўнасьці малочнае г-кі. Прымета інтэнсыўнасьці—валавы прыбытак аднэй г-кі ад малочных прадуктаў (таб. № 6).

Табліца паказвае, што раёны з меншым валавым прыбыткам маюць больш дробнай жывёлы і наадварот, тое-ж кажа дыяграма № 1, ст. 5. Ёсьць выключэньні, якія адносяцца да Сураскага раёну Віцебскай акругі і Койданаўскага раёну Менск. акр., дзе быдла, ня глядзячы на адносна малую прыбытковасьць малочн. гаспадаркі, буйнае. Тлумачыцца гэта тым, што там значна пашырана мэтызацыя мясцовага быдла. Прычына такога з'явішча невядома.

Неабходна дадаць: такая залежнасьць паміж жывою вагаю быдла і інтэнсыўнасьцю малочнае гаспадаркі, наогул кажучы, умоўная і кажа аб тым, што тут мы маем справу з экстэнсыўным жывёлагадоўствам, дзе пакуль што дамінуючую значнасьць мае кармленьне быдла, а племяная работа—справа другарадная.

**Табліца № 6. Жывая вага мясцовага быдла па асобных раёнах.**

Віцебская акруга

| РАЁНЫ | Валавы прыб. ад мал. г-кі | Лік кароў у % | | Ж. в. сярэд. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да $20\frac{1}{2}$ пуд. | Больш $20\frac{1}{2}$ п. | Пуд. | Кгр. |
| | Руб. | | | | |
| 1) Чашніцкі . . . | 0,11 | 88 | 12 | 17,8 | 292,0 |
| 2) Сураскі . . . | 4,3 | 66 | 34 | 19,6 | 321,0 |
| 3) Азярышчанскі | 17,7 | 76 | 24 | 18,9 | 310,6 |
| 4) Віцебскі . . . | 35,0 | 70 | 30 | 19,4 | 318,0 |
| 5) Высачанскі . . | 46,8 | 70 | 30 | 20,5 | 336,0 |
| 6) Ліозьнянскі . | 90,9 | 37 | 63 | 21,6 | 354 |
| Па Віцебскай акрузе . . | 32,5 | 68 | 32 | 19,6 | 321 |

Менская акруга

| РАЁНЫ | Валавы прыб. ад мал. г-кі р. | Лік кароў у % | | Ж. в. сярэд. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да $20\frac{1}{2}$ пуд. | Больш $20\frac{1}{2}$ п. | Пуд. | Кгр |
| 1) Бягомльскі . . | 1,06 | 97 | 3 | 16,0 | 262 |
| 2) Смалявіцкі . . | 2,08 | 100 | — | 17,10 | 280 |
| 3) Барысаўскі . . | 3,41 | 80 | 20 | 17,3 | 283 |
| 4) Капыльскі . . | 5,3 | 82 | 18 | 18,6 | 305 |
| 5) Бярэзінскі . . | 9,0 | 90 | 10 | 16,5 | 270 |
| 6) Койданаўскі . | 9,92 | 55 | 45 | 20,6 | 337 |
| 7) Сьмілавіцкі . | 16,05 | 77 | 23 | 18,7 | 306 |
| 8) Самахвал. . . | 56,6 | 58 | 42 | 20,6 | 337 |
| 9) Заслаўскі . . | 140 | 50 | 50 | 21,3 | 349 |
| Па Менскай акрузе . . | 28,51 | 76,5 | 23,5 | 18,4 | 301 |

З мясцовага пагалоўя ў межах Менскай акругі некалькі выдзяляецца група чырвона-беларускага быдла, якое насяляе, галоўным чынам, Самахвалавіцкі раён.

**Табліца № 7. Жывая вага чырв.-беларус. быдла Самахв. раёну.**

| | Кароў чырв. бел. групы ў %% | | Жывая вага ў сярэднім | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Чырв. бел. быдла | | Іншы мясц. | | Мяшанцы | |
| | Жыв. в. да $20\frac{1}{2}$ п. | Жыв. вага звыш. $20\frac{1}{2}$ п. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. |
| Самахвалавіцкі раён | 40 | 60 | 21,1 | 346 | 20,1 | 330 | 22,4 | 367 |

Даныя аб жывой вазе гэтага быдла паказаны ў табліцы № 7 ст. 6; там-жа прыводзіцца параўнаньне яго з іншымі групамі быдла, якія сустракаюцца ў межах Самахвалавіцкага раёну:

Табліца паказвае, што група чырв.-беларускага быдла Самахвалавіцкага раёну буйней мясцовага і крыху драбней мяшанцаў. Трэба мець на ўвазе, што гэты раён мае самае буйнае мясцовае быдла, а значыць, чырвона-беларуская група па жывой вазе займае першае месца па Меншчыне сярод мясцовага пагалоўя.

Цікава і тое, што гэта група жывёлы дае невялікія хістаньні жывой вагі (ад 17 да 25 пуд.) і зьяўляецца, такім чынам, больш аднастайным. Вядома, гэта мае сваё тлумачэньне ў гісторыі чырв.-беларускага быдла. Праф. Калугін у сваёй вядомай брашуры кажа, што пачатак племянай работы з гэтым быдлам быў паложан у 1889 г. абшарнікам В. В. Ельскім у яго маёнтку Ігнацічах (цяпер племгас „Калініна“), быўшага Менскага павету [1]).

К 1912-13 году, калі зроблена абсьледваньне чырв. белар. быдла Бакуном, стада Ельскага, ў 250 галоў, мела ўжо даволі выразную аднатыповасьць як па масьці, так і па прадукцыйнасьці. Разводзілася чырв. белар. быдла і ў многіх іншых маёнтках б. Менскага павету.

Памяненым абсьледваньнем было высьветлена, што стада абшарнікаў мелі ўплыў і на сялянскае быдла. Так, было ўстаноўлена, што палепшанае селянскае чырв. белар. быдла было буйней непалепшанага: палепшаныя ў сярэднім важылі 16-18 пуд., непалепшаныя 14-15 п.

Трэба думаць, што абсьледваная група чырвоная белар. быдла Самахвалавіцкага раёну ўключае ў сябе як-раз палепшанае мясцовае чырвона-белар. быдла. Пры чым падбор гэтага быдла ў Самахвалавіц. раёне па жыв. вазе працягваецца. Мы, напрыкл., бачым, што абсьледваная група ўжо набліжаецца да тых адборных стад, якія раней разводзіліся ў абшарніцкіх гаспадарках. Для ілюстрацыі прыводзім табліцу зрушэньня жыв. вагі ўсяго мясцовага быдла па Меншчыне і, ў прыватнасьці, яго асобных груп за тэрмін ад 1912 г. да 1928 г.

**Табліца № 8. Параўнаньне жыв. вагі мясц. быдла Меншчыны па абсьледваньнях**

| Групы быдла / Час абсьледваньня | Мясцовае сялянск. быдла | | Палепшанае чырв. белар. быдла | | Чырв. белар. быдла памешчыкаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік абмераных галоў | Жывая вага (пуд) | Лік абмераных галоў | Жывая вага (пуд) | Лік абмераных галоў | Жывая вага (пуд) |
| Абсьлед. Бакуна ў 1912-13 г. | 564 | 14—15 | 155 | 16—18 | 383 | 22—24 |
| Абсьледваньне ў 1928 г. | 2267 | 18—19 | 162 | 21,2 | — | — |

Табліца кажа аб значным зрушэньні жыв. вагі мясцовага быдла Меншчыны ў напрамку павялічэньня, якое дае каля 20-30%.

Быдла Віцебшчыны мае тую-же тэндэнцыю да павялічэньня жывае вагі. Аб гэтым кажа параўнаньне жыв. вагі мясцовага быдла па даных абсьледваньня праф. Ліскуна 1914 г. і па матар'ялах абсьледваньня 1928 г. Пры складаньні прыведзенай ніжэй табліцы з матар'-

[1]) Пр. Калугин „Красный белорусский скот“ 1923 г.

ялаў Ліскуна скарыстоеаны даныя аб жыв. вазе жывёл тых паветаў быўшай Віцебскай губ., якія ўвайшлі ў цяперашнюю Віцебскую акругу.

**Табліца № 9. Пераўнаньне жывой вагі мясцовага быдла Віцебшчыны па абсьледваньнях 1914 і 1928 г. г.**

| | Лік абмераных галоў усіх | Група жыв, вагі да 16 п. | | Тое-ж 16—20 п. | | Тое-ж 20 п. і вышэй | | Сярэдняя жывая вага (пуд.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік галоў | У %% | Лік галоў | У %% | Лік галоў | У %% | |
| Абсьледваньне праф. Ліскуна 1914 г. . . . . . . | 1291 | 823 | 67,75 | 394 | 30,5 | 74 | 5,7 | 15—16 |
| Абсьледваньне ў 1928 г. | 1872 | 249 | 13,3 | 740 | 39,5 | 883 | 47,2 | 19—20 |
| Розьніца ў %% ± . | — | — | —50,45 | — | + 9,0 | — | +41,5 | +26 |

Па табліцы мы бачым, як зьмянілася колькасьць кароў рознае жыв. вагі за адносна кароткі час з 1914 па 1928 год: група дробнага быдла (да 16 п.) зьменшылася на 50% і на 41% павялічылася група ад 20 пуд. і вышэй. Мы лічым, што такое значнае павялічэньне жыв. вагі часткова тлумачыцца тою вялікай колькасьцю больш буйнага „беженского“ быдла, якое было раздана на Беларусі сялянам у час імпэрыялістычнай бойкі і якое, бязумоўна, заставіла шмат прыплоду.

Бязумоўны ўплыў на сялянскае быдла ўчынілі статкі з абшарніцкіх гаспадарак пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі.

Але-ж прыведзеныя факты скарэй трэба аднесьці да мэтысных кароў у сялянскіх г-ках, бо і „беженскае“ быдла і быдла абшарнікаў, гэта ў большасьці альбо мяшанцы, альбо чыстакроўныя жывёлы розных замежных парод,

Такім чынам паказанае намі вышэй павялічэньне жыв. вагі мясцовай каровы ў абсьледваных акругах трэба тлумачыць, галоўным чынам, некім значным пераломам у сялянскім жывёлаводзтве.

**Табліца № 10. Жывая вага мяшанцаў па раёнах рознай інтэнсыўнасьці.**

| Акругі і раёны / Вага | Віцебская акруга | | | | | | Менская акруга | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чашніцкі | | Віцебскі | | Лёозьнянскі | | Бягомльскі | | Бярэзінскі | | Самахвалавіцкі | |
| | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. | Пуд. | Кгр. |
| Жывая вага мясцов. быдла | 17,8 | 292 | 19,4 | 319 | 21,6 | 352 | 16 | 262 | 16,5 | 270 | 20,2 | 331 |
| Жывая вага мяшанцаў . . | 21,1 | 346 | 21,1 | 346 | 23,7 | 389 | 19,0 | 311 | 19,2 | 314 | 22,6 | 370 |

Жывая вага мяшанцаў наогул па акругах была паказана раней у табліцы № 5. Цяпер трэба застанавіцца на тым, як зьмяняецца яна па раёнах і для асобных мэтысных груп. Каб адказаць на першае пытаньне быў скарыстан матар'ял усіх мяшанцаў данага раёну сумесна. Аказалася, што хістаньні жыв. вагі мяшанцаў нязначны нават і па раё-

нах рознай інтэнсыўнасьці малочнае г-кі. Аб гэтым кажа табліца, № 10, ст. 8, дзе прыводзяцца лічбы жыв. вагі для трох раёнаў кожнай акругі, раёнаў рознай інтэнсыўнасьці

Мы бачым, што жыв. вага мясцовага быдла хістаецца па розных раёнах больш значна, чым мэтыснага.

Маючы на ўвазе экстэнсыўнасьць нашага жывёлаводзтва, дзе галоўным фактарам буйнасьці жывёлы зьяўляецца кармленьне, трэба чакаць, што і ўмовы ўтрыманьня мяшанцаў па розных раёнах адрозьніваюцца нязначна. Мяшанцы, як жывёлы меньш прыстасаваныя да нашых кліматычных і гаспадарчых умоў, вядома, будуць трымацца ў тых гаспадарках, дзе ёсьць магчымасьць лепш карміць скаціну. Іначай кажучы, мяшанцы павінны больш сустракацца па заможных гаспадарках. Наколькі гэта правідлова, пакажа наступная табліца:

**Табліца № 11. Склад быдла па пародзе па гаспадарках розных сацыяльных груп**

| АКРУГІ | Бядиякі | | Серадиякі | | Заможныя | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | % мясцовых | % мяшанцаў | % мясцовых | % мяшанцаў | % мясцовых | % мяшанцаў |
| Віцебская . . . . . . . | 79,2 | 20,8 | 74,4 | 25,6 | 58,4 | 41,6 |
| Менская . . . . . . . . | 87,1 | 12,9 | 81,0 | 19,0 | 70,5 | 29,5 |

Як відаць, табліца пацьвярджае прыведзеную вышэй думку.

Цяпер нам застаецца адказаць на тое, як адрозьніваюцца асобныя групы мяшанцаў па жывой вазе.

Для гэтага быў скарыстован матар'ял абедзьвюх акруг сумесна, таму што нязначная колькасьць некаторых мяшанцаў па асобных акругах не дала бы магчымасьці мець аб іх вазе больш пэўныя лічбы. Вынікі апрацоўкі гэтага пытаньня даны ніжэй ў табліцы № 12 і дыягр. 2. Там-жа прыводзіцца параўнаньне мяшанцаў з чыстапародным быдлам.

**Табліца № 12. Жывая вага розных мяшанцаў па абедзьвюх акругах сумесна**

| Па абедзьвюх акругах | | Швіцы | | Ангэлы | | Галянцы | | Сэманталы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Мяшан-цы | Чыстапа-родныя | Мяшан-цы | Чыстапа-родныя | Мяшан-цы | Чыстапа-родныя | Мяшан-цы | Чыстапа-родныя |
| Жывая вага быдла | пуд. | 21,3 | 31,2 | 21,0 | 26,2 | 21,8 | 31,2 | 23,2 | 33,0 |
| | кгр. | 349 | 511 | 344 | 429 | 357 | 511 | 380 | 540,5 |

Веды аб жыв. вазе чыстапароднага быдла ўзяты з кніжкі прафэсара Куляшова: „Выбор лошадей, коров, овец... по экстерьеру“ 1926 г.; гэта лічбы аб розных жывёлах замежнай крыві, якіх разводзяць, трэба думаць, не ў нашых умовах. Нажаль мы ня маем матар'ялу аб замежным быдле, які разводзіцца ў нашых буйных савецкіх гаспадарках. (дыяграма № 2).

З табліцы 12-ай можна ўпэўніцца, што групы мэтыснага, быдла ня гледзячы на іх генэтычную розьніцу зусім мала адрозьніваюцца па жывой вазе. Паказаныя ў табліцы мяшанцы ёсьць вынік скрыжаваньня аднаго і таго-ж мясцовага быдла с замежнымі пародамі рознага напрамку і зусім рознае жыв. вагі, што мы бачым з тэй-жа табліцы. Але-ж вынікі выходзяць, быццым, аднолькавыя. У чым-жа тут справа? Справа, галоўн. чынам ва умовах сялянскага кармленьня і ўтрыманьня жывёлы. Значыць, якую-б палепшаючую пароду, чужую нашым гаспадарчым умовам, ня ўжываў селянін, вынікі будуць прыблізна аднолькавыя: умовы ўтрыманьня і кармленьня ў сялянскіх гаспадарках нівэлююць

**Дыяграма № 2. Жывая вага мяшанцаў, чыстапародных і мясцовых кароў**




некаторыя асаблівасьці прыліваемай крыві. Гэта датычыцца ня толькі жывой вагі, але, магчыма, што і іншых цікавых у гаспадарчым сэнсэ адзнакаў (малочная прадукцыйнасьць, надворныя формы і інш.). Выключэньнем могуць быць толькі раёны больш інтэнсыўнага жывёлаводзтва.

Цяпер паглядзім, наколькі падвышаецца жывая вага мясцовага быдла шляхам яго мэтызацыі з замежнымі пародамі? Мяшанцы, як правіла, буйней мясцовых, але розьніца не перавышае 2-х - 3-х пудоў у сярэднім на карову ў межах аднага раёну. Але-ж мяшанцы рэзка адрозьніваюцца па жывой вазе ад чыстапароднага быдла і чым яно буйней, тым больш розьніца. Асабліва гэта значна ў сымэнталаў, галянцаў і швіцаў (глядзі табл. 12). Мэтысы-сымэнталы атрыманы шляхам скрыжаваньня аднэй з буйнейшых культурных парод з мясцовым быдлам, але па жыв. вазе яны перавышаюць іншых мяшанцаў толькі на $1^1/_2$—2 пуды.

Адгэтуль выцякае, што карыстацца паляпшацелямі буйных замежных парод для павялічэньня жывой вагі мясцовай каровы пры нашых

гаспадарчых умовах няма сэнсу. Тым больш, што ў інтэнсўных раёнах сярод мясцовага быдла ёсьць ужо даволі значная колькасьць кароў жыв. вагі ад 20 пуд. і вышэй (глядзі табл. № 6), якая можа быць падставай для племяной работы. Але, калі застанаўлівацца на гэтых раёнах, то трэба мець на ўвазе, што мэтызацыя мясцовага быдла там досыць значна і мае наогул здавальняючыя вынікі. Вось, для ўнясеньня большай яскравасьці ў пытаньне аб племяной каштоўнасьці і гаспадарчай прыдатнасьці асобных мэтысных груп, а таксама лепшых папуляцый мясцовага пагалоўя, трэба апрацаваць даныя па вывучэньню надворных форм абсьледванага быдла.

## Надворныя формы быдла

**Рост**. Прамерам, які характарызуе рост ската, звычайна лічыцца „вышыня холкі". Ўсе сярэднія лічбы для выяўленьня гэтай адзнакі ў мясцовага скату па асобных раёнах згрупаваны ў наступную табліцу (табл. № 13). Раёны разьмешчаны ў парадку павялічэньня іх інтэнсыўнасьці.

**Табліца 13. Рост мясцовага быдла па асобных раёнах.**

| Віцебская акруга | | | Менская акруга | | |
|---|---|---|---|---|---|
| РАЁНЫ | вышыня холкі: сярэдн. ў см. | вышыня холкі: хістаньні | РАЁНЫ | вышыня холкі: сярэдн. ў см. | вышыня холкі: хістаньні |
| Чашніцкі | 112,0 | 102—125 | Бягомльскі | 109,1 | 96—122 |
| Сураскі | 114,7 | 100—127 | Смалявіцкі | 111,6 | 102—123 |
| Азярышчанскі | 112,8 | 99—127 | Капыльскі | 115,3 | 104—130 |
| Віцебскі | 116,5 | 105—132 | Бярэзінскі | 110,5 | 93—125 |
| Высачанскі | 115,2 | 100—128 | Самахвалавіцкі | 118,4 | 100—134 |
| Ліозьнянскі | 118,7 | 108—130 | Чырвона-беларускі скот Самахвалав. раёну | 120,0 | 104—130 |

Прафэсар Вэрнэр падзяляе нямецкую скаціну па росту на такія групы:

Пароды зусім дробныя—вышыня холкі да 100 см.
" дробныя " " 100—130 "
" сярэднія " " 120—130 "
" буйныя " " 130—150 "

Па праф. Куляшову гэтыя даныя Вэрнэра могуць быць прыняты, як „стандарт" і для расейскіх парод.

Па праведзенаму „стандарту" ўся наша абмераная жывёла, як відаць з табліцы, ахапляе такія групы: „зусім дробнага быдла", „дробнага" і „сярэдняга". Да апошняй групы адносіцца каля 20% ўсяго мясцовата пагалоўя дзьвюх акруг (па Віцебшчыне 17,5%, па Меншчыне 20,9%). Каровы, маючыя рост ніжэй 100 см., досыць рэдкі; такіх абмерана ў Віцебшчыне—1 жывёла, у Меншчыне—21. Выходзіць, што ў масе абмераныя жывёлы (80%) адносяцца да групы дробнага

быдла з хістаньнем росту ад 100 да 120 см. а ў сярэднім для абедзьвюх акруг—114 см.

Больш рослай з мясцовых кароў будзе група чырв. беларускага быдла: 48°/₀ абмераных жывёл адносяцца к групе „дробнага быдла“ і 52°/₀ к „сярэдняга“; 81°/₀ даюць велічыню росту ад 115 да 125 см.

Праф. Прыдарогін адзначае вышыню велікарускага быдла ў цэлым 98—125 см., 110 см. у сярэднім. Домшынскае быдла Валагодзкай губ. мае вышыню холкі 115—125 см., у сярэднім 120 см.[1]). Па даных абсьледваньня Яраслаўскай губ. у 1921 г. сярэдняя вышыня холкі яраславак 118—120 см.[2]). Такім чынам, сярэдняя вышыня холкі абмеранага мясцовага быдла абедзьвюх акруг (ўсяго каля 4700 галоў) некалькі перавышае такавую велікарускага быдла—114 см. супроць 110 см. і ўступае толькі яго лепшым папуляцыям.

Па двух больш інтэнсыўных раёнах (Ліозьнянскаму і Самахвалавіцкаму) мясцовая жывёла па росту не адрозьніваецца ад дамшарак і яраславак; яшчэ больш пэўна гэта можна казаць пра групу чырвон. беларускага быдла Самахвалавіцкага раёну.

Мэтысная быдла па росту пераважае мясцовае; розьніца росту мяшанцаў пры пераходзе ад раёнаў экстэнсыўных к інтэнсыўным ня будзе досыць значная, іначай кажучы, і тут мы павінны бачыць прыблізна той-жа малюнак, як і з зьмяненьнем жывое вагі мяшанцаў па розных раёнах (гл. табл. 10). Для ілюстрацыі прыводзім ніжэй табліцу сярэдніх вялічынь вышыні холкі для мяшанцаў некалькіх раёнаў[3]).

**Табліца 14. Рост мяшанцаў і мясцовых кароў па асобных раёнах.**

| Віцебская акруга | | | | | Менская акруга | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| РАЁНЫ | Вышыня холкі | | | | РАЁНЫ | Вышыня холкі | | | |
| | мясцовых | | мяшанц. | | | мясцовых | | мяшанц. | |
| | усіх | групы звыш 20 п. | горны скот | галянц. | | усіх | групы звыш 20 п. | горны скот | галянц. |
| Сураскі . . . . | 114,7 | 118,4 | 118,6 | — | Капыльскі . . . | 115,3 | 122,0 | 119,5 | 119,1 |
| Азярышчанскі . | 112,8 | 116,6 | 116,1 | 117,2 | Самахвалавіцкі . | 118,4 | 122,4 | 121,4 | 122,4 |
| Віцебскі . . . . | 116,5 | 120,2 | 118,2 | 118,7 | | | | | |
| Высачанскі . . . | 115,2 | 119,5 | 116,7 | — | | | | | |
| Ліозьнянскі . . . | 118,7 | 120,4 | 124,2 | — | | | | | |

З табліцы відаць, што мяшанцы маюць зусім нязначныя хістаньні росту па розных раёнах. Акрамя таго, яны нічым не адрозьніваюцца па росту ад лепшых мясцовых кароў, групы жывое вагі звыш 20 пуд. Выключэньнем зьяўляюцца мяшанцы Ліозьнянскага раёну, дзе мясцовае быдла значна ўступае мяшанцам па вышыні ў холцы. Справа тут, вядома, у тым, што ў Ліозьнянскім раёне, самым інтэнсыўным па Ві-

[1]) Лемус „Домшинский скот“ Тр. отд. Зоот. Г. И. О. А. 1926 г.
[2]) Ярославцев и Калашников „Ярославский скот“.
[3]) Па некаторых раёнах апрацоўка прамераў для асобных мяшанцаў ня зроблена, таму што колькасьць абмераных жывёл нязначна.

цебшчыне, дзякуючы здавальняючым умовам кармленьня і ўтрыманьня паляпшаючая парода мацней праяўляе сваю адзнаку росту.

Пераходзім да разгляду вялічынь і суадносін іншых прамераў абсьледванага быдла.

**Тып быдла.** Маючы на ўвазе высьвятленьне сувязі надворных форм абсьледванага быдла з умовамі яго ўтрыманьня, лічбы прамераў кароў мы даем для кожнага раёну асобна. Мы лічым, што абсьледваныя акругі не надта розьняцца па кармленьню і ўтрыманьню жывёл: як у Віцебшчыне, так і у Меншчыне гэта справа наогул дрэнна. Больш падрабязна гэта пытаньне распрацавана ў разьдзеле аб кармленьні сялянскага быдла абсьледваных акруг. Мы толькі хацелі зьвярнуць увагу на тое, што для нашай мэты акругі былі-б даволі буйныя адзінкі для параўнаньня іх паміж сабою і параўнаньня не дало-б ніякіх канкрэтных вынікаў. Ужо з прыведзеных вышэй лічб аб жывой вазе і росту быдла можна заключыць, што быдла абедзьвюх акруг у межах аднэй і тэй-жа групы (мясцовыя, альбо мяшанцы) ня будзе значна розьніцца па надворных формах. Мы ведаем: асноўным ядром ўсяго пагалоўя дзьвюх акруг зьяўляецца аднолькавае мясцовае некультурнае быдла і разам з ім—рознастайныя мяшанцы, якія таксама не адрозьніваюцца рэзка паміж сабою. Наадварот, быдла асобных раёнаў па якасьці не аднолькава і гэта знаходзіцца ў відавочнай сувязі з інтэнсыўнасьцю малочнае гаспадаркі, а, значыць, і з характарам кармленьня і ўтрыманьня.

Лічбавыя даныя прамераў мясцовага быдла прыводзяцца па ўсіх раёнах; адпаведныя даныя для мяшанцаў—па асобных акругах.

Абсалютныя значэньні прамераў і іх хістаньні па асобных раёнах для мясцовага быдла згрупаваны ў табл. 15, стар. 14 і 15. З табліцы відаць, што вялічыні прамераў кароў менш інтэнсыўных раёнаў уступаюць такім раёнам больш інтэнсыўных. Даволі значна сярод мясцовага быдла па велічыні прамераў і іх некаторай асаблівасьці выдзяляецца група чырвона-беларускага быдла.

Лічбы табліцы даюць прадстаўленьне аб сярэдніх вялічынях прамераў, размаху вар'іраваньня, але-ж нічога ня кажуць аб разьмеркаваньні „частот“ варыяцыйнага раду данага прамеру каля сярэдняй арытмэтычнай.

Для таго, каб больш яскрава прадставіць характар вар'іраваньня прамераў, зрабілі так: велічыню хістаньня (**min—max**) падзялілі на тры роўныя часткі і падлічвалі суму частот кожнай з частак. Для памянёнай апрацоўкі ўзяты толькі 2 раёны—Віцебскі і Самахвалавіцкі, таму-што яны далі якраз вышэйшыя хістаньні значэньняў розных прамераў. Вынікі апрацоўкі даны ў табл. 16, стар. 16.

Лічбы гэтай табліцы кажуць, што большасьць частот групуецца ў сярэдняй трэці раду, а гэта значыць, што варыяцыйныя рады больш менш правільныя і група абсьледванага мясцовага быдла аднародна ў адносінах галоўных стацяў.

Для выяўленьня аднароднасьці групы чырв. беларускага быдла Самахвалавіцкага раёну прыводзіцца табліца ніжэй (таб. 17 на ст. 16). У табліцы прадстаўлены вынікі такой апрацоўкі вар'яцыйных радоў кожнага прамера: у межах аднаго квадратычнага адхіленьня ў бок, + і — ад сярэдняй арытмэт., падлічана колькасьць варыянтаў і выра-

## Табліца № 15. а) Прамеры мясцовага быдла

### ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА

| Раёны / ПРАМЕРЫ | Чашніцкі | | | Аварышчанскі | | | Віцебскі | | | Сураскі | | | Высачанскі | | | Лёвьнянскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. |
| 1) Вышыня холкі . . | 112,0 | 102—125 | 23 | 112,8 | 99—127 | 28 | 116,55 | 105—132 | 27 | 114,76 | 100—127 | 27 | 115,24 | 100—128 | 28 | 118,7 | 108—130 | 22 |
| 2) „ сьпіны . | 112,3 | 102—128 | 26 | 113,4 | 99—126 | 27 | 117,06 | 104—130 | 26 | 115,13 | 99—130 | 31 | 115,01 | 100—130 | 30 | 118,4 | 107—132 | 25 |
| 3) „ крыжу . | 116,4 | 105—133 | 28 | 115,35 | 100—128 | 28 | 120,3 | 108—139 | 31 | 118,53 | 101—132 | 31 | 120,12 | 107—138 | 31 | 122,7 | 109—135 | 26 |
| 4) Глыбіня грудзей . | 59,4 | 49— 67 | 18 | 57,47 | 45— 68 | 23 | 60,45 | 50— 70 | 20 | 59,79 | 49— 68 | 19 | 59,54 | 49— 74 | 25 | 63,49 | 55— 71 | 16 |
| 5) Шырыня за лапатк | 32,2 | 24— 40 | 16 | 26,62 | 19— 37 | 18 | 33,89 | 24— 49 | 25 | 30,51 | 22— 44 | 22 | 29,0 | 21— 43 | 22 | 33,70 | 26— 40 | 14 |
| 6) „ у клубох | 41,1 | 33— 48 | 15 | 38,03 | 28— 47 | 19 | 43,0 | 34— 51 | 17 | 40,74 | 34— 50 | 16 | 43,05 | 33— 53 | 20 | 45,36 | 36— 54 | 18 |
| 7) Даўжыня галавы | 44,6 | 38— 50 | 12 | 44,88 | 38— 53 | 15 | 45,3 | 37— 59 | 22 | 45,68 | 40— 53 | 13 | 46,04 | 38— 53 | 15 | 46,9 | 42— 53 | 11 |
| 8) Найб. шыр. галавы | 19,23 | 16— 22 | 6 | 20,15 | 16— 24 | 8 | 19,8 | 15— 23 | 8 | 21,54 | 17— 26 | 9 | 20,36 | 17— 25 | 8 | 22,39 | 20— 25 | 5 |
| 9) Ахоп пясьці . . | 14,55 | 12— 19 | 7 | 15,28 | 12— 20 | 8 | 15,13 | 12— 19 | 7 | 15,52 | 13— 20 | 7 | 15,71 | 13— 21 | 8 | 16,48 | 14— 19 | 5 |
| 10) „ грудзей . . | 155,1 | 132—178 | 46 | 156,68 | 131—182 | 51 | 158,9 | 132—181 | 49 | 158,82 | 139—190 | 51 | 159,0 | 135—185 | 50 | 164,7 | 145—185 | 40 |
| 11) Касая даўж. тулава лентай . . . . . | 138,7 | 115—162 | 47 | 142,04 | 120—164 | 44 | 142,6 | 117—169 | 52 | 146,76 | 120—172 | 52 | 143,8 | 118—154 | 36 | 148,96 | 130—166 | 36 |

Табліца № 15. Ь) **Прамеры мясцовага быдла**

МЕНСКАЯ АКРУГА

| Раёны / ПРАМЕРЫ | Бягомльскі | | | Смалявіцкі | | | Капыльскі | | | Бярэзінскі | | | Самахвалавіцкі | | | Чырв.-бел.быдла Самахвал. раёну | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. | Сярэдняя арытмэтычная ў см. | Хістаньні ў см. | Розьніца ў см. |
| 1) Вышыня холкі . | 109,1 | 66—122 | 26 | 111,61 | 102—123 | 22 | 115,59 | 104—130 | 26 | 110,5 | 93—125 | 32 | 118,4 | 100—134 | 34 | 120,0 | 104—130 | 26 |
| 2) „ сьпіны . | 109,3 | 96—122 | 26 | 111,75 | 100—124 | 24 | 115,34 | 105—132 | 27 | 110,8 | 95—125 | 30 | 118,2 | 100—133 | 33 | 120,1 | 105—130 | 25 |
| 3) „ крыжу . | 113,3 | 100—126 | 26 | 115,03 | 100—126 | 26 | 119,8 | 104—136 | 32 | 113,6 | 99—130 | 31 | 122,5 | 100—137 | 137 | 124,6 | 112—133 | 21 |
| 4) Глыбіня грудзей . | 56,8 | 49— 63 | 14 | 57,05 | 51— 63 | 12 | 58,78 | 48— 68 | 20 | 57,9 | 44— 66 | 22 | 61,7 | 50— 72 | 22 | 62,6 | 54— 72 | 18 |
| 5) Шырыня за лапатк | 28,8 | 21— 41 | 20 | 28,72 | 21— 36 | 15 | 30,2 | 21— 41 | 20 | 29,7 | 22— 48 | 26 | 33,5 | 25— 46 | 21 | 34,7 | 24— 42 | 18 |
| 6) „ у клубох | 39,1 | 32— 47 | 15 | 38,48 | 26— 46 | 20 | 42,02 | 31— 51 | 20 | 38,0 | 31— 50 | 19 | 43,8 | 32— 53 | 21 | 44,7 | 35— 53 | 18 |
| 7) Даўжыня галавы | 42,96 | 38— 49 | 11 | 44,14 | 39— 49 | 10 | 44,11 | 38— 50 | 12 | 41,7 | 35 · 49 | 14 | 45,0 | 35— 52 | 17 | 45,3 | 38— 52 | 14 |
| 8) Найб. шыр. галавы | 19,4 | 17— 22 | 5 | 19,88 | 17— 24 | 7 | 20,42 | 16— 24 | 8 | 18,8 | 14— 26 | 12 | 20,5 | 17— 24 | 7 | 24,7 | 18— 24 | 6 |
| 9) Ахоп пясьці . . | 14,43 | 12— 17 | 5 | 15,13 | 12— 17 | 5 | 15,95 | 13— 20 | 7 | 15,2 | 13— 19 | 6 | 15,5 | 13— 21 | 8 | 16,7 | 14— 21 | 7 |
| 10) „ грудзей . . | 149,7 | 127—168 | 41 | 149,63 | 128—165 | 37 | 154,83 | 133—177 | 44 | 150,5 | 119—174 | 55 | 160,4 | 126—186 | 60 | 163,4 | 136—185 | 49 |
| 11) Касая даўж. тулава | 132,3 | 110—154 | 44 | 135,30 | 113—155 | 42 | 141,12 | 122—163 | 41 | 137,3 | 119—161 | 42 | 145,7 | 112—173 | 61 | 147,5 | 123—176 | 53 |

Таблiца № 16. **Разьмеркаваньне варыянт па частках варыяцыйнага раду**

| РАЁНЫ | Часткі варыяцыйнага раду | НАЗВА ПРАМЕРАЎ: Вышыня холкі | | Вышыня сьпіны | | Вышыня крыжу | | Глыбіня грудзей | | Шырыня за лапатк. | | Шырыня ў клубох | | Даўжыня галавы | | Найбольш. шырыня галавы | | Ахоп пясьці | | Ахоп грудзей | | Кас. даўж. тулава | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % |
| Віцебскі раён | I | 112 | 21 | 73 | 13,6 | 173 | 32 | 17 | 3,2 | 127 | 23.8 | 45 | 8,5 | 30 | 5,8 | 16 | 3,0 | 132 | 25,1 | 42 | 8,2 | 89 | 17,0 |
| Віцебскай акругі | II | 371 | 69,6 | 367 | 68,9 | 309 | 58 | 394 | 73,9 | 361 | 67,7 | 439 | 82,5 | 343 | 65,2 | 342 | 65,3 | 373 | 70,9 | 379 | 71,1 | 366 | 70,0 |
| | III | 50 | 9,4 | 93 | 17,5 | 51 | 10 | 122 | 22,9 | 45 | 8,5 | 49 | 9,0 | 153 | 29,0 | 167 | 31,7 | 21 | 4,0 | 111 | 20,8 | 72 | 13,0 |
| Самахвалавіцкі раён | I | 66 | 11,9 | 81 | 14,4 | 24 | 4,8 | 89 | 16,0 | 172 | 30,7 | 70 | 13,0 | 23 | 4,2 | 120 | 21,0 | 152 | 27,0 | 56 | 10,0 | 41 | 7,4 |
| Менскай акругі | II | 408 | 72,8 | 399 | 71,2 | 382 | 68,2 | 358 | 63,9 | 340 | 60,7 | 313 | 56,0 | 375 | 66,9 | 419 | 75,0 | 377 | 67,0 | 351 | 62,5 | 399 | 71,2 |
| | III | 86 | 15,3 | 80 | 14,4 | 154 | 27,0 | 113 | 20,1 | 48 | 8,6 | 173 | 31,0 | 162 | 28,9 | 21 | 4,0 | 31 | 6,0 | 153 | 27,5 | 120 | 21,4 |

жана у %% ад усіх выпадкаў назіраньняў. Там-жа ёсьць і параўнаньні чырвона-беларускага быдла з яраслаўкамі і таўдзінкамі. Лічбы аб гэтых групах жывёл ўзяты з кніжкі „Таўдзінская буйная рагатая жывёла“ Азарова 1927 г.

Табліца 17. **Вар‘іраваньне прамераў чырв. беларускага быдла.**

| Групы быдла / Прамеры | Чырвонае беларускае быдла Самахавалавіцкага раёну | | | | Таўдзінка | | | Яраслаўка | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | назіраньні у межах „t“: Лік | назіраньні у межах „t“: У %% | квадратычнае адхіленьне „t“ | каэфіцыент варыяцыі „C“ | выпадкаў у межах „t“ у %% | квадрат адхіл. „t“ | каэфіц. вар. „C“ | выпадкаў у межах „t“ %% | Каэфыц. вар. „C“ |
| 1. Вышыня холкі | 115 | 71 | 5,24 ± 0,29 | 4,36 ± 0,24 | 77,2 | 4,7 | 4,3 | 69,6 | 4,2 |
| 2. „ сьпіны | 122 | 75 | 5,21 ± 0,29 | 4,34 ± 0,24 | 75,5 | 4,9 | 4,6 | 70,5 | 4,2 |
| 3. „ крыжу | 122 | 75 | 5,36 ± 0,29 | 4,3 ± 0,23 | — | — | — | — | — |
| 4. Глыбыня грудз. | 126 | 77 | 3,76 ± 0,21 | 6,0 ± 0,33 | 80,3 | 2,9 | 4,8 | 78,7 | 4,9 |
| 5. Шыр. за лапат. | 115 | 71 | 3,5 ± 0,2 | 10,2 ± 0,57 | 75,0 | 3,1 | 9,9 | 81,3 | 7,0 |
| 6. „ у маклах | 121 | 74 | 3,43 ± 0,19 | 7,67 ± 0,43 | 71,4 | 3,39 | 8,05 | 71,8 | 7,1 |
| 7. Даўж. галавы . | 120 | 74 | 2,43 ± 0,14 | 5,36 ± 0,3 | 75,2 | 2,1 | 5,05 | 70,1 | 5,5 |
| 8. Найб. шыр. гал. | 117 | 72 | 1,2 ± 0,07 | 5,8 ± 0,32 | 78,4 | 1,26 | 6,6 | 71,9 | 7,9 |
| 9. Ахоп пясьця . | 124 | 76 | 1,3 ± 0,07 | 7,63 ± 0,42 | 81,9 | 1,17 | 7,38 | — | — |
| 10. „ грудзей . | 129 | 79 | 9,38 ± 0,52 | 5,74 ± 0,31 | — | — | — | — | — |
| 11. Кас. даўж. тулова лентай . . | 122 | 75 | 9,12 ± 0,15 | 6,18 ± 0,34 | — | — | — | — | — |

З табліцы бачым, што чырвона-беларуская быдла Самахвалаўскаго раёну па аднароднасьці не ўступае такім групам, як таўдзінка, або яраслаўка. Процант выпадкаў у межах аднаго квадратычнага адхіленьня для розных прамераў прыблізна аднолькаў, хістаецца ад 70—80%, іначай кажучы, у больш вузкіх межах чым у таўдзінскага і яраслаўскага быдла. Значыць, зьменнасьць галоўных стацяў чырвонага беларускага быдла зусім падобна.

Апошняе часткова кажа за тое, што і карэляцыйная сувязь паміж асобнымі стацямі павінна быць вялікая і, у крайнім выпадку, ня ніжэй, чым у таўдзінскага і яраслаўскага быдла.

Пераходзім да вывучэньня суадносін розных прамераў мясцовага быдла. Для памянёнай мэты мы карысталіся прасьцейшым мэтадам: сярэднія лічбы прамераў выражаны ў %% к вышыні ў холцы. Мы лічым, што такая апрацоўка лічб прамераў будзе дастатковай тым больш, што нас цікавіла высьветліць ня столька тып асобных папуляцый мясцовага быдла, сколькі параўнаньне быдла асобных раёнаў, рознай інтэнсыўнасьці. Таксама было пажадана параўнаць склад (тып) абсьледванага быдла з вядомымі групамі расійскага быдла.

Увесь лічбавы матар‘ял для адказу на пастаўленыя вышэй пытаньні падан у табліцы № 18 на стар. 18.

Па табліцы відаць, што раёны рознай інтэнсыўнасьці маюць і быдла некалькі рознага складу. Сапраўдна, чым адрозьніваюцца каровы такіх раёнаў, як Чашніцкі і Бягомльскі ад такіх, як Ліозьнянскі і Самахвалавіцкі? У першых двух раёнах заметна выражана карот-

касьць тулава, вузказадасьць і высоказадасьць (цыбатасьць быдла). Усе пералічаныя асаблівасьці экстэр'еру досыць характэрны пры умовах дрэннага кармленьня і ўтрыманьня быдла і знаходзяць пэўнае тлумачэньне ў „основном законе недоразвития“ па Малігонаву[1]). Трэба думаць, што тут мы маем зьявішча „неотэніі“. Галава гэтага недаразвітага быдла, наадварот, адносна вялікая (гэта відаць з табліцы). Па пр. Чэрвінскаму такое зьявішча тлумачыцца надзвычайнай стойкасьцю росту чэрапа нават пры адмоўных умовах кармленьня жывёлы.

Трэба аднак заўважыць, што вялікай розьніцы ў тыпу быдла раёнаў рознай інтэнсыўнасьці мы ня бачым. Гэта можна тлумачыць тым, што па раёнах нават і дужа экстэнсыўных упоруч з каровамі зусім дробнымі сустракаюцца і буйныя жывёлы, іншага тыпу, і гэта якраз магло перашкаджаць выяўленьню сапраўднага тыпу быдла экстэнсыўных раёнаў. Тое-ж можна казаць і пра быдла больш інтэнсыўных раёнаў, дзе тое самое маглі зрабіць асобныя экзэмпляры дробнага быдла. Адносна вялікія прамеры ахопу тулава (у Бягомльском раёне) і мала адрозьніваючаяся глыбіня грудзей у дробнага быдла дае магчымасьць дапушчаць у гэтага быдла зьявішча эмбрыяналізму, што таксама перашкаджала яскравасьці вынікаў параўнаньня мясцовага быдла розных абсьледваных раёнаў.

**Табліца № 18. Адносныя вялічыні прамераў мясцовага быдла раёнаў рзнайо інтэнсыўнасьці.**

| НАЗВА ПРАМЕРАЎ | Віцебская акр. | | | Менская акр. | | | Чырв.-белар. скот самахв. р. | Домшанскі скот Валагадак. губ. | Яраслаўскі скот | Чырв. нямецкі скот | Таўдзінскі скот Уральской обл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чашнікаўскі раён | Ліозьнянскі раён | Розьніца | Бягомльскі раён | Самахвал. раён | Розьніца | | | | | |
| 1. Вышыня холкі | 100,0 | 100,0 | — | 100,0 | 100,0 | — | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| 2. „ сьпіны | 100,3 | 99,7 | —0,6 | 100,2 | 99,8 | —0,4 | 100,1 | — | 100,0 | 99,0 | 100,0 |
| 3. „ крыжу | 104,4 | 103,3 | —1,1 | 103,8 | 103,4 | —0,4 | 103,1 | 102,3 | 103,0 | 105,3 | — |
| 4. Глыбіня грудзей | 53.0 | 53,4 | +0,4 | 51,1 | 52,1 | +1,0 | 52,2 | 54,5 | 54,0 | 50,5 | 56.5 |
| 5. Шыр. за лапат. | 28,7 | 28,4 | —0,3 | 26,4 | 28,3 | +1,9 | 29,0 | — | 27,6 | 24,5 | 29,5 |
| 6. „ у клубох | 36,7 | 38,2 | +1,5 | 35,8 | 37,0 | +1,2 | 37,3 | 39,1 | 37,5 | 38,0 | 37,0 |
| 7. Даўжыня галавы | 40 0 | 39,5 | —0,5 | 39,3 | 38,0 | —1,3 | 37.7 | 38,0 | — | 38,8 | 38,8 |
| 8. Найб. шыр. галавы | 17,2 | 18,8 | +1,6 | 17,7 | 17,3 | —0,4 | **20,5** | — | — | 17,4 | 17,6 |
| 9. Ахоп пясьця | 13,0 | 13,8 | +0,8 | 13,2 | 13,1 | —0,1 | **13,9** | 13,1 | — | 13,0 | 14,8 |
| 10. Ахоп грудзей | 138,4 | 138,7 | +0,3 | 137,2 | 135,4 | —1,8 | 136,1 | 138,6 | 137,0 | 132,5 | — |
| 11. Кас. даўж. тулав. | 123,8 | 125,4 | +1,6 | 121,2 | 123,0 | +1,8 | 123,0 | — | — | 128,4 | — |

У далейшым калі мы будзем падыходзіць да вызначэньня „аснаўной групы з мясцовага быдла“, нам яшчэ прыдзецца казаць аб „основном законе недоразвития“ і там гэты закон паводле нашых мат'ялаў пацьвярджаецца зусім дасканала.

Што датычыцца быдла больш інтэнсыўных раёнаў і у прыватнасьці, групы чырв. белар. быдла, то яно даволі аднатыповае, здаваль-

[1]) Малігонаў „Аб інфантылізму, неотэніі і г. д.“ стар. 329. Труды Куб. С.-Г. Інстытуту, 1925 года.

няючых надворных форм і мала чым адрозьніваецца ад лепшых груп расійскага мясцовага быдла. Ён толькі ўступае крыху дамшаркам, яраслаўкам і таўдзінкам па глыбіні грудзей, але заметна пераважае ў гэтым прамеру мелкагрудых і, наогул, слабагрудых немак. Такім чынам, калі ставіцца пытаньне аб паляпшэньні нашага быдла немкамі, то памянёную акалічнасьць трэба мець на ўвазе.

Што датычыцца да самой групы чырвона-беларускага быдла, то яно па тыпу мала адрозьніваецца ад мясцовага быдла больш інтэнсыўных раёнаў, мае толькі некаторую краніялёгічную асаблівасьць (шыракалобасьць) і выдзеляецца больш моцным касьцяком.

Пабачым цяпер, якія-ж вынікі ў адносінах да паляпшэньня надворных форм мясцовага быдла дала мэтызацыя яго з рознымі замежнымі пародамі. На гэта пытаньне ў агульных рысах адказвае табл. 19 на ст. 20. Там прыведзены як абсалютныя, так і адносныя вялічыні прамераў розных мяшанцаў, якія сустракаліся больш-менш часта ў межах двух абсьледваных акруг. Побач з лічбамі аб мяшанцах даны адпаведныя лічбы чыстапародных груп—палепшацеляў[1]).

Калі параўняць абсалютныя і адносныя лічбы прамераў лепшых груп мясцовага быдла (гл. табл. № 18 і № 15) з адпаведнымі данымі аб мяшанцах, то на пастаўленае вышэй пытаньне трэба адказаць, што мяшанцы па надворных формах нічога лепшага не далі. Асобныя групы мяшанцаў таксама амаль што зусім ня розьняцца паміж сабою. Але-ж адпаведныя групы чыстапароднага матар'ялу прадстаўляюцца па надворных формах зусім рознымі і не маюць ніякай сходнасьці з тымі мяшанцамі, якія зьяўляюцца вынікам скрыжаваньня мясцовага быдла з гэтымі групамі. У чым-жа тут справа? Адказ, вядома, будзе той-жа, што быў выказан пры вывучэньні ж. вагі і росту абсьледванага быдла, іначай кажучы, умовы кармленьня і ўтрыманьня ў сялянскіх гаспадарках.

Такім чынам, з якога-б боку мы не падыходзілі да якаснага паляпшэньня сялянскага быдла, заўсёды будзе перашкаджаць экстэнсыўнасьць формы жывёлаводнай гаспадаркі.

Пагэтаму пытаньне аб паглыбленай племяной працы для паляпшэньня сялянскага быдла абсьледваных акруг павінна вырашацца пасьля таго, калі памянёная праца будзе мець неабходны фундамант. Тады можна будзе гаварыць больш пэўна аб паляпшаючай пародзе і будаваць сталы плян якаснага паляпшэньня быдла. У сучасны момант можна казаць аб мерапрыемствах па жывёлагадоўлі самага агульнага значэньня. Выключэньнем могуць быць толькі раёны больш інтэнсыўнай жывёлагадоўлі, як Ліозьнянскі і Самахвалавіцкі.

У далейшым мы пытаемся даць агульны напрамак масавай працы па паляпшэньню сялянскага быдла.

**Аб асноўнай групе быдла**. Пасьля азнаямленьня з асаблівасьцямі тыпу абсьледванага быдла паўстае пытаньне: які напрамак павінен быць у працы па якаснаму паляпшэньню сялянскага быдла. Высьветлена, што ў акругах распаўсюджаны самыя рознастайныя групы быдла: з аднаго боку мы маем мясцовае быдла, якое дае некалькі папуляцый, адрозьніваючыхся адна ад другой як па жывой ваге, так і па тыпу; з другога боку даволі распаўсюджаны і розныя мяшанцы, сходныя паміж сабою і па тыпу блізка падыходзячыя к мясцовым каровам больш інтэнсыўных раёнаў; і урэшце па раёнах больш інтэнсыўнае

[1]) Лічбы прамераў чыстапарод. быдла ўзяты па Штэгману— „Rindesrassen Russlands"

Табл. 19. **Абсалютныя і адносныя велічыні прамераў мяшанцаў па дзьвюх акругах**

| ПРАМЕРЫ | Абсалютныя лічбы | | | | | | | | Адносныя лічбы | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Швіцы | | Галянцы | | Сымэнталы | | Ангелы | | Швіцы | | Галянцы | | Сымэнталы | | Ангелы | |
| | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшаацы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. | мяшанцы | чыста-пародн. |
| 1. Вышыня холкі | 118,8 | 125 | 119,5 | 135 | 120,9 | 135 | 118,0 | 126 | 100,0 | 100 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| 2. „ сьпіны | 119,0 | — | 119,6 | — | 120,8 | — | 118,1 | — | 100,2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 3. „ крыжу | 123,2 | 129 | 124,0 | 136 | 125,3 | 137 | 121,8 | 127 | 103,7 | 103,2 | 103,8 | 100,7 | 103,6 | 101,9 | 103,2 | 101,2 |
| 4. Глыбіня грудзей | 61,9 | 71 | 62,0 | 71 | 63,9 | 71,5 | 61,6 | 69 | 52,1 | 56,8 | 51,8 | 52,6 | 52,8 | 52,9 | 52,2 | 55,2 |
| 5. Шырыня за лапаткамі | 33,9 | 39 | 34,2 | 37 | 35.0 | 45 | 33,2 | 40 | 28,5 | 31 | 28,6 | 27,4 | 28,9 | 33,3 | 28,1 | 31,7 |
| 6. „ у клубох | 44,3 | 52 | 44,4 | 55 | 45,5 | 52 | 44,0 | 50 | 37,2 | 42,0 | 37,1 | 40,7 | 37,6 | 38,9 | 37,3 | 39,7 |
| 7. Даўжыня галавы | 46,5 | 51 | 46,3 | 51 | 47,7 | 54 | 46,7 | 46 | 39,1 | 40,8 | 38,7 | 37,5 | 39,4 | 40,0 | 39,5 | 36,5 |
| 8. Найбольшая шыр. галавы | 21,1 | — | 20,7 | 25 | 21,6 | 26 | 20,8 | 22 | 17,7 | — | 17,3 | 18,5 | 17,9 | 19,2 | 17,6 | 17,4 |
| 9. Ахоп пясьці | 16,4 | — | 16,7 | — | 16,7 | — | 15,9 | — | 13,8 | — | 13,9 | — | 13,9 | — | 13,4 | — |
| 10. „ грудзей | 163,5 | — | 165,7 | — | 168,0 | — | 162,8 | — | 137,6 | — | 138,6 | — | 199,0 | — | 138,0 | — |
| 11. Касая даўжыня | 148,6 | — | 148,6 | — | 152,9 | — | 148.5 | — | 125,1 | — | 124,3 | — | 126,5 | — | 125,1 | — |

малочнае гаспадаркі ёсьць групы мэтыснага быдла, затрымліваючыя ўвагу сваёй бальшой жыв. вагай пры параўнаньні нават з лепшымі групамі мясцовага быдла.

Са ўсёй гэтай мяшаніны і markdown рознастайнасьці пагалоўя буйнай рагатай жывёлы, вядома, племяное значэньне, могуць мець толькі некаторыя групы. Але раней, чым выяўляць якую-небудзь групу быдла, як падставу для племяной працы, неабходна намеціць агульную устаноўку пытаньня аб якасным паляпшэньні быдла ва ўмовах абсьледваных акруг.

Ужо даўно дэбатуюцца сярод спэцыялістых зоотэхнікаў і эканамістых два аснаўных мэтады паляпшэньня буйнай рагатай жывёлы ў Саюзе: мэтад паляпшэньня ў сабе і мэтад мэтызацыі і нават паглынаньні крыві мясцовага быдла культурнымі пародамі. У адносінах да мясного жывёлаводства пытаньне аб паляпшэньні яго яшчэ толькі насьпявае і патрабуе шмат папярэдняй дасьледчай працы [1]). Іншае пытаньне з малочнай жывёлай. Тут упоруч з дасьледчымі работамі па выяўленьню каштоўных груп мясцовага быдла, якія быццам могуць быць канкурэнтамі мяшанцам, мы маем даволі распаўсюджанае зьявішча мэтызацыі з паляпшацелямі розностайных культурных замежных парод.

Для выяўленьня больш пэўнай устаноўкі ў справе паляпшэньня жывёлы абсьледваных акруг прыводзім розныя разважаньня асобных спэцыялістых, якія пісалі па пытаньню аб племяной працы ў малочным жывёлаводстве.

За мэтызацыю нашага быдла рэзка стаіць С. Г. Азараў [2]) „з двух мэтадаў (іначай кажучы, мэтад паляпшэньня ў сабе і мэтызацыя), піша Азараў, толькі мэтад паляпшэньня мэтызацыяй мясцовага быдла культурнымі пародамі гарантуе хуткае разьвіцьцё жывёлагадоўлі, якое адказвала-б тэмпу разьвіцьця ўсей народнай гаспадаркі“.... „мэтад паляпшэньня быдла мэтызацыяй мы высоўваем, як мэтад, які павінен стаць пераважным у нашай практычнай працы“. Зьніжэньне сабекаштоўнасьці малочных прадуктаў ставіцца Азаравым пры гэтым у сувязь с мэтызацыяй быдла.

Калі мэтад мэтызацыі павінен быць тым, да якога неабходна імкнуцца разам з ростам нашае гаспадаркі, то супроць гэтага мала чаго можна казаць. Але лічыць, яго асноўным у практычнай працы на бліжэйшы тэрмін нельга. Сам прыхільнік памянёнага мэтаду кажа, што мэтызацыя дала ў нас добрыя вынікі толькі ў тых мясцох, дзе былі адпаведныя умовы кармленьня і ўтрыманьня быдла.

С. Г. Азараў знаходзіць, што асобы, якія супярэчаць мэтызацыі, звычайна ўказваюць на адсталасьць сялянскае гаспадаркі і зусім ня вераць у тое, што можа зрабіць Савецкае Улада. Але-ж зьвяртаемся да лічбаў, якія часткова характарызуюць становішча жывёлагадоўлі ў межах 2-х акруг Беларусі. Процант элемэнтарна ўцяплёных скотных двароў у сялянскіх гаспадарках каля 50; моцныя кармы па прадукцыйнай каштоўнасьці складаюць ад усяго рацыёну кароў ад 3,5% для экстэнсыўных раёнаў, да 14% для раёнаў самых інтэнсыўных.

Па даных праф. Ліскуна ў гаспадарках нават падмаскоўнага раёну адпаведная лічба даходзіць толькі да 17%, тады як у Даніі яна каля 30%. Як відаць кармленьне ў нашых гаспадарках моцна адрозь-

---

[1]) И. С. Попов „Значение культурных пород“ Вестн. Ж-ва № 1, 1928 г.
[2]) С. Азаров. Способы улучшения животноводства. Вестн. Ж—ва № 3, 1928 г.

Табл. 19. Абсалютныя і адносныя велічыні прамераў мяшанцаў па дзьвюх акругах

ніваецца ад больш-менш нармовага і зьнішчыць гэту розьніцу мы нават пры вышэйшым напруджаньні нашых і матар'яльных і творчых магчымасьцяй зможам не так хутка, а без рацыяналізацыі кармленьня ня можа быць і гутаркі аб узмацнёнай і каштоўнай племяной працы.

Што датычыцца таго, у якім напрамку павінна палепшацца мясцовае быдла, каб зьнізіць сабекаштоўнасьць малочных прадуктаў, то больш пэўна аб гэтым кажа праф. Ліскун[1]). Аналізуя даныя кантрольных т-в падмаскоўнага раёну, праф. Ліскун прышоў к вынікам, што каштоўнасьць літру малака гэтых т-в на Маскоўскім рынку ня можа быць менш, як 22-24 кап. Галоўнай прычынай такой дарагавізны прадукту па думцы Ліскуна зьяўляецца ня тое, што ў гэтых кантр. т-вах разводзіцца мясцов. быдла (у прыватнасьці яраслаўкі), а дрэннае кармленьне кароў: моцныя кормы складаюць толькі 15%—17% ад ўсяго рацыёну. У канцы свайго артыкулу праф. Ліскун проста кажа: „на жаль,... зьявішча недакорму і неспрыяючыя суадносіны паміж моцнымі і грубымі кармамі у нас звычайна, таму мы яшчэ можам казаць, што самы першы падыход к пытаньню аб паляпшэньні (жывёлагадоўлі) будзе пакуль што месьціцца ў узмацненьні кармленьня і яго рацыяналізацыі. Толькі тады мы пабачым, што гэта за мясцовае быдла, а таксама і зробім вынікі, ці зьяўляецца яно прыбыткоўнай фабрыкай“.

Разам з гэтым мы ведаем, што па многіх мясцох мясцовае быдла зьяўляецца даволі чулым на палепшаныя умовы кармленьня. Так, Е. Л. Сініцкі адзначае вялізнае зрушэньне ўдояў мясцовага быдла кантрольных т-в таго-ж самага падмаскоўнага раёну; асобныя каровы за год далі падвышэньне на 40%[2]). Пры чым ўвесь сэнс справы тут у тым, што падкантрольныя каровы атрымоўвалі у сярэднім:

| | макухі | высеўкаў | корань-клубняплодаў |
|---|---|---|---|
| у першы год— | 496 кг. | 560 кг. | 1.600 кг. |
| у другі год— | 621 кг. | 950 кг. | 5.560 кг. |

„Такіх асобных прыкладаў, якія кажуць аб магчымасьці раздайваньня нашых кароў, у практыцы кантрольных таварыств сустракаецца не мала“.

Даныя абсьледваньня 2-х акруг Беларусі пацьвярджаюць высунутыя Сініцкім палажэньні: раёны экстэнсыўнага жывёлаводства (іначай кажучы,—горшага кармленьня) па ўдойлівасьці кароў у 2—3 разы ніжэй раёнаў інтэнсыўных.

Пры гэтым асабліва значныя хістаньні дае група мясцовага быдла; мяшанцы розных раёнаў адрозьніваюцца менш (гл. аб прадук. быдла праца Праф. Пелехова).

На падставе прыведзеных вышэй лічб аб жывой вазе і галоўных стацях быдла можна таксама падкрэсьліць, што і экстэр'ер мясцовага быдла ня ёсьць штось генэтычна застыўшае, а ёсьць комплекс марфалёгічных адзнак, якія лёгка зьмяняюцца і абумоўлены, галоўным чынам, утрыманьнем і кармленьнем.

Мяшанцы таксама не далі нічога асабліва прыметнага як па паляпшэньню экстэр'еру, так і прадукцыйнасьці і маюць адзнакі надзвычайна рэзкага уплыву гаспадарчых і прыродных умоў на іх.

Усе прыведзеныя тут палажэньні на падставе дадзеных абсьле-

---

[1]) **Ліскун. „Аснаўныя моманты паляпшэньня жывёлы“ Вестн. Ж-ва № 2, 1928 г.**

[2]) **Е. Л. Сініцкі. „З практыкі кантрольнае справы па Маскоўск. губ.“ Вестн. Ж-ва**

дваньня можна рэзюмаваць такімі славамі праф. Гаркаві: „з прычыны татаго,што без правільнага ўтрыман. і кармленьня быдла прадукцыйнасьць жывёл і іх гаспадарча-каштоўныя якасьці наогул ня могуць быць выяўлены і ацэнены, а таксама і з прычыны таго, што ў многіх груп іх патэнцыяльныя магчымасьці ў адносінах прадукцыйнасьці могуць быць у значнай меры скарыстованы і прадукцыйнасьць падвышана яшчэ без усялякай сэлекцыі, у першую чаргу зьвяртаецца ўвага на распаўсюджаньне палепшанага кармленьня і ўтрыманьня жывёл“[1]).

Прыняўшы як падставу толькі што прыведзенае палажэньне, нам будзе неабходна больш канкрэтна падыйсьці к вырашэньню пытаньня аб паляпшэньні быдла абсьледваных акруг.

На першым пляне павінна стаяць паляпшэньне кармленьня і ўтрыманьня жывёл па ўсіх раёнах абодзьвюх акруг. Праца гэта ўяўляецца даволі доўгай і ўключае ў сабе ня толькі рацыяналізацыю стойлавага кармленьня, але-ж асабліва і пасьбішнага. Пытаньне аб пашы на Беларусі з кожным годам, у сувязі з пашыраючыйся распашкай зямлі і скарачэньня няўдобіцы, становіцца надта вострым і выклікае ўсе больш і больш неабходнасьць брацца за культуру нашых у большасьці нікчэмных натуральных выпасаў і пашырыць іх плошчу за кошт Беларускіх балот, якія даюць такую значную лічбу, як $1^1|_2$ мільёна дзесяцін.

Упоруч з першай працай павінна ісьці, але менш інтэнсыўна, праца па масаваму паляпшэньню мясцовага пагалоўя ў сабе. Як база для такога паляпшэньня быдла намі намечаецца асаблівая група мясцовага быдла. Але разам з гэтай групай неабходна скарыстаць і лепшых мяшанцаў, калі яны будуць сустракацца.

І урэшце, па раёнах больш інтэнсыўных можа быць паглыблена гнездавая праца, як з лепшымі групамі мясцовага быдла, так і мэтыснага. Тут маюцца на увазе: раён Самахвалавіцкі з групай чырвона-беларускага быдла і Ліозьнянскі раён з мяшанцамі са швіцкім быдлам.

Цяпер застановімся больш падрабязна на двух апошніх мерапрыемствах па непасрэднаму якаснаму паляпшэньню быдла.

Пад масавым паляпшэньнем быдла мы разумеем: масавае захоўваньне прыплоду ад кароў больш буйных і маючых больш значны удой без асаблівай заганы па экстэр‘еру. Такія каровы і могуць адносіцца да так званай „асноўной групы“. Вядома, па асобных раёнах гэта група будзе не аднолькава па колькасьці і якасьці. Але што-ж павінна наогул ўяўляць з сябе „асноўная група“, як палепшацель сялянскага быдла? Яна павінна быць дастаткова вяліка, таму што прызначаецца для паляпшэньня ў сабе і для масавага выцісканьня быдла больш горшае якасьці, павінна быць адносна добрае якасьці як па надворных формах, так і па прадукцыйнасьці. Для выяўленьня гэтай групы зрабілі так:

Выдзелілі з усіх прамераных кароў па Менскай акрузе толькі мясцовых ва ўзросьце 5 гадоў і старэй. Калі выбіралі для памяненай мэты быдла Меншчыны, мелася на увазе, што там большая рознастайнасьць мясцовых кароў, як па жывой вазе, так і па галоўных стацях.

Але асноўнае ядро мясцовага быдла па дзьвюх акругах наогул аднолькава. Таму, а таксама і для скарачэньня працы па вывучэньню гэтай „асноўнай групы“, мы застанаўліваемся на матар‘ялах толькі

[1]) „Племенное дело в крест. х—ве“ сборник изд. Маслоцентра 1928 г. Труды Всерос. С‘езда по плем. делу.

аднай акругі і лічым, што прыблізна такая-ж група можа быць выяўлена і у Віцебскай акрузе.

З папярэдняга выкладаньня высьветлілася, што абсьледваная скаціна пад уплывам, галоўным чынам, розных гаспадарчых умоў зьяўляецца неатэнічнай. Пры чым неатэнічнасьць паменьшаецца пры пераходзе ад раёнаў экстэнсыўных к раёнам інтэнсыўным. Такім чынам, у межах кожнай акругі (таксама і раёну) маецца шэраг асобных груп мясцовата быдла, фёнатыпічна розных. Вось, для выяўленьня так званай „асноўнай групы“ мы папрабавалі падыйсьці бліжэй да ацэнкі якасьці гэтых розных груп быдла. Па Малігонаву галоўнай адзнакай ступені неатэнічнасьці зьяўляецца жыв. вага жывёлы. Узяўшы як падставу Малігонаўскую адзнаку, подзеляем дарослых мясцовых кароў Меншчыне на 4 групы. Падлічыўшы лік жывёл у кожнай групе, маем наступную табліцу.

**Табл. № 20. Група рознае жыв. вагі дарослага мясцов. быдла Меншчыны**

| Групы | Да 17 п. | 17—20 п. | 20—23 п. | 23 і вышэй | Усяго галоў |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік жывёл у групе | 523 | 666 | 402 | 180 | 1771 |

Ужываючы больш дакладны мэтад ацэнкі марфалёгічных асаблівасьцяй жывёлы, якія зьвязаны з неатэніяй—мэтад індэксаў, альбо суадносін абсалютных вялічынь розных прамераў, для тых-жа самых весавых груп жывёл, мы маем такую табліцу.

**Табл. № 21. Індэксы прамераў розных весавых груп мясцовага быдла Меншчыны**

| Групы / Індэксы | 17 пад. | 17—20 п. | 20—23 п. | 23 і вышэй | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Шырыня за лапаткамі і глыбіня грудзей . . | 0,516 | 0,529 | 0,539 | 0,568 | |
| 2. Касая даўжыня тулава (лентай): вышыня холкі | 1,214 | 1,233 | 1,245 | 1,268 | |
| 3. Вышыня холкі: глыбіня грудзей . . . . . | 1,969 | 1,955 | 1,929 | 1,902 | |
| 4. Вышыня холкі: ахоп пясьця . . . . . . . . | 7,393 | 7,193 | 7,160 | 7,093 | |

Табліца яскрава кажа аб тым, што з павялічэньнем жывой ваг мясцовага быдла зьмяншаецца ганебнасьць надворных форм:

Першы індэкс паказвае аб абсалютным і адносным павялічэньні шырыні грудзей жывёлы, другі—аб павялічэньні даўжыні тулава, трэцьці кажа аб большай глыбокагрудасьці буйнейшых кароў і чацьвёрты—аб меньшай далікатнасьці касьцяку, большай яго крэпкасьці ў кароў большае жывой вагі. Цікава, што значэньні індэксаў ідуць у бок паменшэньня, альбо павялічэньня без усякіх перабояў ад груп быдла больш дробнага да групы буйнага, аб чым кажа, напр., графік № 1, які нарысован па даных табліцы № 21. Гэта сьведчыць аб тым, што

[1]) Індэксы ўзяты з той-жа работы пр. Малігонава.

паляпшэньне надворных форм мясцовага быдла цесна зьвязана з павялічэньнем яго жывой вагі (графік № 1).

Графік № 1. Індэксы мясцовага быдла жывой вагі




Удойлівасьць вывучаемых груп кароў, вылічаная прынятым пры апрацоўцы матар'ялаў мэтадам (гл. працу Н. Н. Пелехова), дае той-жа малюнак: рэзкай розьніцы паміж групамі разнай жывой вагі. Лічбавы матар'ял па гэтаму пытаньню прадстаўлены у наступнай табліцы і граф. № 2.

Табл. № 22. Удойлівасьць розных весавых груп мясцовага быдла Меншчыны.

| Групы | да 17 п. | 17—20 п. | 20—23 п. | 23 і вышэй | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| Удой у літрах . . . . . | 820 | 1106 | 1670 | 2153 | |
| „ у пудох . . . . . | 50,1 | 67,5 | 102,5 | 131,4 | |

Прыведзеныя намі лічбавыя даныя аб колькасьці і якасьці надворных форм і ўдойлівасьці розных весавых груп мясцовай буйнай рагатай жывёлы даюць магчымасьць застанавіцца на групе жывой вагі 20—23 пуда, як „асноўнай“. Гэта група павінна быць падставай для племяной працы і будзе выціскаць паступова больш дробнае быдла. Па раёнах больш інтэнсыўных упоруч з гэтай групай будзе мець вялікае племяное значэньне і група жывой вагі 23 п. і вышэй. Лепшыя экзэмпляры з памянёных дзьвюх груп могуць даць, пры належных умовах утрыманьня, добрых палепшацеляў для ўсяго пагалоўя буйнай рагатай жывёлы. Трэба толькі выбіраць напэўна здаровых і прадукцыйных кароў, а прыплоду ад іх даваць рацыянальнае выхаваньне.

Вышэй мы казалі аб мясцовай групе быдла і прыйшлі да выніку, што яго лепшая папуляцыя зусім адпаведае для мэты якаснага паляпшэньня буйнай рагатай жывёлы. Але, што-ж рабіць з мяшанцамі, якія распаусюджаны амаль што у кожным раёне абодзьвюх абсьледваных акруг і па сваёй якасьці некалькі пераважаюць мясцовае быдла,

Ці будзе мэтазгодным скарыстаць яго для плямяной мэты, альбо яго неабходна зусім адкінуць, як не варты у нашых умовах? Для таго, каб адказаць на пастаўленае пытаньне належыць падыйсьці бліжэй да ацэнкі гэтага быдла і параўнаць яго з нашай „асноўнай“ групай. Для

Графік № 2. Удой мясцовых кароў разное жывой вагі.




гэтага ўжываўся той-жа мэтад індэксаў пры выяўленьні суадносін галоўных прамераў. Усе вынікі такой апрацоўкі сумесна з удойлівасьцю прадстаўлены ніжэй у табліцы:

Табліца № 23. Індэксы прамераў і ўдойлівасьць розных груп мэтысных кароў абедзьвюх абсьледв. акруг.

| Групы | Мясц. скот | | Мяшанцы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | жыв. вес 20—23 п. | жыв. вес 23 і выш. | Швіцы | Сымэн. | Галянцы | Ангелы |
| 1. Шырыня за лапаткамі: глубіна грудзей . . | 0,539 | 0,568 | 0,549 | 0,549 | 0,536 | 0,538 |
| 2. Касая даўжыня тулава (лентай): Выш. холкі . | 1,245 | 1,268 | 1,251 | 1,264 | 1,243 | 1,258 |
| 3. Вышыня холкі: глубіня грудзей . . . . . | 1,924 | 1,902 | 1,919 | 1,892 | 1927 | 1915 |
| 4. Вышыня холкі: ахоп пясьця . . . . . . . | 7,160 | 7,093 | 7,235 | 7,231 | 7,136 | 7,412 |
| Удой у літрах . . . . . | 1679 | 2153 | 1769 | 1839 | 1960 | 1,795 |

На падставе даных табліцы можна яшчэ раз адзначыць, што мяшанцы амаль-што не адрозьніваюцца ад лепшых груп мясцовага быдла. Трэба нават падкрэсьліць, што мяшанцы ў адносінах да разьвіцьця

касьцяка хварэюць больш, чым мясцовая скаціна. Прычыну гэтага трэба шукаць, галоўным чынам, ва умовах карменьня і ўтрыманьня. Па ўдойліvасьці мяшанцы пераважаюць групу мясцовых 20—23 п. жывой вагі, але-ж значна ўступаюць групе 23 п. і вышэй.

Ўзяўшы ўсё гэта пад ўвагу, як быццам неабходна прыйсьці да выніку, што ўсіх мяшанцаў трэба адкінуць і заняцца толькі мясцовым быдлам. Але гэта было-б вялікай памылкай і ўнясло-б у пытаньне аб паляпшэньні буйнай рагатай жывёлы надзвычайную путаніцу. Перш за ўсё мы ніяк не маглі-б правесьці дакладнай мяжы паміж „мяшанцамі“ і „мясцовымі“ жывёламі; вызначэньні ступені мэтызацыі, „кроўнасьці“ і г. д. будуць зусім розныя ў розных спэцыялістых—жывёлаводаў. Акрамя таго, у жывёлаводнай практыцы не мала прыкладаў, калі мэтызацыя давала вялікія вынікі, таму што сярод мяшанцаў таксама могуць сустракацца жывёлы, генэтычна каштоўныя, як у адносінах надворных форм, так і прадукцыйнасьці.

Не застанаўліваючыся больш на гэтым пытаньні, асоб, якія цікавяцца больш падрабязным высьвятленьнем значэньня мяшанцаў у справе паляпшэньня нашай буйн. раг. жывёлы, адсылаем да зборніку „Племяная справа ў сялянскай гаспадарцы“, дзе гэта пытаньне абгаворана дэталёва нашымі аўтарытэтнымі вучонымі і спэцыялістымі [1]).

Ва умовах Беларусі, дзе разьвіцьцё малочнае гаспадаркі павінна ісьці хутчэй, чым у многіх іншых мясцох Саюзу, раля мяшанцаў у справе паляпшэньня мясцовага быдла будзе досыць значная: у першую чаргу павінна быць скарыстована наогул ўсё, што ёсьць лепшага сярод сялянскага быдла.

Тут упоруч з лепшымі мясцовымі групамі буйн. рагатай жывёлы племяное значэньня будуць мець і добрыя мэтысныя групы. Роля мяшанцаў ва умовах асобных раёнаў абсьледваных акруг будзе не аднолькава: яна будзе паменшацца пры пераходзе ад інтэнсыўных раёнаў да экстэнсыўных. Але тут трэба мець на ўвазе яшчэ і колькасьць мяшанцаў сярод сялянскага быдла па раёнах нават і неінтэнсыўных. На пытаньне, якую пароду альбо мэтысную групу буйнай рагатай жывёлы раіць больш іншых, адказаць на падставе матар'ялаў абсьледваньня даволі цяжка: ўсе мяшанцы аказаліся прыблізна аднолькавы і аб тым, якая група з іх лепш ужываецца ў нашых гаспадарчых і кліматычных умовах, сказаць напэўна ня можна. У даным выпадку былі-б вельмі карысны матар'ялы аб розных чыстапародных стадах, якія ёсьць у нашых савецкіх гаспадарках, але, паўтараем, нам гэтых матар'ялаў атрымаць не трапіла. Часткай пытаньне аб паляпшацялях з замежных парод высьветлена раней, калі вывучалася жывая вага розных мяшанцаў абсьледванай скаціны (гл. ст. 14). Там мы прыйшлі да таго, што больш рацыянальным будзе карыстацца дробнымі культурнымі породамі. Тут трэба яшчэ дабавіць, што у нашых гаспадарчых і кліматычных умовах, вядома, лепш будуць ўжывацца пароды больш блізкія да нашага мясцовага быдла, інакай кажучы, гэта будуць менш культурныя і бліжэй стаячыя да абарыгэннага быдла групы. Сюды перш за ўсяго адносіцца шэраг атродзьдзяў прымітыўнага чырвонага заходня-славянскага быдла (літоўска-беларускага, польскага, мараўскага і інш.) тыпу Bos brachyceros. З літоўска-беларускага быдла, дзякуючы адбору і лепшаму ўтрыманьню выдзяляецца чырвона-белару-

---

[1]) Плем. справа у сялянскіх г-ках“ па трудах 1-го Усерасійскага Зьезду па племеной справе 1928 г.

скае быдла, на якасьці якога мы ўжо застанаўліваліся раней. Да больш культурных парод, бліжэйшых к Беларусі адносяцца: ангелы, дацкае быдла і чырвона-нямецкае. Усё гэта пароды, якія яшчэ да гэтага часу у некаторых мясцох маюць значную частку крыві абарыгэннага быдла і адносяцца да таго-ж самага тыпу Bos brachyclros. Ангелы і дацкае быдла распаўсюджаны у некаторых мясцох пабярэжжа Балтыцкага мора на высьпах. Раней у Расію, асабліва ў заходня-прыбалтыцкім краі, быў завоз гэтага [быдла, але, як паляпшацель, яно не дало добрых вынікаў [1]). Перш за ўсё, яно панізіла % тлушчу у малацэ мясцовых кароў. Акрамя таго, гэтыя жывёлы не зьяўляліся кансалідаванымі, а таму і ня мелі вялікага племянога значэньня. Але-ж ня гледзячы на гэта, ангелы даволі распаўсюджаны ў межах былой Расіі, асабліва у Прыбалтыцкім краі. З дацкага быдла у сучасны момант складзены цэлыя стады нават пры некаторых дасьледчых установах (Дзецка-сельская фэрма пры Ленінградзкім С.-Г. Інстытуту) і завоз гэтага быдла, а таксама і ангелаў у наш Саюз апошні час наогул пашыраецца. Тлумачыцца гэта тым, што памянёныя групы жывёл маюць задаткі высокай малочнай прадукцыйнасьці, а работа па падбору іх пашыраецца і дае добрыя вынікі як па удойлівасьці, так і па тлустамалочнасьці. Асабліва апошніх два пытаньні былі завастрапы у Даніі пасьля 1917 г., калі для племяной працы з дацкім (фюненскім) быдлам была дана такая устаноўка: „ні водная дзяржаўная нагарода ня можа быць прысуджана за карову малочнага стада інакш, як па сапраўднаму пасьведчаньню яе удою і працанту тлушчу" [1]).

Чырвона-нямецкае быдла — жывёлы іншых кліматычных умоў пры параўнаньні з Беларусьсю. Але асноўнае ядро яго, трэба думаць, выведзена з Усходняй Нямеччыны, дзе гэтае быдла вядома і ў сучасны момант пад назваю Остфрыслянскага. Пад уплывам кліматычных і гаспадарчых умоў Паўднёвай часткі Украіны, былыя остфрыслянкі сталі чырвона-немкамі. Але апошнія ня згубілі задаткаў малочнасьці остфрыслянак і зьяўляюцца высокапрадукцыйнымі жывёламі [2]). Такім чынам, прыведзеныя групы буйнай рагатай жывёлы, альбо знаходзяцца ў межах Беларусі (чырвона-белар.), альбо паходзяць з мясцовасьцяй, блізкіх да Беларусі. Цікавым для нас у памяненых групах быдла, як паляпшацелях, зьяўляецца і тое, што яны ёсьць вынік экстэнсыўных умоў утрыманьня ў мінулым. Пр. Браўнэр кажа, што і ангельны і чырвона-немкі паходзяць ад галяна—фрыслянскага быдла, але пад уплывам недакорму і раньняй злучкі за кароткі час сталі дробнымі і зусім зьмянілі першапачатковы тып [3]).

Іначай кажучы, ад гэтых груп буйнай раг. жывёлы мы можам чакаць значнай прыстасаванасьці да экстэнсыўных гаспадарчых умоў, якія характэрны наогул для Беларусі і ў прыватнасьці для абсьледваных акруг.

Але, як намі было сказана раней, пытаньне аб паляпшацелях з замежных парод для большасьці абсьледваных раёнаў покуль што трэба лічыць другарадным. У сучасны момант масавай працы па паляпшэньню быдла пры ацэнцы племяной каштоўнасьці жывёлы трэба

---

[1]) Прыдарогін „Буйн. раг. скот" 1924 г.

[1]) Ліскун—„Арганізацыя племянай справы ў Даніі" Зборнік плем. справы у сел. гаспадарках 1928 г,

[2]) Браўнэр „Пароды с.-г. жывёл" 1922 г.

[3]) Браўнэр „Да пытаньня аб геаграфічнай зьменнасьці хатняй жывёлы". Вестник жыв. 1928 г.

падыходзіць не залежна ад яе пароды, а выключна с боку яе індывідуальнай якасьці (здароўя, удойлівасьць, тлустамалочнасьць, гармонічнасьць складу і інш.) і эканамічнай мэтазгоднасьці.

Для раёнаў больш інтэнсыўнае малочнае гаспадаркі пляменая праца павінна весьціся іначай.

Па Ліозьнянскаму раёну асноўную масу племяных кароў дадуць мяшанцы мясцовага быдла са швіцамі і разьвядзеньне ў сабе гэтых мяшанцаў трэба падтрымаць, бо яны даюць лепшую групу сялянскіх кароў. Але разам з гэтым пачаць прыліцьцё крыві аднэй з замежных парод, памянёных вышэй. Якая будзе больш адпавядаючай сказаць цяпер цяжка: для гэтага неабходна стацыянарная работа Дасьледчых станцый. Па нашай уласнай думцы ў Ліозьняншчыну можна раіць вытворнікаў ад лепшых дацкіх кароў, як самых буйных з будучых парод палепшацеляў. Аднак ня трэба надта захапляцца мэтызацыяй і тым больш трэба імкнуцца да поўнага паглынаньня мясцовай крыві культурнай пародай, інакш ад племяной працы можна чакаць толькі адмоўных вынікаў.

Працу з чырвона-беларускім быдлам неабходна пашырыць і паглыбіць. Гэта быдла, бязумоўна, заслугоўвае ўвагі сярод мясцовага пагалоўя, пераважаючы яго і па жыв. вазе і па прадукцыйнасьці. Чырв. беларускае быдла па тыпу некалькі адрозьніваецца ад іншага мясцовага быдла, яно больш шыракалобае, больш буйнакостнае і дае ўражэньне зусім здаровых жывёл. Яно можа быць паляпшацелем нашага дробнага сялянскага быдла і павінна быць аб'ектам сталай сэлекцыйнай працы.

**Быкі па матар'ялах абсьледваньня**. На жаль, мы не маем адпаведнай колькасьці абмераных жывёл, таму бяз падрабязнага аналізу, як гэта належала-б пры апісаньні вытворнікаў, прыводзім ніжэй лічбы галоўных стацяў і жыв. вагі. Скарыстован матар'ял абодзьвюх акруг сумесна, Пры чым мы спрабавалі даць лічбы асобна для розных ўзростных і пародных груп быкоў.

Вынікі такой апрацоўкі прадстаўлены ў табл. № 24 на стар. 30. З табліцы відаць, што група чырвона-беларускіх быкоў па буйнасьці пераважае ўсіх іншых, асобныя экзэмпляры даходзяць да 40 і больш пудоў жыв. вагі. Быкі з мясцовага быдла па экстэр'еру ўяўляюцца зусім дрэннымі: спаткаюцца вытворнікі 3-х гадовага ўзросту жывой вагі ня больш 10—12 пудоў. Быкі—мяшанцы наогул здавальняючай якасьці. Нельга думаць, што наша мясцовае быдла ня можа таксама даць здавальняючых вытворнікаў,

Вядома, тут справа не ў мясцовам быдле, а ў выхаваньні бычкоў і іх скарыстоўваньні. Што гэта так, а не іначай, паказвае якасьць быкоў чырвона-беларускай групы быдла. Апошняя група, як мы ведаем, зьяўляецца аднэй з папуляцый мясцовага быдла, але дае лепшых па экстэр'еру быкоў пры параўнаньні нават з быкамі—мяшанцамі. Тут справа, трэба думаць, у тым, што група чырвона-беларускага быдла пачынае набываць племяное значэньне і гаспадары зацікаўлены ў тым, каб лепш выхоўваць бычкоў на племя. На выхаваньне простых мясцовых бычкоў і іх утрыманьне гаспадары—наадварот, зьвяртаюць мала ўвагі. Такі бычок у большасьці трымаецца гаспадарамі не як племяная жывёла, а для прыкрай неабходнасьці мець у гаспадарцы карову з малаком, а ня ялаўку.

Мерапрыемствы па паляпшэньню быччага пагалоўя ўяўляюцца нам на бліжэйшы час у такім выглядзе:

1. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на выхаваньне бычкоў незалежна

Табл. № 24. **Абсалютныя лічбы галоўных стацяў абмераных быкоў, іх жывая вага і ўзрост.**

| Узрост | Лік жывёл | Жывая вага сяр. (пуд) | Жывая вага хістан. (пуд.) | Вышыні холкі сяр. см. | Вышыні холкі хістан. см. | Глыбіня грудзей сяр. см. | Глыбіня грудзей хістан. см. | Ахоп грудзей сяр. см. | Ахоп грудзей хістан. см. | Кас. даўжыня тул. (лент.) сяр. см. | Кас. даўжыня тул. (лент.) хістан. см. | Узрост першай злучкі месяцы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1) Група мясцовых быкоў** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. | 16 | 257 15,7 п. | 8—22,5 | 108,3 | 97—123 | 55,3 | 46—65 | 146,2 | 128—168 | 132,7 | 101—155 | 14—26 |
| 3 г. і выш | 11 | 269 16,4 п. | 12—21,5 | 112,0 | 106—120 | 57,3 | 52—62 | 151,4 | 140—165 | 134,6 | 119—150 | 14—24 |
| **2) Чырвона-беларускія быкі:** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. | 8 | 350 (25,9) | 20—31,5 | 127,6 | 122—135 | 66,2 | 62—74 | 174,6 | 159—184 | 159,2 | 146—166 | 17—24 |
| 3 г. і выш | 11 | 590 (36 п.) | 28—44 | 133,3 | 125—141 | 72,4 | 65—76 | 191,6 | 165—207 | 170,3 | 159—187 | 15—20 |
| **3) Мяшанцы швіцы і сымэнталы:** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. | 11 | 357 21,8 п. | 16—29 | 121,7 | 110—132 | 62,3 | 56—70 | 166,3 | 143—181 | 146,2 | 131—165 | 15—24 |
| 3 г. і выш | 5 | 409,5 (25 п.) | 29,5—31 | 122 | 118—132 | 64,6 | 57—72 | 172,2 | 154—191 | 152,2 | 137—163 | 18—30 |
| **4) Чыстапародны сымэнтал:** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. 4 м. | 1 | 458,5 (28 п.) | — | 131 | — | 76 | — | 185 | — | 154 | — | 18 |
| **5) Чыстапародны швіц:** | | | | | | | | | | | | |
| — | 1 | 475 (29 п.) | — | 129 | — | 62 | — | 181 | — | 163 | — | 18 |
| **6) Мяшанцы галянцы і ангелы:** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. | 7 | 405 24.7 п. | 17,5—30 | 122,6 | 113—130 | 63,7 | 57—69 | 172,0 | 155—185 | 149,7 | 142—171 | 11—24 |
| 3 г. і выш | 3 | 426 (26 п.) | 24—29 | 125,3 | 123—130 | 64,5 | 62—68 | 174,7 | 170—180 | 160,7 | 155—168 | 20—24 |
| **7) Чыстапародны галянцкі:** | | | | | | | | | | | | |
| 2 г. 5 м. | 1 | 426 (26 п.) | — | 129 | — | 64 | — | 180 | — | 150 | — | — |

ад пароды, альбо групы быдла. Пры чым на племя застаўляць толькі бычкоў ад „аснаўной“ групы, добрых кароў мяшанцаў, чырвона-беларускіх кароў і чыстапародных, паказаных намі вышэй.

2. Паглыбіць і пашырыць працу па адбору быкоў ад лепшых у племяном сэнсе чырвона-беларускіх кароў.

2. Бычкоў культурных парод трэба пакідаць на племя, галоўным чынам, тых, якія нараджаюцца у нас, ад кароў, больш прыставаных да нашых гаспадарчых і кліматычных умоў.

Б.С.С.Р.

Беларускі
Навук.-Дасьл. Інстытут
Сельскае і лясное Г-ркі
імя У. І. Леніна

**ДОСЬЛЕД**
**Буйнай рагат. жыв. СССР**

## Паселішчны блянк №......

Селішча . . . . . . . .
Сельсавет . . . . . . .
Раён . . . . . . . . .
Акруга . . . . . . . .
„ “ 19 г.
*Рэгістратар*
*Інструктар*

| УСЯГО Ў ПАСЕЛІШЧЫ: Душ насел. | | | | Лік двароў | | | | | | | Коняй | | Буйнай рагатай жывёлы: Быкоў | | | | Кароў і цёлак | | | | | | | Сьвіней | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзяцей | Даросл. | Разам | Пасёлкаў | У пасёлках | У хутарох | У вёсцы | Усіх | З засевамі канюшыны | Бяз жывёлы | Без рагат. жывёлы | Дарослых | Маладняк | 2 г. і больш | 1½-2 г. | 1-1½ г. | 6–12 мес. | Кароў | Цялят ст. 1½ г. | 1-1½ г. | 6–12 мес. | Цялят да 6 м. | Авечак | Ягнят | Старей 1 году | 4 м.—1 г. | Парасят да 4 м. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 16 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

| Зямлі | | | | | | | | Пасеву | У тым ліку | | | | Карыстаюцца быком | | Колькі галоў прыходзіцца на 1 быка пры злучцы | | Нагрузка ў 1 дзень абгульн. перыяду | | | | Лік двароў | | | Лік галоў ад бяскорміцы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ужыткі | Сядзібы | Пахаці | Сенажаці | Выпасу | Балот | Няўдобіцы | Усяе зямлі | Усяго | Канюшыны | Інш. траў | Корань-плодзў | | Якім | З якога узросту пускаюцца ў злучку | Вольнай | Ручной | Максім. | У сярэдн. | Якая парода для гэтай мясцов. найлепшая па думцы сялян | Нашто пераважна ўтрымлів. б. р. жывёла (падкрэсьліць) | У якім годзе | Зьдзіралі страху ў корм. | Падымалі кароў у вясну | Ляжаўш (падымалі) | Прапала |
| 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 69 | 50 | 51 | 52 | 53 |
| Дзесяцін | | | | | | | | | | | | | Казён. | | | | | | | На гной | 1927 | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | Грамадз | | | | | | | „ малако | 1928 | | | | |
| гэкт. | | | | | | | | | | | | | Прыват. | | | | | | | „ мяса | 1929 | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | „ работу | | | | | |

**Шляхі зносін селішча да**

| | Бліжэйш.: Чыгунач. станцыі | Прыстані | Базару: Бліжэйшага | Галоўнага | Сашы | Бліжэйшага: Цэнтру малочн. т-ва | Савецкай гаспадаркі | Сель.гасп. арцелі | Селішча | Ветэрын пункт: Фельчарск. | Доктарск. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Адлегласьць у вёрст | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 |
| Які шлях падкрэсьліць: саша, чыстка сашы, праб. тракт., прасёл. добры, дрэнны, сярэдні | | | | | | | | | | | |
| Якой | | | | | | | | | | | |

Вэтсанітарнае апякунства: ёсьць, няма; лік асоб............
Магільнікі: ёсьць, адлегласьць: ад сядзібы............ вёрст, ад выпасу............ вёрст, ад вадапою............ вёрст, [illegible] жывой, канавай.

**Уплыў............ кал. сав. г-к мал. т-ва на сялянскую жывёлагадоўлю**

**За апошнія 3 гады карыстаюцца**

| Якое | | Пасьбішчам | | Сенажацьцю | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На якіх умовах | За грошы | За адработ | За грошы | За адработ | З часткі з якой |
| | 65 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 |
| Плошча | Дзес. | | | | | |
| | Гэкт. | | | | | |
| Па цане | З галавы | | | | | |
| | За дзес. ці гэкт. | | | | | |
| Калі: год і перыяды | | | | | | |
| Лік кароў | | | | | | |
| Ураджайнасьць | | | | | | |
| Як гэта адбіваецца на якасьці і колькасьці якой жывёлы | | | | | | |

**Забясьпечваюць канцэнтраванымі кармамі**

| | На якіх умовах | Якімі (У пудох) | | | Колькі двароў | У іх галоў б. р. жыв. | Па якіх цэнах | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 71 | 72 | 73 | 74 | 75 | 76 | 77 | 78 |
| У крэдыт | | | | | | | | |
| Пад здачу малака | | | | | | | | |
| За наяўн. грошы | | | | | | | | |
| Усяго | | | | | | | | |
| Як гэта адбіваецца | | | | | | | | |

| Карыстаюцца бычкамі: Якой пароды | Колькі кароў пакрыта ў сярэд. за год | Купляюць за год племян.: Цёлак | Бычкоў | Парасят | Збываюць малако ў (назва ўстановы): Лік двароў | Колькі за г. пуд.: На сыр | На масла | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 79 | 80 | 81 | 82 | 83 | 84 | 85 | 86 | 87 |
| | | | | | | | | |

Наогул за апошнія гады быдла паляпшаецца, пагоршваецца пад якім уплывам............
Ці былі быкі-паляпшацелі ў дарэвалюцыйны час: так, не (падкрэсьліць)
Якой пароды............ дзе............ адлегласьць............ вёрст.
Які ўплыў зрабілі бежанскія гурты кароў за час вайны............
УВАГА: на адвароце заўважыць усе асаблівасьці паселішча.

Б.С.С.Р.

БЕЛАРУСКІ
НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
Сельскае і лясное Гаспадаркі
імя У. І. Леніна

## ДОСЬЛЕД
Буйнай рагатай жывёлы БССР

## Пастадны блянк №____

Селішча ____________

Раён ____________

Акруга ____________

„____“ ____________ 19 г.

*Рэгістратар*

*Інструктар*

### 2. Уражаньні ад стада

| | Аднатыповыя | Розна тыповыя | Пераважныя |
|---|---|---|---|
| па жыв. вазе | | | |
| па масьці | | | |
| па складу цела | | | мясны малочны (падкр.) |

### 1. Склад стада па пародах і ўзросту

| Назва жывёлы | Лік галоў: Усіх | у тым ліку: простых | мэтысных | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Цёлак да 6 м. | | | | | |
| „ „ 6—12 м. | | | | | |
| „ „ 12—18 м. | | | | | |
| „ „ 18 м. і больш | | | | | |
| Кароў | | | | | |
| у тым ліку ялавак | | | | | |
| быкоў да 6 м. | | | | | |
| „ „ 6—12 м. | | | | | |
| „ „ 12—18 м. | | | | | |
| „ 18 і больш | | | | | |
| усяго галоў | | | | | |
| якія з іх: лепш ужываюцца | | | | | |
| часьцей хварэюць і чым | | | | | |
| Наядаюцца на пашы: лепш | | | | | |
| Наядаюцца на пашы: горш | | | | | |
| Чаму | | | | | |

### 3. У якім месяцы ацяляецца большасьць кароў ____________

____________

Увага ____________

____________

Пунткы, якія супадаюць, падкрэсьліць

Паселішчны блянк № ____________

### 4. Як адрозьніваюцца:

1. мэтысы ____________
ад простых ____________ па

| удою | жыв. ваге | жыр. мал. |
|---|---|---|
| больш менш | больш менш | больш менш |

экстэр'еру і масьці

па масьці ____________

1. Сьпіна больш: шырокая, вузкая, прамая, правіслая
2. Бруха: больш атвіслае, менш атвіслае
3. Вымя: большае, меншае
4. Саскі больш.: кароткія, доўгія, тоўстыя, тонкія
5. Упітанасьць: лепшая, горшая
6. Касьцяк больш грубы, нежны

2. ____________
ад ____________ па:

| удою | жыв. ваг. | жыр. мал. |
|---|---|---|
| больш менш | больш менш | больш менш |

экстэр'еру і масьці:

па масьці ____________

1. Сьпіна больш: шырокая, вузкая,
2. Бруха: больш атвіслае, менш атвіслае
3. Вымя: большае, меншае
4. Саскі больш.: кароткія, доўгія, тоўстыя, тонкія
5. Упітанасьць: лепшая, горшая
6. Касьцяк больш грубы, нежны

# П А С Ь Ц Ь Б І Ш Ч А

| Месяцы | Адлегласьць у вёрстах | Як наядаюцца | Быдла пасецца па месяцам | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Па пары | Па жніву | Штучн. выпасу | | Ссножаці, якой | Лесу, якому | Хмызьняку | Па балоту | Выгану |
| май | | | | | | | | | | | |
| чэрвень | | | | | | | | | | | |
| ліпень | | | | | | | | | | | |
| жнівень | | | | | | | | | | | |
| верасень | | | | | | | | | | | |
| кастрычн. | | | | | | | | | | | |
| Плошча рознага выпасу (дзес.) | | | | | | | | | | | |
| Характарыстыка натуральнай пашы: Глеба | | | | | | | | | | | |
| Сухадольны | | | | | | | | | | | |
| Сырой | | | | | | | | | | | |
| Балоцісты | | | | | | | | | | | |
| Сямейства пераважных расьлін | | | | | | | | | | | |
| Запас у сене з дзесяц. | | | | | | | | | | | |

6. Буйны рагаты скот пасецца ў стадзе, асобна, сумесна з авечкамі, сьвіньнямі, ——————— (падкр.)

Быкі дарослыя пасуцца ў стадзе, асобна, на прывязі ——————— (падкр.)

на пашы пасуцца толькі буйн. рагаты скот, і авечкі, і сьвіньні і коні

7. Калі выпас

| гады | пачаўся | кончыўся |
|---|---|---|
| 1929 | | |
| 1928 | | |
| 1927 | | |

8. Вадапой

| | | |
|---|---|---|
| стойлавага пэрыяду | калодзеж, ручэй, крыніца, пруд, сажалка, канава, балота-выгар | добрае дрэнн. сярэдн. |
| пасьбішчнага пэрыяду | калодзеж, ручэй, крыніца, пруд, сажалка, канава, балота-выгар | добрае дрэнн. сярэдн. па ацэнцы сялян |

(падкрэсьліць)

УВАГА:

Пасеішчны бланк №........
Пастадны бланк

Б.С.С.Р
Беларускі
Навукова-Дасьл. Інстыт.
Сельск. і лясн. гаспад.
імя У. І. Леніна
ДОСЬЛЕД
Буйн. рагат. жывёл. БССР

**Падворны блянк №**........
Прозьв. і імя па бацьку ........
Хутар
Вёска ........
Пасёлак
Селішча ........
Акруга ........
„....“........19 г.
Рэгістратар
Інструктар

4. Душ сям'і: усіх ........ рабочых ........
2. Год земляўпарад. ........
3. Форма землякар.: абшчына, хутар, отруб, пасёлак (абшч., атрубны)
4. Атрымаў зямлю: на сядзібе, у полі на азадках . на якой катэгорыі ........
5. Севазварот: 1) ........ 2) ........ 3) ........
6. З якога году ........
7. Да якога тыпу адносіцца (па дан. КСУ): бедняк, серадняк, заможны
8) Падатак 1927/28 г. с/г. ........ руб.
усяго ........ руб.
9. Састаіць пайшчыкам каапэратыву:

| Якога | З якога году |
|---|---|
| Спажывецк. | |
| . . крэдытн. | |
| . . . . . . | |

1. Зямля па ўжытках

| Ужыткі | Дз. | Г. |
|---|---|---|
| Сядзібы | | |
| Пахаці | | |
| Сенажаці | | |
| Збор сена | | |
| | | |
| | | |
| Няудобіцы | | |
| Балота | | |
| Усяго | | |

2. Пасевы 1927 году

| | | Зерняв. | Бульбы | Коранье-плодаў | Канюш. | Лёну | Пад выпас (што) | Сэрадэлі | Вікі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пасеяна | Дзес. | | | | | | | | | |
| | Гект. | | | | | | | | | |
| Збор у пудох | Збожа | | | | | | | | | |
| | Саломы | | | | | | | | | |

3. Хваробы за апошнія 5 гадоў на буйны рагаты скот

| Якая хвароба | | Прычыны | Год мес. | Колькі галоў: Усяго было | Хварэла | Пала | Кім аказвалася дапамога | Калі не аказана дапамога, дык чаму | Меры барацьбы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Выкідыш | | | | | | | | | |
| Залежван. | Да ацёлу | | | | | | | | |
| | Пасьля ацёлу | | | | | | | | |
| Вуглянка (сіб. язва) | | | | | | | | | |
| Крывавая мача | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

5. Скотны двор

Асобны, агульны, халодны, ацеплены, сьветлы, цёмны, навозны, выграбны. Столь: ёсьць, няма; вокны: ёсьць, няма; вэнтыляцыя: ёсьць, няма, якая ........
Кармушкі: ёсьць, няма, якія ........
Скот стаіць: у кучы, адгарожаны, на прывязі, у стойлах; ці замерзае ўзімку ў пуні гной ........
Якім быком карыстаецца: сваім, грамадзкім, дзяржаўным, прыватным, якой пароды ........
плата за быка з галавы ... р., усяго ... р. Плата пастуху за ўвесь буйн. рагат. скот ... з галавы ... р.

| 6. Гады | Пасьвіць калі: пачаў | кончыў | Падым. кар. ад: Бязкорм. | Залежван |
|---|---|---|---|---|
| 1929 | | | | |
| 1918 | | | | |
| 1927 | | | | |

| 7. Жывёла | Лік | К. ус. |
|---|---|---|
| Коняй | | |
| Жарабят | | |
| Сьвіньяй і бараў. | | |
| Падсьвінк. 4—12 мес. | | |
| Парасят да 4 мес. | | |
| Авечак | | |
| Ягнят | | |
| Кароў дойных | | |
| Ялавак | | |
| Падцёлк. 18 мес. і больш | | |
| Падцёлк. 12—18 мес. | | |
| Цёлак да 6—12 мес. | | |
| Быкоў 18 мес. і больш | | |
| Быкоў 12—18 мес. | | |
| Быкоў 6—12 мес. | | |
| Быкоў да 6 мес. | | |

8. Колькі год карыст.: быком ........ каровай ........ Скот: чысьціцца, не, скрабніцай, шчоткай. пасецца: сумесна з авечкамі. сьвіньнямі, асобна, на прывязі ........

9. Хваробы цялят

| Хвар. | Прыч. | Ўзрост цялят | Колькі галоў: было | хвар. | пала | Хто лячыў | Чым лячыў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |

10. З як часу прад. цял.

| | Бычкі | Цёлачкі |
|---|---|---|
| На племя | | |
| На зарэз | | |

11. Колькі прадаў

| на племя | на зарэз |
|---|---|
| | |

12. Падрыхтоўка кармоў

| Які корм | Сена: У прос. выгл. | У трушчанцы з сал. | Салома: У простым выгл. | Рэзка | Утрушанцы | Бульба: Сырая | Вараная | Коранпл.: Рэзан., не, мыт., не |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Як за-дасцца | | | | | | | | |
| Якое сена, салома, коранеплодаў | | | | | | мыецца не | мыецца не | |
| Якая част. | | сена / сал. | | | | | | |
| | | | Рэзка запарв., не, пасып., не, чым . . | | | Рэж., не Тауч., не | | |

УВАГА! Пункты, якія супадаюць, падкрэсьліць.

13. Рыначны зварот гаспадаркі за год | 14. Страўляецца за год

